© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Госці ўрачыстага пленума ГП БГКТ, прысвечанага 40-годдзю Беларускага таварыства. Фота С. Грыняўіцкага.

ўвагу ў сваім дакладзе аўтар звярнуў на палітычныя аспекты дзейнасці ў беларускім асяроддзі.

Вечарам у вялікай зале спартыўнага клуба «Влукняж» адбыўся ўрачысты гала-канцэрт III агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня — 96». Канцэрт быў удастоены прысутнасцю прэм'ерміністра Польшчы Уладзімежа Цімашэвіча, урадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь, віцэ-маршалка Сейма Аляксандра Малахоўскага і Архіепіскапа Беластоцкага і Гданьскага Савы. Прысутнічалі таксама генеральны консул Польшчы ў Гродне Марыюш Машкевіч, прэзідэнт г. Беластока Кшыштоф Юргель, старшыня гарсавета Ян Хайноўскі і ўсе госці, якія прымалі ўдзел у пленарным пасяджэнні Галоўнага праўлення. Напачатку ўся шматлікая публіка праслухала запіс патрыятычнай песні на словы Алеся Барскага «Беластоцкі край» у выкананні мінскіх «Сяброў». Перад канцэртам выступілі з прамовай Уладзімеж Цімашэвіч і Уладзімір Русакевіч. Былі зачытаны віншавальныя пісьмы ад Прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага і ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. На трохгадзінным урачыстым канцэрце, прысвечаным саракагоддзю, на якім прысутных было каля 3 тысяч, выступілі найлепшыя выканаўцы беларускай песні ў Польшчы — лаўрэаты конкурсу «Беларуская песня-96» і ансамбль песні і танца «Крупіцкія музыкі» з Рэспублікі Беларусь.

На заканчэнне канцэрта ўсе выканаўцы разам з публікай, стоячы, праспявалі патрыятычную песню «Люблю наш край».

18 лютага 1996 года ў прысутнасці дзяржаўнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь, генеральнага консула і ўлад Галоўнага праўлення быў адслужаны мясцовымі святарамі ў Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку малебен з нагоды саракагоддзя БГКТ. Малебен, у якім прынялі ўдзел сотні жыхароў Беластока і дзеячы таварыства, закончыў цэнтральныя ўрачыстасці з нагоды саракагоддзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Пасля па ініцыятыве генеральнага консула Міхася Слямнёва ў Беластоку адбылася сустрэча дзяржаўнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь з прадстаўнікамі ўсіх беларускіх арганізацый у Польшчы.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Віншаванні

**Prezydent**
**Rzeczypospolitej Polskiej**

*Warszawa, 15 lutego 1996 roku*

Do Uczestników uroczystości
40-lecia działalności
Białoruskiego Towarzystwa
Społeczno-Kulturalnego
Białystok

## Szanowni Państwo!

Serdecznie gratuluję Wam pięknego Jubileuszu. Czterdzieści lat działalności to niewątpliwie szmat czasu. Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne w Białymstoku wypełniło go aktywnie i pracowicie. Może pochwalić się wieloma inicjatywami i osiągnięciami. Wasze Towarzystwo pełni nie tylko rolę integrującą środowisko białoruskie żyjące na ziemi polskiej. Jego wszechstronna działalność służy także lepszemu poznaniu się Polaków i Białorusinów, propagowaniu białoruskiej tradycji, kultury i historii, krzewieniu więzi wzajemnej sympatii i życzliwości. To najlepszy sposób na przełamywanie nieufności i stereotypów, na prawdziwie sąsiedzką przyjaźń. Jestem przekonany, że będziecie Państwo — tak jak czyniliście to przez minione czterdzieści lat — tej polsko-białoruskiej przyjaźni służyć.

Życzę Wam wytrwałości i dobrych pomysłów, uporu w realizacji wytyczonych celów. Życzę sukcesów i osiągnięć.

*Aleksander*
*KWAŚNIEWSKI*



# Шаноўныя сябры Беларускага грамадска-культурнага таварыства!

## Дарагія суайчыннікі!

Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь сардэчна віншуе Вас з 40-гадовым юбілеем Беларускага грамадска-культурнага таварыства — адной з найбольш сталых і ўплывовых у беларускім асяроддзі арганізацый у Польшчы.

Намаганні дзеячаў і прыхільнікаў Таварыства ў справе арганізацыі і правядзення святаў беларускай культуры, фестываляў беларускай песні, стварэння музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, арганізацыі традыцыйных артыстычных спатканняў у Гродне і Беластоку, захавання і развіцця беларускамоўнай адукацыі, падтрымкі літаратурнай творчасці беларусаў Польшчы — сведчанне высокага творчага патэнцыялу і духоўнага багацця беларускага асяроддзя, імкнення суайчыннікаў да кансалідацыі сваёй нацыі і ўмацавання дружалюбных адносін паміж народамі Беларусі і Польшчы.

Дзейнасць Таварыства — важны фактар захавання нацыянальнай адметнасці беларускай нацыі ў Польшчы, зацвярджэння гуманных адносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцей, збліжэння і ўзбагачэння культур і традыцый суседніх дзяржаў.

Жадаю сябрам Таварыства, усім беларусам Польшчы моцнага здароўя, асабістага шчасця і дабрабыту, плённай працы і поспехаў у высакароднай справе яднання беларускага асяроддзя, развіцця беларускай культуры і асветы, умацавання сувязей з Беларуссю і садзейнічання міждзяржаўнаму супрацоўніцтву Беларусі і Польшчы.

*З павагай М. ЧЫГІР,*

**Прэм'ер-міністр**
**Рэспублікі Беларусь**
*15 лютага 1996 г.*
*г. Мінск*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**Міністр замежных спраў**
**Рэспублікі Беларусь**

*17 лютага 1996 года*

---

Галоўнае праўленне
Беларускага грамадска-
культурнага таварыства

*Польшча, г. Беласток*

## Дарагія сябры!

Прыміце самыя шчырыя і сардэчныя віншаванні з нагоды знамянальнага юбілею — 40-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

40 гадоў Таварыства было і застаецца натхнёным носьбітам беларускага слова, нацыянальнай культуры і мастацтва ў Польшчы. У гэтым вялікі ўклад і тых, хто стаяў ля вытокаў стварэння Таварыства, і тых, хто сёння рупліва працуе на ніве беларушчыны. Ваша высакародная дзейнасць — важкі ўклад у беларускую нацыянальную скарбонку.

Упэўнены, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы будзе і надалей садзейнічаць развіццю традыцыйна добрасуседскіх і сяброўскіх адносін паміж народамі Беларусі і Польшчы.

Жадаю Вам, шаноўныя суродзічы, плёну ў працы, моцнага здароўя, вялікага асабістага шчасця.

*З любоўю да Вас і павагай*
*Уладзімір СЯНЬКО*



**Спадар Ян Сычэўскі**

Старшыня Беларускага грамадска-
культурнага таварыства

*Беласток*

Свяшчэннае пісанне кажа: «Шляхі Гасподні нязведаныя». Як гэта аднесці да Таварыства? Думаю, ніхто з першых лідэраў пакліканага да жыцця Беларускага грамадска-культурнага таварыства не прадбачыў, што будзе яно святкаваць юбілей — саракагоддзе свайго існавання. Лёсам кожнага з нас, народа, дзяржавы, кіруе Божая ўсёмагутнасць. Мы ж схіляемся перад ёю.

А сёння схіляем галовы перад усімі тымі, хто арганізаваў фундамент таварыства, перамагаючы ўсялякія цяжкасці ў складаным часе, у якім выпала ім дзейнічаць. Вечная ім памяць. А ўсім, хто дачакаў святкаваць сённяшні дзень, — гонар і слава.

Хачу моцна падкрэсліць, што Беларускае таварыства сваёю дзейнасцю непахісна сведчыць аб існаванні беларускага грамадства ў нашай краіне, шырыла і шырыць беларускую культуру ў нашай грамадскасці. І ў тым, нягледзячы на іншыя дасягненні, найбольшая ягоная заслуга.

Сёння гэтую дзейнасць ацэньваюць па-рознаму. Аднак сваю ролю яно споўніла і спаўняе, і гэта абгрунтоўвае ягонае існаванне.

Калі гаворым аб дасягненнях, трэба сказаць і тое, што члены таварыства — гэта перадусім вернікі Праваслаўнае Царквы. Беларускі народ заўсёды быў цесна звязаны з Праваслаўнаю Царквою. Хто гэтага не разумее або думае інакш, учыняе зло свайму народу. Царква наша і сёння чакае на шырэйшае супрацоўніцтва з беларускім таварыствам, як і з іншымі беларускімі арганізацыямі. Усялякую добрую дзейнасць будзе падтрымоўваць і дапамагаць у ёй.

Складаючы віншаванні Вам, спадар Старшыня, усім членам таварыства і ўсім прысутным на сённяшняй урачыстасці, ад імя Царквы і Праваслаўнага Ардынарыяту ў Войску Польскім жадаю Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству, каб Добры Бог дапамагаў у Вашай працы на дабро і гонар беларускай культуры, а яна — культура — няхай яднае польскі і беларускі народы. Жадаю, каб навокал вашай добрай дзейнасці аб'ядналіся ўсе беларускія арыентацыі Беласточчыны.

Дапамагай Вам Божа ў далейшай Вашай працы.

Беласток, 17.02.1996 г.

*САВА,*
*Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі*



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**Пасольства
Рэспублікі Беларусь
у Польшчы**

Галоўнае праўленне
Беларускага грамадска-
культурнага таварыства
ў Беластоку

## Шаноўныя сябры!

Пасольства Беларусі ў Польшчы перадае сардэчныя віншаванні ўсім прыхільнікам Беларускага грамадска-культурнага таварыства з нагоды яго 40-годдзя.

Уся дзейнасць таварыства на працягу амаль паўстагоддзя накіравана на захаванне і развіццё нацыянальнай тоеснасці беларусаў у Польшчы, шанаванне іх традыцый, культуры, роднай мовы. Зерне, якім вы засяваеце беларускую ніву, важкім коласам памнажае багатую спадчыну беларускага народа, мацуе ўклад беларусаў у развіццё польскай культуры, усёй еўрапейскай цывілізацыі.

Выказваем перакананне, што таварыства, як і ўсе гады свайго існавання, будзе спрыяць развіццю сяброўскіх адносін паміж беларускім і польскім народамі, братэрскаму супрацоўніцтву дзвюх краін.

Ад усяго сэрца жадаем поспехаў у вашай высакароднай дзейнасці, шчасця і дабрабыту Вам і Вашым блізкім.

Беласток, 17.02.1996 г.

*Пасольства*



**Галоўнаму праўленню Беларускага
грамадска-культурнага таварыства
ў Польшчы**

Прыміце самыя шчырыя віншаванні з нагоды цудоўнага юбілею!

Вось ужо чатыры дзесяцігоддзі таварыства плённа займаецца высакароднай справай развіцця беларускай культуры і адукацыі, замацавання любові да беларускага слова, беларускай песні, беларускіх традыцый і абрадаў.

Хай жа і далей шматгранная дзейнасць сяброў таварыства і яго Галоўнага праўлення спрыяе фарміраванню беларускай нацыянальнай адметнасці, усталяванню міжнацыянальнай і міжрэлігійнай згоды, паглыбленню дружалюбных адносін паміж дзяржавамі-суседзямі — Польшчай і Беларуссю!

Беласток, 17 лютага 1996 года

*Генеральны консул
Рэспублікі Беларусь у Беластоку
Міхась СЛЯМНЁЎ*



Ген. консул РБ у Беластоку М. Слямнёў віншуе старшыню ГП з нагоды 40-годдзя БГКТ. Фота С. Грынявіцкага.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

Галоўнаму праўленню
Беларускага грамадска-
культурнага таварыства
ў Польшчы

## ШАНОЎНЫЯ ЧЛЕНЫ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ!

### Дарагія браты, сябры, калегі!

Пісьменнікі Беларусі горача віншуюць вас са знамянальнай датай — 40-мі ўгодкамі з часу стварэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы! Той светлы дзень, калі было прынята рашэнне аб стварэнні такога Таварыства, варты быць адзначаным у летапісе залатымі літарамі. Яно ўзяло на сябе нялёгкую высакародную місію і годна нясе яе праз усе выпрабаванні і цяжкасці — вось ужо чатыры дзесяцігоддзі. Цяжка пераацаніць зробленае ім. На яго рахунку безліч добрых спраў, здзейсненых у галіне культуры, адукацыі, асветы, выдавецкай дзейнасці, аматарска-мастацкай творчасці. Шматгранная, самаахвярная дзейнасць Таварыства набывае асаблівы сэнс у святле тых радыкальных дэмакратычных, адраджэнцкіх пераўтварэнняў, якія адбываюцца сёння ў суверэннай, незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

Адной з несумненных і самых важных заслугаў БГКТ з'яўляецца тое, што на Беласточчыне і ў асяроддзі ўсёй беларускай дыяспары ў Польшчы жыве, пульсуе, дае свой плён беларускае літаратурна-мастацкае слова, што тут, у прыватнасці, паспяхова дзейнічае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа». Нам, пісьменнікам Рэспублікі Беларусь, прыемна ўсведамляць, што ў развіццё яе прыгожага пісьменства, яе культурнага патэнцыялу ўносяць з намі свой уклад такія паэты, празаікі і публіцысты, як Надзея Артымовіч, Алесь Барскі, Мікола Гайдук, Ян Чыквін, Віктар Швед, Сакрат Яновіч і некаторыя іншыя.

Саюз пісьменнікаў Беларусі таксама сардэчна вітае і віншуе калектыў рэдакцыі штотыднёвай газеты «Ніва» напярэдадні яе саракагадовага юбілею. Мы выказваем пачуццё глыбокай пашаны і ўдзячнасці заснавальнікам газеты, яе ранейшым і сённяшнім рэдактарам і супрацоўнікам за тую вялікую працу, якую яна рабіла і працягвае рабіць у справе прапаганды ўсёй беларускай літаратуры, за яе паслядоўнае супрацоўніцтва з членамі літаратурнага аб'яднання «Белавежа», за яе цікавыя літаратурныя старонкі і, у прыватнасці, за старонку для дзяцей «Зорка», — за ўсе добрыя справы на карысць беларускай нацыянальнай ідэі, культурнай асветы і духоўнага ўзбагачэння беларуса.

Мінск. 1996 год

*Старшыня беларускіх пісьменнікаў*
*Васіль ЗУЁНАК*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**Паважаныя суайчыннікі!**

---

Праўленне таварыства «Радзіма» і рэдакцыя газеты «Голас Радзімы» шчыра вітаюць вас з нагоды юбілею — 40-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства і зычаць вам плённай працы на карысць беларускай грамадскасці ў Польшчы.

БГКТ узнікла як арганізацыя, закліканая выказаць духоўныя запатрабаванні беларускай меншасці ў Польшчы. Прыемна адчуваць, што, нягледзячы на нялёгкі лёс і выпрабаванні, якія даталіся многім з вас, вы змаглі захаваць традыцыі і звычаі продкаў, выхаваць у сваіх дзяцей і ўнукаў адданасць нашай роднай зямлі.

Мы рады ад шчырага сэрца дапамагчы ўсім, чым можам, каб на Беласточчыне і ў іншых асяроддзях Польшчы, дзе жывуць беларусы, буяла культурнае жыццё і надалей давала ўсходы асвета, гучала беларускае слова.

Праўленне таварыства
«Радзіма»

*Рэдакцыя газеты*
*«Голас Радзімы»*



ЛіМ
**Літаратура і мастацтва**

---

# ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ!

**Дарагія браты-беларусы!**

Вітаем Вас і віншуем з юбілеем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы!

40 гадоў назад свядомыя беларусы Беласточчыны наважыліся заарганізавацца, каб агульнымі намаганнямі спрыяць захаванню народных традыцый і звычаяў, зберагаць і развіваць родную мову і асвету на ёй, ладзіць духоўнае і культурнае жыццё ў сваім беларускім доме па запаветах продкаў. За гэтыя чатыры дзесяцігоддзі Вы зрабілі нямала. Прынамсі, дух беларушчыны і сёння з Боскай дапамогай жыве на Беласточчыне, у той час як на этнічных беларускіх землях Смаленшчыны і Чарнігаўшчыны ён счэз зусім і ледзь хліпае на Віленшчыне. Ваша самаадданая праца на ніве беларушчыны, Ваша мужнае адстойванне нацыянальных свабод і правоў — добры прыклад для беларусаў ва ўсім свеце, у тым ліку ў самой Беларусі, дзе сёння нам таксама даводзіцца змагацца за выжыванне. Разам з нашымі віншаваннямі прыміце, дарагія сябры, і нашу шчырую ўдзячнасць за тое, што Вы — ёсць, за тое, што Вы робіце. Плён працы Вашае папаўняе нашу агульную нацыянальную скарбонку.

Шчыра, сардэчна вітаем і нашых калег з «Нівы» напярэдадні яе 40-годдзя. Ваш штотыднёвік блізкі, родны нашаму «ЛіМу» сваім зместам і пафасам, мы рады яго атрымліваць з Вашае добрае ласкі, з асалодаю чытаем, сёе-тое з прыемнасцю перадрукоўваем. Верым, што «Ніва» і надалей будзе рунець, красаваць і наліваццa і дарыць чытачам шчодры і жыццедайны ўраджай.

Яшчэ раз — са святам, дарагія сябры! Моцнага здароўя, шчасця і поспехаў на жыццёвых, творчых і грамадскіх загонах ад усяго сэрца зычаць Вам

Мінск,
14 лютага 1996 года

*ЛІМАЎЦЫ*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**Białystok, 1996.02.17**

Kuratorium Oświaty
w Białymstoku

Szanowny Pan
**Jan Syczewski**
Przewodniczący
Zarządu Głównego
Białoruskiego Towarzystwa
Społeczno-Kulturalnego
w Białymstoku

Z okazji 40-lecia istnienia Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego składam na ręce Pana Przewodniczącego wyrazy uznania, szacunku i podziękowania za wielki wkład Towarzystwa w zakresie krzewienia i rozwoju oświaty, amatorskiego ruchu artystycznego, działalności literackiej, wydawniczej i integracyjnej środowiska Polaków i Białorusinów na Białostocczyźnie.

Gratulując dotychczasowych dokonań życzę jeszcze większych sukcesów w następnych latach.

Łączę wyrazy szacunku

*Kurator*
*mgr Tadeusz KALUTA*



STOWARZYSZENIE
POLSKA-BIAŁORUŚ

Warszawa 17 luty 1996 r.

BIAŁORUSKIE
TOWARZYSTWO
SPOŁECZNO-
KULTURALNE
ZARZĄD GŁÓWNY
w BIAŁYMSTOKU

Z okazji Jubileuszu 40-lecia działalności Waszego Towarzystwa proszę przyjąć od kierownictwa i członków Stowarzyszenia Polska-Białoruś serdeczne gratulacje oraz wyrazy uznania i szacunku za wielki dorobek w upowszechnianiu białoruskiej kultury i nauki w Polsce.

Nasza Organizacja wysoko sobie ceni współprace z Białoruskim Towarzystwem Społeczno-Kulturalnym, czego efektem były wspólnie organizowane imprezy o zasięgu krajowym i międzynarodowym.

Jesteśmy głęboko przekonani, iż nasze więzi i przyjazne stosunki sprzyjać będą rozwojowi owocnej współpracy między narodami Polski i Białorusi.

Życzymy Wam nowych sukcesów w Realizacji programu Stowarzyszenia oraz wiele pomyślności w życiu zawodowym i osobistym.

*Sekretarz Generalny*
*Zarządu Głównego*
*Stowarzyszenia Polska-Białoruś*
*Bolesław CHMIELIŃSKI*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

STOWARZYSZENIE WSPÓŁPRACY POLSKA-WSCHÓD

Oddział Wojewódzki w Białymstoku

List gratulacyjny dla

**zarządu głównego**

**BIAŁORUSKIEGO TOWARZYSTWA SPOŁECZNO-KULTURALNEGO**

Z okazji 40-lecia przyjmijcie Drodzy Przyjaciele serdeczne gratulacje i życzenia samych sukcesów w Waszej działalności. Wysoko cenimy naszą wzajemną współpracę i wyrażamy nadzieję, że ten doniosły Jubileusz przyczyni się do jej wzbogacenia.

Za Waszym pośrednictwem składamy wiele pozdrowień i serdeczności wszystkim Działaczom BTSK i ich rodzinom.

Białystok, 1996.02.17

*W imieniu*
*Wojewódzkiej Organizacji*
*Stowarzyszenia Współpracy*
*Polska-Wschód*

*Prezes*
*Zarządu Oddziału Wojewódzkiego*
*Dionizy SIDORSKI*



САЮЗ ПАЛЯКАЎ БЕЛАРУСІ

ZWIĄZEK POLAKÓW na BIAŁORUSI

Prezes
Białoruskiego Towarzystwa
Społeczno-Kulturalnego
Pan Jan Syczewski

**WIELCE SZANOWNY PANIE JANIE!**

Z okazji czterdziestej rocznicy założenia Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w imieniu Zarządu Głównego Związku Polaków na Białorusi pragnę złożyć najserdeczniejsze życzenia sukcesów w odrodzeniu języka ojczystego, kultury i tradycji na Białostocczyźnie.

Bardzo wysoko cenimy stosunki pomiędzy ZPB a BTSK i owocną współpracę podczas organizacji wspólnych Konferencji «Droga ku wzajemności» oraz Spotkań Artystycznych «Białystok—Grodno».

Z wyrazami głębokiego szacunku

Prezes Związku Polaków Tadeusz GAWIN



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**II Агульнаадукацыйны ліцэй**
**імя Б. Тарашкевіча**
**ў Бельску Падляшскім**

Спадар
**Янка Сычэўскі —**
Старшыня Галоўнага
праўлення БГКТ

З нагоды 40-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства складаем на Вашыя рукі сардэчныя пажаданні.

Старшыні, членам Галоўнага праўлення і ўсім дзеячам, якіх лёс звязаў з Беларускім грамадска-культурным таварыствам, жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, поспехаў у далейшай дзейнасці на карысць нашага беларускага грамадства.

Бельск Падляшскі, 17.02.1996 г.

*Дырэкцыя,*
*педагагічны савет і вучні*
*Бельскага беларускага ліцэя*



БЕЛАРУСКІ САЮЗ У ПОЛЬШЧЫ

*Беласток, 16.02.1996 г.*

З нагоды юбілею Беларускага грамадска-культурнага таварыства ўсім членам арганізацыі, якія дзейнічаюць ужо сорак гадоў, і тым, якія ўключаюцца ў яе рады цяпер, вытрымкі ў штодзённай працы на карысць асяроддзя і поспехаў у асабістым жыцці зычыць

Беларускі Саюз у Польшчы

*Старшыня*
*Беларускага саюза ў Польшчы*
*Яўген ВАППА*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

БЕЛАРУСКАЕ
ЛІТАРАТУРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ
«БЕЛАВЕЖА»

*Беласток, 15.II.1996 г.*

**Паважаны Старшыня БГКТ!**
**Спадар Ян Сычэўскі!**

Ад свайго імя і ўправы «Белавежы» — літаратурнай арганізацыі беларускіх пісьменнікаў у Польшчы САРДЭЧНА ВІНШУЮ працаўнікоў Беларускага грамадска-культурнага таварыства з вашым слаўным юбілеем — 40-годдзем. Вітаю таксама ўсіх выдатных беларускіх дзеячаў, якіх сотні, якія вось сорак гадоў працавалі ды працуюць на беларускай ніве.

Уклад БГКТ у падтрымку беларускай нацыянальнай свядомасці ды ў развіццё беларускай народнай культуры проста неацэнны. Ён дамагаецца глыбокіх сацыялагічных доследаў і варты мастацкага твора.

Пісьменніцкаму асяроддзю БГКТ стварала камфорт уражання напоўненасці культурнымі вартасцямі вялікай прасторы, у якой і мы маглі з'яўляцца, як у сваёй прасторы.

Шчасліва размнажайцеся і жывіце! Многія лета...

З пашанай *Праф. д-р. габ. Ян ЧЫКВІН*



**Hajnówka, dnia 17.02.1996 r.**

Henryk Elsenberg:
«Kultura to próba zmuszenia
dziejów, aby służyły
wartościom»

Szanowny Pan
Jan Syczewski
Prezes Zarządu Głównego
Białoruskiego Towarzystwa
Społeczno-Kulturalnego
w Białymstoku

Z okazji 40- lecia działalności Towarzystwa składam — na ręce Pana Prezesa — wszystkim pokoleniom działaczy — wyrazy społecznego szacunku i uznania.

W Społeczności naszego miasta Towarzystwo posiada niezwykły dorobek:

— chroniło w świadomości mieszkańców — Białorusinów język, tradycję, obyczaje i legendy narodowe a więc to wszystko co składa się na odrębność narodową

— kształtowało przeświadczenie, że są to wartości niezwykle cenne ale skutecznie przeciwdziałało rodzeniu się nacjonalizmu i separatyzmu

— swymi formami pracy zbliżało Białorusinów i Polaków, wzmacniało ich wspólnotę, pogłębiając więzi społeczne

— przejawiało zawsze troskę o duchowy rozwój człowieka, niezależnie od jego dobrobytu materialnego. Pomagało zachować równowagę między «mieć» a «być».

Serdecznie życzę wszystkim działaczom Towarzystwa: wytrwałości, energii, skutecznego pokonywania przeciwności, społecznego uznania i satysfakcji.

Z wyrazami szacunku
*BURMISTRZ*
*mgr Jadwiga RUDZIŃSKA-PATEJUK*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

URZĄD GMINY
17-200 Hajnówka
ul. A. Zina 1, tel./fax 25-00
ident. 000542250

---

Zarząd Główny
Białoruskiego Towarzystwa
Społeczno-Kulturalnego
W BIAŁYMSTOKU

W związku z jubileuszem 40-lecia, Rada i Zarząd Gminy w Hajnówce składa Wam serdeczne gratulacje oraz życzy dalszych sukcesów w pracy społecznej i na niwie kultury.

Wasza praca na rzecz środowiska białoruskiego w Polsce przyczyniła się do zachowania tożsamości narodowej Białorusinów w Polsce, zachowania tradycji narodowych, oraz przekazywania najlepszych wartości następnym pokoleniom. Działalność Wasza integruje Białorusinów zamieszkujących w Polsce wokół najlepszych wartości, oraz inspiruje do rozwoju amatorskiego ruchu artystycznego.

Dziękujemy Wam za dotychchczasową współpracę liczymy na dalsze współdziałanie, które deklarujemy ze swojej strony.

Hajnówka, 17 lutego 1996 r.

*Przewodniczący Zarządu*
*Gminy Hajnówka*
*inż. Olga RYGOROWICZ*



Pan Jan Syczewski
Przewodniczący Zarządu Głównego
Białoryskiego Towarzystwa
Społeczno-Kulturalnego
w Polsce

Z okazji 40-lecia Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego Zarząd Miasta i Gminy oraz Rada Miejska w Kleszczelach składają serdeczne gratulacje i najlepsze życzenia.

Wysoko oceniając dotychczasową współpracę, podkreślamy zdecydowanie, że Towarzystwo na stałe wpisało się w życie społeczno-kulturalne gminy Kleszczele.

Życząc Jubilatowi kolejnych 100 lat, przejawiamy nadzieję dalszej owocnej współpracy na rzecz dbałości o wartości kultury białoruskiej.

Z poważaniem

PRZEWODNICZĄNCY
RADY MIEJSKIEJ

*inż. Jan SAWICZ*

*BURMISTRZ*
*mgr inż. Aleksander*
*SIELICKI*



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Аб нас пісалі ў прэсе з нагоды 40-годдзя БГКТ

*Вытрымкі выбраў і пераклаў з польскай мовы на беларускую У. Юзвюк*

1. А. Радзюкевіч. Беларускае таварыства. *«Пшэглёнд Праваслаўны», № 3, сакавік, 1996 г.*

«Дакладна сорак гадоў таму ў дзірцы, у якой, паводле паэта і мастака (С. Яновіча і Л. Тарасевіча. — *У.Ю.*), гіне беларускасць, гэта значыць у Беластоку, арганізавалася Беларуская грамадска-культурнае таварыства. Пасля вайны беларусы масава мігравалі ў гарады, вучыліся і асіміляваліся.

Не ўсе, аднак, хацелі асімілявацца. Тыя, якія баяліся застацца нікім, хадзілі да ўладаў і прасілі дазволу стварыць беларускую арганізацыю, зразумела, культурнага і грамадскага характару. Праз адзінаццаць гадоў пасля вайны ўлады дазволілі гэта. Беларускае таварыства было зарэгістравана 26 лютага 1956 года.

І пачалося: спяванне, танцаванне, выдаванне зборнічкаў паэзіі, прозы, навучанне (беларускай) мове ці пошукі для музея кроснаў, маняжоў, упрыгожаных акяніцаў. Рух, асабліва ў першыя гады яго існавання, быў спантанны. Гэта тады арганізаваўся першы стаасабовы калектыў песні і танца (ГП БГКТ). З яго выдзелілася «Лявоніха», якая наведала ўсе, нават найбольш адлеглыя, вёскі. Журналіст «Нівы» Міхась Хмялеўскі налічыў, што дала яна 2004 канцэрты, але не спадабалася ўладам і была ліквідавана.

— Здзіўляючая адданасць і актыўнасць людзей, — гаворыць Янка Сычэўскі. — Яны так многа працуюць у беларускім самадзейным руху, а ёсць іх каля паўтары тысячы. Тыя, якія спяваюць у калектывах, патрапяць улетку амаль кожную нядзелю выязджаць у розныя вёскі, каб спяваць на народных фестынах. Ездзяць са сваімі харчамі, таму што БГКТ не мае грошай, каб запрасіць іх на абед. І налічваецца кожны год каля 40—60 тысяч гледачоў. Дзякуючы такім людзям, хаця не хапае на ўсё грошай, сорак гадоў пасля стварэння БГКТ гучаць надалей беларуская песня і мова».

2. З. Нікітаровіч. Юбілей таварыства. *«Кур'ер Подляскі», 19.02.1996 г.*

«На 40-годдзе нараджэння Беларускага грамадска-культурнага таварыства прыбыла амаль палова польскага і беларускага ўрадаў, а таксама архіепіскап Сава. Былі медалі, дыпломы, падарункі, абяцанні большай дапамогі з боку дзяржавы, і нават віншавальны ліст ад прэзідэнта Аляксандра Квасьнеўскага. Не былі запрошаны





Міністр культуры і мастацтва Польшчы З. Падканьскі віншуе дзеячаў БГКТ з 40-годдзем таварыства. Фота С. Грынявіцкага.

на ўрачыстым святкаванні — незалежна ад юбілейных віншаванняў — прадстаўнікі Саюза беларусаў у РП, у склад якога ўваходзяць арганізацыі, створаныя пасля 1990 года.

— Ніколі з іх боку не было лаяльнасці ў адносінах да нас, — тлумачыў Я. Сычэўскі, старшыня ГП БГКТ. — Прычынай узаемнага недаверу абедзвюх арганізацый ёсць іншы падыход да мінуўшчыны. Маладыя дзеячы СБ абвінавачваюць БГКТ, між іншым, у пракамуністычных сімпатыях. Але гэта адна лыжка дзёгцю ў бочцы мёду, якая выступіла ў юбілейных святкаваннях...

Яшчэ перад урачыстым пленумам ГП БГКТ міністр культуры З. Падканьскі праінфармаваў нас, што датацыі на патрэбы меншасці (беларускай) у гэтым годзе будуць павялічаны на 35 працэнтаў у параўнанні да 1995 года. Пры гэтым БГКТ атрымае 1,3 мільярда злотых (гэта значыць на 40 працэнтаў больш) на арганізацыю культурных мерапрыемстваў».

3. А. Радзюкевіч. Свята беларусаў. *«Пшэглёнд Праваслаўны», № 3, сакавік, 1996 г.*

«БГКТ мае асаблівыя заслугі ў галіне захавання традыцый, якія ляжаць у аснове культуры народа. Дзейнасць таварыства — гэта ўклад у паразуменне паміж Польшчай і Беларуссю, такія



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

сцвярджэнні можна было пачуць ад прадстаўнікоў абодвух урадаў, а таксама ў віншавальных лістах ад прэзідэнтаў абедзвюх дзяржаў: Аляксандра Квасьнеўскага і Аляксандра Лукашэнкі, якія былі зачытаны ў адрас БГКТ з нагоды ўрачыстасці...

Святкаванні юбілею БГКТ сталіся святам беларусаў у Польшчы. Узрушаць, лагодзіць, зацікаўліваць, шанаваць тое, што пакінулі пасля сябе продкі, не раздражняць — хіба так можна падсумаваць дзейнасць беларускага таварыства. І трэба працаваць, шукаючы свайго месца ў нацыянальнай і веравызнаўчай разнароднасці Беласточчыны, таму што гэтыя землі засяляюць у асноўным беларусы. І такая праца знаходзіць прызнанне сярод людзей, пры нешматлікіх выключэннях. І за такую працу дзякуюць тысячы людзей, якія ўдзельнічаюць у мерапрыемствах, арганізаваных БГКТ. І вельмі высока ацанілі яе кіраўнікі ўрадаў Польшчы і Беларусі».

4. З. Нікітаровіч. Таварыства з мінуўшчынай. *«Кур'ер Падляскі», 12.02.1996 г.*

«Крытыкі папракаюць, што яно (БГКТ) абцяжарана задоўжанасцю і чырвонай мінуўшчынай. Старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янка Сычэўскі запэўнівае, што арганізацыя не хоча гуляць у палітыку, а хоча развіваць толькі культуру...

Пачатак арганізацыі далі людзі, якія пасля вайны часта рызыкавалі жыццём. «Прызнанне свае нацыянальнасці было небяспечна, — тлумачыў Я. Сычэўскі. — Такая атмасфера (запалоханасці) уздзейнічала на погляды дзеячаў і само БГКТ. Аднак, як падкрэсліў Я. Сычэўскі, таварыства ніколі не было ідэолагам сацыялізму. А ў абставінах, калі трэба было выбіраць паміж камуністычнай артадоксіяй і абаронай беларускасці, БГКТ заўсёды выбірала другое».

5. А. Латышонак. Прэс-канферэнцыя ў БГКТ. *«Ніва», № 8, 25.02.1996 г.*

«У пятніцу, 8 лютага 1996 года, ў сядзібе БГКТ у Беластоку адбылася прэс-канферэнцыя, скліканая Галоўным праўленнем гэтай арганізацыі... Запытаны (старшыня ГП Я. Сычэўскі), чаму БГКТ не выказалася па справе рэферэндуму аб дзяржаўнай мове і сімволіцы Рэспублікі Беларусь, Я. Сычэўскі заявіў, што БГКТ не выказваецца па справах палітычных. Згаданая справа вельмі далікатная. Крытыка нацыі — гэта непаразуменне. Трэба шукаць вытокаў цяперашняга становішча. Стан свядомасці беларусаў — гэта вынік таго, што рабіла з імі Польшча і Расія, і таго, што па сённяшні дзень з імі рабілася».

6. М. Халадоўскі. Прэм'ер усхваляваўся да слёз. *«Газэта ў Беластоку», 19.02.1996 г.*

«Больш грошай для нацыянальных меншасцей. У гутарцы з



«Газэтай» дырэктар дэпартамента нацыянальных меншасцей МКіС (Міністэрства культуры і мастацтва) Ежы Бісяк сказаў, што на мерапрыемствы беларускай меншасці ў дзяржаўным бюджэце краіны прызначана ў гэтым годзе на 40 працэнтаў фінансавых сродкаў больш, чым у мінулым годзе. З гэтага БГКТ мае атрымаць адзін мільярд трыста мільёнаў старых злотых (амаль на 400 мільёнаў злотых больш, чым у папярэднім годзе). Грошы павінны быць прызначаны на арганізацыю БГКТ вялікіх імпрэзаў, у тым ліку Купалля, фестывалю беларускай песні, фестывалю «Беласток—Гродна». Усе беларускія арганізацыі ў Польшчы атрымаюць 3,5 мільярда злотых. Пры нагодзе дырэктар Бісяк сцвердзіў, што дзякуючы павелічэнню сродкаў на культуру меншасцей, можна будзе захаваць 21 часопіс нацыянальных меншасцей, у тым ліку «Ніву».

Яшчэ перад канцэртам (Гала-канцэртам III фестывалю беларускай песні. — *У.Ю.*) некалькітысячная публіка авацыйна сустрэла прэм'ера Цімашэвіча і яго жонку. Адзін з хораў адспяваў яму «Многае лета». Цімашэвіч не скрываў усхвалявання, а нават зрабіў у бок гледачоў жэст, быццам бы выціраў слёзы».

7. К. Расіньскі. Удзячнасць Цімашэвіча. *«Кур'ер Поранны», 19.02.1996 г.*

«Прысутнасць прэм'ера Польшчы на гала-канцэрце Беларускага грамадска-культурнага таварыства — гэта немалое ўзвышэнне беларускай грамадскасці ў Польшчы. Такім чынам Уладзімеж Цімашэвіч аддзячыў за падтрымку ў трох чарговых выбарах. Першы раз у выбарах да кантрактнага Сейма прызнанне праваслаўных жыхароў Беласточчыны было ў значнай ступені выпадковае, звязанае са свойскім гучаннем імя і прозвішча. Пасля гэта ўжо не мела значэння, у чарговых выбарах Цімашэвіч апераджаў радавітых беларусаў і веравызнаўцаў праваслаўя, атрымліваючы таксама моцную падтрымку на тэрыторы, дзе пражываюць каталікі.

Сёння цяперашні прэм'ер з'яўляецца адным з нямногіх палітыкаў, якія, незалежна ад палітычнай кан'юнктуры ў краіне, могуць разлічваць на выбаршчыкаў у сваім раёне. Яго асабісты візіт быў толькі жэстам, але беластоцкія беларусы цэняць такія жэсты...»

8. (К.Р.). Юбілейныя святкаванні 40-годдзя БГКТ. Вялікая гала беларусаў. *«Кур'ер Поранны», 19.02.1996 г.*

«У суботу (17.02.1996) у Беластоку ўрачыста адзначаны юбілей 40-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Асноўным пунктам святкаванняў была пленарная сесія ГП БГКТ з удзелам — у якасці гасцей — прадстаўнікоў найвышэйшых уладаў Польшчы і Беларусі...

У час 40-мінутнай сустрэчы Уладзімежа Цімашэвіча,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Прэм'ер-міністр Польшчы У. Цімашэвіч віншуе БГКТ і ўсіх прысутных на канцэрце са святам 40-годдзя БГКТ. Фота С. Грынявіцкага.

Уладзіміра Русакевіча і беластоцкага ваяводы Анджэя Гаеўскага, якое адбылося ў сядзібе ваяводскай управы ў Беластоку, гутарка вялася аб палітыцы ў адносінах да нацыянальных меншасцей і аб гаспадарчых справах. Прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч атрымаў ад прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра запрашэнне для наведання яго краіны і прыняў яго з «вялікім задавальненнем».

Пасля сустрэчы віцэ-прэм'ер У. Русакевіч праінфармаваў журналістаў, што беларускі ўрад зацікаўлены ў гаспадарчых і культурных абменах з Польшчай. Прэм'ер У. Цімашэвіч задэклараваў «поўную адкрытасць у абмене вопытам».

Паводле У. Цімашэвіча, на працягу некалькіх месяцаў павінна наступіць сімвалічнае, супадаючае ў часе, адкрыццё польскай школы ў Гродне і адной з беларускіх школ у Польшчы, а таксама заканчэнне інвестыцыі на памежным пераходзе ў Баброўніках.

— Была б гэта добрая нагода да сустрэчы прэм'ераў абедзвюх краін і такім чынам паведамлення абедзвюм грамадскасцям стану ўзаемных суадносін, — сказаў прэм'ер.

Віцэ-прэм'ер У. Русакевіч выказаў удзячнасць дзяржаўным уладам РП і ўладам самаўправы за адносіны да беларускай меншасці.





Ваявода беластоцкі А. Гаеўскі віншуе старшыню ГП з 40-годдзем БГКТ. Фота С. Грынявіцкага.

— Абяцаем са свайго боку аналагічны падыход да польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі, — сказаў віцэ-прэм'ер.

Адказваючы на пытанні журналістаў, У. Русакевіч паабяцаў дапамогу беларускага ўрада ў заканчэнні пабудовы музея ў Гайнаўцы. Спрэчкі на тэму манастыра ў Супраслі прызнаў унутранай справай Польшчы, дадаючы, што аналагічныя спрэчкі здараюцца ў Беларусі. У сваю чаргу прэм'ер У. Цімашэвіч запэўніў, што звернецца да кіраўніка УРМ Лешка Мілера, каб заняўся пытаннямі Супрасля».

9. 40-годдзе дзейнасці БГКТ. Польска-Бялорусь. Газэта № 35, 23.02.1996.

«Да яго (БГКТ) статутовых заданняў належыць развіццё культуры, асветы і нацыянальнай навукі, якія маюць служыць паглыбленню нацыянальнай свядомасці беларускай меншасці ў Польшчы і гарманічнаму сужыццю розных народаў. Асноўнымі формамі дзейнасці БГКТ з'яўляюцца культурныя мерапрыемствы, канцэрты, агляды і фестыны. Кожны год яно арганізуе звыш 80 такіх імпрэзаў, у якіх удзельнічае каля 1,5 тысячы выканаўцаў і каля 40—60 тысяч гледачоў.

Па словах старшыні Янкі Сычэўскага, таварыства не



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ангажуецца ў палітыку і ніколі «не зганьбілася праявамі нацыянальнай нянавісці, нацыяналізму ці шавінізму. У арганізацыі дзейнічае каля 5 тысяч членаў і сімпатыкаў, але не мае яно штатных працаўнікоў».

* * *

10. «Ад шумнай Дубровы да спеўных Сямяціч...» З паэтам і грамадскім дзеячам Анатолем Вярцінскім гутарыць журналістка Таццяна Антонава. *Звязда, 23.02.1996 г.*

«— Скажыце, а як у святле юбілейных юпітэраў выглядалі рэальныя вынікі дзейнасці БГКТ? Што яму ўдалося зрабіць, а што, па нейкіх прычынах, не ўдалося?

— Пачну з канкрэтнага заўважанага мной штрыха, які сведчыць пра многае. Нягледзячы на тое, што на ўрачыстасцях, у адной і другой залах, прысутнічалі дзяржаўныя і грамадскія польскія дзеячы, большасць якіх, вядома, беларускай мовы не ведае, старшынствуючы, кіраўнік Галоўнага праўлення БГКТ Янка Сычэўскі гаварыў толькі па-беларуску (нават і ў тым выпадку, калі звяртаўся да прэм'ер-міністра і яго жонкі). І на поўны голас, настойліва, не падладжваючыся, гаварыў пра саматоеснасць польскага беларуса, пра яго нацыянальную свядомасць, пра яго культурныя каштоўнасці і набыткі.

З вышыні пройдзенага шляху было відавочна, што БГКТ апраўдвае сваё прызначэнне, годна выконвае сваю высакародную місію — місію захавання беларусчыны на Беласточчыне і ў асяроддзі ўсёй беларускай дыяспары ў Польшчы. На рахунку таварыства безліч добрых спраў у самых розных галінах грамадска-культурнага жыцця...»

11. У. Мялешка. «Беларусь, працягні рукі дружбы...» *Голас Радзімы, № 10, 7.03.1996 г.*

«...Вечарам святкаванне перамясцілася ў вялікую залу спартыўнага комплексу «Влукняж». Атмасфера — цёплая, узнёслая і вельмі дэмакратычная. Зала перапоўнена, прысутныя (а іх было некалькі тысяч) горача віталі прэм'ер-міністра Польшчы Уладзімежа Цімашэвіча і яго жонку, віцэ-маршалка Сейма Аляксандра Малахоўскага, кіраўніка і членаў беларускай афіцыйнай дэлегацыі, іншых гасцей свята.

Двойчы выходзіў на сцэну прэм'ер-міністр Польшчы. Ён абвясціў віншавальнае прывітанне ад прэзідэнта краіны і ўручыў ад яго імя ўзнагароды некаторым актывістам БГКТ. Віншаванне ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь зачытаў віцэ-прэм'ер Беларусі Уладзімір Русакевіч.

А потым быў гала-канцэрт лаўрэатаў III агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-96». Ён працягваўся некалькі гадзін. Некалькі гадзін сапраўднага свята беларускага песеннага мастацтва. Што гэта было за свята! Выступалі самадзейныя артысты: «Хлопцы-Рыбалоўцы» з Рыбалаў, «Пронар» з Нарвы, «Арэшкі» з Арэшкава і многія іншыя. Слухачы былі зачараваны добрымі галасамі і песнямі. Старэйшым больш падабаліся песні народныя, маладзейшым імпанавала сучасная эстрада. Асабліва цёпла сустракалі «зорак» тутэйшых. І вось дзіва! Простыя словы пра тое, як на аўтамабілях гарадскія едуць у вёску да бацькоў па сала, гэтыя простыя словы, пакладзеныя на сучасныя рытмы, выклікалі ажыятаж, моладзь наладжвала імправізаваныя танцы ля сцэны, аўдыторыя падхоплівала словы, цэлыя шэрагі гледачоў раскалыхваліся ў такт...

А калі выступаў гурт беларускай народнай песні «Маланка» з Бельска Падляшскага, я падумаў: «Нялёгка будзе нашым «Крупіцкім музыкам». І сапраўды, напачатку аўдыторыя сустрэла ансамбль даволі стрымана. Але з кожным новым нумарам рэйтынг выхаванцаў Уладзіміра Грома ўзнімаўся, і пасля канцэрта зала клуба «Влукняж» цёпла развітвалася з артыстамі.

А на фінал усе ўдзельнікі свята — і артысты, і слухачы — разам спявалі беларускую народную песню. Уладзімеж Цімашэвіч і яго жонка, Уладзімір Русакевіч і члены беларускай дэлегацыі стаялі ў акружэнні людзей і спявалі. Гэта быў цудоўны эмацыянальны момант! Магчыма, кульмінацыйны момант той арганізаванай дзейнасці беларусаў Беласточчыны, што з'яўляўся і з'яўляецца адной з важнейшых умоў захавання традыцый, культуры і роднай мовы беларусаў на гэтай зямлі».

12. М. Шыманскі. «Я часцінка народа з васільком на мяжы...» Роздум з нагоды аднаго юбілею. *«Рэспубліка» 4, 6 сакавіка 1996 г.*

«Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству (БГКТ) у Польшчы — 40 год. І сама дзейнасць таварыства, і яго юбілей — з'ява надзвычайная ў духоўным жыцці як беларускага, так і польскага народаў. Гэта сведчанне не толькі цывілізаванага суіснавання, але і ўзаемнага ўзбагачэння культур абодвух народаў, пацвярджэнне іх непахісных імкненняў да міру і добрасуседскіх адносін.

Своеасаблівым акордам юбілею стаў фестываль «Беларуская песня-96». Але гутарка, безумоўна, не толькі пра фестываль. Тут і роздум пра нашых землякоў, якіх на Беласточчыне каля 350 тысяч. Пра іх жыццё, адносіны да Беларусі, любоў і замілаванне да роднай мовы, песні... Пра іх праблемы. І радок з верша нашай зямлячкі, якім я пазначыў гэты спецвыпуск «Супольнасці», — пра народ і васілёк на мяжы — як хвалюючы сімвал нашай роднасці...

Пленарнае пасяджэнне беларускага таварыства адкрыў старшыня яго галоўнага праўлення Ян Сычэўскі. Было ўсё: шчырыя віншаванні з нагоды юбілею, уручэнне падарункаў,


3 — 1034


© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

узнагароды актывістам таварыства. Вось кароткія вытрымкі з некаторых выступленняў.

*Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава* (гаварыў на беларускай мове): «Члены таварыства — вернікі праваслаўнай царквы, яна цесна супрацоўнічае з таварыствам. І ад імя царквы жадаю таварыству, каб добры Бог памагаў вам у працы дзеля дружбы беларускага і польскага народаў».

*Міністр культуры і мастацтва Польшчы Здзіслаў Падканьскі*: «Культура аб'ядноўвае і з'ядноўвае розныя народы. І калі з сённяшняга дня паглядзець на ўсю дзейнасць БГКТ за гэтыя 40 гадоў, то галоўнае ў тым, што яно захавала беларускія традыцыі, звычаі, музыку, а больш за ўсё — песні. Гэта азначае, што вы прадумана гледзіце ў будучыню, за што вам шчырае дзякуй».

*Бургамістр г. Гайнаўкі Ядвіга Рудзіньска-Патэюк*: «Культура — гэта спроба таго, як прымусіць мінулае працаваць на будучае. Беларускаму таварыству такое ўдаецца, уся яго дзейнасць накіравана, каб абараніць свой народ і сваю годнасць».

*Анатоль Вярцінскі, беларускі паэт*: «Я тут прадстаўляю творчую інтэлігенцыю Беларусі. Нашы пісьменнікі шчыра ўдзячны БГКТ за тое, што на Беласточчыне жыве і пульсуе беларускае слова, што тут такія добрыя паэты».

*Алесь Баршчэўскі, загадчык кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, ганаровы старшыня праўлення БГКТ*: «Наша таварыства заўсёды супрацоўнічала з БССР, а цяпер з Рэспублікай Беларусь. Не хапае, праўда, нам тут, у Беластоку, нацыянальнага прыкладу з боку Беларусі. Наша таварыства ніколі не спускалася на пазіцыі нацыяналізму. 40 гадоў зрабілі многіх з нас сівымі, але не пастарэлі нашы душы, мы не згорбіліся і, як і раней, разам з народам Беларусі будзем аберагаць беларускую меншасць у Польшчы...»

*Асяродак нашай культуры. Як мы яго цэнім?* Наша дзяржава высока ацаніла дзейнасць таварыства як важны фактар захавання нацыянальнай адметнасці беларускай нацыі ў Польшчы, зацвярджэння гуманных адносін паміж людзьмі розных нацыянальнасцей, збліжэння і ўзбагачэння культур і традыцый суседніх краін. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сваім указам узнагародзіў Яна Сычэўскага медалём Францыска Скарыны, які наш віцэ-прэм'ер і ўручыў на ўрачыстым пасяджэнні. Ян Сычэўскі — адзін з першых грамадзян замежнай дзяржавы, адзначаны самай высокай узнагародай Беларусі. А было яшчэ цёплае, шчырае віншаванне ад прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра.

Сустрэчы з суайчыннікамі на Беласточчыне, безумоўна, выклікаюць самыя розныя думкі і пачуцці. І перш за ўсё пра тое, як мы адносімся да дзейнасці БГКТ, як імкнёмся зразумець нашых



землякоў у суседняй краіне. Можна пачуць: ну, што там дыяспара, жыве — і няхай жыве, у яе свае клопаты, у нас свае. А між іншым з дзейнасцю таварыства, якое мае сваю сядзібу ў Беластоку, арганічна звязана існаванне беларускасці ў Польшчы. Увесь гэты час таварыства дастойна нясе высокую місію захавання тут, у гэтых мясцінах Польшчы, нацыянальнай беларускай адметнасці — нязменнай і хвалюючай любові да беларускай мовы, песні, Бацькаўшчыны...

*Пра што гаварыў ваявода.* Жыццё і біяграфія таварыства няпростыя і нялёгкія. Гэта ў пэўнай ступені абумоўлена станам развіцця як польскага, так і беларускага грамадства. «Мы раслі, разумнелі і жылі разам з палякамі і беларусамі, — казалі нашы землякі на Беласточчыне. — Нас аб'ядноўвае адна справа — служэнне Беларусі і той дзяржаве, дзе мы жывём».

Беларускае таварыства стаіць на грунце канстытуцыі і дзяржаўных законаў Польшчы. Пры гэтым з сардэчнай зацікаўленасцю глядзіць на Беларусь, прагнучы з ёю супрацоўнічаць і спрыяць яе росквіту...

Тое, што таварыства жыве і дзейнічае, стала магчымым дзякуючы самаадданай працы яго кіраўнікоў, падтрымцы шырокіх прыхільнікаў сярод беларускага асяроддзя і мясцовых улад. І тут неабходна сказаць пра ваяводу беластоцкага Анджэя Гаеўскага. Ён і сустракаў нас на беларуска-польскай граніцы, і быў на ўсіх мерапрыемствах, і зноў жа праводзіў нас да мяжы. Пан Гаеўскі высока ацэньвае значную актыўнасць таварыства ў культурным жыцці Беласточчыны, дзейнасць харавых калектываў, беларускіх школ, літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якое створана на базе газеты «Ніва».

БГКТ мае цесныя кантакты з Саюзам палякаў у Беларусі: праводзіць сумесныя навуковыя канферэнцыі, фестывалі. Усё гэта дапамагае яднанню польскага і беларускага народаў.

*Як тут жывецца беларускай песні.* Шмат дзён у Польшчы ішлі раённыя агляды «Беларускай песні-96». У іх прымалі ўдзел многія сотні выканаўцаў — тут і салісты, і дуэты, і квартэты, і харавыя калектывы... Тут і досыць сталыя самадзейныя артысты, як, напрыклад, Ніна Цыванюк з Гарадка, яна ў самадзейным калектыве ўжо 42 гады, тут і зусім маладая Аня Антушэвіч, студэнтка філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку...

І вось заключны акорд — гала-канцэрт. Зачытваецца прывітальнае пісьмо прэзідэнта Польшчы Аляксандра Квасьнеўскага. Ён, у прыватнасці, падкрэсліў, што беларускае таварыства дапамагае не толькі аб'яднанню беларусаў Польшчы, але і росту ўзаемаразумення беларусаў і палякаў.

Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч у сваім выступленні гаворыць, што дзейнасць БГКТ у культурнай сферы мае вялікае



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

значэнне не толькі для беларусаў Польшчы, але і для ўсіх палякаў. Уладзімір Русакевіч падкрэслівае, што нашы народы — добрыя суседзі, і цудоўныя беларускія песні, якія цяпер слухае ўся Польшча, яшчэ мацней здружаць нас усіх. Дарэчы, на гала-канцэрце выступалі не толькі выканаўцы з Польшчы. Ажно 14 нумароў паказалі славутыя «Крупіцкія музыкі» з Міншчыны і пакарылі залу.

І самае велічнае, хвалюючае — артысты і госці ўстаюць і разам спяваюць «Люблю мой край, старонку гэту...» І я бачу ў многіх на вачах слёзы, на тварах — шчырыя ўсмешкі.

Удалася «Беларуская песня-96»! Бо ў яе ў Польшчы шмат сяброў і прыхільнікаў, яна ж у сваю чаргу — як добры і шчыры пасланец да сэрцаў людзей».

# Мінулае і сённяшняе БГКТ

*Віктар Хшаноўскі*

## Перадз'ездаўскія «Мужыкі»

Такі назоў мела згуртаванне беларусаў у Варшаве, якое існавала ў 1955 і пачатку 1956 года пры Галоўным праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы (ТППР). Варшаўскія беларусы былі ў асноўным выхадцамі з Беласточчыны або так званымі «рэпатрыянтамі» з Беларусі. Многія з іх трапілі на сталічныя заводы і ва ўстановы ў пошуках працы, але найвялікшую групу складалі студэнты або выпускнікі мясцовых вышэйшых устаноў. Лік іх узрос у гады пабудовы Палаца культуры і навукі ў цэнтры Варшавы, які меўся быць сімвалам дружбы паміж СССР і Народнай Польшчай. Таму ўсе тутэйшыя беларусы былі сапраўды сялянскага паходжання і можа таму, будучы адарванымі ад родных мясцін, адчувалі патрэбу яднання.

Лічу я па сабе. Народжаны ў 1929 годзе ў Дзернякове каля Гарадка ў сялянскай сям'і, у якой бацька, браты і суседзі належалі да Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), да Таварыства беларускай школы (ТБШ), а пасля былі ў савецкіх партызанах, выхоўваўся ў атмасферы пашаны да сваіх традыцый. Бацька атрымаў у 1944 годзе працу ў Беластоку, туды і пераехала ўся сям'я, а я стаў вучнем пачатковай школы ў беларуска-рускай гімназіі. Потым закончыў ліцэй і ў гадах 1950—1954 вучыўся ў Ленінградскім планавым інстытуце. Цудоўная сяброўская атмасфера ў многанацыянальным студэнцтве канчаткова сфарміравала ўва мне ідэалы інтэрнацыяналіста-барацьбіта за лепшую будучыню працоўнага люду.

Але, атрымаўшы працу ў Дзяржаўнай камісіі гаспадарчага планавання ў Варшаве, спазнаў я ў сталічнай грамадскасці замест еднасці ідэалагічныя, нацыянальныя, веравызнаўчыя і іншыя падзелы. Месцам, у якім найлепш адчувалі сябе выпускнікі савецкіх вышэйшых устаноў, было ТППР па вуліцы Сенатарскай, 8. Прыходзіла нас туды ўсё больш, а разам з імі і варшаўскія беларусы, у тым ліку студэнты і дзеячы арганізацый.

Хутка на старонках органа ПАРП «Трыбуна Люду» з'явіліся два артыкулы Ежы Равіча пад агульным загалоўкам: «Беларусы ў



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Польшчы». У першым пад назвай «Droga do wspólnej sprawy» ад 8 верасня 1955 года аўтар апісвае цяжкае грамадскае і эканамічнае становішча беларускага насельніцтва ў міжваеннай Польшчы, яго барацьбу з санацыйнымі ўладамі, трагедыю жыхароў вёскі Райск у гады нямецкай акупацыі і адраджэнне ў ёй жыцця.

У другім артыкуле «Nowym torem» ад 10 верасня таго ж года Е. Равіч апісвае абставіны на Беласточчыне пасля вызвалення, зверствы тагачаснага польскага падполля, значнае месца прысвячае навучанню роднай мове і цяжкасцям, звязаным з гэтым, закранае статус мясцовых беларускіх дзеячаў, замоўчваемы ў Ваяводскім камітэце ПАРП, і высоўвае пастулат: «Ці не трэба было б выдаваць у Беластоку тыднёвік на беларускай мове?»

Прыпамінаю сабе, з якім хваляваннем чыталі мы гэтыя артыкулы! Аб нас, урэшце, пачала пісаць «Трыбуна Люду», найбольш шматтыражная і аўтарытэтная газета ў Польшчы. Заахвочаныя гэтым, склікалі мы вялікі сход, у гарачых спрэчках заснавалі беларускае згуртаванне пад назвай «Мужыкі». У яго праўленне ўвайшлі: Уладзімір Карповіч, Галена Казак, Мацей Канапацкі, Васіль Місеюк, Уладзімір Пяткевіч, Аляксей Трахімчык, Юры Туронак і іншыя, прозвішчаў якіх я ўжо добра не памятаю. Мяне выбралі старшынёй праўлення.

Гаворачы аб нас: «Добры гэта народ, сардэчны. Прыязны людзям і просты, — што на сэрцы, то і ў мове. І скажам гэта адразу — беларусы з'яўляюцца добрымі грамадзянамі Польскай Рэчыпаспалітай Людовай (ПНР), свядомыя сваіх абавязкаў на сёння і заўтра», — не заўважыў Равіч патрэбы арганізацыі нейкага беларускага згуртавання. Зрабілі мы гэта самі.

Недзе вясною 1955 года на пасяджэнні ГП ТППР паявіліся галасы аб арганізацыйнай актыўнасці беларускай моладзі, а разам з гэтым — пярэчанні аб «цэласнасці польскага народа», існаванні ў краіне нацыянальных меншасцей, навучанні дзяцей на іх мовах у пачатковых і сярэдніх школах, існаванні фальклорных аматарскіх калектываў на Беласточчыне. Пачуліся сярод беларусаў галасы аб патрэбе заснавання нейкага згуртавання. Калі не памыляюся, узначалілі яго студэнты Політэхнічнага інстытута. Асноўным яго заданнем сталася прыцягванне ў будынак ТППР як мага большай колькасці беларусаў і падрыхтоўкі іх да правядзення сходаў насельніцтва, якое пражывала кампактна ў беларускіх вёсках усходняй Беласточчыны. Найбольшую актыўнасць выказвалі выпускнікі агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску. Але многія з іх, ды і іншых актывістаў, закончылі варшаўскія вузы і згодна з наказамі пачалі працу. Усё ж на падставе сабраных вестак упэўніліся мы аб іх шчырай падтрымцы нашай ініцыятывы. Мы самі сябе і нас у ГП ТППР пачалі называць «мужыкамі». У гэтым назове было крыху праўды, крыху літаратуршчыны і крыху іроніі.



Восенню 1955 года было нас ужо звыш 100 асоб. Даволі часта наведваў Таварыства польска-савецкай дружбы добры наш сябра гадоў вучобы ў СССР Ян Хылінскі (сын Баляслава Берута), ўдзельнічаў у нашых дыскусіях і станоўча да іх адносіўся. Папрасілі мы ў яго дапамогі ў наладжванні сустрэчы з адказным за грамадскія арганізацыі працаўніком Цэнтральнага камітэта ПАРП. Атрымалі прыхільны адказ, стварылі трохасабовую дэлегацыю, у складзе якой былі Уладзімір Карповіч, Аляксей Трахімчык і я. Прыняў нас сакратар прапаганды ЦК ПАРП. Здаецца, ён меў аб нашым згуртаванні пры ГП ТППР не толькі дастаткова многа добрай інфармацыі, але і ўзгодненае ўжо меркаванне. На нашае пытанне, ці можам мы стварыць ў Варшаве беларускую арганізацыю, адказаў адразу: так. Трэба, аднак, прыняць культурна-асветніцкі накірунак, апрацаваць статут і зарэгістраваць яго ў адпаведных уладах краіны. Не займацца празмерна палітыкай, для гэтых пытанняў ёсць партыя.

У нашым асяроддзі закіпела. Члены праўлення пачалі ў сваіх установах і больш скопішчах беларусаў пашыраць інфармацыю аб стварэнні арганізацыі, аб беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне, аб навучанні ў тамашніх школах беларускай мове, а таксама аб вызваленчай барацьбе беларускіх партызан на Беларусі ў гады нямецкай акупацыі і яе сучасным жыцці. У Політэхнічным інстытуце, ГП ТППР, маладзёжных арганізацыях і іншых месцах адбыліся дыскусійныя вечары. Інфармацыі і дыскусіі выкарысталі нават некаторыя радыёвузлы ВНУ. Трэба заўважыць, што ўсюды беларуская праблематыка і імкненне да пашырэння згуртавання «Мужыкі» ў варшаўскім асяроддзі ўспрымалася вельмі зычліва. Грамадскасць і ўлады адносіліся прыхільна таксама да ліцвінаў, замоўчвалі аб украінцах і варожа ставіліся да нямецкай меншасці.

У нашай арганізацыі, хіба па прычыне такіх адносін да нацыянальнасцей, былі палякі, рускія, украінцы і яўрэі. Апошнія мелі тады ўжо свае арганізацыі і вопыт у працы, які мы крыху пераймалі або спасылаліся на яго перад уладамі. Надалей знаходзіліся пры ГП ТППР і злоўжывалі яго гасціннасцю. Згуртаванне налічвала ўжо каля 200 членаў, а ў гаспадароў былі невялікія памяшканні. Усюды тут было нас поўна, але ніякіх фінансавых сродкаў мы не мелі нават на такія элементарныя выдаткі, як на карыстанне тэлефонам ці святлом. Не ўстанавілі ж мы членскіх складчын.

Глыбокай восенню 1955 года атрымалі звестку, што стварэннем беларускай арганізацыі і яе прэсавага органа пачалі займацца ўлады Беласточчыны. Значыць, перахапілі нашую ініцыятыву. Але гэта цешыла. Пачалі мы завязваць кантакты, прапаноўваць дапамогу. Лічылі, што беластоцкае асяроддзе яшчэ інтэлектуальна



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

слабое і без варшаўскай інтэлігенцыі яму не абысціся. Аказалася крыху інакш — яно толькі не было арганізавана.

На Першы з'езд БГКТ ад нашага згуртавання «Мужыкі» былі запрошаны дзве асобы: Васіль Місеюк і я. Абодва мы на ім выступалі, складалі віншаванні і дзяліліся вопытам у працы. Азначала гэта, што нашае згуртаванне ўвайшло ў створаную агульнадзяржаўную нацыянальнаменшасную арганізацыю — БГКТ, а некаторыя дзеячы ўвайшлі ў склад першага Галоўнага праўлення з сядзібай ў Беластоку.

Перачытваючы выданні ГП БГКТ, я не магу пацвердзіць распаўсюджанай звесткі аб прыняцці Цэнтральным камітэтам ПАРП нейкай «пастановы» аб стварэнні культурна-асветнай нацыянальнаменшаснай арганізацыі. Мог існаваць толькі шырэй прадыскутаваны дазвол на яе стварэнне. Думка такая з'яўляецца пры азнаямленні з заўвагаю Георгія Валкавыцкага ў нататках рэдактара «Віры» (1991). У першай пастанове гаворыцца аб стварэнні таксама пры Ваяводскім праўленні ТППР у Беластоку «Таварыства беларускай культуры», а ў праекце статута — «Таварыства распаўсюджвання беларускай культуры і мастацтва» — усё, што паўгода раней мы перажылі пры арганізаванні сваіх «Мужыкоў».

Стварэнне адзінай на краіну, самастойнай арганізацыі ўсе мы ацэньвалі станоўча і таму ўключыліся з самага пачатку ў яе дзейнасць. Пацвярджэннем гэтага было арганізаванне ў Варшаве 13 мая 1956 года аддзела БГКТ, які прыняў не толькі дзеячаў нашага згуртавання, але застаўся нават амаль на сорак наступных гадоў у славутым памяшканні пры вуліцы Сенатарскай, 8. Мне давялося быць у першыя некалькі месяцаў старшынёю праўлення аддзела, а пасля замяніў мяне Анатоль Якаўлюк, сучасны прафесар Політэхнічнага інстытута ў Беластоку.

*Віктар Швед*

## Варшаўскі аддзел БГКТ

Пасля смерці Сталіна ў 1953 годзе наступіла адліга таксама і ў нашай краіне. Дзяржаўныя ўлады прыкмецілі раптам існаванне нацыянальных меншасцей у Польшчы.

Беларусы, пражываючыя ў Варшаве, у першую чаргу студэнцкая моладзь, да якой і я тады належаў, марылі аб заснаванні сваёй беларускай арганізацыі. Узорам нам было Рускае культурна-асветнае таварыства, якое мела ў той час сваю сядзібу ў «Еўрапейскай» гасцініцы на Кракаўскім прадмесці ў Варшаве. У 1955 годзе аб'ядналіся мы пры гэтым таварыстве ў гурток беларускай моладзі.



Неўзабаве збыліся нашы мары. 26 лютага 1956 года адбыўся ў Беластоку арганізацыйны з'езд, які паклікаў да жыцця Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яго друкаваны орган «Ніву».

13 мая 1956 года арганізавалі мы аддзел БГКТ у Варшаве. Я стаў актыўным яго дзеячам. Звыш дваццаці гадоў працаваў я тут як член Галоўнага праўлення БГКТ, сакратар праўлення аддзела і інспектар ГП, адказны за працу Варшаўскага аддзела БГКТ.

Не маючы яшчэ ўласнага памяшкання, арганізацыйныя сходы праводзілі мы на кватэры намесніка старшыні праўлення аддзела Віктара Лэпкоўскага. Першым старшынёю аддзела быў выбраны Віктар Хрэноўскі, які цяпер пражывае ў Беластоку. Неўзабаве замяніў яго Анатоль Якаўлюк, сённяшні прафесар Беластоцкай політэхнікі. Трэцім старшынёю быў выбраны журналіст-эканаміст Юры Туронак. Распачаў ён сваю дзейнасць ужо ў памяшканні аддзела на вул. Сенатарскай, 8, у Варшаве, якое «выхадзіў» у тагачасных варшаўскіх улад. Пастараўся таксама за грошы, атрыманыя з ГП БГКТ, адпаведна абсталяваць памяшканне аддзела. Заснаваў ён бібліятэку аддзела з беларускім кнігазборам мастацкай і навуковай літаратуры. Вялікая таксама заслуга Ю. Туронка як аднаго з ініцыятараў стварэння кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце. Спрыяў ён пашырэнню шматграннай працы аддзела. Ю. Туронак узначальваў Варшаўскі аддзел БГКТ на працягу дзесяці гадоў. Пасля яго старшынёю аддзела быў выбраны Юры Бусловіч. Актуальным старшынёю аддзела з'яўляецца доктар фізікі Мікалай Аляксеюк.

У атрыманым двухпакаёвым памяшканні адзін, даволі абшырны, пакой быў прызначаны пад клуб, у другім, меншым, размясціліся сакратарыят і бібліятэка.

Штодзённая праца аддзела была спланавана праўленнем на сталыя накірункі, якія напаўняліся зместам на працягу шматгадовай дзейнасці.

### Арганізацыйная праца

Варшаўскі аддзел БГКТ з самага пачатку праводзіў інтэнсіўную працу, скіраваную на вярбоўку новых членаў арганізацыі. Вярбоўка вялася ў вышэйшых навучальных установах Варшавы, у студэнцкіх інтэрнатах і пад цэрквамі на Празе і на Волі. У найбольшым сваім росквіце аддзел налічваў каля пяцісот членаў БГКТ, а ў цэлым у мінулым саракагоддзі прайшло праз яго іх каля тысячы. Пасля заканчэння вышэйшых навучальных устаноў многія былыя студэнты выехалі з Варшавы ў іншыя раёны краіны, у першую чаргу вярнуліся на Беласточчыну. А колькі ж было гэтак званых сімпатыкаў, якія не ўступілі ў рады БГКТ! Сведчаць аб тым хаця б арганізаваныя аддзелам навагоднія балі, у якіх



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

неаднойчы прымала ўдзел больш за тысячу чалавек. Інтэнсіўная праца праводзілася таксама ў напрамку пашырэння беларускага чытальніцтва, у першую чаргу папулярызацыі часопіса «Ніва» і агітацыі на яе падпіску. Аддзел займаўся таксама зборам членскіх складчын і распаўсюджваннем выданняў БГКТ.

### Лекцыйная дзейнасць

Вялікую ролю адыгрывала ў аддзеле лекцыйная дзейнасць у рамках існуючага пры аддзеле дыскусійнага клуба. Вельмі часта выступалі тут з дакладамі на тэмы, звязаныя з жыццём Беласточчыны і Беларусі, вядомыя вучоныя. Неаднойчы гасцявалі выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры з Мінска, што працавалі на кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, тады дацэнты: Мікола Бірыла, Васіль Тарасаў, Аркадзь Жураўскі, Міхась Лазарук, Леў Шакун, прафесары Мінскага універсітэта Андрэй Ганчарэнка, Анатоль Грыцкевіч, беларускія вучоныя Лаўрэнцій Абэцэдарскі і Міхась Ларчанка, супрацоўнік Беларускай акадэміі навук геолаг Уладзімір Лукашоў.

З добра падрыхтаванымі дакладамі, часта з унікальнай тэматыкай, наведвалі аддзел таксама вучоныя Польшчы. Неаднойчы выступала тут Аляксандра Бергман, якая займаецца беларускай праблематыкай. Яе даклады аб Браніславу Тарашкевічу, Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе і беларускіх паслах у польскім Сойме выклікалі заўсёды вялікае зацікаўленне. Праф. Васіль Белаказовіч зрабіў змястоўныя даклады, прысвечаныя Паўлюку Багрыму і Ігнату Даніловічу, слаўнаму сыну Падляшша. Праф. Міхась Кандрацюк знаёміў прысутных з паходжаннем назваў беларускіх вёсак на Беласточчыне. Варта таксама прыгадаць даклад гісторыка Францішка Берніковіча аб удзеле беларусаў у Студзеньскім паўстанні ў Польшчы. Мікола Гайдук зрабіў цыкл дакладаў па гісторыі Беларусі старажытнага перыяду.

Трэба адзначыць, што найбольшы ўклад працы ў лекцыйную дзейнасць унёс старшыня аддзела Юры Туронак. Як журналіст і эканаміст выступаў ён не толькі з дакладамі аб эканамічных дасягненнях Беларусі. Даследаваў ён таксама гісторыю беларускага школьніцтва на Беласточчыне ў часы нямецкай акупацыі, савецкай улады і ў пасляваенны перыяд. Зрабіў даклад аб беларускай школе, якая працавала на Свентаерскай вуліцы ў Варшаве ў 1942/43 і 1943/44 навучальных гадах. Ю. Туронак цікавіўся і мастацкай літаратурай. Да унікальных трэба аднесці яго вывучэнне жыцця і літаратурнай творчасці Веры Матэйчык з Супраслі і нашаніўскага паэта Сцяпана Пятэльскага (М. Арла) з Гарадка. Вельмі часта з дакладамі на тэмы, звязаныя з беларускай



літаратурай і фальклорам, выступаў кіраўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта праф. Аляксандр Баршчэўскі. Выпускнікі гэтай кафедры часта знаёмілі з цікавейшымі магістэрскімі працамі, напісанымі пад яго навуковым кіраўніцтвам. Гэтыя працы датычылі беларускай мовы і літаратуры, а таксама беларускага фальклору Беласточчыны.

### Літаратурная праца

На Сенатарскай працавала вялікая літаратурная група членаў беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Належалі да яе ў першую чаргу студэнты вышэйшых навучальных устаноў Варшавы: Галена Анішэўская, Надзея Артымовіч, Валянціна Анішчук, Марыя Базылюк, Андрэй Беразавец, Яша Бурш, Зося Бусловіч-Стаськевіч, Янка Жамойцін, Уладзімір Ільяшук, Віктар Рудчык, Ірына Свентахоўская, Віктар Стахвюк, Ян Чыквін, Дзмітры Шатыловіч, Міхась Шаховіч, Віктар Швед і Яніна Шостак, а таксама Алесь Барскі, Пятро Ластаўка, Сымон Раманчук і іншыя. Палова з іх да сёння не пакінула пісаць. Літаратурнай групай даўжэйшы час кіраваў паэт Яша Бурш (Янка Анісэровіч). Пастаянна праводзіліся аўтарскія вечары паасобных членаў групы ў Варшаве і на Беласточчыне.

У клубе на Сенатарскай выступалі таксама пісьменнікі з Беларусі, якія наведвалі Польшчу: Рыгор Барадулін, Янка Брыль, Генадзь Бураўкін, Пятро Глебка, Ніл Гілевіч, Уладзімір Караткевіч, Алег Лойка, Максім Лужанін, Адам Мальдзіс, Піліп Пестрак, Язэп Семяжон і Максім Танк.

Адбыліся сустрэчы і з польскімі пісьменнікамі. Выступілі ў клубе Багдан Астрамэнцкі, Анджэй Занеўскі, Багдан Жыранік, Яўген Кабатц, Габрыель Карскі, Ян Леанчук, Артур Мендзыжэцкі, Ежы Путрамент, Уладзімір Сегаль і Земавіт Федэцкі.

Варта ўспомніць, што ў клубе БГКТ выступілі рускія паэты, пражываючыя ў Польшчы, — Марыя Волгіна, Вера Ратынская, Васілій Качноў і Юрый Саргонін.

### Мастацкая самадзейнасць

У Варшаўскім аддзеле БГКТ працаваў саракаасабовы хор пад кіраўніцтвам Міколы Ждановіча. У хоры спявала ў першую чаргу студэнцкая моладзь. Пасля змены кіраўніка хор працягваў працу пад кіраўніцтвам Барыса Мулярчыка, які кіраваў ім аж да сваёй заўчаснай смерці. Харысты былі апрануты ў прыгожыя беларускія нацыянальныя касцюмы, вышываныя ўручную сукенкі і мужчынскія кашулі.

Актывіст аддзела Рычард Адамовіч арганізаваў танцавальны



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012




Квартэт «Зорка Венера» з Варшавы. Фота С. Грынявіцкага.

гурток, які пад яго кіраўніцтвам выконваў беларускія народныя танцы. Актыўная дзяячка аддзела Станіслава Колей-Гайдучэня кіравала дэкламатарскім гуртком. Хор, танцавальная група і дэкламатары беларускіх вершаў выступалі на арганізаваных таварыствам для шырокага польскага і беларускага гледача культурных мерапрыемствах.

Пасля таго як перасталі працаваць хор і танцавальная група, былі спробы заснавання эстрадных груп, якімі кіравалі Яраслаў Шульц, а затым Галіна Лісоўская.



## Мастацкія выстаўкі і фотавыстаўкі

У памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ экспанаваліся выстаўкі мастацкіх прац мастакоў прафесіяналаў Янкі Анісэровіча, Мікалая Валкавыцкага і Лявона Тарасэвіча. У рамках супрацоўніцтва з Літоўскім таварыствам у Варшаве была наладжана выстаўка ксілаграфічных прац літоўскага мастака Казіміра Швайноўскага. Наладжаны таксама цікавыя выстаўкі мастакоў-аматараў Антона Жэлезняковіча і Язэпа Сікоры — членаў Варшаўскага аддзела БГКТ.

Часта экспанаваліся атрыманыя з Мінска цікавыя фотавыстаўкі з жыцця Беларусі. Была праведзена таксама выстаўка беларускай народнай вышыўкі.

Варта прыгадаць, што самародныя мастакі: д-р фізікі Кастусь Мазурук, праваслаўны святар Кастусь Бандарук і інжынер Мікалай Данілюк па-мастацку афармілі памяшканне Варшаўскага аддзела. У нішы ля дзвярэй пільнавалі ўваход два сярэдневяковыя беларускія рыцары са зброяй. Уся вялікая паўкруглая сцяна памяшкання прадстаўляла казачнае пано — падводнае каралеўства бога вады Нептуна на троне. Наўкол яго кружыліся прыгожыя жанчыны-німфы, багіні незаняволенай прыроды. Столь у выглядзе неба, з сонцам, зорамі і хмарынкамі выглядала надта рамантычна.

Вельмі шкада было аддаваць ЗУСу памяшканне з такім мастацкім афармленнем.

## Бібліятэка і чытальня

Дзякуючы намаганням Юрыя Туронка пры Варшаўскім аддзеле БГКТ была адкрыта бібліятэка з беларускім кнігазборам мастацкай і навуковай літаратуры, а таксама чытальня беларускіх і польскіх газет і часопісаў. Кніжкі, газеты і часопісы аддзел пастаянна атрымліваў з Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з заграніцай, з Галоўнага праўлення БГКТ, былі значныя прыватныя ахвяраванні. Кнігазборам і часопісамі карысталіся члены аддзела, у першую чаргу студэнты кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Бібліятэка дасягнула дзвюх тысяч экземпляраў і налічвала звыш двухсот чытачоў. Недахопам кнігазбору было слабое яго папаўненне літаратурнымі навінкамі. Захоўваліся тут гадавікі «Полымя», «Маладосці», «Літаратуры і мастацтва», «Нівы» і інш. Бібліятэкай кіравалі Ніна Гайлевіч, а потым Віктар Швед.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

### Праца з дзяцьмі

Праўленне аддзела займалася таксама працай з наймалодшымі, дзяцьмі членаў БГКТ.

Даўжэйшы час кіравала гэтым накірункам Станіслава Колей-Гайдучэня. Арганізавала яна навагоднія ёлкі з дэкламацыямі дзяцей, конкурсы дзіцячага малюнка з узнагародамі. Галіна Лісоўская арганізавала канцэрты з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці, у якім апрача дзяцей выступала старэйшая моладзь. У Лялечным тэатры ў Варшаве арганізавалі навагоднюю ёлку з тэатральным спектаклем супольна з беларускім прамыслова-гаспадарчым прадпрыемствам «Betesca», дырэктарам якога быў актыўны дзеяч БГКТ Пятро Ластаўка. У памяшканні аддзела дэманстравалася выстаўка малюнкаў дзяцей, бацькі якіх з'яўляліся членамі БГКТ.

### Танцавальныя вечарыны і навагоднія балі

У памяшканні аддзела на Сенатарскай студэнцкая моладзь часта слухала магнітафонныя запісы, наладжвала танцавальныя вечарыны. Гэтыя вечарыны часам спалучаліся з мастацкімі часткамі (спевы, дэкламацыі вершаў).

Штогод праводзіліся навагоднія балі (паводле старога стылю) у залах гарнізоннага Клуба салдата і ў Прымасоўскім палацы. Неўзабаве гэтыя залы аказаліся замалымі для вялікай колькасці жадаючых патанцаваць. Таму прыйшлося наймаць аж дзве аграмадныя залы ў Палацы культуры і навукі, на якіх ігралі два аркестры для звыш тысячы асоб, членаў і сімпатыкаў БГКТ. Увайшло ў традыцыю, што на гэтых балях выступалі мастацкія калектывы з Беласточчыны. Апошні беларускі навагодні баль у Палацы культуры і навукі ў Варшаве адбыўся ў 1991 годзе.

### Праца аддзела на вонкі

Аддзел цесна супрацоўнічаў з ГП БГКТ. Члены лектарскай групы часта выязджалі на Беласточчыну з дакладамі, а члены літаратурнай групы «Белавежа» праводзілі на Беласточчыне аўтарскія сустрэчы.

Варшаўскі аддзел БГКТ таксама супрацоўнічаў з літоўскім, рускім, украінскім і яўрэйскім культурнымі таварыствамі. Праводзілі з імі супольныя канцэрты, вечарыны.

Дзякуючы супрацоўніцтву з Таварыствам польска-савецкай дружбы ўдавалася нам сустрэцца ў клубе амаль з усімі навукоўцамі і пісьменнікамі з Беларусі, якія прыязджалі ў Польшчу па запрашэнні ТПСД.

У выніку супрацоўніцтва з Домам савецкай культуры адбылося



шмат супольных вечароў, прысвечаных Беларусі. Члены БГКТ неаднойчы знаёміліся ў клубе Дома культуры з беларускімі кінафільмамі.

Супрацоўніцтва з праваслаўнай духоўнай семінарыяй і Акадэміяй зацікавіла працай БГКТ многіх семінарыстаў і студэнтаў, якія прычыніліся да ўдзелу ў мастацкіх калектывах аддзела.

### Перашкоды ў далейшай працы

У палове васьмідзесятых гадоў варшаўскія ўлады пазбавілі аддзел памяшкання на вул. Сенатарскай, 8. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося атрымаць новае памяшканне на вул. Старасцінскай, 1б.

У дзевяностыя гады наступілі структурныя перамены ў Польшчы. Беларускае таварыства перайшло пад юрысдыкцыю Міністэрства культуры і мастацтва, не атрымала яно грошай на штаты і аплату за карыстанне памяшканнямі.

4 студзеня 1993 года ўласнік памяшкання БГКТ у Варшаве — Прадпрыемства абслугі замежнікаў «Dipservice» нахабна выкінула аддзел БГКТ на вуліцу за незаплачаную арэнду за памяшканне. Варшаўскі аддзел застаўся без кутка.

Зараз толькі часам праводзяцца яшчэ сустрэчы з цікавымі людзьмі ў зале гасціннага Дома рускай культуры ў Варшаве.

*Кастусь Масальскі*

## Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ў 1958—1975 гг.

Для апрацоўкі інфармацыі аб дзейнасці гарадскога аддзела ў Беластоку мы выкарысталі архіўныя матэрыялы, якія знаходзяцца ў Галоўным праўленні БГКТ. Карысталіся справаздачамі, пісьмовай інфармацыяй і пратаколамі пленарных пасяджэнняў праўлення аддзела.

**1958 г.**

Гарадскі аддзел Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку ўзнік 30 чэрвеня 1958 года. Яго задачай было вядзенне культурна-асветнай дзейнасці сярод беларусаў, пражываючых у Беластоку (да тае пары дзейнічаў гурток БГКТ). Старшынёю гарадскога аддзела быў выбраны Сакрат Яновіч, кіраваў ён праўленнем у дзевяць асоб з 30.06.1958 г. па 1.07.1959 г. Сябры праўлення праяўлялі шмат ініцыятывы, у выніку чаго стаў ён адным з перадавых аддзелаў БГКТ. Працавалі на аснове плана дзейнасці, апрацаванага ў жніўні 1958 г. Пры аддзеле былі: гітарны ансамбль, эстрадная група і курсы ігры на музычных інструментах;



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

праводзіліся літаратурныя вечарыны і танцы, кінасеансы савецкага фільма ў рускамоўнай версіі. Хутка ўзнік навуковы гурток, які яднаў яшчэ маладую навуковую інтэлігенцыю. Была заснавана бібліятэка, якая налічвала ў той час каля 200 экземпляраў кніг і ў якую паступалі з Мінска беларускія новыя кніжкі, часопісы і газеты. Сакратаром аддзела быў Канстанцін Хлябіч, а старшынёй рэвізійнай камісіі — Уладзімір Навіцкі. Найвялікшай перашкодай у працы быў недахоп памяшкання.

**1959 г.**

1 ліпеня 1959 г. праводзілася I гарадская справаздачна-выбарная канферэнцыя аддзела. Прысутнічалі на ёй 93 асобы. У час дыскусіі абмяркоўваліся справы бібліятэкі, асветна-культурнай працы, лекцый, кінасеансаў, прыцягнення моладзі да дзейнасці, заснавання аматарскіх ансамбляў, арганізацыі тэатральнага калектыву, максімальнага выкарыстання памяшкання, распаўсюджвання і зместу штотыднёвіка «Ніва», членскіх узносаў і актывізацыі беларускага насельніцтва, каб не саромелася яно свайго паходжання.

У склад новага праўлення ўвайшлі:

Язэп Маркоўскі — старшыня, Лявон Другавец — намеснік старшыні, Фёдар Садоўскі — намеснік старшыні, Канстанцін Хлябіч — сакратар і члены: Уладзімір Навіцкі, Рыгор Скарынкевіч, Ян Рубчэўскі, Люба Яроцкая, Мар'я Сакоўская, Сяргей Плева, Міхась Насовіч.

У рэвізійную камісію былі выбраны: Юзаф Урублеўскі, Міхась Лушч, Вольга Іванюк.

На III з'езд з гарадскога аддзела было выбрана 29 асоб.

**1960 г.**

З дакументаў гэтага года вынікае, што праўленне аддзела БГКТ правяло 11 сходаў, на якіх абмяркоўваліся справы формаў працы аддзела, планаў працы, справаздач аб выкананых заданнях, добраўпарадкавання бібліятэкі, кінасеансаў і арганізацыйныя праблемы.

Апрача таго, было праведзена 5 пасяджэнняў камісій, створаных у час 2-ой справаздачнай канферэнцыі ад 12 мая 1960 г.: культурнай, мерапрыемстваў, арганізацыйнай і асветнай. У справаздачным годзе былі арганізаваны: 10 разнатэмных выставак, 11 разнатэмных лекцый, 10 вечароў танца, 7 экскурсій на раку і ў лес, курсы ігры на музычных інструментах, праблемныя курсы навучання беларускай мове, 2 аўтарскія сустрэчы. Апрача таго, дэманстраваліся 22 савецкія фільмы для членаў БГКТ і была ўпарадкавана бібліятэка, якая налічвала ўжо 3000 кніг, у большасці на беларускай мове.

3 ліпеня выступіў тэатральны калектыў БГКТ у беластоцкім тэатры; на спектакль прададзена 150 білетаў.



**1961 г.**

У 1961 г. праўленне аддзела правяло 5 пленарных пасяджэнняў, на якіх абмяркоўваліся здзейсненыя планы і задачы для рэалізацыі. Зместам планаў былі: 1) далейшае дэманстраванне савецкіх кінафільмаў і распаўсюджванне абанементаў на сеансы, 2) арганізацыя лекцый на розныя тэмы і вечарын для моладзі, 3) урачыстае адзначэнне дзяржаўных свят, арганізацыя ўрачыстых вечарніц, 4) аўтарскія сустрэчы з вядомымі людзьмі Беласточчыны, 5) папулярызацыя беларускага штотыднёвіка «Ніва», 6) арганізацыя выставак і фотавыставак на розныя тэмы, 7) арганізацыя экскурсій па Беласточчыне і ў БССР, 8) арганізацыйныя справы.

Вось кароткі пералік намераў, рэалізаваных у ліпені, месяцы канікул, «мёртвым» у дзейнасці: эстрадныя выступленні «Лявоніхі» — два разы ў памяшканні пошты і адзін раз — у Настаўніцкай студыі, экскурсія для настаўнікаў у г. Кэнтшын, прыём мастацкага ансамбля з Гродна і арганізацыя развітальнага вечара для прафесараў з Мінска, сустрэча з настаўнікамі, продаж «Нівы» ў кіёску аддзела.

6 верасня 1961 г. быў выбраны старшынёй аддзела былы намеснік старшыні аддзела Лявон Другавец, які выконваў свае абавязкі да 18 лістапада 1964 г.

**1962 г.**

Праўленне аддзела правяло наступныя культурныя заданні:

1) Праведзены 9 пленарных пасяджэнняў праўлення аддзела і прэзідыума, на якіх абмеркаваны планы працы і іх рэалізацыя, прыём членаў, арганізацыйныя пытанні.

2) Арганізаваны 7 сустрэч з актывам БГКТ, 3 сустрэчы з моладдзю ў Беластоку, 6 лекцый на розныя тэмы.

3) Прадэманстраваны 6 савецкіх кінафільмаў у Доме культуры на Новым Месце, а ў сядзібе БГКТ (ТППР) — 22 фільмы, і ў «Фастах» — 1 фільм.

4) Арганізаваны для дзяцей экскурсія ў Супрасль і 16 культурна-танцавальных вечарын для моладзі, а актывісты выязджалі 4 разы ў мясцовыя гурткі.

5) Праведзены лекцыі на важныя тэмы ў сядзібе Таварыства — 16, у ТППР — 10, у «Фастах» — 1.

6) Сустрэчы моладзі Таварыства з моладдзю з тэкстыльнага завода «Фасты» — 3.

7) Шэсць разоў у Беластоку выступіў эстрадны калектыў «Лявоніха».

8) Арганізацыя фотавыставак з матэрыялаў, атрыманых з БССР: у сядзібе Таварыства — 28, у «Фастах» — 6, у «Пасмантэрыі» — 4, на фабрыцы «Сяржана» — 3, фабрыцы «Ухвыты» — 1.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

9) Праводзіліся сустрэчы — аўтарскія вечарыны з беластоцкімі пісьменнікамі, якія пішуць па-беларуску.

10) Праведзены 4 конкурсы: беларускай вышыўкі, чытальніцкі, шахматны турнір, беларускай песні.

11) У Дні кнігі і друку арганізаваны 5 выставак кніг у сядзібе БГКТ, «Фастах», «Сяржане», Доме культуры на Новым Месце і Клубе міжнароднай кнігі і друку.

12) Мастацкі калектыў аддзела выступіў у Доме прафсаюзаў і ў вёсцы Чорнай, а актыў БГКТ выязджаў у рамках супрацоўніцтва ў Бані-Мазурскія і прымаў у сябе актыў з Баняў-Мазурскіх.

13) Праведзены дзве сустрэчы актыву з настаўнікамі, арганізаваны 4 урачыстыя вечарыны, 11 адпачынкавых экскурсій для актыву.

14) Курсы ігры на акардэоне ў дзвюх групах, разам для 50 асоб, і ігры на гітары — для 25 асоб.

15) Арганізаваны кіёск продажу «Нівы». У 1962 г. прадалі ў ім 1230 экземпляраў гэтага штотыднёвіка.

16) Арганізавана навагодняя ёлка для дзяцей членаў і сяброў, прадэманстраваны ў розны час 9 фільмаў для дзяцей.

Добра ладзілася супрацоўніцтва з аддзелам культуры гарадской рады ў Беластоку, Саюзам сацыялістычнай моладзі, гарадской бібліятэкай і іншымі ўстановамі.

30 жніўня 1962 г. пленум вырашыў адклікаць са складу праўлення Яна Рубчэўскага і Любу Яроцкую, а на іх месца прызначыць Аляксандра Каліноўскага і Васіля Баршчэўскага.

**1963 г.**

Праўленне аддзела правяло пленарныя пасяджэнні ў сакавіку, маі, кастрычніку і снежні. На іх абмяркоўваліся планы працы ў клубе і ў горадзе, такія як наладжванне супрацоўніцтва з заводамі: «Фастамі», «Сяржанай», «Пасмантай» і Домам культуры на Новым Месце, далейшае супрацоўніцтва з Гарадской радай, Таварыствам польска-савецкай дружбы (ТППР), аддзелам культуры гарадской рады, Саюзам сацыялістычнай моладзі (ЗМС) і Украінскім грамадска-культурным таварыствам (УТСК), арганізацыя вечарын, распаўсюджвання беларускага штотыднёвіка «Ніва», навагодняй ёлкі для дзяцей членаў і сяброў Таварыства.

23 мая 1963 г. на пленарным сходзе, у якім прымала ўдзел 11 асоб з Праўлення аддзела і члены гарадскога гуртка БГКТ, былі абмеркаваны арганізацыйныя справы і правядзенне справаздачна-выбарчай канферэнцыі аддзела. 6 верасня 1963 г. на канферэнцыі выбрана новае праўленне ў наступным складзе: Лявон Другавец — старшыня, Уладзімір Куршаль — намеснік старшыні, Канстанцін Хлябіч — сакратар і члены: Язэп Маркоўскі, Васіль Баршчэўскі, Уладзімір Навіцкі, Рыгор Скарынкевіч, Люба Кулыгіна, Вера Кавальчук, Вера Сабясюк, Яўген Матвеюк, Васіль Дамброўскі, Лявон Харкевіч, Міхал Лушч, Яўгіння Гермала, Валянціна Сянкевіч, Юзаф Шаблеўскі і Рэвізійная камісія на чале са старшынёй Фёдарам Садоўскім.



На IV з'езд БГКТ былі выбраны 26 дэлегатаў.

18 снежня 1963 г. праводзілася справаздачная канферэнцыя аддзела, на якой былі падведзены вынікі працы і прапанаваны кірункі далейшай дзейнасці на наступны год.

Бібліятэка налічвала ў той час 2152 экземпляры кніжак і мела 320 чытачоў. Наведванне бібліятэкі і святліцы ў сярэднім лічылася па 30—50 чалавек штодзень.

Дасягненнем аддзела былі арганізацыя дэманстрацыі фільма «Бой на Волзе» на заводзе «Фасты», выезд актыву ў гурткі ў Войшках і Малінніках, 4 урачыстыя вечарыны: у Дзень жанчын, першамайская, 22 Ліпеня і Кастрычніцкай рэвалюцыі, 18 танцавальных вечарын, продаж штотыднёвіка «Ніва», выданняў БГКТ і 130 календароў на 1964 г., 25 фотавыставак і выстаўкі твораў мастака-самадзейніка Г. Бібілы, дэманстрацыі 22 савецкіх фільмаў, экскурсіі для актыву на Копную гару; курсаў ігры на акардэоне ў дзвюх групах (40 асоб) і ігры на гітары (6 асоб), сустрэч з афіцэрамі ПВ на тэму «20 гадоў Народнага Польскага Войска», з афіцэрамі Савецкай Арміі і з дырэктарам Інстытута гісторыі АН БССР праф. Нінай Каменскай, сустрэчы моладзі з салдатамі Савецкай Арміі, аўтарскіх сустрэч, 6 лекцый на актуальныя тэмы, шахматнага і фатаграфічнага конкурсаў, а на сядзібе ТППР выступлення эстраднага ансамбля «Лявоніха». Апрача таго, «Лявоніха» дала канцэрт на сядзібе БГКТ.

За выпаўненнем планаў працы сачыў прэзідыум праўлення, які збіраўся 6 разоў, абмяркоўваючы спосабы і магчымасці арганізацыі мерапрыемстваў, а таксама бягучыя справы.

**1964 г.**

Праўленне аддзела правяло ў 1964 г. 4 пленарныя сходы, Прэзідыум Праўлення збіраўся 4 разы. Абмяркоўваліся планы культурна-асветнай дзейнасці, арганізацыі паасобных мерапрыемстваў і арганізацыйныя справы. Пералік мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў II і III квартале 1964 года: абслугоўванне актывам аддзела гуртка БГКТ у Дубічах-Асочных, продаж 250 календароў і беларускіх кніжак, правядзенне гутарак перад дэманстрацыяй фільмаў, лекцыі на тэмы: «100-ая гадавіна з дня нараджэння Ф. Багушэвіча», «93-яя гадавіна з дня нараджэння У.І. Леніна», «Гісторыя беларускага друку». Працягваліся курсы навучання ігры на акардэоне, у шахматы і брыдж, быў праведзены танцавальны вечар, звязаны з віктарынай («Згадуй-згадуляй») на тэму беларускай культуры і БГКТ, спатканне з дзеячамі беларускага школьніцтва: П. Кізевічам і В. Літвінчыкам, літаратурны вечар з



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

пісьменнікам з БССР і дзве іншыя аўтарскія сустрэчы, арганізаванне куточка творчасці Зм. Бядулі, сустрэча з вядомымі дзеячамі Беласточчыны, дэманстрацыя 23 савецкіх фільмаў, арганізаванне 9 фотавыставак з матэрыялаў, прысланых з Мінска, і 2 вечарын, выстаўка беларускіх кніг, часопісаў і газет.

18 лістапада 1964 г. адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя, на якой старшынёй аддзела выбраны Уладзімір Куршаль, Язэп Маркоўскі — намеснікам старшыні, Канстанцін Хлябіч — сакратаром (члены: Уладзімір Навіцкі, Рыгор Скарынкевіч, Лявон Другавец, Васіль Баршчэўскі, Лявон Хількевіч, Люба Кулыгіна, Яўгення Гермала, Валянціна Тымяшук, Юзаф Врублеўскі, Яўген Іванюк і Васіль Дамброўскі.

З момантам адыходу з праўлення Я. Іванюка і В. Дамброўскага ў склад праўлення ўвайшлі Канстанцін Масальскі і Сакрат Яновіч.

**1965 г.**

Гэта быў год эфектыўнай дзейнасці аддзела. Дамінаваў у працы культурна-асветніцкі напрамак. Праведзены 50 гутарак на розныя тэмы, перш за ўсё перад дэманстрацыяй савецкіх фільмаў. Тэмы гутарак: «Творчасць беларускіх пісьменнікаў», «Супрацоўніцтва з БССР», «Палітычныя і эканамічныя падзеі» і інш., напрыклад, звязаныя з узнікненнем польскай дзяржавы (якраз святкавалася яе тысячагоддзе). Прадэманстраваны 40 фільмаў у арыгінальнай версіі (пазычаных у ТППР і групы сувязі Савецкай Арміі). Былі арганізаваны фотавыстаўкі на культурныя і гаспадарчыя тэмы з матэрыялаў, прысланых з БССР. Працягваліся курсы навучання ігры на акардэоне для дзяцей (47 асоб) і балетнай групы (18 асоб). Дзеці паглядзелі 5 фільмаў-казак, якія карысталіся вялікім поспехам у малых гледачоў. Гадавіны былі адзначаны вечарынамі, завершанымі мастацкай часткай, падрыхтаванай дзяцьмі, моладдзю і эстрадным калектывам «Лявоніха». Гэтыя вечарыны былі арганізаваны з нагоды святкавання Дня жанчын, Першага мая, Свята адраджэння Польшчы, 48-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Урачыста адзначаліся: саракагоддзе «Грамады», Месяц польска-савецкай дружбы і Дні беларускай культуры. Лекцыі ў сваім змесце мелі шмат інфармацыі пра Беларусь і БГКТ. Арганізаваны былі таксама літаратурныя сустрэчы з беластоцкімі пісьменнікамі, якія пішуць па-беларуску.

Для моладзі былі арганізаваны 15 танцавальных вечароў. Такія сустрэчы сталі вельмі папулярнымі сярод беларускай моладзі Беластока. Арганізаваліся і дэкламатарскія, і шахматныя, і песенныя конкурсы. У ліпені была арганізавана экскурсія па слядах партызанскай брыгады імя К. Каліноўскага. Расказваў пра яе дзейнасць і ўспамінаў падзеі мінулай вайны начальнік штаба атрада імя К. Каліноўскага Дзмітрый Карповіч.



Праўленне распаўсюдзіла 1000 экземпляраў беларускіх календароў, 93 экземпляры «Навуковага зборніка» і шмат іншых выданняў БГКТ. Прадавалася штотыднёва 20 экземпляраў «Нівы». Бібліятэка аддзела налічвала ўжо каля 4250 тамоў. Праблемай заставалася справа рэгулярнай платы сябрамі БГКТ членскіх узносаў. Праўленне аддзела разам з прэзідыумам правялі 15 сходаў, на якіх абмяркоўваліся формы культурна-асветнай працы, дасягненні і недахопы ў дзейнасці.

11 снежня 1965 г. праходзіла чарговая справаздачна-выбарная канферэнцыя. Падвяла яна вынікі дзейнасці і запрапанавала напрамкі працы на будучыню. Канферэнцыя выбрала новае праўленне аддзела ў наступным складзе: Канстанцін Масальскі — старшыня, Уладзімір Куршаль — намеснік старшыні, Вера Валкавыцкая — сакратар, члены: Пётр Стасевіч, Люба Кулыгіна (скарбнік) і Ян Дамброўскі. Згаданыя асобы стваралі прэзідыум праўлення. Апрача іх у праўленне ўвайшлі: Язэп Маркоўскі, Рыгор Літвінчук, Васіль Баршчэўскі, Ян Пракапюк, Рыгор Скарынкевіч, Пятро Хомчык, Сцяпан Сельванчук, Кіра Радзіцкая, Зоя Ясінская, Яўгення Гермала, Мікалай Курцэвіч, Яўген Ражкевіч, Канстанцін Каспэрук і Аляксандр Каліноўскі. У рэвізійную камісію ўвайшлі: Фёдар Садоўскі — старшыня, члены — Анна Амбражэй і Уладзімір Навіцкі.

**1966 г.**

Гарадскі аддзел, згодна са статутам БГКТ, у 1966 годзе правёў верыфікацыю членаў, якія не аплачвалі членскіх узносаў больш за 2 гады. У БГКТ уступілі 202 асобы. У час кадэнцыі з розных прычын выйшлі з аддзела: Пётр Стасевіч, Люба Кулыгіна, Ян Дамброўскі і Аляксандр Каліноўскі, а на іх месца прыйшлі: Мікалай Яроцкі, Віктар Лаўрашук, Ян Стрышко і Яўгіння Младнеўская. У праўленне ўваходзілі актывісты — людзі, працуючыя ў розных прадпрыемствах, якія свой свабодны час аддавалі працы для Таварыства, яно было іх сэрцам. Дзякуючы гэтаму у аддзеле былі такія дасягненні. Аддзел дзейнічаў у складаных умовах — толькі ў гарадскім асяроддзі існаваў адзін гурток, які прымаў членаў з усяго горада.

У справаздачным перыядзе былі праведзены 4 пленарныя сходы і 8 пасяджэнняў прэзідыума аддзела. Праўленне працавала на аснове квартальных або паўгадавых планаў працы. Члены праўлення, па меры свабоднага часу і сваіх арганізатарскіх здольнасцяў, уключаліся ў грамадскую працу ў БГКТ.

Гарадскі аддзел арганізаваў наступныя мерапрыемствы: навагодні баль для 160 асоб, 8 студзеня 1966 г. коштам 4771 зл., навагоднюю ёлку для 105 дзяцей нашых членаў, урачыстае святкаванне ў Дзень Савецкай Арміі, Дзень жанчын, Першамай,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Дзень Перамогі над фашызмам, Свята адраджэння Польшчы, гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Кожная вечарына складалася з афіцыйнай і мастацкай частак. У мастацкай выступалі: група акардэаністаў — удзельнікаў музыкальных курсаў БГКТ у Беластоку, мастацкая група Расійскага культурнага таварыства ў Беластоку, балетная група і хор гарадскога аддзела БГКТ, эстрада Галоўнага праўлення, аматары-спевакі, а таксама былі прадэманстраваны кінафільмы. Гарадскі аддзел працягваў раней наладжанае супрацоўніцтва з Расійскім таварыствам і разам з ім рыхтаваў мастацкія часткі да гадавін.

Дзецям у I квартале 1966 г. былі паказаны 3 фільмы-казкі. Дзейнічала балетная група, арганізаваная яшчэ ў 1965 г. Дала яна некалькі выступленняў, якія вельмі спадабаліся гледачам. Далей вяліся курсы ігры на акардэоне для дзяцей і членаў Таварыства. У курсах удзельнічала 47 дзяцей. Курсанты далі 5 канцэртаў. Пад восень 1966 быў арганізаваны беларускі хор, да якога далучылася шмат членаў таварыства. У хоры спявала 50 асоб. Быў ён добрым прапагандыстам беларускага фальклору ў «Ухвытах» і ў зале Галоўнага праўлення БГКТ. Хор быў у той час шырокавядомым, высока цанілі яго людзі, для якіх блізкай была беларуская песня. Пасля многіх захадаў і стараннеяў была ўведзена на столікі клуба кава, якую вельмі любіць моладзь, асабліва ў дні маладзёжных вечарынак.

У сакавіку 1966 г. ГП купіла для гарадскога аддзела більярд, які аблюбавала моладзь. Уведзены былі рэгулярныя аўтарскія сустрэчы і лекцыі, на якія прыходзіла ўсё больш зацікаўленых (100—150 асоб). Сустрэчы такія праводзіліся ў кожную апошнюю нядзелю месяца, напрыклад у верасні — успаміны ўдзельніка «вераснёўскай кампаніі» 1939 года, у кастрычніку і ў лістападзе — літаратурныя сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі А. Барскім і В. Шведам, у снежні — сустрэча з галоўным рэдактарам тыднёвіка «Ніва» Г. Валкавыцкім. Удзельнікам сустрэч дэманстраваліся кінафільмы. Арганізаваны былі сустрэчы актыву з прадстаўнікамі Савецкай Арміі і ветэранамі Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Бібліятэка аддзела складалася з 4610 кніжак на беларускай, рускай і польскай мовах.

Вельмі папулярнымі сярод моладзі былі танцавальныя вечарыны пад грамафон, арганізоўваемыя раз у месяц. На такія сустрэчы прыходзіла моладзь розных нацыянальнасцей, але з гэтай прычыны не было ніякіх недаразуменняў. Сведчыла гэта пра высокі культурны ўзровень моладзі, якая сустракалася ў клубе БГКТ.

Савецкія фільмы ў студзені, лютым і сакавіку для членаў аддзела дэманстраваліся бясплатна. Ад красавіка да чэрвеня і ў



кастрычніку ды лістападзе фільмы былі дэманстраваны за абанементамі па 10 зл. (адзін фільм у тыдзень). У маі з нагоды Дзён кнігі і друку сярод членаў таварыства былі распаўсюджаны беларускія выданні ГП на суму 693 зл.

Апрача дасягненняў аддзел турбавалі праблемы, якіх не ўдавалася адолець, менавіта такія:

— гарадскі аддзел не змог дабіцца таго, каб арганізацыя стала масавай на тэрыторыі горада, паколькі колькасць членаў БГКТ у адносінах да колькасці беларусаў у Беластоку была вельмі малая;

— рэгулярна не аплачваліся членскія ўзносы. На 730 членаў аплачвалі іх толькі 503 асобы, якія штодзённа прыходзілі ў клуб пайграць у кампаніі, паглядзець па тэлебачанні праграму з Варшавы ці Гродна, пачытаць прэсу, пазычыць кнігі, паглядзець фільм, патанцаваць і г.д.;

— адмоўна на працы аддзела адбіўся недахоп культурна-асветнага інструктара. Аддзел меў толькі паўштата;

— пад канец года ўзніклі праблемы, якіх не змаглі ў ГА вырашыць — спынена дэманстрацыя савецкіх фільмаў, а балетную групу распусціў яе кіраўнік. На V з'ездзе БГКТ (1966.02.26) у Галоўнае праўленне ўвайшлі наступныя прадстаўнікі аддзела: Васіль Баршчэўскі, Вінцук Склубоўскі — старшыня ГП, Георгій Валкавыцкі, Міхал Хмялеўскі, Канстанцін Масальскі, Сымон Шыманюк, Кіра Радзіцкая, Уладзімір Юзвюк — сакратар ГП.

**1967 г.**

Як і ў мінулыя гады, Праўленне ГА БГКТ працягвала арганізоўваць «праверанья» мерапрыемствы і запрапанавала новыя. На працягу года адбыліся 4 пленарныя пасяджэнні, на якіх абмяркоўваліся спосабы рэалізацыі культурных мерапрыемстваў. Працягвалі дзейнасць музычныя курсы і хор пад кіраўніцтвам Міхала Ануфрыева. Гэты хор выступіў у таварыстве польска-савецкай дружбы і ў сядзібе БГКТ на свяце ў гонар Савецкай Арміі ў лютым 1967 года. Удзельнічаў ён таксама ў аглядзе савецкай песні, займаючы 6-ае месца. Эстрада ГП БГКТ «Лявоніха» дала канцэрты ў Прафсаюзах і ў сядзібе БГКТ.

Было прадэманстравана 28 фільмаў у расійскай версіі. Арганізаваны былі 8 аўтарскіх сустрэч: з беларускай паэтэсай Ларысай Геніюш, з Галенай Будзюк, якая расказвала пра сваю дзейнасць у Таварыстве беларускай школы на Беласточчыне, сустрэча з нагоды 85-годдзя беларускіх пісьменнікаў Якуба Коласа і Янкі Купалы, сустрэча, прысвечаная жыццю і творчасці беларускага пісьменніка Цішкі Гартнага, аўтарская сустрэча з беларускім пісьменнікам Аляксандрам Баршчэўскім, сустрэчы, прысвечаныя 450-годдзю першага беларускага друку, дзейнасці і заслугам Францішка Скарыны (вяла Вера Валкавыцкая), сітуацыі на Блізкім Усходзе пасля агрэсіі Ізраіля на арабскія краіны ў 1967



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Навагодняя ёлка Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. 1967 г. Фотаархіў БГКТ.

годзе, гадавіне Дагавора Польшча—СССР. Лектарам быў магістр Рышард Смалінскі. Былі адзначаны ўрачыстымі вечарынамі-«акадэміямі» наступныя гадавіны: 75-ая гадавіна ўзнікнення Грамады (БСРГ), Дзень Перамогі, 1 Мая і іншыя.

Былі праведзены: конкурс беларускай песні, фестын і вечар са «Згадуй-Згадуляй». Моладзь забаўлялася на 11 папулярных танцавальных вечарынках.

Апрача стандартных штомесячных фотавыставак была арганізавана фотавыстаўка ў гонар Я. Коласа і Я. Купалы. На адной з сустрэч сваімі ўспамінамі з часу партызанскай дзейнасці на Беласточчыне падзяліўся начальнік штаба атрада імя К. Каліноўскага Дз. Карповіч. У рамках мітынгу дружбы была арганізавана экскурсія аўтобусам БГКТ у Ялоўку.

Аддзел распаўсюджваў выданні ГП БГКТ: беларускіх календароў (на 1967 год прадалі 72, а на 1968—98 экземпляраў).

Працягвалася сціплае супрацоўніцтва з арганізацыямі і ўстановамі ў горадзе. Пазычаны былі фільмы і рэкламныя здымкі з фільмаў у Гуту шкла, Заразны шпіталь, Ваяводскую пажарную каманду, Малочны і Механічны тэхнікумы, Галоўную тэхнічную арганізацыю, Таварыства польска-савецкай дружбы і расійскае таварыства.



**1968 г.**

Гарадскі аддзел, як і ў мінулыя гады, працаваў паводле планаў, якія спачатку абмяркоўваліся, а затым былі зацверджаны на сходах Праўлення. Дзейнасць характарызавалася багаццем зместу і разнавіднасцю форм, а галоўнымі яе напрамкамі былі: клубная праца ў сядзібе ГП БГКТ, культурна-асветніцкая праца над азнаямленнем з беларускай культурай, а таксама грамадска-палітычная праца, якая ахоплівала важныя актуальныя справы з жыцця краіны і істотныя праблемы сучаснага свету, супрацоўніцтва з арганізацыямі і ўстановамі ў горадзе.

Праца клуба — гэта спецыфічная дзейнасць. Усімі сродкамі праводзіў ён папулярызацыю беларускага фальклору, беларускай культуры і дасягненняў БССР у кожнай галіне на працягу 50 гадоў. Клуб быў вельмі папулярны ў асяроддзі. Аб гэтым сведчыць наведванне яго мерапрыемстваў жыхарамі. У клубе быў тэлевізар, які прыцягваў шмат гледачоў, польскія і беларускія газеты і часопісы. Наведвальнікаў чакалі шахматы, шашкі, грампласцінкі, касеты з беларускімі, польскімі і рускімі песнямі. Любіцелі займаліся більярдам. Клуб вёў забаўляльна-выхаваўчую працу. Апрача святліцы ў клубе была яшчэ глядзельная зала на 200 месц, у якой дэманстраваліся фільмы і выступалі мастацкія калектывы. У кожную сераду і суботу, апрача ліпеня і жніўня, у глядзельнай зале праводзіліся курсы ігры на акардэоне, якія ў школьным 1967/68 годзе закончылі 43 чалавекі (дзеці). У 1968 г. на гэтых курсах займалася 37 дзяцей.

У другой палове 1968 г. пачаў дзейнічаць аматарскі эстрадны ансамбль «Самасейкі». Пачаткова праца раскручвалася дынамічна. Дзякуючы арганізатарскім талентам кіраўніка і энтузіязму членаў ансамбля атрымалася нядрэнная праграма. Ансамбль выступаў на вечарынах у клубе, у «Фастах» і ў вёсцы Рыбакі. Праўленне аддзела высока ацаніла гурт і вызначыла сродкі на танцавальныя касцюмы для членаў.

Немалы ўдзел у культурным жыцці аддзела мела эстрада ГП «Лявоніха», якая выдатнымі выступленнямі ўпрыгожвала мерапрыемствы і ўрачыстасці, арганізаваныя праўленнем гарадскога аддзела.

У глядзельнай зале ў кожную нядзелю дэманстраваліся савецкія фільмы. Было гэта адзінае месца ў Беластоку, дзе можна было паглядзець фільм у арыгінальнай версіі. У першай палове 1968 г. было паказана 20 фільмаў, якія паглядзелі 874 асобы, а ад 1 верасня да Новага года 16 фільмаў мела 1990 гледачоў. Перад паказамі фільмаў арганізоўваліся гутаркі, напр. сакратар ГП БГКТ У. Юзвюк расказваў пра заснаванне і дзейнасць Таварыства, знаёміў з планамі БГКТ на восеньска-зімовы перыяд і прадставіў



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

некалькі фактаў з 900-гадовай гісторыі Мінска. Старшыня праўлення ГА зрабіў даклад «25 гадоў Народнага Войска Польскага». Галоўны рэдактар беларускага штотыднёвіка «Ніва» Г. Валкавыцкі інфармаваў слухачоў пра рэдактарскую працу, распаўсюджванне і папулярнасць штотыднёвіка. Паэт А. Барскі распавядаў пра творчасць Сяргея Ясеніна і найважнейшыя напрамкі ў сучаснай рускай літаратуры.

Асноўнай была беларуская тэматыка і грамадска-палітычныя праблемы краіны. Прысутнасць публікі на гэтых лекцыях — 50—200 асоб. У згаданым годзе ў сядзібе ГП прайшлі наступныя лекцыі: «Кастусь Каліноўскі ў беларускай літаратуры» (апрацаваў рэд. Г. Валкавыцкі), «Беларуская жанчына ў літаратуры» (апрацаваў В. Швед), «Сустрэча з ветэранамі рабочага руху» (першамайскія ўспаміны), «Вечарына ў гонар 50-годдзя БССР», адбылася сустрэча актыву праўлення ГА з прадстаўнікамі Савецкай Арміі, сустрэча з былымі дзеячамі БГКТ у Беластоку.

Па ініцыятыве праўлення ГА пры канцы 1968 г. былі арганізаваны праблемныя курсы, выклікаючыя зацікаўленне з боку членаў, якія хацелі паглыбляць свае веды. Курсы пачаў У. Юзвюк дакладам «Занядбанасць і добраўпарадкаванне паўднёва-ўсходняй Беласточчыны». Уладзімір Паўлючук заняўся тэмай «Рэлігійныя секты праваслаўных асяроддзяў на Беласточчыне», В. Склубоўскі — «Выбраныя пытанні з гісторыі старажытных рэлігій».

Ладзіліся тэматычныя выстаўкі, якія прадстаўлялі адну з форм дзейнасці. Паказаны былі гадавіны і падзеі на Беласточчыне, у краіне і ў БССР на працягу 50 гадоў яе існавання. Укладам у перадз'ездаўскую дыскусію была выстаўка плакатаў і інфармацыйных дошак аб дасягненнях народа ў будаванні Польшчы. «Ніва», пастаянна размешчаная ў вітрыне, таксама знаёміла сваіх чытачоў з падобнымі матэрыяламі.

Пастаянным элементам дзейнасці былі ўрачыстыя вечарыны, і сярод іх — у гонар К. Каліноўскага. Узнёслы характар мела урачыстасць у гонар Савецкай Арміі. Пасля яе адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Савецкай Арміі. Згодна з традыцыяй, праведзена была вечарына з нагоды Дня жанчын 8 сакавіка ды першамайская (на якой з дакладам выступіў К. Масальскі). Спецыяльна была арганізавана канферэнцыя 24 лістапада 1968 г., прысвечаная III з'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Даклад на тэму «Пастановы V з'езда Партыі» прадставіў У. Юзвюк, а задачы ГА БГКТ у святле «Пастаноў» сфармуляваў В. Баршчэўскі.

Была арганізавана таксама ўрачыстая вечарына, прысвечаная 50-ай гадавіне ўзнікнення Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

У студзені 1968 г. для дзяцей працаўнікоў і актыву наладжана



была навагодняя ёлка, для моладзі прапанаваліся танцавальныя вечарынкі, для старэйшых — танцы і навагодні баль.

У 1968 г. у БГКТ уступіла 75 асоб. Праўленне аддзела на пабудову беларускага музея ў Белавежы перадало 7000 зл., а члены Праўлення індывідуальна — 499 зл. За продаж выданняў ГП БГКТ у Беластоку атрымалі 2936 зл. Прыбытак з дзейнасці кавярні прынёс 4116 злотых. Не забыліся таксама пра дзесятую гадавіну ўзнікнення гарадскога аддзела ў Беластоку. Была праведзена канферэнцыя, успаміналіся гісторыя і дасягненні аддзела. Зачытаны быў верш, прысланы першым старшынёй ГА Сакратам Яновічам.

**1969 г.**

Паводле даных ад 31 снежня 1969 г., у праўленні гарадскога аддзела было 27 членаў, у рэвізійнай камісіі — 3 чалавекі, у прэзідыуме ПГА — 9 чалавек. У тым годзе праведзена было 12 сходаў Прэзідыума і 8 пленарных пасяджэнняў.

У згаданы час адбыліся наступныя канферэнцыі: справаздачна-выбарная — 2 сакавіка і справаздачная — 11 снежня 1969 г.

У першай палове 1969 г. нерэгулярна працавалі праблемныя курсы па пытаннях гісторыі Беларусі і саюза «Польшча—СССР». Дзякуючы дапамозе аддзела культуры гарадской рады ў Беластоку ўдалося вырашыць фінансавую праблему, звязаную са згаданым мерапрыемствам. З дакладамі на тэму літаратуры і гісторыі выступалі А. Барскі, М. Гайдук і іншыя.

Праходзіў рэгулярны паказ савецкіх фільмаў у арыгінальнай версіі. Перад сеансамі праводзіліся гутаркі па 15—20 хвілін на актуальныя тэмы. Апрача таго, былі арганізаваны гутаркі на беларускія тэмы, аўтарскія сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, пражываючымі ў Польшчы: А. Барскім, В. Шведам, Я. Чыквіным і С. Яновічам.

Увесь год працягвалася навучанне ігры на акардэоне для дзяцей членаў і сяброў БГКТ. Навучанне закончыла 43 дзіцяці. Было наладжана заканчэнне школьнага 1968/69 года, на якое запрасілі бацькоў. Актыў ПГА ўключыўся ў арганізаванне курсаў ігры на акардэоне ў наступным школьным годзе.

Госцем аддзела быў шафёр У.І. Леніна З. Жалязоўскі. У маі праведзена была сустрэча з кандыдатамі ў радных гарадской рады ў Беластоку. Кожная сустрэча была багатая на дыскусіі. Не забывалі ў ГА таксама пра ўрачыстыя вечарыны з нагоды: дня Савецкай Арміі, Міжнароднага дня жанчын, Першамая, свята Адраджэння Польшчы, 52-ой гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пасля кожнай з іх дэманстраваўся фільм, а завяршалася вечарына танцамі. У сядзібе гарадскога клуба БГКТ наведвальнікам былі прапанаваны розныя фотавыстаўкі.

У першай палове 1969 г. вяліся намаганні арганізаваць хор пад



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

кіраўніцтвам сп. М. Артышэвіча, на жаль, замалое было зацікаўленне, і намер застаўся ў планах. Пад канец года яшчэ раз спрабавалі заснаваць хор, а заданне даручана было сп. Мар'і Мароз. У І дэкадзе года дзейнічаў эстрадны ансамбль «Самасейкі», які неўзабаве распаўся.

Увесь час метадам гутарак вялася папулярызацыя беларускіх выданняў, якія знаходзіліся ў бібліятэцы аддзела. Праводзіліся сустрэчы ў час гадавін і юбілеяў беларускіх пісьменнікаў, на выстаўках экспанаваліся кніжкі. Актыў ПГА ўключыўся ў продаж беларускага штотыднёвіка «Ніва» і выданняў беларускіх пісьменнікаў з літаб'яднання «Белавежа», беларускіх календароў на 1969 г. (600 экземпляраў), зборнікаў В. Шведа (89), А. Барскага (27), апавяданняў С. Яновіча (30) і пласцінак М. Забэйды-Суміцкага (8).

Працягвалася супрацоўніцтва з Таварыствам агульных ведаў і Таварыствам польска-савецкай дружбы, былі спробы наладжвання супрацоўніцтва з Саюзам сацыялістычнай моладзі. Мадэрнізацыя абсталявання клуба-кавярні паспрыяла таму, што стаў ён атракцыйным культурна-асветніцкім цэнтрам. Радыкальна змяніўся стыль працы клуба: у ёй стала прымаць шырокі ўдзел студэнцкая і школьная моладзь. Дзякуючы гэтаму стала магчымым правядзенне музычна-літаратурных і забаўляльных мерапрыемстваў на добрым узроўні. Для актыву была арганізавана экскурсія ў Белавежу, дэманстрацыя фільмаў і пастаноўка драматычных спектакляў. Члены БГКТ гулялі на навагоднім балі. На фабрыцы «Ухвыты» была арганізавана выстаўка, прысвечаная БССР, а ў клубе будаўнікоў — даклад пра савецкую літаратуру.

Далі канцэрт «Лявоніха» і самадзейны ансамбль з Бельска Падляшскага. Адбылося некалькі танцавальных прыбытковых вечарын. Прыбытак з іх быў выкарыстаны на аплату коштаў распаўсюджання бясплатных беларускіх выданняў і правядзенне экскурсій ды культурных мерапрыемстваў. Нягледзячы на тое што працай кіраваў адзін чалавек (сп. Сафія Стаськевіч), якасць тае працы была на высокім узроўні. Было так таму, што БГКТ у сваёй дзейнасці апіралася на шырокі актыў і арганізоўвала да працы ўсё новыя групы членаў таварыства.

2 сакавіка 1969 г. праходзіла справаздачна-выбарная канферэнцыя, на якой былі падведзены вынікі працы і прапанаваны напрамкі далейшай дзейнасці. Выбрана новае праўленне аддзела. Паўторна старшынёй стаў Канстанцін Масальскі, а яго намеснікам — Уладзімір Куршаль, сакратаром — Ян Стрышко, а членамі прэзідыума выбраны: Анна Амбражэй і Уладзімір Навіцкі. У праўленне ўвайшлі таксама: Васіль Баршчэўскі, Ян Філіпік, Рыгор Скарынкевіч, Я. Маркоўскі, Сцяпан Сельванюк, Мікалай Яроцкі, Пятро Хомчык, Віктар Лаўрашук, Яўгіння Младзяноўская, Канстанцін Сідаровіч, Люба Сегень, Ніна Харкевіч, Хрысціна Петрашкевіч і Васіль Літвінчык. У склад рэвізійнай камісіі ўвайшлі Фёдар Садоўскі — старшыня, Фёдар Бароўскі і Уладзімір Міхалюк — члены. З кастрычніка 1969 г. па 11.12.1969 г. абавязкі старшыні праўлення аддзела выконваў намеснік Уладзімір Куршаль.



VI з'езд БГКТ (11.05.1969 г.) выбраў Галоўнае праўленне, у склад якога з гарадскога аддзела ўвайшлі: Анна Амбражэй, Васіль Баршчэўскі, Георгій Валкавыцкі, Ян Зенюк, Канстанцін Масальскі, Уладзімір Паўлоўскі, Вінцук Склубоўскі, Міхась Хмялеўскі — старшыня ГП, Шыман Шыманюк і Уладзімір Юзвюк.

11 снежня 1969 г. праводзілася справаздачная канферэнцыя праўлення ГА, на якой было вырашана павялічыць праўленне з 18 да 27 чалавек. Далучаны: Ян Чыквін (выбраны старшынёй) і члены: Сяргей Плева, Міхась Тэляшэўскі, Люба Томчык, Мар'я Макаль — сакратар, Мікалай Скурат, Ніна Вішнеўская, Яўген Ражкевіч, Анатоль Дудзік. Намеснікам старшыні выбраны з папярэдняга складу праўлення (3.03.1969 г.) Віктар Лаўрашук. На месца выбыўшага Ф. Садоўскага быў абраны Сцяпан Зянюк. Вызначаны новы прэзідыум, у склад якога ўвайшлі, апрача вышэйзгаданых: Васіль Баршчэўскі, Мар'я Макаль, Уладзімір Куршаль, Уладзімір Навіцкі, Люба Сегень, Ян Стрышко і Сяргей Плева.

З прычыны немагчымасці ўдзельнічаць у грамадска-культурным жыцці старшыня Ян Чыквін падаў у адстаўку, і старшынёй быў выбраны на адным з пленарных сходаў Я. Стрышко, а яго намеснікам — К. Масальскі.

**1970 г.**

Наладжваліся спробы арганізацыі гурткоў на прадпрыемствах, але не далі яны вынікаў, паколькі члены і паасобныя ўстановы выказвалі ахвоту прыналежнасці непасрэдна да аддзела. Праўленне ўвесь час змагалася за сістэматычнае і тэрміновае ўплачванне членскіх узносаў. Шмат людзей не паведамляла аддзел пра змену прапіскі ці прозвішча. Адной з форм збору ўзносаў была праверка членскіх білетаў пры ўваходзе на мерапрыемствы. Моладзь плаціла ўзносы рэгулярна, горш было са старэйшымі членамі, якія нячаста наведвалі клуб.

У 1970 годзе праўленне правяло 8 пасяджэнняў прэзідыума і 4 пленарныя, у тым ліку два, прысвечаныя арганізацыйным справам. Прадметам разважання на сходах была культурна-асветніцкая тэматыка і справы арганізацыі грамадскай працы. Камісіі, якія дзейнічалі пры прэзідыуме, правялі 4 сходы. Гэтыя камісіі дзейнічалі супольна з прэзідыумам праўлення ў галіне арганізацыі і падрыхтоўкі розных культурна-асветніцкіх мерапрыемстваў. У



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Спявае Люба Гаўрылюк (злева) з сястрою. Фота Я. Целушэцкага.

сувязі з 100-ай гадавінай з дня нараджэння Леніна быў арганізаваны шэраг імпрэзаў.

У лютым адбылася ўрачыстая вечарына ў гонар Савецкай Арміі, а ў сакавіку — у сувязі з Днём жанчын. Дзень 1 Мая ўшанаваны быў вечарынай для актыву, на якой выступіў старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі, Дзень перамогі — вечарынай для моладзі з дэкламаваннем вершаў пра вайну. З нагоды святкавання 25-годдзя ПНР у клубе была арганізавана дзвюхгадзінная лекцыя і дэманстрацыя фільмаў. 22 ліпеня — Свята адраджэння Польшчы — ушанавана культурна-асветніцкай вечарынай для моладзі і мерапрыемствам для актыву з выездам па-за Беласток. У Дні Войска Польскага была арганізавана вечарына, а затым сустрэча з маёрам вайсковай часці ў Беластоку і выступленне мастацкага ансамбля, які дзейнічаў пры аддзеле. 25-годдзе падпісання дагавора аб сяброўстве і супрацоўніцтве «Польшча—СССР» было ўшанавана арганізаваннем сустрэч з 5 дакладамі. У лістападзе адбылася ўрачыстая вечарына ў гонар Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Было прадэманстравана 16 савецкіх фільмаў у арыгінальнай версіі. Была арганізавана выязная імпрэза на раку Нараў каля вёскі Плёскі, у час мерапрыемства — сустрэча з працаўнікамі ПКС з валейбольным матчам і супольнымі танцамі пад адкрытым небам, выступілі лаўрэаты конкурсу беларускай песні 1970 г.

Усяго праведзена было: 7 урачыстых вечарын, 9 аўтарскіх сустрэч, 10 лекцый, 16 гутарак, 8 фотавыставак, 7 эстрадных выступленняў і 2 эстрадныя канцэрты «Лявоніхі».

У конкурсе беларускай песні, арганізаваным ГП БГКТ, нашы салісты заваявалі I і II месцы. Перад згаданым конкурсам былі праведзены элімінацыі на ўзроўні аддзела, вылучаны кандыдаты на цэнтральны конкурс. У аддзела былі цяжкасці з арганізацыяй



аматарскіх калектываў з прычыны недахопу ўласных інструктараў. У кастрычніку 1970 г. удалося ўсё ж сабраць 40-асабовы хор пад кіраўніцтвам інструктараў «Лявоніхі», а пад канец года ГП БГКТ купіла музычныя інструменты. Пабольшылася дэкламатарская група.

Распаўсюджана была наступная колькасць выданняў беларускіх пісьменнікаў: А. Баршчэўскага — 15 экз., В. Шведа — 23 экз., Я. Чыквіна — 13 экз., С. Яновіча — 21 экз. і беларускіх календароў на 1970 год — 558 экзэмпляраў. Выданні прадаваліся ў час аўтарскіх сустрэч, мастацкіх мерапрыемстваў, на кірмашах у Дні кнігі і друку, у кіёску «Руҳ» і ў Клубе БГКТ.

Бібліятэчны кнігазбор пад канец года налічваў 3100 экземпляраў, чытачоў было 50.

Працягвалася супрацоўніцтва з прафсаюзамі, аддзелам культуры гарадской рады, Саюзам сацыялістычнай моладзі, гарадскім аддзелам «Рух», Беластоцкім жыллёвым кааператывам і з мясакамбінатам.

9 красавіка 1970 г. на пленарным пасяджэнні праўлення ГА былі праведзены арганізацыйныя змены. Ад удзелу ў працах прэзідыума і праўлення адмовіліся В. Лаўрашук і С. Плева з прычыны павышэнняў на больш адказныя пасады і перацяжанасць абавязкамі. Намеснікам старшыні зноў назначаны Канстанцін Масальскі. З праўлення вывелі Мар'ю Макаль (перастала працаваць як інструктар ГП БГКТ), а на яе месца была назначана інструктар Сафія Стаськевіч, якая аказалася вельмі добрым арганізатарам культурна-асветніцкага жыцця аддзела. У сувязі з выездам з Беластока старшыні ГА Я. Чыквіна 2 кастрычніка 1970 г. быў назначаны выконваць абавязкі старшыні Ян Стрышко, кандыдатура якога мелася быць прадстаўлена на наступным пленуме аддзела дзеля зацвярджэння.

**1971 г.**

Нягледзячы на рамонт сядзібы ад 1 сакавіка 1971 г. праўленне ГА не спыніла сваёй дзейнасці, хаця абмежавала яе з прычыны ўмоў. Вялася культурна-асветніцкая дзейнасць без масавых мерапрыемстваў у клубе, але ўдалося арганізаваць 7 імпрэз: былі прадэманстраваны 2 фільмы, праведзена вечарына з нагоды 15-годдзя БГКТ, сустрэча галоўнага рэдактара «Нівы» са школьнай моладдзю, навагодняя ёлка для дзяцей членаў і сяброў таварыства, фотавыстаўка «26 гадоў вызвалення Варшавы».

Пленарныя пасяджэнні праўлення праводзіліся 8 студзеня, 25 мая і 12 ліпеня. Тэмай сходаў былі наступныя пытанні: «Прычыны і цяжкасці ў рэалізацыі культурна-асветніцкіх намераў»; «Увага на развіццё мастацкага руху»; «Юбілей 15-годдзя БГКТ», «Дзейнасць аддзела за 12 гадоў і яго ўклад у дасягненні культурна-асветніцкай працы БГКТ»; «Папулярызацыя выданняў БГКТ». Падкрэслена



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ангажаванасць актыву ў пашырэнні культурна-асветніцкай ідэі сярод беларусаў Беласточчыны; абмеркаванне справаздачна-выбарчай кампаніі і напрамкаў дзейнасці ў будучым; арганізацыйныя, гаспадарчыя і фінансавыя справы.

Прэзідыум праўлення сустракаўся 9 лютага, 7 мая, 6 кастрычніка, 18 лістапада і 12 снежня з мэтай абмеркавання бягучых пытанняў, якія выплывалі з плана працы.

Справаздачна-выбарныя сходы праводзіліся ў тры тэрміны 17—19.12.1971 г. Тэмай сходу былі:

1. Напрамкі культурна-асветніцкай працы ў будучыні.
2. Выбар дэлегатаў на канферэнцыю аддзела.

Са справаздачай выступіла сп. Сафія Стаськевіч. Яна звярнула ўвагу на колькасць арганізаваных мерапрыемстваў, развіццё самадзейнага руху, працу з моладдзю, супрацоўніцтва з арганізацыямі і ўстановамі ў горадзе, фінансавыя і рамонтныя цяжкасці ды ахвярную працу актыву. У дыскусіі ўвага была звернута на больш шырокае і глыбокае ангажаванне моладзі ў грамадскія і культурныя дзеянні, у аматарскі рух. Нягледзячы на рамонт будынка, былі арганізаваны сустрэчы з моладдзю і дарослымі. Падкрэслена, што ў справаздачным сходзе прымала ўдзел шмат моладзі, значыць, праца не пайшла на вецер. Ад моладзі чакаецца большая ангажаванасць у грамадскай працы. Неабходна паглыбіць папулярызацыю беларускай кнігі і ўсе формы дзеяння ў прапагандаванні беларускай культуры і асветы.

У рамках супрацоўніцтва Расійскае грамадска-культурнае таварыства згадзілася даць свае памяшканні на рэпетыцыі нашых мастацкіх калектываў.

На справаздачнай канферэнцыі 17—19.12.1971 г. адобрана рашэнне пленума, а старшынёй у далейшым быў Ян Стрышко.

**1972 г.**

Гарадскі аддзел правёў 2 пленарныя пасяджэнні, на якіх абмяркоўваліся тэмы: «Задачы ГА у святле пастаноў VII з'езда БГКТ», «Справаздача за бягучы год і заданні на будучыню», «Святкаванне 50-годдзя СССР», арганізацыйныя, гаспадарчыя і фінансавыя справы.

Прэзідыум праўлення сустракаўся на пасяджэннях 7 разоў. Тэматыка сходаў вынікала з сітуацыі, напрыклад: зацвярджэнне планаў дзейнасці і арганізаванне мастацкіх мерапрыемстваў, святкаванняў гадавін, абмеркаванне конкурса «Беларуская песня-72»; справа беспадстаўных крытычных заўваг сакратара ГП БГКТ Я. Зенюка ў адрас сп. Сафіі Стаськевіч; заснаванне фатаграфічнай секцыі і дэманстрацыя фільмаў, арганізацыйныя справы, збор членскіх узносаў і іншае.

13 лютага 1972 г. адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя, на якой старшынёй быў выбраны Мікола Гайдук.



Была арганізавана нарада дэлегатаў на VII з'езд БГКТ, у час якой пададзена інфармацыя аб дасягненнях і намечаны далейшы напрамак працы з моладдзю, культурна-асветніцкай і іншай. У дыскусіі націск быў зроблены на пашырэнне арганізацыі, працягванне дэманстрацыі фільмаў, увядзенне навучання беларускай мове ў адной з беластоцкіх школ, распаўсюджванне «Нівы» і г.д.

252 членам былі заменены членскія білеты, апошнім немагчыма было іх памяняць з прычыны таго, што сябры, мяняючы прапіску ці прозвішча, не паведамлялі пра змены месца жыхарства або не з'явіліся па білеты.

Міністэрства ўнутраных спраў правярала аддзел і дало яму добрую ацэнку.

Урачыста адзначаны былі гадавіны: Савецкай Арміі, 30-годдзе ПНР, 50-годдзе СССР, Кастрычніцкай рэвалюцыі і 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. З нагоды гэтых дат былі арганізаваны ўрачыстыя вечарыны з дакладамі, завершаныя мастацкай часткай. За год арганізаваны былі: 4 урачыстыя вечарыны, 6 сустрэч моладзі сярэдніх школ, 3 выстаўкі, 3 сустрэчы для пенсіянераў і пажылых людзей, 12 фотавыставак, 1 навагодняя ёлка для дзяцей, 18 вечарніц, 1 сустрэча з акцёрам, 4 лекцыі, 12 выступленняў мастацкіх калектываў, 10 гутарак, 1 сустрэча з афіцэрам Савецкай Арміі, 5 фільмаў і 2 аўтарскія сустрэчы.

У конкурсе беларускай песні ўдзельнічалі 22 асобы, з якіх 3 салістаў і 2 дуэты выступілі на цэнтральных элімінацыях, арганізаваных ГП БГКТ.

Закончыліся непаразуменні ў аддзеле, праца стала больш спакойнай, творчай, нягледзячы на тое, што для БГКТ гэта быў цяжкі час.

Дзейнічалі з кастрычніка 3 мастацкія гурты: вакальна-музычны, харавы, танцавальны і літаратурная эстрада. Дзякуючы намаганням праўлення ГА прыцягнута было 28 падпісчыкаў «Нівы» на 1973 год. Распаўсюджаны наступныя выданні ГП БГКТ: беларускіх календароў на 1972 год — 256 штук, А. Барскага «Жнівень слоў» — 38, В. Шведа «Жыццёвыя сцежкі» — 4, Я. Чыквіна «Святая студня» і «Іду» — 61, Ул. Гайдука «Ракіта» — 63, альманах «Белавежы» № 1 і № 2 — 16, «Мой родны кут» — 2, грампласцінка М. Забэйды-Суміцкага — 1.

На прыканцы года ў бібліятэцы было 3368 тамоў і 60 чытачоў.

Аддзел супрацоўнічаў з аддзелам культуры Гарадской рады, наладжаны быў кантакт з гарадскім камітэтам ПАРП у справе забеспячэння лектарамі.

**1973 г.**

Праўленне ГА правяло пленарнае пасяджэнне 13 сакавіка 1973 г. На ім былі абмеркаваны метады дзейнасці з актывам, аплачванне членскіх узносаў, ацэнка культурных дасягненняў, неабход-




© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

насць арганізавання кавярні, дапамогі аддзелу ва ўдзеле ў Цэнтральных дажынках, пашырэнні распаўсюджвання беларускага штотыднёвіка «Ніва», наладжванні танцавальных вечарынак для моладзі.

У сувязі з выхадам некаторых асоб з праўлення пленум назначыў ва ўлады наступных асоб: Мар'ю Пракапюк, Зою Гаўрылюк і Юрыя Вронскага.

Рабочыя сходы прэзідыума праўлення праводзіліся 15 студзеня, 2 сакавіка, 30 мая, 12 кастрычніка і 15 снежня. Тэмай іх былі наступныя пытанні: наладжванне навагодняй ёлкі для дзяцей членаў і прыхільнікаў БГКТ, аўтарскіх сустрэч, лекцый, танцавальных вечарынак, фатаграфічнай секцыі і фоталабараторыі, народнага фэсту ў «Звярынцы» і падзел звязаных з усім гэтым задач, сустрэчы з кандыдатам у Ваяводскую раду, навагодняга балю, супрацоўніцтва з грамадскім актывам, абмяркоўванне і зацвярджэнне месячных і квартальных планаў, дзейнасці клуба, праца хору, актуалізацыя асабовага складу ў клубе (у склад праўлення клуба ўвайшлі: Анатоль Казімярчук, Мар'я Пракапюк, Ірэна Врубель, Ян Ахрымюк, Анатоль Навіцкі, Валянціна Рубчэўская і Уладзімір Семаковіч) і арганізацыйныя ды бягучыя справы.

**1974 г.**

Са справаздачы ГП БГКТ вынікае, што з мастацкіх ансамбляў найбольш актыўна дзейнічалі «Каласкі» з ГА ў Беластоку. Калектыў быў малады па ўзросту і стажу. Абслугоўваў ён большасць фестынаў на Беласточчыне, урачыстыя вечарыны ў гонар важных свят і гадавін.

У 1974 г. праўленне аддзела правяло адно пленарнае пасяджэнне, 4 пасяджэнні прэзідыума і адну нараду з актывам. На згаданых сходах абмяркоўваліся такія пытанні, як ангажаванне аддзела ў святкаванні 30-годдзя ПНР, арганізацыйныя справы і культурна-асветніцкая дзейнасць, урачыстыя пасяджэнні з нагоды дзяржаўных свят і гістарычных гадавін, праца з моладдзю, ацэнка дзейнасці аддзела і рэалізацыя пастаноў праўлення, апрацаванне і зацвярджэнне планаў працы. Закончылася справа абмену членскіх білетаў. Нягледзячы на гэта, праўленне клапацілася аб павелічэнні колькасці членаў, асабліва моладзі, і з такой мэтай радзе клуба былі створаны большыя магчымасці для дзейнасці.

Аддзел актыўна ўдзельнічаў ва ўрачыстым святкаванні 30-годдзя ПНР: правёў пленарнае пасяджэнне праўлення, на якім абмяркоўваліся эканамічныя, грамадскія і культурныя дасягненні рэгіёна, дзе пражываюць беларусы. Пленум апрацаваў, паставіў на абмеркаванне і прыняў план дзейнасці. Былі арганізаваны ўрачыстыя пасяджэнні з багатай мастацкай часткай, з выступленнямі ансамбля песні і танца «Каласкі». Гэты калектыў выступаў на I Фестывалі песні БГКТ, у Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім, Сямяціцкім і Сакольскім паветах. Арганізоўваліся таксама фотавыстаўкі.



У 56-ую гадавіну Савецкай Арміі выступіў з дакладам капітан ПВ Р. Дзяконьскі. У гэтым мерапрыемстве ўдзельнічала каля 150 асоб. Міжнародны дзень жанчын быў таксама адзначаны ўрачыстай вечарынай, у час якой выступілі «Каласкі». Падобныя ўрачыстыя пасяджэнні з мастацкай часткай былі падрыхтаваны да 1 Мая і 57-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі. Усяго за год было арганізавана: 10 вечарын, 1 лекцыя, 9 гутарак, 18 сустрэч — у тым ліку 8 аўтарскіх, падрыхтавана і паказана 4 выстаўкі, 13 фотавыставак, прадэманстравана 5 савецкіх фільмаў, а ансамбль песні і танца даў 29 канцэртаў. У згаданых мерапрыемствах на галоўным месцы была праблемная тэматыка: 30-годдзе ПНР, культурна-асветніцкія і эканамічныя дасягненні Польшчы і СССР, успаміны былых удзельнікаў баёў за ўмацаванне народнай улады на Беласточчыне, паэтычная і празаічная творчасць пісьменнікаў, згуртаваных у БГКТ.

У конкурсе «Песня-74» з аддзела ўдзельнічала 30 спевакоў, а да цэнтральных элімінацый адабрана 7 асоб.

У аддзеле было 150 падпісчыкаў «Нівы», але большасць газету набывала ў кіёсках «Рух». Паспяховым было супрацоўніцтва з гарадскім аддзелам Таварыства польска-савецкай дружбы, а карысныя парады і падказкі давала Гарадская культурна-асветніцкая парадня. Добра складвалася супрацоўніцтва з ПСС і аддзелам культуры Гарадской управы Беластока.

Спецыфіка працы аддзела мела ўплыў на дзейнасць клуба. Арганізаваў ён навагоднюю ёлку для дзетак, навагодні баль, карнавальныя вечарынкі, сустрэчы з вядомымі людзьмі нашага рэгіёна, горада, з дзеячамі беларускай і польскай культуры.

**1975 г.**

Праўленне ГА правяло 26 лістапада 1975 г. пленарны сход, на якім абмяркоўваліся наступныя праблемы: заданні ПА ў справаздачна-выбарнай кампаніі і справаздача з дзейнасці аддзела за перыяд паміж канферэнцыямі, абмеркаванне рэалізацыі плана працы ў 1974 г., заснаванне Дыскусійнага клуба савецкага фільма і тэатральнага гуртка, сустрэчы з вядомымі людзьмі, вечарынкі беларускіх песень, музыкі і танцаў, заснаванне фатаграфічнага гуртка, адраджэнне вакальна-музычнага калектыву.

Прэзідыум ПА праводзіў свае сходы 12 чэрвеня 1975 г. і 29 кастрычніка 1975 г. На адным з іх пачулася прапанова, каб на базе існуючага раней харавога калектыву заснаваць новы хор пад кіраўніцтвам Л. Панько. Пададзена была таксама на абмеркаванне магчымасць стварэння тэатральнага калектыву. Ацанілі працу клуба, супрацоўніцтва з іншымі клубамі, прадпрыемствамі і ўстановамі. Абмеркавана была таксама арганізацыя вечарын, тан-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

цавальных вечарынак для моладзі, не абмінула справа сустрэч з цікавымі людзьмі, заснавання фатаграфічнага гуртка, распаўсюджвання і папулярызацыі штотыднёвіка «Ніва», членскіх узносаў і спосаб выбару дэлегатаў на з'езд БГКТ.

Існуючы харавы калектыў вельмі часта выступаў на пачатку 1975 года ў рэстаране «Гродна», апрача таго, у Трасцянцы і ў Паўлах, удзельнічаў таксама ў элімінацыях агляду «Беларуская песня-75» (заваяваў 1 месца ў катэгорыі сучаснай песні), выступіў на навагодняй вечарынцы, арганізаванай Варшаўскім аддзелам БГКТ. У канцы 1975 года пачалі сваю дзейнасць калектывы: вакальны пад кіраўніцтвам Л. Панько, танцавальны і тэатральны — Я. Крупы. У клубе адзначаны былі ўрачыста: Дзень Савецкай Арміі, Дзень жанчын, 1 Мая, падрыхтавана навагодняя ёлка для дзяцей і праваслаўны Новы год.

Наладзілі сустрэчы з суддзёй В. Склубоўскім, пісьменнікам А. Барскім, а таксама фестын у беластоцкім парку «Звярынец». Рада клуба працавала таксама добра, спраўляючыся з заданнямі.

**Табліца ўзростава-сацыяльнай структуры членаў БГКТ у 1969—1974 гадах**

| Год | Жан. | Муж. | Узрост | | | Сацыяльны склад | | | | Адукацыя | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 18—30 | 31—40 | 41 і болей | раб. | інтэліг. — | інтэліг. наст | студэнт. | пач. | рам. | сяр. | выш. |
| 1969 | 321 | 330 | 215 | 286 | 150 | 447 | 204 | 6 | — | — | — | — | — |
| 1970 | 304 | 325 | 294 | 236 | 99 | 413 | 216 | 8 | — | 127 | 304 | 175 | 23 |
| 1971 | 245 | 271 | 280 | 141 | 95 | 200 | 186 | 7 | 58 | 97 | 248 | 155 | 16 |
| 1972 | 268 | 311 | 344 | 140 | 95 | 218 | 277 | 7 | 84 | 95 | 123 | 324 | 37 |
| 1973 | 219 | 221 | 345 | 35 | 60 | 102 | 293 | 12 | 45 | 63 | 180 | 163 | 34 |
| 1974 | 254 | 222 | 394 | 24 | 58 | 96 | 344 | 16 | 36 | 90 | 118 | 252 | 16 |

**Лік членаў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку ў гадах 1958—1975**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1957 | 130 | 11 | 1967 | 755 |
| 2 | 1958 | 190 | 12 | 1968 | 977 |
| 3 | 1959 | 244 | 13 | 1969 | 651 |
| 4 | 1960 | 384 | 14 | 1970 | 629 |
| 5 | 1961 | 458 | 15 | 1971 | 515 |
| 6 | 1962 | 574 | 16 | 1972 | 579 |
| 7 | 1963 | 621 | 17 | 1973 | 440 |
| 8 | 1964 | 749 | 18 | 1974 | 476 |
| 9 | 1965 | 967 | 19 | 1975 | 650 |
| 10 | 1966 | 760 | | | |



Са спісу вынікае, што ўзрост ліку членаў устрымаўся ў 1965 годзе. У наступных гадах назіраецца хісткасць — падзенне або ўзрост з прычыны выключэння членаў, якія не ўплачвалі членскіх узносаў больш як за два гады. Нягледзячы на гэта, ужо ў 1968 г. колькасць членаў дасягнула стану 1965 года. У гэтым заслуга членаў праўлення аддзела, выбранага ў снежні 1965 г., якія ахвярна дапамагалі арганізаваць культурныя мерапрыемствы. Але ў 1969 г. бачым зноў змяншэнне колькасці членаў. Віна ў гэтым інструктараў ГП, дэлегаваных на працу ў аддзел, і пазнейшага актыву праўлення аддзела, які менш клапаціўся аб колькасным узросце радоў БГКТ.

*(Працяг будзе)*

*Міхась Голуб*

## Гайнаўскі аддзел БГКТ

Гартаючы дакументы Гайнаўскага аддзела БГКТ, разумееш, што створаны ён быў ужо праз тры месяцы пасля I з'езда БГКТ у Беластоку, гэта значыць 20 мая 1956 года. Гайнаўскі аддзел, як і ўсе іншыя на Беласточчыне, ахопліваў тэрыторыю ўсяго павета і тады называўся павятовым аддзелам БГКТ. Назву гэту захоўваў ён да рэарганізацыі адміністрацыйнага падзелу краіны (1975).

Першае праўленне аддзела ўзначаліў Ян Філіпюк, які быў яго старшынёй усяго пару месяцаў. Мікалай Вішнеўскі быў намеснікам старшыні, а Ніна Лебедзінская — сакратаром. Наступным старшынёй аддзела быў Мікалай Тарасэвіч.

Я поўны зайздрасці і вялікай пашаны да ўсіх першых энтузіястаў дзейнасці таварыства, якія правялі вялікую працу дзеля развіцця беларускага культурна-асветніцкага руху на Гайнаўскай зямлі. Узнікалі новыя гурткі, прыбывалі новыя актывісты. Усе яны вучыліся, не раз рабілі памылкі, але вынікі былі нават тады, калі не хапала матэрыяльных сродкаў, інструктараў, не было рэпертуару да культурнай дзейнасці, кніжак ды іншых дапаможнікаў. Тады быў энтузіязм і настойлівасць. Мы сёння можам толькі ўявіць, якія клопаты мелі тады першыя нашы беларускія актывісты. Дарэчы, усім беларусам на Беласточчыне тады было нялёгка. За іх ахвярнасць мы ўсе павінны быць ім глыбока ўдзячны.

Першым інструктарам аддзела быў Яўген Гарустовіч, які займаўся культурна-асветніцкай працай БГКТ у цэлым павеце. Ужо тады існавала 30 гурткоў і больш як трыста членаў. З 1962 года падвоілася колькасць членаў і надалей утвараліся новыя гурткі. Старшынёй праўлення аддзела выбралі Васіля Дзуна (1960—1963). Пад канец кадэнцыі Гайнаўскі аддзел налічваў ужо 1287 членаў у 47 гуртках. Найбольшыя з іх былі: Гайнаўскі гарадскі, які налічваў



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

124 члены, у вёсках Гурна (цяпер у межах Гайнаўкі) — 88, Мора — 43 і Махнатае — 42. Дзякуючы намаганням актыву БГКТ і настаўнікаў распаўсюджвалася ў той час 2250 экземпляраў «Нівы», у тым ліку было 1800 падпісчыкаў. Старшыня аддзела В. Дзун, у ацэнцы актывістаў, быў добрым арганізатарам. Яго любілі школьнікі і моладзь (быў настаўнікам), карыстаўся пашанай улад і жыхароў Гайнаўшчыны.

У 1963—1975 гадах старшынёй праўлення аддзела быў выбраны Аляксандр Іванюк, штатным інструктарам з 1964 года быў Мікола Лобач, а з 1966 года — Віктар Бура. Гэтыя дзеячы ўмела ўцягвалі ў вір грамадскай дзейнасці новых актывістаў, арганізоўвалі самадзейныя калектывы, інспіравалі моладзь і жыхароў Гайнаўшчыны да культурна-асветніцкай дзейнасці. Іх працу высока ацэньвалі тагачасныя ўлады ваяводства і павета, а таксама Галоўнага праўлення БГКТ. У штодзённай сваёй працы выкарыстоўвалі яны ўсе магчымыя формы дзеля развіцця беларускай культуры і асветы. Ствараліся новыя харавыя калектывы, драмгурткі. Былі арганізаваны агляды беларускай песні, рэчытатыўныя і чытальніцкія конкурсы. Праводзіліся нават конкурсы на найлепшыя гурткі БГКТ. Розныя нагоды выкарыстоўваліся дзеля пашырэння беларускай мовы, песні ў часе народных фестынаў, дажынак і гэтак далей. Нашы беларускія пісьменнікі вельмі часта наведвалі гэтыя мерапрыемствы, асабліва з нагоды «Дзён асветы, кнігі і друку», «Дзён савецкай кнігі», дзе прадавалі і падпісвалі свае выданні. Гэтая форма праводзіцца і дасюль. Пісьменнікі наведвалі таксама школы і святліцы. Найчасцей на Гайнаўшчыне бывалі Віктар Швед, Алесь Барскі і Янка Целушэцкі. Падобныя сустрэчы арганізоўвалі рэдактары «Нівы» са сваімі чытачамі. Гэтыя цікавыя формы дзейнасці варта было б зараз аднавіць.

Вельмі добра складвалася праца з іншымі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі Польшчы, такімі як: ЗМВ, ЗСЛ, ЗНП, коламі вясковых гаспадынь, якімі, дарэчы, кіравалі найчасцей таксама беларусы.

У 1975 годзе павятовы аддзел БГКТ у Гайнаўцы налічваў 2682 члены, аб'яднаныя ў 71 гурток. Прыбывала гурткоў у дзяржаўных прадпрыемствах і ўстановах. Сістэматычна павялічвалася колькасць продажу штотыднёвіка «Ніва» праз клубы «Руху», сядзібай якіх былі найчасцей вясковыя святліцы. Прадавалася 2475 экземпляраў «Нівы», і 1418 экземпляраў складала падпіска і вялікая колькасць беларускіх календароў ГП БГКТ. На жаль, недахоп прафесійнай апекі над аматарскімі калектывамі і брак фінансавых сродкаў стрымлівалі дзейнасць вясковых клубаў, гурткоў і бібліятэк. Іншай прычынай заняпаду культурна-асветніцкага жыцця была масавая міграцыя маладых жыхароў вёсак у гарады. Пусцелі вёскі, закрываліся школы, святліцы. Аднак у некаторых мясцовасцях захаваліся самадзейныя калектывы дагэтуль.



Асаблівасцю дзейнасці БГКТ таго часу было правядзенне яе ў самых нізах беларускага асяроддзя, гэта значыць у вясковых гуртках і ў школах у цесным супрацоўніцтве з настаўнікамі, якія, дарэчы, найчасцей жылі ўвесь час у гэтым асяроддзі. Варта пералічыць іх: Васіль Дзун, Вольга і Яўген Гарустовічы, Аляксандр Харкевіч, Галена і Янка Тапалянскія, Аляксандр Іванюк, Вера Краўчук, Тамара Бусьняк, Віталі Макац, Міхась Кіслеўскі, Аляксей Харкевіч, Янка Ціванюк, Васіль Целушэцкі, Мікалай Барташук, Тамара Раманчук, Юзэф Навіцкі, Мікалай Нікалаюк, Васіль Сакоўскі, Сяргей Харкевіч, Сяргей Юзючук, Мікалай Яўдосюк, Яўген Валкавыцкі, Васіль Сегень. Некаторыя з іх дагэтуль з'яўляюцца актыўнымі дзеячамі беларускага таварыства.

У дзейнасці БГКТ велізарную ролю ў гэтыя гады адыграла выязное кіно БГКТ. Яго прывозілі ў найдалейшыя куточкі нашай Гайнаўшчыны. Мясцовыя жыхары заўсёды вельмі яго чакалі. Дзе толькі паяўлялася, людзі гаварылі: «Нашае кіно прыехала». «Нашае» — гэта азначала, што з беларускага таварыства.

Упамянутая ўжо рэформа адміністрацыі не спрыяла развіццю культурна-асветніцкай дзейнасці БГКТ. Але настойлівасць мясцовых беларускіх дзеячаў і ў гэтых абставінах знайшла пазітыўнае праяўленне ініцыятывы. Менавіта ў кастрычніку 1961 года падчас пасяджэння праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ спадар Кастусь Майсеня, які ў той час быў старшынёй павятовага гандлёвага саюза «Самапомач хлопска», запрапанаваў пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы, прысвечанага памяці Кастуся Каліноўскага з нагоды 100-годдзя яго смерці. Думка не першая ў БГКТ, але матэрыялізавалася доўга. Беларускі музей быў спачатку створаны ў 1966 годзе ў Белавежы, а лёс яго закрыцця ўсім вядомы. Прайшло амаль дваццаць гадоў, і зноў нашы дзеячы пачалі пабудову музея. Цяпер стаіць ужо прыгожы аб'ект, пабудаваны ў Гайнаўцы. Засталося яго закончыць і загаспадарыць. Вялікае Вам дзякуй, старшыня Грамадскага Камітэта пабудовы Беларускага музея Кастусь Майсеня, і таксама тым усім, хто прычыніўся і далей прычыняецца да яго стварэння. Будаўніцтва гэта аб'яднала мясцовых беларусаў. Сталася гіганцкім дасягненнем усіх беларусаў у Польшчы, Беларусі і ва ўсёй беларускай дыяспары. Гайнаўскі музей і Асяродак беларускай культуры — гэта аб'ект, які будзе гуртаваць беларусаў свету. Думаю, што яшчэ лепей паслужыць яднанню наступных пакаленняў.

Пасля 1975 года былі ліквідаваны павятовыя аддзелы БГКТ. На шчасце, у клубе таварыства ў Гайнаўцы надалей прадаўжаў сваю працу штатны работнік, дзякуючы якому не было парвана супрацоўніцтва з гурткамі былога павета. Штатнымі работнікамі былі па



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

чарзе: Віктар Бура, Вера Юшчук, Андрэй Беразавец, Міраслаў Навіцкі, Сяргей Харкевіч, Антаніна Вэсалоўская, Крыстына Аляксеюк, Ялянта Вішнеўская і Галіна Маліш.

Вялікую ролю ў жыцці мясцовых беларусаў адыграў клуб БГКТ у Гайнаўцы, які памяшчаўся ў двух пакойчыках Дома настаўніка па вуліцы Вызвалення (цяпер маршалка Пілсудскага). У клубе кіпела культурнае жыццё. Нездарма яго і называлі «Амбасадай», або «Пасольствам». Клуб у цэнтры горада, побач з Беларускім ліцэем, сапраўды меў спрыяльную лакалізацыю для культурнай дзейнасці. Выкарыстоўвалася таксама кавярня і канцэртавы зал Дома настаўніка. Тут існавалі радыёвузел і бібліятэка. Тут гуртаваліся беларуская інтэлігенцыя — матор кожнай нацыянальнасці— і моладзь. Тут сваю сядзібу меў работнік аддзела БГКТ. Тут прымалі сваіх і загранічных гасцей, якія былі зацікаўлены нашым беларускім рухам і жыццём. З прычыны недахопу фінансавых сродкаў Галоўнае праўленне вымушана было ў пачатку дзевяностых гадоў адмовіцца ад гэтага памяшкання. Перабраліся ў будуемы музей. Думаю, што за нядоўгі час яшчэ большую ролю будзе адыгрываць у прыгожым будынку Асяродак беларускай культуры.

Выдатна працаваў гурток горада Гайнаўкі, актывісты якога часта дапамагалі вясковым гурткам. Пералічу ягоных старшыняў: гэта былі з 1961 года: Мікалай Дацэвіч, Кастусь Грыц, Аляксандр Крутэль, Васіль Сакоўскі, Сяргей Харкевіч і Васіль Іванюк.

27 жніўня 1985 года дэлегаты ад паасобных гурткоў з горада Гайнаўкі арганізавалі гарадскі аддзел БГКТ, старшынёй якога праз два тэрміны быў вядомы харыст — Янка Якімюк. Зноў ажыла беларуская культурна-асветніцкая дзейнасць у Гайнаўцы. Былі арганізаваны ўпамянутыя ўжо навагоднія балі, вясковыя забавы, прыбыль з якіх найчасцей прызначалася на пабудову Беларускага музея. Далей пачалі праводзіцца народныя фестыны, члены і сымпатыкі таварыства часта выязджалі на экскурсіі ў Беларусь і другія рэспублікі былога СССР. Завязвалася супрацоўніцтва з прыгранічнымі раёнамі Беларусі, асабліва — Свіслацкім.

Як і дагэтуль, дзейнічаў знакаміты хор Гайнаўскага Дома культуры, які дасягнуў высокага мастацкага ўзроўню. З 1979 года Гайнаўскім Домам культуры кіруе вядомы беларускі актывіст Мікола Бушко.

Паявіліся новыя формы беларускай дзейнасці, у тым ліку святкаванне Купалля. Яно адрадзілася ў нас, на Гайнаўшчыне, у 1986 годзе. Першы раз было арганізавана ва ўрочышчы «Грушкі» каля Нараўкі. Потым сталым месцам святкавання Купалля была Белавежа, дзе і дасюль праводзіцца. І трэба сказаць, што лепшага месца, чым закінутая станцыя мясцовай чыгункі і ўрочышча «Старая Белавежа» ў сэрцы Белавежскай пушчы, прыдумаць для Купалля немагчыма.





Калектыў з вёскі Курашава. Фота С. Грынявіцкага.

Змяняецца, аднак, час, змяняюцца і людзі. Давялося мне кіраваць Гайнаўскім аддзелам БГКТ. Змянілася і наша эканамічная сітуацыя. Як усім вядома, няма ўжо не толькі ў нашым аддзеле, але таксама ва ўсіх іншых, штатных работнікаў — няма і сістэматычнай працы ў асяроддзі. Думаю, што так далей быць не можа. Галоўнае праўленне БГКТ пры сродках толькі на паасобныя мерапрыемствы само не ахопіць усіх спраў. Думаю, што актыў БГКТ дасведчыў ужо дзейнасці ў новай эканамічнай рэчаіснасці і пара выпрацаваць іншую мадэль работы.

Грамадскай працы на працягу сарака гадоў пакладзена не мала. Можа, таму на Гайнаўшчыне захавалася яшчэ найбольш фальклорных калектываў. У Арэшкаве існуе жаночы калектыў «Арэшкі» пад кіраўніцтвам Надзеі Грушэўскай. Валянціна Міцэвіч кіруе самадзейным калектывам «Каліна» з Дашоў. «Цаглінкамі» з Ляўкова клапоціцца Валянціна Грыка. У Тыневічах усе слухаюць Валянціну Франкоўскую. «Чыжаўляне» з Чыжоў складаюцца з сям'і Якімюкоў. «Незабудкі» з Курашава неразрыўна звязаны з асобай Ніны Гаўрылюк, «Любашкі» з Дабрывады — пад кіраўніцтвам Валянціны Клімовіч. Вялікі, дасканалы харавы калектыў існуе з 1982 года ў Гайнаўцы, энергічнай гаспадыняй якога з'яўляецца Марыя



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Сапежынская. Спяваюць у ім многія актывісты Гайнаўскага аддзела БГКТ, сярод іх: Мікола Бушко, Ірэна Парфенюк, Аляксей Харкевіч. Гэты хор зарэкамендаваў сябе і нашу беларускую песню не толькі на Гайнаўшчыне і Беласточчыне, але і ў цэлай Польшчы і за яе межамі. Існуе калектыў ў Вульцы Тэрэхоўскай і ў вёсцы Чаромха. Вельмі цешыць тое, што ствараюцца новыя калектывы. У Нараўцы існуюць два калектывы. Апрача гэтых, ужо вядомых старэйшых калектываў, ствараюцца новыя, маладзёжныя вакальна-інструментальныя, такія як «Чарамшына» ў Чаромсе з энергічнай, здольнай Варварай Кузуб.

Прадпрыемства «Пронар» у Нарве пазбірала ўсіх, хто мае талент музычна-вакальны і хоча спяваць. У гэтым калектыве выступаюць салісткі, дуэты, квартэты і многа школьнікаў. Спадары: Сяргей Мартынюк і Ян Чэрнякевіч як лідэры суполкі «Пронар» ужо вядомыя не толькі на Гайнаўшчыне, але ва ўсёй краіне як мецэнаты беларускай культуры.

З верасня 1995 года Бажэна Леўчук вядзе вакальна-інструментальны калектыў у Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы, які адразу заваяваў другое месца на III фестывалі «Беларуская песня-96» у сваёй катэгорыі. З поспехам зарэкамендаваў сябе і белавежскі квартэт, якому назва яшчэ не прыдумана.

Вельмі многа грамадскай працы ўложана і надалей укладаецца ў пабудову музея і Асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. Як мы ўжо ўспаміналі раней, грамадскім камітэтам з самага пачатку кіруе Кастусь Майсеня. Сярод актывістаў неабходна адзначыць: Мікалая Нікалаюка, Яна Хіліманюка, Мікалая Клюмюка, Аляксея Харкевіча, Аляксандра Іванюка, Панцілімона Мароза, Уладзіміра Петрачука, Уладзіміра Іванюка, Яна Скепку, Сяргея Плеву. Прыблізна адна трэцяя ўсіх коштаў пабудовы Беларускага музея — гэта добраахвотныя складчыны паасобных ахвяравальнікаў і іх грамадская праца непасрэдна на будове. Увесь час «Ніва» друкуе прозвішчы ахвяравальнікаў, якіх дагэтуль (сакавік 1996) налічылі мы 4596. Разлік усіх коштаў пабудовы вядзе бухгалтар Ільля Агіевіч.

Цешыць і тое, што апрача настаўнікаў вядучай сілай беларускага культурна-асветніцкага руху і грамадскай працы на Гайнаўшчыне былі такія дзеячы, як: Мікалай Самоцік, Кастусь Майсеня, Віктар Бура, Мікалай Суліма, Вера Юшчук, Марыя Янчук, Марыя Данілецкая, Ірэна Парфенюк, Марыя Цыборны, Кастусь Грыц, Аляксандр Крутэль, Вінцэнт Болтрык, Ян Хіліманюк, Юры Кіслы, Мікалай Бушко, Міхась Байко, Уладзімір Суліма, Анатоль Ахрыцюк, Анатоль Аўсенюк, Мікалай Павільч, Уладзімір Болтромюк, Сяргей Раманчук, Сяргей Сац, Міхась Дулька і многа, многа іншых.

Вельмі актыўнай групай былі карэспандэнты «Нівы» з Гайнаўшчыны: Ірына Лукша (Аўрора), Мікалай Панфілюк з Дубіч Царкоўных, Пётр Байко з Белавежы, Уладзімір Сідарук з Чаромхі, Эдуард Вайсковіч з Гайнаўкі, Аляксандр Закройшчык з Клейнік, Васіль Сакоўскі з Гайнаўкі, Мікалай Варанецкі з Альхоўкі, Мікалай Лук'янюк з Бялок. Дзякуючы ім усе важнейшыя падзеі гайнаўскага асяроддзя знайшлі адлюстраванне на старонках нашай газеты.



*Уладзімір Юзвюк*

## БГКТ у шасцідзесятыя гады

### Арганізацыйная структура і дзейнасць. (Факты, успаміны.)

Арганізацыйную структуру Беларускага грамадска-культурнага таварыства акрэсліваюць статуты БГКТ, якія прымаюцца дэлегатамі з'ездаў, а пасля зацвярджаюцца і рэгіструюцца ў аддзеле ўнутраных спраў Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку. У шасцідзесятыя гады з'езды склікаліся кожныя тры гады, а дэлегаты выбіраліся на справаздачна-выбарчых канферэнцыях аддзелаў таварыства паводле ўстаноўленага пленумам ГП «ключа». Асноўнымі заданнямі з'ездаў быў разгляд і ацэнка працы ўступаючых улад, выбар новых, прыняцце пастаноў і змен у статуце або захаванне папярэдняга яго зместу. Часта пажаданні дэлегатаў і прадстаўнікоў дзяржаўных улад не супадалі, неабходна было ісці на кампрамісныя рашэнні.

Дэлегатамі з'езда склікалася Галоўнае праўленне ў ліку ад 30 да 45 асоб. У яго складзе ніколі не было кіруючых прадстаўнікоў цэнтральных, ваяводскіх, нават павятовых улад. Выключэннем быў Мікола Самоцік, які ў свой час працаваў сакратаром павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы. Пленарныя пасяджэнні ГП склікаліся два разы ў год для выпрацавання напрамкаў дзейнасці ў бягучым сезоне. Даклады на пленум рыхтаваў прэзідыум. Іх тэматыка была даволі разнародная: навучанне беларускай мове ў школах, развіццё аматарскага руху, ацэнка органа ГП «Нівы», адзначэнне 40-годдзя Грамады, рэалізацыя пастаноў апошняга з'езда БГКТ і ЦК ПАРП і іншае.

На першым пасляз'ездаўскім пленуме выбраны прэзідыум ГП у колькасці 8—12 асоб на чале са старшынёй, яго намеснікам і адказным сакратаром. Мне давялося быць сакратаром у 1960—1969 гадах. Персанальны склад прэзідыума меў выключна важнае значэнне, і таму яго выбары часта праходзілі даволі бурліва. Таварыству патрэбны былі ахвярныя і аўтарытэтныя ў асяроддзі дзеячы, а



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Пленум ГП напярэдадні III з'езда БГКТ. 1960 г. Фотаархіў БГКТ.

яны былі перагружаны грамадскай працай. Здараліся выпадкі, калі дзяржаўныя ўлады без пераконваючых доказаў не згаджаліся на выбар кандыдата ў склад прэзідыума.

У залежнасці ад патрэб прэзідыум склікаўся ад 8 да 14 разоў у год, найчасцей у святочныя дні. У яго кампетэнцыі знаходзіліся кадравыя, фінансавыя і выдавецкія справы, напрамкі супрацоўніцтва з дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі Польшчы і замежжа, рэалізацыя пастаноў з'езда і пленумаў, дапамога праўленням аддзелаў БГКТ і іншае. Калегіяльнасць у працы захоўвалася ўвесь час. З прыемнасцю ўспамінаю супрацоўніцтва з Аляксандрам Баршчэўскім, Кастусём Майсенем, Міхасём Хмялеўскім, Георгіем Валкавыцкім, Мікалаем Самоцікам, Сымонам Шыманюком, Аляксандрам Рафаловічам, Янкам Вішанкам, Аляксеем Карпюком і іншымі членамі прэзідыума ГП БГКТ шасцідзесятых гадоў.

Тады ў БГКТ працавала ў сярэднім 25 асоб (у ГП — 9, у аддзелах — 8 і эстрадзе «Лявоніха» — 8).

Шматбаковая дзейнасць БГКТ, сталы недахоп фінансавых сродкаў і іншыя прычыны спрыялі дапушчэнню акрэсленых хібаў у працы. Найвялікшымі з іх былі дапушчэнне да заняпаду калектыву песні і танца ГП у Беластоку і выданне празмерна вялікім тыражом доўгаграючай пласцінкі вядомага беларускага спевака



Міхася Забэйды-Суміцкага з увагі на непапулярны ўжо жанр яго песень. Прадавалі яе доўга і беспаспяхова.

Галоўную рэвізійную камісію БГКТ узначальваў увесь час Хведар Галёнка, з боку якога я адчуваў шчырую дапамогу. Па-бацькоўску вёў сябе таксама яе член Піліп Кізевіч, Аляксандр Кунах і іншыя.

Ва ўсіх паветах паўднёва-ўсходняй Беласточчыны існавалі аддзелы БГКТ. Набліжэнне нашай структуры да адміністрацыйнага падзелу краіны мы лічылі карысным з увагі на канцэнтрацыю асноўнай масы дзеячаў. Тэндэнцыі да павелічэння іх ліку тады не было. Аддзелы ў Бельску, Беластоку, Варшаве, Гайнаўцы, Міхалове, Мілейчыцах, Саколцы і Сямяцічах заўсёды мелі штатных працаўнікоў. Іх абавязкамі былі: прысутнасць у вызначаныя дні тыдня ў офісе аддзела, апека над аматарскімі калектывамі, супрацоўніцтва з настаўнікамі, распаўсюджванне выданняў БГКТ, абслугоўванне гурткоў, арганізацыя канцэртаў, конкурсаў, вядзенне бібліятэкі аддзела і іншае. Працаўнікі гэтыя давалі справаздачу са сваёй працы перад праўленнямі аддзелаў, а фінансавую — перад ГП і там атрымлівалі агульны інструктаж.

Паводле маёй ацэнкі, вядучыя месцы ў працы займалі Бельскі і Беластоцкі гарадскі аддзелы, а чарговыя — Варшаўскі, Гайнаўскі, Мілейчыцкі (на Сямяціцкі павет), Сакольскі і Міхайлоўскі (на Беластоцкі павет). Аддзелы ў Дуброве Беластоцкай і Шчэціне працавалі з перапынкамі.

У Бельскім аддзеле БГКТ атмасферу працы стваралі самі дзеячы. Вялікім аўтарытэтам карысталіся дырэктары Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання Яраслаў Кастыцэвіч, а пасля Мікола Гайдук, дырэктар аддзела ПКО Мікола Серадзінскі, школьныя інспектары Язэп Альшэўскі і Язэп Суліма, дырэктар павятовай бібліятэкі Арцём Чыквін, дырэктар аддзела ПЧК, шматгадовы старшыня аддзела БГКТ Уладзімір Раеўскі, пенсіянер Якуб Базылюк, настаўнікі Аляксей Карпюк, Васіль Кардзюкевіч, Ільля Бернат, а таксама многія адданыя настаўнікі з вёсак:Сяргей Філіпюк (Паўлы), жонства Панасюкі (Пасынкі), Уладзімір Антанюк (Дзяніскі) і іншыя. Гэта іх заслуга ў пашырэнні навучання беларускай мове ў павеце, ажыўленні аматарскага руху, умацаванні нацыянальнай свядомасці насельніцтва, пашырэнні падпісчыкаў і ліку чытачоў «Нівы», кніжных выданняў таварыства. Штатныя работнікі мяняліся тут часта, а гэтая група дзейнічала стала. Найдаўжэй працаваў Янка Шурбак.

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку меў найлепшае памяшканне — залы ГП — і магчыма таму вылучаўся дасягненнямі ў клубнай працы. Ён арганізоўваў сустрэчы для дарослых, маладзёжныя вечарыны, гутаркі па беларускай мове і літаратуры, аўтарскія сустрэчы, кінаагляды, фотавыстаўкі, курсы танцаў для дзяцей і ігры на-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

акардэоне, узорна вёў бібліятэку. Асаблівай папулярнасцю сярод жыхароў Беластока карысталіся вечарыны з нагоды слаўных гадавін: Дня жанчын, Першамайскага свята, Дня Перамогі, свята Адраджэння Польшчы, Кастрычніцкай рэвалюцыі, юбілеяў вядомых беларускіх пісьменнікаў і многа іншых. Даклад, канцэрт і перапоўнены гледачамі зал ГП стваралі цудоўны настрой святочнасці.

Сярод вядомых дзеячаў аддзела неабходна адзначыць Сакрата Яновіча, многагадавых яго старшынь Уладзіміра Навіцкага, Кастуся Масальскага, Уладзіміра Куршаля, Рыгора Скарынкевіча, Аляксандра Кунаха, нязменнага штатнага работніка Кастуся Хлябіча і іншых.

Варшаўскі аддзел БГКТ праводзіў цікавыя формы клубнай працы, дастасаваныя да зацікаўлення моладзі, якая навучалася ў сталічных вузах. Дзейнічаў хор, дыскусійны клуб, ладзіліся вечарыны, аўтарскія сустрэчы, фотавыстаўкі, выстаўкі мастацтва. Пры аддзеле існавала бібліятэка, кнігазбор якой папаўняўся з ахвяраванняў насельніцтва і БССР.

Многа гадоў старшынямі аддзела былі Юры Бусловіч і Юры Туронак, тут дзейнічалі дырэктар «Бэтэскі» Пятро Ластаўка, мастак Янка Анісэровіч, старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі Хведар Галёнка, наш вядучы пісьменнік Аляксандр Баршчэўскі і штатны работнік аддзела паэт Віктар Швед. Праўленне аддзела ўзорна арганізавала навагоднія балі, вечарыны ў Доме савецкай культуры і іншыя гарадскія мерапрыемствы.

Аддзел БГКТ у Гайнаўцы, маючы найбольшую базу дзейнасці ў насельніцтве, заснаваў каля 70 гурткоў таварыства, якія аб'ядноўвалі 2 320 членаў, гэта значыць каля 35 % ад ліку ўсёй арганізацыі, і праводзіў з імі работу. Дзякуючы ім пашырыў колькасць аматарскіх калектываў, навучанне беларускай мове, чытальніцтва «Нівы», удзел насельніцтва ў грамадскіх пачынах пры пабудове дарог, вясковых крамаў і клубаў. Ролю гурткоў БГКТ у асяроддзі мы ацэньвалі па-рознаму, але нейкае актывізуючае ўздзеянне яны мелі, хаця самі патрабавалі сталай апекі.

Сярод найбольш актыўных дзеячаў аддзела трэба адзначыць яго старшыню Васіля Дзуна, старшыню тагачаснага павятовага праўлення саюза гандлю «Самапомач хлопска» Кастуся Майсеню, Мікалая Самоціка, настаўнікаў Аляксандра Іванюка, Аляксандра і Аляксея Харкевічаў, Яўгена Гарустовіча, маладзёжных дзеячаў Кастуся Ляшчынскага і Яўгена Янчука.

Менш эфектыўную дзейнасць апошніх аддзелаў БГКТ характарызаваць няма патрэбы. Яе формы паўтараліся, але кожнае асяроддзе мела нейкую ўласную спецыфіку працы. Напрыклад, аддзел у Мілейчыцах згуртаваў невялікі актыў, але ён склаў найвялікшую скансалідаваную сілу ў гміне. Сяргей Крэйза, Янка



Вішанка, Анатоль Касцюк, Анатоль Мартыновіч, штатны работнік Міхась Вішанка наладзілі працу ў сваім асяроддзі, аднак не пашырылі яе на раён Сямяцічаў і Мельніка. Прэзідыум ГП у той час таксама не звярнуў належнай увагі на гэты недахоп.

Праўленне Сакольскага аддзела, старшынёй якога быў Аляксандр Рафаловіч, было амбітнае на месцы, але ў гушчу беларускага насельніцтва каталіцкага веравызнання ішло рэдка, толькі пры нагодзе арганізавання канцэртаў эстрады «Лявоніха» і кінааглядаў.

Найменшай арганізацыйнай адзінкай БГКТ быў гурток. Адны з іх вызначаліся ў асяроддзі значнай актыўнасцю, іншыя хутка замíралі. Універсальная канцэпцыя гуртка не была выпрацавана, незалежна ад прысвечаных яму пленумаў і дыскусій у «Ніве». Усё ж існавала тэндэнцыя да павелічэння іх ліку.

Колькасць гурткоў і членаў БГКТ у паасобныя гады паказвае табліца:

| 1960 | | 1962 | | 1964 | | 1966 | | 1969 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| гурткоў | членаў | гурткоў | членаў | гурткоў | членаў | гурткоў | членаў | гурткоў | членаў |
| 119 | 3395 | 146 | 3903 | 155 | 4646 | 159 | 5499 | 190 | 6500 |

Колькасць гурткоў і членаў прыкметна ўзрастала ў часе справаздачна-выбарных кампаній, а пасля ў выніку міграцыі насельніцтва ў гарады зноў змяншалася. Да сёння пытанне застаецца без адказу, ці гурткі з'яўляюцца дапамогай для арганізацыі, ці цяжарам. Тады яны існавалі як яе пачатак, для якога хацелася працаваць.

Беларускае таварыства мела на сваю статутовую дзейнасць скромныя бюджэтныя сродкі (каля 1,5 млн злотых) і невялікія даходы з уласных мерапрыемстваў. За іх адказвалі штатны старшыня, а пасля — сакратар і бухгалтар. Мне трэба было зрабіць план работы ГП, а ім — знайсці фінансавае забеспячэнне яго рэалізацыі. Апошняе не заўсёды ўдавалася. Міністэрства ўнутраных спраў доўга кансультавала нашыя патрэбы з ваяводскімі ўладамі і пасля часта абмяжоўвала датацыі. Найбольш паспяхова бараніла бюджэтныя прэлімінары галоўны бухгалтар Галена Мялешка.

У БГКТ стала вяліся дыскусіі аб патрэбе павелічэння фінансавых сродкаў на статутовую дзейнасць. Абнадзейваць пачало стварэнне прамыслова-гаспадарчага прадпрыемства, пасля названага «Бэтэска». Да бюджэту таварыства ўнесла яно ў 1959 годзе першыя 200 тысяч злотых, праз год — адзін мільён, што складала каля паловы яго бюджэту. Першыя асігнаванні належна выкарыстаць прэзідыуму ГП не ўдалося таму, што МУС залічвала іх да бюджэту БГКТ, але на такую ж суму памяншала свае датацыі. Пасля выявілася магчымасць непасрэднага фінансавання праз «Бэ-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

тэску» акрэсленых мерапрыемстваў грамадска-культурных арганізацый. Выкарыстаць гэтую форму дапамогі давялося хіба толькі адзін год. Першага лютага 1963 года загадам прэм'ера Польшчы гаспадарчая дзейнасць усіх нацыянальных таварыстваў была спынена. Сапраўды, у большасці названых арганізацый яна перажывала заняпад, але ў БГКТ пачынала толькі квітнець. У 1962 годзе трывалая маёмасць «Бэтэскі» дасягнула вартасці каля 6 мільёнаў злотых, а атрыманы даход дазволіў яе дырэктару П. Ластаўцы скласці абяцанне, што зможа для БГКТ уносіць па два, а можа і тры, мільёны злотых кожны наступны год. Дзяржаўныя датацыі станавіліся непатрэбныя. На адным пасяджэнні прэзідыума ГП абмяркоўвалася магчымасць адмовы ад дзяржаўных датацый, хаця ўсе мы разумелі, што на гэта МУС не згодзіцца. «Бэтэску» бясплатна далучылі да кааператыўнага ваяводскага аб'яднання ў Беластоку, на базе якога арганізавана кааператыўнае прадпрыемства з захаваннем назову «Бэтэсца». Закончыліся мары аб заможнай будучыні нашай арганізацыі.

МУС добра ведала аб адмоўных адносінах усяго нашага асяроддзя да загаду прэм'ера. Таму ў канцы 1962 года, напярэдадні выхаду старшыні ГП Лідзіі Бялецкай на пенсію, былі мы абое запрошаны ў міністэрства. Наш візіт спалучалі са зменай старшыні. Але дырэктар Дэпартамента фінансаў МУС паведаміў нам аб ліквідацыі гаспадарчай дзейнасці, «да кіравання якой мы не пакліканы. Неабходныя фінансавыя сродкі на статутовую дзейнасць далей забяспечыць МУС».

Адразу ўзяла голас узбураная Л. Бялецкая. Пачала яна ўсіх страшна лаяць, сароміць, выкрываць немарксісцкі шаблонны падыход да гаспадарчай дзейнасці таварыстваў, падрыванне даверу да ўлады, а для яе, як адказнай за гэты адрэзак наладжанай працы, — гэта падлажэнне свінства на адыход. Затым я прасіў вытлумачыць прычыну загаду ліквідацыі «Бэтэскі». Ці ёсць сэнс дыскутаваць, калі ўжо наложаны яжоўскія рукавіцы. Некалькі прысутных не разумела гэтага звароту, але хутка ўсё было ясно. Мы атрымалі не менш, чым выказалі самі. На рэалізацыю загаду прэм'ера не мела гэта ніякага ўплыву. Разышліся мы дрэнна.

Пасля пераняцця «Бэтэскі» да мяне з'явіліся новыя ўласнікі дзеля абмеркавання супрацоўніцтва. Паводле дагавору, таварыства мела атрымліваць да 10 % даходу, калі агульны сход працаўнікоў «Бэтэскі» прыме такую пастанову. Так сапраўды было першыя некалькі гадоў. БГКТ запрашала працаўнікоў у сваё памяшканне, давала канцэрт «Лявоніхі», а сход выдзяляў па меры магчымасці крыху грошай. Пасля працаўнікі пачалі забывацца аб радаводзе прадпрыемства, пастановы не прынялі, і нашы кантакты спыніліся.

МУС сапраўды пакрысе павялічвала наш бюджэт. На працягу пяці гадоў узрос ён з 1,2 млн да 1,8 млн злотых у год. Улічваючы



інфляцыйныя працэсы, нашы фінансавыя ўмовы прыкметна не палепшыліся. Уласныя даходы міністэрства заўсёды ўключала ў бюджэт БГКТ. Былі яны не малыя. Сягалі 200—300 тысяч злотых у год. Прыносілі іх уступныя аплаты на імпрэзы ў памяшканнях ГП, канцэрты эстрады «Лявоніха», кінафільмы, продаж выданняў БГКТ і іншае.

### БГКТ і надзіраючыя ўлады

Усе грамадскія арганізацыі шасцідзесятых гадоў былі юрыдычна падпарадкаваны Міністэрству ўнутраных спраў. Паколькі БГКТ засяроджвала сваю працу на Беласточчыне, непасрэдны надзор над ім меў Аддзел унутраных спраў ВРН у Беластоку. Пры нагодах яны не забываліся нас аб гэтым паведаміць, але вернападданства на каленях не патрабавалі, а я да гэтага не меў схільнасці. У цэлым адносіны да арганізацыі работнікаў МУС адпавядалі мне больш чым мясцовых чыноўнікаў ВРН, асабліва тых гора-беларусаў, якія ўсяго баяліся. Не прыпамінаю фактаў, каб прадстаўнікі МУС накідвалі нам нейкія напрамкі дзейнасці або падважвалі сэнс праводзімых мерапрыемстваў. Часта падкрэслівалі заангажаванне ўсёй меншасці ў пачынанні народнай улады ў Польшчы і рысы талерантнасці да сваіх непрыхільнікаў. Некаторыя падказвалі, як павялічыць лік узнагарод, экскурсій школьнікаў у цэнтральную Польшчу, ніколі не праводзілі кантролю мерытарычнай дзейнасці БГКТ. Затое фінансавыя кантралёры наведвалі таварыства кожныя два гады, дэталёва спраўджвалі фінансавыя дакументы, не сцвярджалі негаспадарнасці, але адзначалі заўсёды мізэрныя даходы з уласнай дзейнасці. Прычына была ўсім вядомая — хацелася захаваць максімальна нізкую аплату за ўступ на ўсе імпрэзы, але дабіцца ў іх найвялікшага ўдзелу ўсяго насельніцтва.

Суадносіны паміж БГКТ і Аддзелам унутраных спраў ВРН у Беластоку, які лічыўся абеларушаным, склаліся не так ужо добра. Яго кіраўнік Антоні Рошка не любіў дзеячаў таварыства, якія калісьці яму ў чымсьці запярэчылі. Ніколі не акрэсліў сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Яго намеснік Ілья Федаровіч — адзін з арганізатараў БГКТ і член яго ГП — пра сваю арганізацыю забыўся. Любіў пры нагодзе заўважыць, што нам перашкаджаць не будзе, а дапамагаць? Непасрэдна адказны за працу нацыянальных меншасцей Мікалай Куц мяняў да іх адносіны ў залежнасці ад абставін даволі часта, а ў нецвярозым стане па некалькі разоў, і нават нацыянальную прыналежнасць. Было невядома, чаго ад яго спадзявацца. Адзін раз выказваў зразуменне і дапамогу, а другі — шкодзіў. Працаўнік уліку насельніцтва таго ж аддзела Аляксей Казёл — былы арганізатар БГКТ і першы сакратар яго ГП — адносіўся да арганізацыі з комплексам незычлівасці. Можна сабе



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ўявіць адносіны іншых работнікаў ВРН да пачынанняў БГКТ. На вялікую зычлівасць і дапамогу спадзявацца было нельга. Здаецца, што тут захрасала большасць нашых ініцыятываў.

### БГКТ і палітычныя партыі

Пытанняў суадносін БГКТ да палітычных партый шасцідзесятых гадоў, у тым ліку асабліва да ПАРП, нельга залічваць да яшчэ адной з формаў залежнасці ці надзору. Нашы кантакты былі больш ажыўленыя, чым з МУС, дзеянні больш смелыя і шчырыя. Праблема зводзілася да таго, ці яе паасобныя работнікі падтрымліваюць нашы імкненні да гаспадарчай інтэграцыі пад варункам супрацьдзеяння ўсялякім працэсам асіміляцыі, да якіх дзеячы таварыства адносіліся з пагардаю. Асімілятарскіх дзеянняў у Беластоцкім ускраінным ваяводстве было многа, а супрацьдзеянні гэтай негатыўнай з'яве, апрача БГКТ, не праводзіліся. Дзеячы таварыства абвінавачвалі ў гэтым ПАРП і маласвядомых у нацыянальных пытаннях беларусаў, якія ўжо тады станавіліся кан'юнктуршчыкамі або рэнегатамі.

Кантактаў з Цэнтральным камітэтам ПАРП амаль не было. Яго прадстаўнікі ўдзельнічалі толькі ў з'ездах, палымяна выказваліся аб дасягненнях народнай улады, высока ацэньвалі працу таварыства, і на гэтым кантакты канчаліся. Некалькі разоў удзельнічаў я ў пасяджэннях Нацыянальнай камісіі пры ЦК ПАРП, але нейкіх сур'ёзных вырашэнняў набалелых пытанняў я не прыпамінаю.

Больш ажыўленыя кантакты ўтрымліваліся з Ваяводскім камітэтам ПАРП у Беластоку. Справа не толькі ў манапалізацыі партыяй вырашэнняў асноўных пытанняў грамадскіх арганізацый, у тым ліку БГКТ, а можа нават асабліва БГКТ, і не ў маіх сімпатыях ці антыпатыях да ПАРП, якой быў членам. Пераважная большасць дзеячаў БГКТ належала да партыі і ў дзейнасці таварыства шукала працягу сваёй грамадскай актыўнасці, задавальнення ад працы на яго карысць. Усе мы лічылі, што пасляваенныя суадносіны ПНР і СССР, спалучаныя адной мэтай пабудовы сацыялізму, з'яўляюцца зваротным перыядам у гісторыі адносін да баларускага народа. Ніхто не ўяўляў сабе нават частковага павароту да метадаў езуіцкай уніі Рэчы Паспалітай і Літвы, русіфікацыі беларускага і польскага насельніцтва пасля падзелаў Рэчы Паспалітай ці палітыкі нацыянальнага прыгнёту санацыйных улад міжваеннага перыяду на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Імкнуцца да ізаляцыі ад ПАРП, у якой мелі апору свайго існавання, было неразважна, азначала траціць давер у сваіх дзеячаў. Дзейнасці таварыства не адабрала большасць польскага насельніцтва.

Работнікі Ваяводскага камітэта ў справы таварыства не ўмешваліся. Можа, крыху больш станоўча жадалі запазнання іх



перад з'ездамі з прадугледжанымі зменамі ў статуце і асабовым складзе ГП. Калі мелі засцярогі, прапанавалі справы яшчэ раз абмеркаваць на прэзідыуме. Паасобныя культурна-асветныя мерапрыемствы не ўзгадняліся. БГКТ ніколі не наведаў першы сакратар ВК Аркадзь Лашэвіч, што мы ацэньвалі не найлепш. У пасяджэннях прэзідыума часта прымалі ўдзел запрошаныя работнікі ВК ПАРП, а на пленумах — сакратары або кіраўнікі аддзелаў.

За дапамогай у камітэт хадзілі ў выпадку ігнаравання мясцовымі ўстановамі беларускай спецыфікі або парушэння сужыцця насельніцтва. Праблематыка таварыства знаходзілася ў веданні Адміністрацыйнага аддзела. Яго кіраўнік Уладзіслаў Канстанчук, чалавек скромны,добра разумеў спецыфіку працы БГКТ, разам з намі цешыўся з дасягненняў і перажываў няўдачы. Прыкладаў яго прыхільнасці да арганізацыі можна было б прывесці многа.

З сакратарамі Ваяводскага камітэта ПАРП даводзілася сустракацца рэдка. У тагачаснага першага сакратара А.Лашэвіча давялося быць на працягу дзесяцігоддзя ўсяго некалькі разоў. Першы раз ён сам запрасіў да сябе дзеля праінфармавання аб дзейнасці БГКТ пасля адыходу У.Станкевіча, а таксама, каб пачуць аб супрацоўніцтве з новым старшынёю Л.Бялецкай. Апошняя сустрэча, ізноў па яго жаданні, адбылася пасля адмаўлення, каб мяне вылучалі трэці раз на пасаду сакратара ГП. Набліжаўся пяты з'езд таварыства, а кандыдата на маё месца не было. Сакратар гаварыў аб няўдзячнай працы, але ў складзеных абставінах запрапанаваў згадзіцца застацца на папярэднім становішчы чарговыя тры гады. Выбару ў мяне не было. Але зараз лічу згоду памылкай. Былі гэта гады бездапаможнай працы ў БГКТ, асабліва з боку «Нівы», і падрыхтоўкі дысертацыі. У далейшай гутарцы аб працы таварыства мы не гаварылі. Сакратар быў занепакоены ненармальнай атмасферай самаканспірацыі беларускага гарадскога насельніцтва, якой ад яго ніхто не жадаў. Лічыў неабходным абмеркаванне праблемы на пасяджэннях партыйных арганізацый на прадпрыемствах, на нарадах у паветах, прадбачваў нават скліканне пленарнага пасяджэння ВК, прысвечанага нацыянальнай праблематыцы, але нічога не зрабіў. Паводле слоў П.Кізевіча, пабаяўся пагрозаў першага сакратара ЦК ПАРП У.Гамулкі, якому даносілі аб нацыяналістычнай яго дзейнасці на Беласточчыне. Пагрозаў баяліся нават першыя сакратары.

Насцярожана адносіўся я да сакратара прапаганды Вітальда Мікульскага, напамінаў ён мне маленькага дыктатара, калі ўжываў звароты «я зраблю, я анулюю, я адкіну» і гэтак далей. Лічыў, што такімі сцвярджэннямі застрашыць работнікаў і дзеячаў БГКТ, а можа нават членаў ПАРП у беларускім асяроддзі. Гэта праўда, што акрэсленыя статутам і партыяй рамкі дзейнасці тава-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

рыства мы парушалі, некаторым функцыянерам гэта не падабалася. Але іх паводзіны былі таксама часта скандальнымі.

Па ініцыятыве супрацоўніка «Газеты Бяластоцкай» Васіля Баршчэўскага ў 1967 годзе адбылася ў Беластоку канферэнцыя журналістаў Польшчы. Паводле іх жадання першы дзень быў прысвечаны азнаямленню з нацыянальнай спецыфікай Беласточчыны. Інфармацыя работніка ВК ПАРП В.Гулько была аб'ектыўнай і ў некалькіх месцах падкрэслівала добрае сужыццё рознанацыянальнага насельніцтва. Але гэтага ў іншых раёнах Польшчы не было. У прысутных з'явіліся сумненні, і нехта прапанаваў, каб на іх пытанні адказвалі прадстаўнікі таварыстваў, што і было зроблена.

Усіх нас папраўіць вырашыў ізноў сакратар В.Мікульскі. Прычына была вядома. Таму я зрабіў нататку, якая захавалася. Вось яе скарочаны змест (у перакладзе) : «Гэта праўда, што беларускае асяроддзе было ў перыяд народнай улады крыніцай здабычы партыйных, міліцэйскіх і іншых кадраў. Гэта мабільнае насельніцтва, дружная грамадскасць. З часам колькасць насельніцтва зменшылася з прычыны ўзмацнення міграцыйных і асіміляцыйных працэсаў. Тыя, хто сапраўды лічаць сябе беларусамі, выехалі ў 1945/46 гадах у БССР(?). Моладзь адыходзіць з сельскай гаспадаркі ў гарады з прычыны неўраджайнасці глебы, вёска старэе. Рэгіёну гэтаму пагражае залешванне... Афіцыйна БССР нацыянальных таварыстваў не прызнае і, калі прадстаўнікі хочуць там дзейнічаць, выступаюць у ролі актывістаў ТППР.

Орган ГП «Ніва» існуе дзесяць гадоў і мае 7-тысячны тыраж, гэта найбольш. Для інтэлігенцыі яна нецікавая, а для сялян — малапрыдатная. Адсюль яе кароткае існаванне ў будучыні(?).

Хацеў я яшчэ выказацца, але не атрымаў дазволу. Уручыў толькі ўдзельнікам апошні нумар «Нівы» і беларускія календары ГП на 1967 год, што выклікала зразумелае зацікаўленне. Журналісты акружылі мяне і пачалі закідваць пытаннямі: чаму між інфармацыямі прадстаўнікоў улад і нацыянальных таварыстваў ёсць такія значныя разыходжанні, ці не баюся я іншага інтэрпрэтавання фактаў, колькі ўсё ж ёсць беларусаў на Беласточчыне і гэтак далей. Адказваў доўга і ўрэшце знерваваўся.

Накіраваўся ў Адміністрацыйны аддзел ВК ПАРП, перадаў змест выступлення сакратара і запытаў: дакуль мы будзем цярпець тэндэнцыйнае дэзінфармаванне грамадскасці (зараз прадстаўнікоў прэсы з усёй краіны) аб дзейнасці БГКТ, «Нівы», гістарычных фактах і слухаць тварэнні нейкіх апакаліптычных з'яў для беларускіх асяроддзяў, за надыход якіх сам сакратар В. Мікульскі быў бы вінаваты.

Затое, як на іронію, у «Ніве» 1967 года № 6 з'явілася пасля аўтарызаваная вестка, што сакратар звярнуў перад усім увагу на



аб'ектыўныя працэсы, інтэгруючыя нацыянальныя меншасці ў Польшчы з агульнадзяржаўным арганізмам. Калі стварэнне ўмоў «залясення» тэрыторыі і ўпадку «Нівы» можна залічыць да інтэграцыі — дык згода.

Практыка разбівання еднасці дзеячаў БГКТ у час розных пасяджэнняў, а пасля пры дапамозе журналіста «Нівы» Віктара Рудчыка змяшчэння ў прэсе пахвальных одаў паўтаралася даволі часта.

Сярод працаўнікоў партыйнага апарату на ўзроўні тагачасных паветаў зычлівымі адносінамі да БГКТ вылучаўся сакратар Гайнаўскага камітэта ПАРП Мікалай Самоцік. Ураджэнец вёскі Ляшукі таго ж павета, па прафесіі настаўнік, былы школьны інспектар, а многа гадоў пасля — старшыня ГП, належаў да дзеячаў арганізацыі. Прымаў удзел у пасяджэннях праўлення аддзела, наведваў гурткі, дапамагаў у зборы экспанатаў для Беларускага музея ў Белавежы, дбайна адносіўся да дзеячаў таварыства, пашырэння навучання беларускай мове ў школах Гайнаўшчыны і гэтак далей.

Даволі прыхільна адносіўся да арганізацыі сакратар Ян Дзенісюк з Саколкі праз канкрэтнае стаўленне спраў, Язэп Трусевіч з Беластока, Юзэф Пехоўскі з Бельска. Але пераважная большасць была пасіўнай. Ахвотна глядзела выступленні «Лявоніхі» або прысутнічала на аўтарскіх сустрэчах, і ўсё на гэтым абрывалася. Перашкод у нашай працы яны не ставілі.

Напрамкі нацыянальнай палітыкі на Беласточчыне фарміраваў Ваяводскі камітэт ПАРП. На сваіх пасяджэннях яны разглядаліся рэдка. У шасцідзесятыя гады толькі адзін раз, 20 сакавіка 1965 года, былі мы — старшыня ГП Міхась Хмялеўскі і я — запрошаны на пасяджэнне Экзекутывы ВК ПАРП. Ацэньвалася праца нацыянальных таварыстваў. У той час БГКТ налічвала 4843 члены, літоўскае ГКТ — 1252 члены, аддзел украінскага ТСК — 400 членаў, аддзел яўрэйскага ТСКЖ — 56 членаў і гурток Рускага таварыства (членаў не выказаў).

Беларускае таварыства ацэнена вельмі карысным з увагі на шырокі абсяг працы і яе многанапрамкавасць. Сярод недахопаў найцяжэйшым прызнана дапушчэнне да заняпаду калектыву песні і танца ГП. Былі пытанні, на якія абодва мы адказвалі. У дыскусіі першымі, як заўсёды, выступілі «інтэрнацыяналісты», у сапраўднасці — барацьбіты з беларускасцю, якая на Беласточчыне складала ў нацыянальных пытаннях асноўную праблему.

Сакратар прапаганды Вітальд Мікульскі ва ўступе заўважыў, што генеральнай памылкай БГКТ ёсць стасаванне ў працы іншасці —беларускай спецыфікі, памылковае разуменне патрэб навучання беларускай мове, ігнараванне аб'ектыўных працэсаў асіміляцыі сярод беларускай меншасці, адкідванне крытыкі сваіх памылак, да-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

пушчэнне да ўпадку аматарскага руху, які трэба падпарадкаваць радам нарадовым. Не падтрымаў ён таксама існавання штатнай эстрады «Лявоніха»: лепш мець восем інструктараў для гурткоў мастацкай самадзейнасці; выказаў заўвагу аб спадзе папулярнасці «Нівы». Яе «рэдагаванне — гэта забава, якая прыносіць у год каля аднаго мільёна злотых страты, і таму трэба пераўтварыць яе ў двухтыднёвік». Адкінуў патрэбу ўдзелу БГКТ у выбарах у сейм і рады нарадовыя.

Не ведаю як усім прысутным, але мне здалася зусім змрочнай будучыня БГКТ, і гэта ў кабінетах Ваяводскага камітэта ПАРП.

Старшыня камісіі Ваяводскага партыйнага кантролю ПАРП Юзэф Зюлкоўскі з націскам падкрэсліў, што БГКТ не можа дзейнічаць са шкодай для Польскай Народнай Рэспублікі, а тым самым пасрэдна і для беларускага насельніцтва. Яно ўжо моцна ахоплена асіміляцыйнымі працэсамі і перашкаджаць яму ў гэтым нельга. У ніякім выпадку не можна ўводзіць абавязку навучання роднай мове, асабліва ў нацыянальна змешаных асяроддзях, таму што гэта — форма прымусу.

Намеснік старшыні ВРН Ежы Зентара прызнаўся, што ён вельмі слаба ведае працу БГКТ. Але мае засцярогі, ці не выкліча таварыства, будучы дапушчаным да ўдзелу ў выбарах, двухнапрамкавасці дзеянняў.

Сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП па справах сельскай гаспадаркі Станіслаў Кудла, якога ў свой час моцна рэкламавала «Ніва» як эксперта (без адукацыі), падкрэсліў, што колькасна таварыства не расце, а, значыць, памірае. Частка насельніцтва не жадае ніякіх форм яго дзейнасці (?). Слаба яно таксама ўздзейнічае на сялян.

Прысутны на пасяджэнні кіраўнік Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП Уладзіслаў (Уладзімір) Канстанчук не пагадзіўся з большасцю доказаў. Прывёў многа прыкладаў дасягненняў БГКТ, якія ў параўнанні з іншымі нацыянальнымі таварыствамі, не маючымі такіх шырокіх магчымасцей дзеяння, выглядаюць імпазантна. Да недахопаў ён аднёс спыненне дзейнасці калектыву песні і танца, які існаваў пры ГП, а таксама слабую працу вясковых гурткоў і невялікі прырост ліку членаў БГКТ.

Я не толькі згаджаўся з яго заўвагамі, але быў яму глыбока ўдзячны за аб'ектыўную ацэнку нашай працы, чаго ў папярэдніх выступленнях не адчуваў.

З іншых прысутных ніхто не выступіў. Мы, аднак, ведалі, што некаторыя з іх паўсходнеславянскай генеалогіі і нядрэнна адносяцца да БГКТ у іншых абставінах. Разлічвалі на іхнюю моцную падтрымку, але для іх выгадней было прамаўчаць. Відаць, былі ўпэўнены, што арганізацыя да касацыі яшчэ не прызначана.

Адказваць на закранутыя пытанні давялося мне. Адчувалася,



што першы сакратар ВК ПАРП Аркадзь Лашэвіч чакаў моцнага адказу, асабліва на некаторыя наіўныя, неаб'ектыўныя ацэнкі. Спачатку я указаў на неразуменне ролі беларускага таварыства ў асяроддзі. Не згадзіўся ні з «генеральнай яго памылкай», што беларуская спецыфіка з'яўляецца асноўным статутовым заданнем таварыства, ані з іншымі закідамі сакратара В. Мікульскага. Нідзе ў працы не сцвярджаем катастрафізму. Хочам утрымаць эстраду «Лявоніха», улічваючы яе папулярнасць, просім аб аказанні дапамогі ў арганізаванні прафесіянальнага інструктажу для гурткоў, пакінуць «Ніву» штотыднёвікам, каб чытачы не блыталі тыдняў, у якія трэба будзе шукаць яе ў продажы, а таксама разгледзець удзел БГКТ у выбарах. Не згадзіўся з абвінавачваннем арганізацыі ў шкоднай дзейнасці БГКТ на некарысць краіны.

Дыскусію коратка падсумаваў першы сакратар ВК ПАРП Аркадзь Лашэвіч, які звярнуў увагу на патрэбу пошуку новых форм дзейнасці, супрацоўніцтва з існуючымі ўстановамі і арганізацыямі: «Да часткі пастулатаў існуе ўзгодненае становішча, — гаварыў Лашэвіч, — і мяняць яго не будзем. «Ніва» застанецца штотыднёвікам, незалежна ад упамянутага дэфіцыту, а ўсе зацікаўленыя хай шукаюць спосабы яго змяншэння. Падтрымліваем намаганні арганізацыі рэгіянальнага музея, абяцаем у гэтым дапамогу, зацікавімся магчымасцю павелічэння радыёперадач на беларускай мове. Не падтрымліваем спроб стварэння завочнага напрамку беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце, няма такіх кадравых патрэб. Усе іншыя пастулаты будуць разгледжаны пасля». Прасіў прадстаўнікоў БГКТ не адчуваць сябе эмігрантамі на Беласточчыне і не бачыць у сакратару В. Мікульскім «беларусажэрцу». (Акрэсленне празмерна вострае, але беларусаненавідцам ён быў.) Прынамсі, так успамінае яго многа дзеячаў БГКТ і Беластоцкага політэхнічнага інстытута, дзе ён быў ініцыятарам «адбеларусчвання». На развітанне большасць прысутных моцна сціскала нам, прадстаўнікам БГКТ, рукі, на што мы абодва пасля звярнулі ўвагу. Але прызналі гэта за слабую дапамогу арганізацыі і свайму шэфу А. Лашэвічу. На пасяджэнні мы абараніліся, але нічога новага не здабылі.

* * *

Беларускае таварыства не ўтрымлівала амаль ніякай сувязі з сялянскай партыяй і арганізацыяй дробных уласнікаў. У беларускіх асяроддзях былі яны вельмі слабыя. Супольна правялі некалькі конкурсаў, а ў вёсках разам дзейнічала два ці тры гурткі.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

### Супрацоўніцтва з культурна-асветнымі ўстановамі

Супрацоўніцтва з упамянутымі вышэй дзяржаўнымі ўстановамі і грамадскімі арганізацыямі, якія займаліся культурна-асветнай дзейнасцю, было неабходна. У галіне культуры для многіх установаў былі мы нядрэннымі партнёрамі, а ў галіне асветы — надаедлівымі спадарожнікамі.

Патрэбы БГКТ з прыемнасцю абмяркоўваліся з тагачасным кіраўніком аддзела культуры ВРН Францішкам Стачкоўскім. З невялікіх фінансавых сродкаў ён патрапіў выдзеліць частку на набыццё народных беларускіх касцюмаў, інструменты, арганізацыю курсаў для кіраўнікоў мастацкіх самадзейных гурткоў, каб складці нам падзяку за працу. Значна цяжэй праводзіліся гутаркі з дырэктарам ваяводскага Дома культуры Альфрэдай Раманоўскай, ад якой найчасцей дамагаліся мы інструктарскай дапамогі для самадзейных гурткоў, узбагачэння рэпертуару на беларускай мове і ўвядзення ў падлеглых павятовых Дамах культуры нацыянальнай спецыфікі ў працы, якая была крыху ў Бельску і ў Гайнаўцы.

Супрацоўніцтва са школьнымі ўладамі выразна дзялілася на тое, чаго нельга (увесці абавязак навучання беларускіх дзяцей іх роднай мове), і на тое, што магчыма (удасканаленне праграмы навучання беларускай мове, падрыхтоўку і імпарт з БССР школьных падручнікаў, дапаможнікаў, удасканаленне настаўніцкіх кадраў, развіццё кантактаў з «Нівай», выкарыстоўванне яе, і асабліва дадатку для дзяцей «Зорка», на лекцыях, супольным правядзенні метадычных канферэнцый, конкурсаў). Частка закранутых пытанняў вырашалася лёгка, а некаторыя з вялікімі цяжкасцямі. Складвалася ўражанне, што да беларускай праблематыкі і дзейнасці БГКТ тагачасныя куратары, спачатку Чэслаў Лойка, а пасля мой калега па навуцы ў педагагічным ліцэі Эдвард Крыньскі, адносіліся прыхільна. Але на працягу дзесятка гадоў у куратарыі ніколі не працаваў візітатарам (інспектарам) беларускай мовы беларус. Найвялікшым аўтарытэтам быў візітатар Ян Канапелька, чалавек сумленны, працавіты, шануемы настаўнікамі роднай мовы, але без аўтарытэту ва ўладах. Ім зверху маніпуляваць было лёгка. Вядома, што ўсе кіруючыя асветай установы Польшчы былі рашуча супраць увядзення абавязку вывучання роднай мовы. У беларускім асяроддзі прытрымліваліся яны ў гэтым недапушчальнага прымусу, а ў нацыянальна-змешаных — пакрыўджання дзяцей іншых нацыянальнасцей.

Нашы вопытныя педагогі слушна падкрэслівалі памылковасць у такіх думках. Настаўнікі маюць абавязак выкарыстання ад першага дня навукі ў школе роднай мовы. На ёй лягчэй можна знаёміць дзіцё з невядомай яму польскай мовай. У наступных гадах навукі



роднyю мову трэба захаваць як прадмет. Тых дзяцей, якія не карысталіся беларускай мовай у дашкольным узросце, трэба пачаць навучаць ёй з другога, а можа нават чацвёртага, класа. Я да сённяня не разумею, у чым памылковасць гэтага вядомага ў педагогіцы прынцыпу?

Ніколі не змаглі мы наблізіць улады да вырашэння абавязку навучання дзяцей роднай мове. Нашы намаганні часта канчаліся скандаламі. У 1962 годзе разам з сакратаром Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП у Беластоку У. Сянкевічам апрацавалі мы праект пастановы з чарговага пасяджэння, у якой упёрся я дадаць пункт аб абавязку навучання беларускай мове хаця б у старэйшых класах пачатковай школы. На пасяджэнні ўзнялася хваля абурэння, асабліва ў працаўнікоў беластоцкай куратары. Раззлаваныя куратар Ч. Лойка і яго намеснік С. Роман безупыннымі атакамі толькі гэтага пытання змарнавалі цэлае пасяджэнне. Іншыя іх не цікавілі. У атмасферы з'едлівай дыскусіі кіраўнік настаўніцкага прафсаюза (ЗНП) Я. Яніцкі дайшоў да высноваў аб неабходнасці абмежавання навучання роднай мове на ўзроўні пачатковай школы. «У сярэдніх школах яна ўжо не патрэбная», — закончыў ён сваё выступленне.

Адчувалася незадавальненне многіх прысутных. Але найбольш прыкры адказ аб нягоднасці рэпрэзентаваць ЗНП дала яму Л. Бялецкая.

Уздзеянню БГКТ на бацькоў у напрамку пашырэння беларускай асветы школьныя ўлады не перашкаджалі. Нашы дзеячы наведвалі школы, праводзілі на гэтую тэму гутаркі перад канцэртамі «Лявоніхі» і кінафільмамі, прысутнічалі на школьных урачыстасцях і канферэнцыях. Дапамогай была арганізацыя таварыствам школьных экскурсій старым аўтобусам у Белавежу, Беласток, Варшаву і іншыя мясцовасці, перадача ў школьныя бібліятэкі кніжак на беларускай мове, арганізацыя аўтарскіх сустрэч. Нейкія эфекты гэтае супрацоўніцтва давала.

Не ўдалося нам пашырыць навучанне беларускай мове на поўнач ад ракі Нарвы. У многіх школах яно вялося, але для невялікага ліку дзяцей, а пасля пачаўся яго павольны заняпад.

Вяршыняй навучання роднай мове была палова шасцідзесятых гадоў. Існавала яно ў 34 пачатковых школах з назвай «беларускія» і 140 школах з дадатковым навучаннем як прадмета. Разам навучалася ў іх 11,5 тысячы вучняў з агульнага ліку на гэтай тэрыторыі каля 17 тысяч школьнікаў. У двух агульнаадукацыйных ліцэях навучалася 580 вучняў і ў беларускіх класах Педагагічнага ліцэя ў Бельску — 190 будучых настаўнікаў. Апрача гэтага, у Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку на аддзяленні беларускай мовы было 40 слухачоў, а пры кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта — каля 50 студэнтаў.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Поспех навучання беларускай мове ва ўсіх тыпах школ залежаў ад волі настаўнікаў. Дзеці не любяць дадатковых прадметаў, трэба іх заахвочваць усімі вядомымі сродкамі.

Плённым было супрацоўніцтва БГКТ з ваяводскім праўленнем Таварыства польска-савецкай дружбы ў Беластоку. Частка іх дзейнасці адпавядала статутовым заданням нашага таварыства. Але ТППР мела значна шырэйшую базу дзеяння. Яно атрымлівала з СССР бясплатна мноства кінастужак, фотавыставак, кніжак, падпісвала дагаворы аб абмене мастацкімі калектывамі, вопытам пісьменнікаў, вучоных і нават рабочых паасобных прамысловых прадпрыемстваў. Адчужанасць з такой арганізацыяй нельга было сабе дазволіць. Адчувалася ў народзе перакананне, што ўрэшце дачакаліся мы часу шчырых добрасуседскіх суадносін у галіне міжнароднай палітыкі і гаспадарчага супрацоўніцтва. Даволі часта супольна арганізоўвалі вечарыны, экскурсіі, конкурсы.

Крыху інакш склаліся адносіны з ваяводскім камітэтам Фронту адзінства народа ў Беластоку, да якога мы ў нейкай ступені былі залічаны надзіраючымі ўладамі. У штодзённай працы супрацоўніцтва не было. Кантакты па іх ініцыятыве ажыўляліся ў перыяд перадз'ездаўскіх ці перадвыбарных кампаній. Прадстаўнікі БГКТ, асабліва ў паветах, былі прыцягнуты да ўдзелу ва ўсіх работах: выбарчых пасяджэннях, камісіях, у абслугоўванне вясковых гурткоў. На ніжэйшых іерархічных адзінках работа гэтая была цікавая і карысная для арганізацыі. Аднаўляліся кантакты з насельніцтвам. За дапамогу нас хвалілі.

Але ў ваяводскім Беластоку мы ніколі не атрымалі згоды на ўвядзенне ў выбарчыя спіскі кандыдатаў БГКТ на радных, а тым больш на паслоў у Сейм Польшчы. Адказ быў узгоднены: беларусы, якія заслугоўваюць такога даверу, знойдуцца на выбарчых лістах Фронту адзінства народа. Адмоўныя рашэнні абмяркоўваліся даволі часта на прэзідыумах і пленумах ГП у прысутнасці прадстаўнікоў уладаў, але на крытыцы ўсё канчалася.

Пасля выбараў старшыня ваяводскага праўлення ўпамянутага Фронту Станіслаў Юхніцкі зноў быў нашым прыхільнікам, прыходзіў на канцэрты самадзейных калектываў, сяброўскія сустрэчы і вельмі цешыў нас сваім сакольскім акцэнтам польскай мовы «адбэндзе сень» (адбудзецца). Як узор прастаты мне ён падабаўся. Я быў упэўнены, што аб нашым удзеле ў выбарах вырашалі іншыя ўстановы.

Намагаліся мы ўтрымліваць сталае супрацоўніцтва з маладзёжнымі арганізацыямі. У працы БГКТ у вясковых асяроддзях моладзь тады яшчэ дамінавала. Адны належалі да Саюза сялянскай моладзі, іншыя — да БГКТ, але найчасцей былі членамі абедзвюх арганізацый. Розніца была ў тым, што беларускае таварыства магло нешта даць асяроддзю — кінафільм, канцэрт эстрады «Ляволіха», цікавую гутарку лектара — і нечага дамагацца ад моладзі. На жаль, дзеячы маладзёжных арганізацый гэтага не мелі, а да ўсяго былі дэзарыентаваныя падзеямі 1956 года ў Польшчы. Мы з іроніяй гаварылі, што іх ваяводскія інстанцыі змаглі вясковыя святліцы перайменаваць на клубакавярні, у якіх піццё кавы сталася абавязкам і праявай культурнай дзейнасці. Былі, аднак, гады супольнай арганізацыі фестываў, аглядаў самадзейных гурткоў, конкурсаў.





Удзельнікі справаздачна-выбарнага сходу літаб'яднання «Белавежа». 1970 г. Фотаархіў БГКТ.

Карысныя суадносіны склаліся паміж БГКТ і Домам савецкай культуры ў Варшаве, які быў падпарадкаваны Пасольству СССР. Усё пачаў Варшаўскі аддзел нашага таварыства з супольнай арганізацыі вечарын, абмену лектарамі, кніжкамі. Хутка ўсе гэтыя формы ўнаследавала ГП. Аставалася іх пашырыць, прыдаць супрацоўніцтву больш сістэматычны характар. Дом савецкай культуры, рыхтуючы фотавыстаўкі, хацеў ведаць, што іх заўсёды з вялікай падзякай прыме БГКТ і будзе экспанаваць яшчэ ў дзесятках святліц або ўстаноў усходняй Беласточчыны. Таму, будучы ў Варшаве, я лічыў сваім абавязкам сустрэцца з кіраўніцтвам Дома,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

падзяліцца сваімі дасягненнямі на базе атрыманай дапамогі і праінфармаваць аб прадбачваемых мерапрыемствах. Спачатку мы прасілі адну або дзве кінастужкі на некалькі месяцаў, фотавыстаўкі, крыху кніжак на беларускай мове. Усё атрымлівалі бясплатна. Кінафільмы арганізоўваў толькі гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку, дзякуючы пазычанай кінаапаратуры. Гледачы і шумлівая апаратура знаходзіліся побач. Найбольшую небяспеку складалі лёгказапальныя кінастужкі, накрытыя азбеставымі накрыццямі. Але нават такія ўмовы прыцягвалі многа сімпатыкаў савецкіх фільмаў у арыгінальнай версіі.

Падчас рамонту будынка ГП фільмы ўсё роўна дэманстраваліся ў Клубе будаўнікоў, а з другой паловы 1963 года — у БГКТ, але ўжо ў сваёй нармальнай кіназале. Знайсці на кожны тыдзень новую кінастужку было вельмі цяжка. Ваяводскае праўленне ТППР крыху іх атрымлівала, але мела сваю кіназалу і неахвотна пазычала іх для БГКТ з прычыны наяўнай канкурэнцыі. Беларускае таварыства, як крыніца беларускасці ў Беластоку, мела сталых гледачоў. Пры нагодзе фільмаў БГКТ магло яшчэ нечым іх зацікавіць.

У тым жа 1963 годзе купілі мы добрую імпартную (з ФРГ) пераносную кінаапаратуру, нам зайздросцілі ўсе кінамеханікі дзяржаўных кінаперасовак. Маючы дзве аўтамашыны, асабовую і мікробус «Ныса», фактычна стварылі надзейныя ўмовы працы для вясковага асяроддзя. Далей асноўную цяжкасць складаў недахоп савецкіх фільмаў. Крыху выкарыстоўвалі польскія фільмы з ваеннай тэматыкай. Пачалі яшчэ часцей прасіць у Доме савецкай культуры кінастужкі. Пераканалі хіба яго кіраўніцтва настолькі, што атрымалі нават згоду на выбар больш вядомых стужак, дастасаваных да напрамкаў нашых мерапрыемстваў. Аднойчы везлі з Кастусём Хлябічам дванаццаць поўнаметражных стужак і так перацяжылі аўтамашыну, што міліцыя затрымала нас на ўзбярэжжы сталіцы, агледзела багаж і не дазволіла далей з ім ехаць.

Калі мы інфармавалі Дом савецкай культуры, што ў сярэднім на працягу года дэманструем ад 150 да 200 фільмаў, усе паглядалі на нас недаверліва. Рэкорд дасягнуты ў 1967 годзе, у час святкавання 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі, — 270 кінасеансаў.

Некаторыя беларускія кінастужкі атрымлівалі на неабмежаваны час, а «Чырвонае лісце» прадэманстравалі каля 300 разоў, і так ужо гэта кінастужка засталася ў нас назаўсёды. Перад фільмамі праводзіліся кароткія гутаркі, прадаваліся выданні БГКТ, збіраліся складчыны. Удзень дэманстраваліся фільмы для школьнікаў, а ўвечары — для дарослых. Зразумела, не ўсё нам удавалася рэалізаваць. Часта не маглі даехаць да вёсак з прычыны бездарожжа або аварыі аўтамашын. Найбольшае абурэнне гледачоў выклікала выключэнне электраэнергіі ў час сеансаў, што тады было штодзён-





Польская дэлегацыя ТППР, у складзе якой М. Хмялеўскі, У. Юзвюк, А. Баршчэўскі, у Беларусі. 1964 г. Фотаархіў БГКТ.

най з'явай. Але замест падзякі атрымлівалі ад улад нездавальненне, што няправільна бяром аплату за ўступныя білеты, хаця ведалі аб яе сімвалічнасці, а таксама аб талерантнасці ў адносінах да дзяцей, вельмі пажылых сялян, настаўнікаў.

Кантакты з Пасольствам СССР у Варшаве абмяжоўваліся да запрашэнняў на з'езды і святкаванні вялікіх дзяржаўных гадавін. Такая афіцыйшчына добра бачылася зверху, а пераломліваць яе было небяспечна для арганізацыі.

Супрацоўніцтва беларускага таварыства з установамі ў БССР было абмежавана да мінімуму, а з партыйна-ўрадавымі ўстановамі не існавала зусім. Пры нагодзе розных індывідуальных візітаў наведвалі мы Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з заграніцай. Ад іх многія гады атрымлівалі бясплатна значную дапамогу: каля 90 газет і 119 часопісаў, у тым ліку «Літаратура і мастацтва», «Маладосць», «Полымя», «Работніца і сялянка», «Вожык», «Голас Радзімы» і некаторыя іншыя, а таксама кніжкі на беларускай мове. Спачатку іх распаўсюджваннем у краіне займалася БГКТ, а пасля непасрэдна — памянутае таварыства.

У індывідуальных кантактах з гэтай установай нам нешта перашкаджала. Нельга было выказваць крытычныя заўвагі аб сваёй краіне, яе адносінах да праблем нацыянальных меншасцей. Бачылася гэта, як спроба ўмешвання беларускіх улад у справы «дружа-



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

любнай Польшчы. Затое сустрэчы з паасобнымі грамадзянамі Беларусі былі вельмі зычлівыя, асабліва з беларускімі пісьменнікамі і настаўнікамі. Даволі часта давялося сустракацца з Рыгорам Шырмам, які адносіўся да Беласточчыны з асаблівай сімпатыяй, Нінай Каменскай, Генадзем Цітовічам, Мікалаем Раманоўскім, Уладзімірам Навіцкім і іншымі.

Прыгранічныя кантакты паміж Беластоцкім ваяводствам і Гродзенскай або Брэсцкай абласцямі таксама не існавалі. Раз або два разы выязджалі адзін да другога найбольш вядомыя аматарскія калектывы, нехта выпадкова трапіў у склад дэлегацыі, і гэта ўсё. Кантакты стрымліваліся з абодвух бакоў без акрэсленых прычын. З боку БГКТ і рэдакцыі «Нівы» варожых дзеянняў не было. Бацькаўшчыну мы цанілі незалежна ад таго, якія там дамінавалі грамадскія плыні, павучаць дзесяцімільённы народ не хацелі.

*Міхась ХМЯЛЕЎСКІ*

## Найважнейшыя мерапрыемствы БГКТ

З самага пачатку свайго існавання Беларускае грамадска-культурнае таварыства многа ўвагі ўдзяляе беларускаму аматарскаму руху, на базе якога арганізуе вялікія культурна-асветныя мерапрыемствы. Удзел у імпрэзе БГКТ пакідае добры адбітак у пачуццях людзей, уздымае іх нацыянальны дух, умацоўвае нацыянальную годнасць і свядомасць.

Да найбольшых і найважнейшых мерапрыемстваў належаць:

1. Конкурс-агляд «Беларуская песня».
2. Народныя беларускія фестыны.
3. Святкаванне Купалля ў Белавежы.
4. Свята беларускай культуры ў Беластоку.

Конкурсы-агляды самадзейных мастацкіх калектываў, якія праводзіліся да канца 80-ых гадоў, у БГКТ пачаліся ў 1958 годзе. Камісія па справах нацыянальных меншасцей пры ЦК ПАРП паведаміла у гэтым годзе, што ў пачатку чэрвеня ў Варшаве будзе праведзены агляд мастацкіх калектываў нацыянальных меншасцей. Гэты факт быў штуршком для БГКТ, каб у аддзелах арганізаваць элімінацыі і выбраць добрыя калектывы на цэнтральны агляд, а найлепшыя накіраваць на варшаўскі агляд. З таго часу кожны год праводзяцца агляды, адначасова беларускай песні і тэатральных калектываў. Напрыклад, самадзейнікі з Гарадка 27 лістапада 1960 года на цэнтральным аглядзе паказалі пастаноўку «Абразок з вясковага жыцця» і выканалі шэсць песень.

Нарастала патрэба раздзяліць гэты конкурс на два: конкурс-агляд тэатральных калектываў і конкурс-агляд беларускай песні.



### Конкурс-агляд тэатральных калектываў

У цэнтральным аглядзе тэатральных калектываў 31.03.1963 года ў Гайнаўскім Доме культуры «Гурнік» бралі ўдзел самадзейнікі: з Зубава — з п‘есай «Міхалка», з Паўлаў — з «Мікітавым лапцем», з Левак — з уласнай пастаноўкай «Здарэнне на кірмашы» — усе яны з Бельскага павета. Сямяціцкі аддзел прадстаўляла моладзь з Семіхочаў таксама з «Міхалкам», з Сакольшчыны — драмгурток з Новага Вострава з пастаноўкай «Суд», а з Беластоцкага павета самадзейнікі з Пянькоў прыбылі са спектаклем «10 гектараў».

Конкурсная камісія тамашняга агляду, якую меў я гонар узначальваць, моцна падкрэсліла добры мастацкі ўзровень. Вылучаўся сваім майстэрствам Віталь Байгуз з Новага Вострава.

У той час БГКТ праводзіла акцыю па заснаўванню новых гурткоў БГКТ. Кожны новаўтвораны гурток імкнуўся арганізаваць драмгурток і, добра падрыхтаваўшыся, выступіць не толькі ў сваёй вёсцы, але і ў суседніх, часам даволі далёкіх. Напрыклад, драмгурток з Паўднёвага Вострава (Сакольскі павет), які быў мною заснаваны, ездзіў фурманкамі за 10 км у Крушыняны і там паспяхова паставіў «Паўлінку», а славуты драмгурток з Гарадка пад мастацкім кіраўніцтвам Аляксандра Дзярманскага выступаў пасля павятовай канферэнцыі БГКТ аднаактоўкай К. Крапівы «Валодзеў гальштук». Таксама драмгурток з Паўлаў выступаў у Беластоку ў памяшканні ГП з «Валодзевым гальштукам». У той час добры мастацкі ўзровень прадстаўляў драмгурток са Скупава, што на Гайнаўшчыне. Яго мастацкімі кіраўнікамі былі настаўнікі Я. Навіцкі і М. Сакоўская.

У чэрвені 1965 года на Цэнтральным аглядзе ў Беластоку журы прысудзіла першае месца і найвышэйшую ўзнагароду (тэлевізар) драмгуртку з Белявіч Гарадоцкай гміны.

Шасцідзесятыя гады адзначаліся арганізаваным наступленнем БГКТ на нацыянальную непісьменнасць. Усімі магчымымі сродкамі прывівалася пашана да беларускасці. У дзейнасць БГКТ актыўна ўключаліся настаўнікі ў сваіх асяроддзях, ваяводскія і павятовыя аддзелы культуры.

Беларускае таварыства, пераадольваючы кадравыя цяжкасці (не хапала спецыялістаў па мастацкай самадзейнасці), пры належным прапагандаванні на старонках «Нівы» мастацкіх калектываў патрапіла разгарнуць мастацкую самадзейнасць з беларускім рэпертуарам, змагло дабіцца зруху ў культурным жыцці. Тады была спрыяльная атмасфера ў мясцовых і цэнтральных улад да гэтых дзеянняў.

Пагоршыліся адносіны з боку цэнтральных улад у 70-ыя гады, павеяла ад іх дыскрымінацыяй. Але гэтага не адчувалася ў



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

мастацкай самадзейнасці, калі не лічыць таго факта, што быў ліквідаваны эстрадны калектыў «Лявоніха». Значных дасягненняў дабіліся драмгурткі. І каб падкрэсліць іх значэнне, сталі ў БГКТ называць іх тэатральнымі гурткамі альбо тэатральнымі калектывамі.

Беларускія тэатральныя калектывы пачалі ставіць інсцэніроўкі на ваенныя тэмы, апрацоўваць і нават перакладаць на беларускую мову творы польскіх аўтараў. З ваеннай тэматыкі, апрача пастаноўкі «Валодзеў гальштук» К. Крапівы, паявіліся новыя драмы, звязаныя з другой сусветнай вайной.

Выдзяляўся ў гэтым тэатральны калектыў з Паўлаў Бельскага павета і яго таленавіты кіраўнік настаўніца беларускай мовы Валянціна Мароз-Амельянюк. Самадзейнікі гэтага калектыву да слёз узрушалі людзей пастаноўкай «Валодзеў гальштук». Яшчэ больш хвалюючай была пастаноўка п'есы па кніжцы «Таптаная зямля» польскай пісьменніцы Марыі Шулецкай (пра трагедыю суседняй вёскі Райск). Там 149 чалавек мужчынскага полу немцы расстралялі, а ўсіх іншых жыхароў выгналі з вёскі, усе будынкі яе спалілі разам з царквой, а пажарышча і вуліцы зааралі.

Валянціна Мароз патрапіла выбраць з кніжкі ўсе тыя моманты і маналогі, якія найбольш яскрава адлюстроўвалі трагедыю людзей, пераклала іх на беларускую мову, інсцэніравала і сама выканала найтрагічнейшую ролю маці. Спектакль нельга было глядзець спакойна, раўнадушна, без патрасення. Найлепшымі былі, апрача яе самой, Лявон Харытанюк і Кацярына Харытанюк у сваёй кароткай, але вельмі адметнай ролі.

Валянціна Мароз пераклала на беларускую мову і твор польскага пісьменніка Леона Кручкоўскага «Немцы», у якім многа патрасаючых момантаў. Гэта таксама можна сказаць і аб п'есе «Было гэта ў 41-ым» Васіля Быкава, якую паўлаўцы падрыхтавалі на цэнтральны агляд тэатральных калектываў.

Да выдатных належыць тэатральны калектыў з Гарадка. Мае ён вялікія заслугі ў песенным і ў тэатрыльным руху. Многа сыграных п'ес на яго рахунку. Але найбольшую славу яму прынесла «Адвечная песня» Янкі Купалы ў інсцэніроўцы Ніны Мушынскай. Высокае сцэнічнае майстэрства паказала яна, а таксама Ніна Цыванюк і іншыя. На працягу 40 год гарадоцкія самадзейнікі здзейснілі столькі рознага роду пастановак і адспявалі столькі песень, што колькасці іх не далічыцца. На цэнтральных аглядах яны заўсёды ўдзельнічаюць.

У 70-ых гадах нашыя самадзейнікі часта выступалі з пастаноўкамі, заснаванымі на народнай творчасці, звязанай з былымі традыцыйнымі звычаямі, якія ўжо памерлі альбо паміраюць. Гэтая цяга да фальклорных пастановак была вельмі відавочная на трох чарговых цэнтральных аглядах.



У 1978 годзе тэатральны калектыў з Меляшкоў Беластоцкага павета пад кіраўніцтвам настаўніцы Зінаіды Літвін падрыхтаваў уласны спектакль «Нядзеля ў вёсцы», а жанчыны з Арэшкава Гайнаўскага павета пад мастацкім кіраўніцтвам сваёй аднасяльчанкі Ніны Аверчук выступілі з бытавой пастаноўкай «Калі свята...»

Гэтыя самыя тэатральныя калектывы ў 1979 годзе на цэнтральным аглядзе прадставілі таксама фальклорныя пастаноўкі. Меляшкоўскія самадзейнікі паказалі «Адведкі», а арэшкаўскія — пастаноўку «Вясельны каравай».

У 1980 годзе ў катэгорыі фальклорных пастановак самадзейнікі з Дабрывады (Гайнаўскі павет) паказалі «Вечарынку», а аматары з Трасцянкі (таксама Гайнаўскі павет) — «Заручыны».

Тэатральны гурток Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім на раённых аглядах даволі часта займаў першыя месцы, і журы накіроўвала яго на цэнтральныя агляды тэатральных калектываў у Беластоку. У 1978 г. выступаў ён з п'есай «Не вер цішыні» І. Шамякіна, а ў 1989-ым — са спектаклем «Дарога праз ноч» М. Маўзона. Мастацкімі кіраўнікамі самадзейнікаў-ліцэістаў былі настаўніцы беларускай мовы Зінаіда Дэмянюк і Вера Рышчук. Роля іх у гэтай справе неацанімая. Дзякуючы іх працы стала магчымым абуджэнне зацікаўлення ў школьнікаў і моладзі да беларускага рэпертуару, да нашай беларускай нацыянальнай культуры.

Таксама было ў вёсцы Рыбалы, дзе праз шмат гадоў з дзяцьмі, моладдзю, з дарослымі працавалі Аляксандра Панасюк, а потым дырэктар школы Сяргей Філіпюк, які і сам дасканала выконваў ролі ў многіх п'есах.

Вялікія заслугі ў развіцці мастацкай самадзейнасці мае таксама былы штатны супрацоўнік ГП БГКТ, вядомы танцор з «Лявоніхі» Янка Крупа. Пад яго мастацкім кіраўніцтвам працаваў доўгі час тэатральны гурток гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, які на цэнтральных аглядах — конкурсах драмгурткоў заўсёды атрымліваў высокую ацэнку журы. Апрача таго, Я. Крупа быў штатным інструктарам ГП, наведваў многія гурткі і дапамагаў ім у сцэнічным майстэрстве.

У канцы васьмідзесятых гадоў пачала змяншацца колькасць драмгурткоў з прычыны недахопу штатаў і дапамогі ім з боку ГП БГКТ.

У той час паявіўся новы від сцэнічнага слова — тэатр паэзіі «Парнас» пад кіраўніцтвам Янкі Морданя з Бельска Падляшскага. Высокую ацэнку атрымаў ён ад конкурсных камісій цэнтральных аглядаў у 1986 і 1987 гадах.

На жаль, колькасць драматычных калектываў у вёсках з кожным годам змяншалася, і засталося іх зусім мала, таму



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

цэнтральныя агляды тэатральных калектываў БГКТ ужо доўгі час не праводзяцца.

У такой сітуацыі БГКТ выйшла ў беларускае асяроддзе з новымі формамі тэатральнай дзейнасці: конкурсамі «Сцэнічнае слова» і «Агляд абрадавых калектываў».

Першая форма сучасная, зацікавіла перад усім моладзь сярэдніх школ, з года ў год развіваецца, прымае ў ёй удзел штораз больш выканаўцаў, а ўзровень становіцца штораз вышэйшы.

Агляд абрадавых калектываў БГКТ арганізуе супольна з Нарвянскім асяродкам культуры ў Нарве. Гэтае мерапрыемства паказвае нам багацце старажытных абрадаў: вяселля, хрысцін, кудзельніц-вячоркаў, дажынак і г. д.

## Конкурсы беларускай песні

Кожны народ любіць свае народныя песні. Любяць іх і беларусы. Але беларуская народная песня стала знікаць, замянілі яе песні рускія і польскія. Вось узнікла неабходнасць прывіваць любоў да ўсяго роднага, да беларускага мастацтва, у тым ліку і песеннага. Гэтай справе ГП БГКТ стала адводзіць больш увагі ад самага пачатку свайго існавання. Пры ГП быў утвораны ў чэрвені 1956 года калектыў песні і танца. Пасля з яго ў 1960 годзе выдзелілася эстрадная група «Лявоніха». Раўналежна дзейнічаў хор у Гарадку са сваім славутым трыо ў асобах Ніны Мушынскай, Ніны Цыванюк і Аляксандры Яроцкай, арганізоўваліся хоры пры аддзелах БГКТ. Названыя калектывы праслаўлялі беларускую песню, асабліва «Лявоніха», якая за час свайго існавання (1960—1972) дала 2007 канцэртаў ва ўсіх мястэчках, большых вёсках Беласточчыны і стала папулярная нават за яе межамі.

У тыя часы мастацкая самадзейнасць у беларускім асяроддзі была з'явай масавай, набывала штораз большае значэнне.

Пакуль дамінавалі ў мастацкай самадзейнасці драмгурткі, першыя цэнтральныя агляды ГП праводзіла для драмгурткоў, а песня была дадаткам да гэтых элімінацый. Праўда, ГП БГКТ у кастрычніку 1963 г. правяло конкурс на беларускую песню, у якім удзельнічала 13 чалавек. Але гэты конкурс меўся ўпрыгожыць толькі вечарыну, прысвечаную Кастрычніцкай рэвалюцыі, яе мастацкую частку.

27 чэрвеня 1965 г. у ГП БГКТ адбыўся першы конкурс на беларускую песню. Адной з яго мэтаў быў выбар салістаў у эстрадны калектыў «Лявоніха». Мэта была дасягнута. Найлепшым выканаўцам аказалася Люба Сахарчук з Паўлаў, якая была прынята ў «Лявоніху».

Першы сапраўдны цэнтральны агляд-конкурс з дапрацаванымі правіламі ГП БГКТ правяло 7 чэрвеня 1970 года. Меў ён назву



Агляд конкурсаў «Беларуская песня-70». З паасобных аддзелаў прыняло ў ім удзел 32 асобы. Але, нягледзячы на параўнальна невялікую колькасць удзельнікаў, запачаткаваў ён вялікія мерапрыемствы, якія сталі пазней найважнейшымі ў дзейнасці БГКТ.

У наступным годзе лік удзельнікаў падвоіўся. Раённыя конкурсныя камісіі адабралі ўжо 70 чалавек, а ў цэнтральным аглядзе ўдзельнічала 125 выканаўцаў.

Агляд выявіў багацце разнастайнага рэпертуару, здольнасці нашых самадзейнікаў у адкрыванні новых твораў, самастойным стварэнні балад і збіранні фальклору, запісванні яго ад сваіх бабуль. Тым самым не дапускалі, каб загінулі беларускія народныя песні.

На гэтым конкурсе выключна сучасныя беларускія песні выконвалі: Марыя Пракапюк з Беластока «Песню пра крыніцу», словы А. Астрэйкі, музыка І. Кузняцова, і «Развітанне» на словы мясцовай дзеячкі З. Стаськевіч і ў яе музычным афармленні. Ізноў Б. Младзяноўскі з Беластока праспяваў «Летнюю ночку купальную» на словы С. Шушкевіча, музыку Ю. Семянякі і ўласную кампазіцыю да слоў А. Барскага — «Ты недзе ёсць». Вера і Марыя Манцюк з Рагачоў Сямяціцкага павета ў дасканалым выкананні запрапанавалі «Мяцеліцу» на словы А. Дзеружынскага, музыку В. Шумілы і іншыя.

Актэт з Гарадка ў суправаджэнні акампаніятара С. Копы ў катэгорыі калектываў выканаў прыемную ўласную кампазіцыю «Родны край» і лірычны твор «Явар і каліна» на словы Я. Купалы, музыку Ю. Семянякі.

Па адной песні, народнай і сучаснай, спявалі дуэты: Яўгенія Якімюк і Ніна Салавей, студэнткі Вышэйшай настаўніцкай студыі ў Беластоку. Выканалі яны папулярную песню «Ручнікі» і народную «Як я была мала», а Ірына Кардаш і Ірына Паўлючук — «Белую хусцінку» на словы А. Дзеружынскага, музыку В. Ахрыменкі і народную, з ваколіц Гарадка, «Ой, пайду я, выйду». Людміла Рыбак і Вольга Самоцік — вучаніцы Беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім у суправаджэнні маладзёжнага музычнага ансамбля «Рэлакс» з гэтага ж ліцэя выканалі песні «Дубок» і народную «Камарыкі». Актэт з Бельска Падляшскага (у катэгорыі калектываў) выканаў песні: А. Шыдлоўскага «Паляцелі ў вырай жураўлі» і народную — «Біла жонка мужыка».

Выключна народныя песні спявалі: салістка з Баброўнікаў Беластоцкага павета Зося Цацэрка— «Ой, зязюленька» і «Ой, месячэ»; Анна Стахвіюк з Трасцянкі — «Кум да кумы заляцаўся» і «Над ракою быстраю»; а Ніна Мушынская з Гарадка — твор родных мясцін «Балада аб Зосі». Гарманіст Уладзімір Назарка зЦіванюкоў Беластоцкага павета праспяваў дзве народныя песні са



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

сваіх ваколіц — «Прымакі» і «Зося», а Мікола Краўчук з Патокі Беластоцкага павета выканаў народную баладу са сваіх ваколіц і створаную ім самім «Баладу пра нешчаслівае каханне Галіны і Янкі».

Усіх песень з агляду «Беларуская песня-72» немагчыма прадставіць, але і названыя дастаткова поўна характарызуюць змест песеннага рэпертуару конкурсу.

Наступныя агляды былі падобныя на праведзены ў 1972 годзе. Праз даўжэйшы час будуць на іх дамінаваць народныя, фальклорныя песні. Каштоўным з'яўляецца і тое, што народная песня мае прадаўжальнікаў не толькі сярод самадзейнікаў старэйшага пакалення, але і сярод моладзі, уваходзіць у рэпертуар перадавых нашых харавых калектываў. Напрыклад, Варшаўскі калектыў у цэнтральным аглядзе конкурсаў «Беларуская песня - 74» выступіў толькі з народнымі песнямі — «Зязюля» і «Юрачка», а калектыў з Дубяжына выканаў — «Ой, казаў мне бацька» і «Нясе Галя воду».

Папулярнасць аглядаў «Беларуская песня» і зацікаўленне імі ўзрасталі з кожным годам. Павышаўся мастацкі ўзровень, удасканальваўся арганізацыйны бок і метады ацэнкі самадзейнікаў. Пачаткова тры месцы журы прысуджала найлепшым выканаўцам. Пасля быў уведзены падзел на сучасныя і фальклорныя песні, але надалей прызнавалася па тры месцы найлепшым спевакам. Зацікаўленне конкурсамі беларускай песні вельмі хутка развівалася. У раённых аглядах прымалі ўдзел дзесяткі выканаўцаў, агляды станавіліся вялікімі беларускімі святамі. Трэба было удасканальваць правілы конкурсу. Уключаліся тры катэгорыі песень: фальклорныя аўтэнтычныя, фальклорныя апрацаваныя і сучасныя беларускіх кампазітараў, пачынаючы ад салістаў і канчаючы харавымі калектывамі. Трэба сказаць, што кожны агляд меў свае асаблівасці.

Пачаткова цэнтральныя агляды адбываліся на працягу аднаго дня. З раніцы да падвячорка ішоў агляд калектываў. Працягваўся ён 6—8 гадзін, а пасля журы выходзіла на нараду. Пакуль прызнавала яно месцы і ўзнагароды, некалькі гадзін адбываліся выступленні самадзейнікаў. Яны паказвалі свой рэпертуар па-за дзвюма абавязковымі конкурснымі песнямі.

Было гэта вельмі цяжка, і таму неабходным сталася праводзіць цэнтральны агляд на працягу двух дзён. У першы дзень — агляд-конкурс, а ў наступным — два канцэрты лаўрэатаў.

Пачаткова цэнтральныя агляды адбываліся ў памяшканні ГП БГКТ, пазней — у кінатэатры прафсаюзаў «Форум». Апошні раз там адбыўся наш цэнтральны агляд у 1986 годзе, ён быў прысвечаны XXX гадавіне БГКТ і «Нівы». Праходзіў вельмі ўрачыста. Прыбыло больш за 200 самадзейнікаў, сярод іх 14





У час цэнтральнага агляду «Беларуская песня-1981» у Беластоку. Фотаархіў БГКТ.

салістаў, 17 малых і 18 вялікіх калектываў. Першыя месцы ў паасобных катэгорыях занялі: у групе салістаў Міхась Артышэвіч з Кляшчэляў, Валянціна Мароз з Бельска Падляшскага, Надзея Грыцук з Навасёлкаў (гміна Гарадок), Люба Гаўрылюк з Беластока, Анна Аліфер са Старога Ляўкова (гміна Нараўка), Ірына Макац і Аля Дубец з Беластока, Юры Налівайка з Гарадка, Уршуля Іванюк і Аляксандр Петручук з Гайнаўкі, Ірына і Анна Макац з Беластока, Лідзія Янчук і Галіна Карбоўская з Беластока.

З калектываў малых: трыо з Бельска, дуэт Люба Гаўрылюк, Аля Дубец з Беластока; старэйшы вакальна-музычны калектыў з Дубін і малодшы музычны калектыў з Дубін (Гайнаўка), мужчынскі квартэт «Звон» з Беластока, жаночы калектыў з Дашоў і калектыў з Гданьска. З вакальных калектываў: мужчынскі з Рыбалаў, з Гарадка, жаночы з Чаромхі, мужчынскі з Гайнаўкі, змешаны і жаночы з Гайнаўкі, з Нараўкі і са Старога Ляўкова, з Орлі, харавыя калектывы: «Дзявочыя ноткі» з Бельскага беларускага ліцэя, з Беластока, бельскія «Васілёчкі» і хор Гайнаўскага Дома культуры.

Назаўтра, г. зн. 2 сакавіка 1986 г., у гэтай жа зале, дзе



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

праходзіў агляд калектываў, адбыўся ўрачысты пленум, прысвечаны 30-годдзю БГКТ і «Нівы». Прыбыло шмат прадстаўнікоў улад і арганізацый. Пасля пленума адбыўся канцэрт лаўрэатаў «Беларуская песня-86».

Цэнтральны агляд конкурсу «Беларуская песня-87» адбыўся 28 лютага ў зале Беластоцкай філармоніі. У ім бралі ўдзел калектывы, якія на раённых аглядах занялі першыя месцы. Два канцэрты лаўрэатаў «Беларускай песні-87» адбыліся 1 сакавіка 1987 года. З прамоваю там выступіў кампазітар з Гродна Аляксандр Шыдлоўскі, песні якога выконваюць нашыя самадзейнікі. На заканчэнне канцэртаў паказаў сваё майстэрства ансамбль народнай музыкі «Лявоны» з Воранава, што на Беларусі. У двух канцэртах лаўрэатаў «Беларуская песня-89» выступаў калектыў песні і танца «Крыніцы» з Ашмян, таксама з Беларусі. Гэты цэнтральны агляд і гала-канцэрты адрозніваліся ад іншых тым, што ў іх дамінавала моладзь.

Конкурс «Беларуская песня» з кожным годам развіваецца. Прыбывае многа новых выканаўцаў (асабліва моладзі), павышаецца іх мастацкі ўзровень. Удасканальваецца арганізацыйны бок гэтага мерапрыемства. Зацікаўленне конкурсам стала павялічвацца настолькі, што месца ў зале Беластоцкай філармоніі аказалася замала, хаця арганізоўваліся ў ёй па два перапоўненыя публікай канцэрты лаўрэатаў.

Штораз больш жыхароў Беластока і ўсёй Беласточчыны трактуе канцэрт лаўрэатаў і гала-канцэрты як адну з найлепшых нагод да сустрэчы з беларускай песняй. Адчуваецца гэта асабліва ў апошнія гады, калі ў заключных канцэртах апрача лаўрэатаў конкурсу выступаюць прафесіянальныя калектывы з Беларусі.

Год 1994-ы ў арганізацыі конкурсу «Беларуская песня-94» стаўся гістарычным. Конкурс праходзіў у вялікай спартыўнай зале клуба «Влукняж» («Тэкстыльшчык»), якая змяшчае некалькі тысяч гледачоў.

Гэты год быў юбілейным: 25 год арганізацыі конкурсу. Высокая ацэнка яго мастацкага і арганізацыйнага ўзроўню з боку міжнароднай конкурснай камісіі, шматтысячнай публікі, а таксама ўлад і гасцей, якія прымалі ўдзел у канцэртах, дала арганізатарам падставу для таго, каб конкурс «Беларуская песня» падняць да рангу фестывалю.

Так, 25-ы конкурс-агляд стаўся першым агульнапольскім фестывалем «Беларуская песня».

На гала-канцэрт прыбыло больш трох тысяч гледачоў, а таксама дастойныя госці: А. Малахоўскі — віцэ-маршалак Сейма Польшчы і У. Цімашэвіч — тады яшчэ намеснік прэм‘ер-міністра, архіепіскап Беластоцка-Гданьскай епархіі Сава, П. Краўчанка — міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь, а таксама В. Гайсёнак — міністр адукацыі, А. Бутэвіч — міністр культуры і інфармацыі, У. Гілеп — намеснік міністра культуры, У. Сянько — пасол РБ у Польшчы і іншыя.



Адкрываючы гала-канцэрт, старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі падкрэсліў ролю і значэнне фестывалю ў развіцці беларускай свядомасці, беларускай культуры ў Польшчы. Вялі канцэрт сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч і намеснік дырэктара аддзела культуры абласнога савета ў Гродне Віктар Губіч.

Выступленні самадзейнікаў успрымаліся эмацыянальна, з гарачымі апладысментамі. У ходзе канцэрта спонсары ўручалі лаўрэатам узнагароды. На заканчэнне выступіў калектыў «Бліскавіца» з Беларусі.

Як заўсёды, канцэрт закончыўся ўзрушальным відовішчам. Усе выканаўцы выйшлі на сцэну і развіталіся з гледачамі вядомай песняй «Люблю наш край, старонку гэту», якая ў беларускім асяроддзі набыла ролю гімна. Усе ўсталі і многія разам з харыстамі спявалі. Хвіліны хвалюючыя. А пасля доўгія апладысменты раздаліся і са сцэны і ў зале. Непаўторная, незабыўная хвіліна!

Гэтаксама было і падчас гала-канцэрта II фестывалю «Беларуская песня-95» 26 лютага, толькі яшчэ мацней праяўляўся незвычайны сардэчны настрой і святочнасць. Ён быў удастоены патранатам Уладзімежа Цімашэвіча, тады яшчэ віцэ-маршалка Сейма, які выступіў з падзякай самадзейнікам, а таксама ўручыў узнагароды найлепшым выканаўцам песень. Апрача лаўрэатаў агляду выступілі 3 калектывы з Мінска: «Сябры», «Купалінка» і Ансамбль народных інструментаў.

Агульнапольскі фестываль «Беларуская песня» — гэта не толькі адно з найбольшых культурных мерапрыемстваў на Беласточчыне, ён вядомы ў нашай краіне і за яе межамі. Пра гала-канцэрт III агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-96» чытайце ў артыкуле Я. Сычэўскага.

### Народныя фестыны

Народныя фестыны, якія наладжвае БГКТ пры дапамозе мясцовых улад і арганізацый, з‘яўляюцца масавымі мерапрыемствамі. Увайшлі яны ўжо ў традыцыю і ўведзены ў каляндар дзейнасці нашай арганізацыі.

На фестыны прыбывае па некалькі тысяч чалавек, нават з далёкіх мясцовасцей, бо гэта своеасаблівае, выключна нацыянальнае свята, насычанае родным словам, музыкай, песнямі і танцамі. Як правіла, афіцыйная частка пачынаецца прывітальным словам гаспадароў, выступленнем прадстаўніка БГКТ, затым ідзе мастацкая частка, часам яшчэ адбываюцца рознага роду спаборніцтвы, а пасля народныя гулянні.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Эстрадная група ГП БГКТ «Лявоніха». 1964 г. Фотаархіў БГКТ.

Беларускае таварыства праводзіць народныя фэсты з 1961 года, ад святкавання пятай гадавіны свайго існавання. Першы такі фестын адбыўся 1 чэрвеня ў Рыбаках, што ў Беластоцкім павеце. З дакладам выступіў тады сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк, а ў мастацкай частцы — эстрада «Лявоніха», самадзейнікі з Пянькоў, Міхалова, Баршчэва і Семяноўкі. У праграме гэтай урачыстасці была таксама забава на падрыхтаванай пляцоўцы.

У Рыбаках народныя фестыны сталі адбывацца кожны год у першую нядзелю ліпеня. У праграме іх бывалі рознага роду конкурсы: беларускай песні, спаборніцтвы матацыклістаў, пажарнікаў, паказ моды, конкурс ведаў аб БГКТ і іншыя. Фестын у Рыбаках заўсёды карыстаўся вялікім зацікаўленнем насельніцтва навакольных вёсак. У 70-ых гадах у гэты дзень у Бандарах, Луцэ, Слабодцы, Рудні амаль у кожнай хаце былі госці, а здаралася ў Рыбаках і так, што не было каму пагнаць кароў на пашу нават за значную грашовую плату (пасвілі па чарзе).

Фестыны БГКТ адбываліся ў сувязі з дзяржаўнымі святамі, але найурачысцей праходзілі яны з нагоды гадавін БГКТ. Вось, напрыклад, у Арэшкаве 23 мая 1976 года на школьным пляцы сабралася больш за тысячу чалавек. Адкрыў урачыстасць начальнік Гайнаўскай гміны Юры Буйноўскі, які ў сваёй прамове падкрэсліў значэнне юбілейнай даты БГКТ, заслугі вёскі ў



развіцці сельскагаспадарчай вытворчасці і заслугі арэшкаўскіх жанчын у развіцці самадзейнасці. З дакладам аб дваццатай гадавіне Беларускага грамадска-культурнага таварыства выступіў старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі журналіст Міхась Хмялеўскі.

Затым на сцэну падняліся арэшкаўскія школьнікі, якія выканалі па некалькі беларускіх, рускіх і польскіх песень. А паміж песнямі яны выступалі з вершамі. Дэкламавалі даволі добра. Асабліва ўзрушылі гэтыя дэкламацыі нашага паэта Віктара Шведа, вершы якога прадстаўлены былі і ў песні і ў дэкламацыі. Пасля школьнікаў выступіла мясцовая жаночая фальклорная група, якая за свае старадаўнія песні атрымала шмат гарачых апладысментаў. Многа сардэчнага смеху выклікала мясцовая капэла з Гайнаўкі, якая пад сваю музыку спявала вясёлыя, сатырычныя і народныя песні.

Захапіў сваім мастацтвам калектыў песні і танца з Белавежы, які падрыхтавалі А. Лукашук і харэограф Я. Крупа. Музычны калектыў гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку іграў перад мастацкай часткай, пасля яе заканчэння, у перапынках і нават тады, калі адбываліся спартыўныя спаборніцтвы.

Спаборнічалі паміж сабою жанатыя і нежанатыя, а пасля хлопцы з дзяўчатамі. Надвячоркам пачалася танцавальная вечарына.

Арэшкаўскія жанчыны датуль не адпускалі запрошаных прадстаўнікоў з Гайнаўкі і Беластока, пакуль не пачаставалі сваёй кулінарыяй. Іван Скепка з гмінных улад высока ацаніў выхаваўчы нацыянальны змест фестыну, а старшыня ГП Мікола Самоцік — высокі арганізацыйны яго ўзровень. Альжбета Цэглярская падкрэсліла развіццё культурнай дзейнасці ў беларускім асяроддзі.

Народныя фестыны добра папулярызуюць беларускае слова і песню, музыку і танцы, паказваюць прыгажосць нашай культуры, заахвочваюць да ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці моладзь і старэйшых людзей, значна злагоджваюць вялікае грамадскае запатрабаванне на духоўную нацыянальную справу.

Народныя фестыны БГКТ арганізоўваліся і ў гадавіны Перамогі над фашызмам, і ў гадавіны Войска Польскага, а таксама ў юбілейныя даты беларускіх пісьменнікаў.

Вось, напрыклад, у Дубяжыне (Бельскі павет) 25 чэрвеня 1970 г. фестын быў прысвечаны 25-ай гадавіне Перамогі над Германіяй, на ім выступіў з дакладам Мікола Гайдук, старшыня Бельскага аддзела БГКТ. З багатай мастацкай часткі самадзейнікаў прысутныя на фестыне вынеслі многа прыемных уражанняў.

Фестын у Збучы (на Гайнаўшчыне) тамашні аддзел БГКТ арганізаваў пры дапамозе павятовых улад і арганізацый, а таксама гмінных улад у Чыжах, з нагоды Дзён Савецкай Беларусі ў Польшчы і 30-ай гадавіны Войска Польскага. У лясочак, які



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Гарадоцкі калектыў БГКТ. Фота Я. Целушэцкага.

завуць там «Грабняк», прыбыло вельмі многа людзей. Адкрыў урачыстаць начальнік гміны Мікола Ляўчук. З дакладам выступіла дзеяч мясцовага аддзела БГКТ Надзея Даніловіч. Мастацкая частка складалася з выступленняў хораў з Гарадка і Белавежы. Кожны нумар праграмы ўзнагароджваўся доўгімі апладысментамі.

Арганізатары фестыну наладзілі віктарыну «Згадуй-згадуля» аб Савецкай Беларусі і аб БГКТ. Вялікай папулярнасцю карыстаўся «Мікрафон для ўсіх». З песнямі выступалі многія ўдзельнікі фестыну. Наладжаны былі таксама спартыўныя спаборніцтвы ЛЗС і мясцовых пажарнікаў. Кніжны кіёск з выданнямі БГКТ таксама карыстаўся поспехам. Закончыўся фестын вялікай забавай і сяброўскім спатканнем арганізатараў з запрошанымі гасцямі.

11 ліпеня 1982 года пад лозунгам 100-ай гадавіны з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа адбыўся беларускі фестын у Гарадку. З дакладам выступіў старшыня ГП БГКТ Мікола Самоцік, а ў мастацкай частцы спявалі калектывы з Тыневіч Вялікіх, Нарвянскай гміны, Курашава, што ў Чыжоўскай гміне, і хор з Гарадка.

Штогадовыя народныя фестыны Сямяціцкі аддзел БГКТ арганізоўваў пераважна ў вёсцы Літвінавічы на праваслаўную Тройцу, супольна з ЗСЛам, у сувязі з Днём селяніна. А гэта таму, што актыў БГКТ складаўся ў асноўным з тых самых людзей.



У 1986 годзе БГКТ святкавала свой юбілей (30-годдзе), і з гэтай нагоды была арганізавана супольная ўрачыстасць з ЗСЛам. Яна была добра падрыхтавана і сталася вялікай культурнай падзеяй у тамашнім раёне. Вёску ўпрыгожылі сцягамі, а сцэну абставілі высокімі бярозкамі. Адкрыў урачыстасць прадстаўнік гміннага праўлення ЗСЛ у Нурцы Сяргей Путка, затым намеснік старшыні ГП БГКТ Янка Зенюк уручыў ганаровыя граматы дзеячам Беларускага таварыства гэтага раёна: Уладзіміру Баранчыку, Яўгену Іванюку, Анатолю Ляўчуку і Анатолю Хурсовічу. Сакратар ГП БГКТ Віталь Луба прачытаў даклад аб дасягненнях нашай культурна-асветнай арганізацыі ў Польшчы і яе далейшых заданнях.

Затым на сцэну падняліся самадзейнікі з пачатковай школы ў Вульцы Нурэцкай. У іх рэпертуары былі беларускія песні і п'еса Алеся Барскага «Гарадскія госці». Падрыхтавала школьнікаў настаўніца беларускай мовы Элеанора Баран. Пасля запаланілі ўсіх сваімі спевамі харысты з Гарадка і іх саліст Юрка Налівайка. Гарачымі апладысментамі ўспрымалася праграма хору БГКТ з Беластока.

Прысутныя выказвалі сардэчную падзяку арганізатарам гэтага мерапрыемства на чале з інструктарам БГКТ Міхасём Вішанкам, а таксама ўсім самадзейнікам. Прыбыўшыя з далёкіх мясцовасцей абяцалі і ў будучым прыязджаць на фестыны ў Літвінавічы. Для прыкладу, Васіль Мішчук жыве ў Варшаве, а Валянціна Тыханюк — у Беластоку, яны прыехалі спецыяльна на фестын для «асалоджвання душы роднымі песнямі і сцэнічным словам», гэта дапамагае ім не паддавацца асіміляцыі, не дапускае да страты нацыянальнай годнасці.

Пад лозунгам «70 год БССР» адбыўся народны беларускі фестын 18 чэрвеня 1989 года ў Гайнаўскім амфітэатры. Там старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі расказаў аб дасягненнях нашага суседа ў эканоміцы і грамадскім жыцці. У мастацкай частцы выступілі мясцовыя калектывы і госць са Злучаных Штатаў Амерыкі, беларускі танцавальны калектыў «Васілёк». Прысутныя на фестыне сардэчна ўспрымалі ўсе выступленні самадзейнікаў.

Народныя беларускія фестыны ў паасобных мясцовасцях даюць магчымасць людзям пабачыць беларускія калектывы, іх нацыянальныя прыгожыя касцюмы, пачуць родную мову і сваю беларускую песню.

Пачынаючы з 1993 года новае кіраўніцтва ГП БГКТ поўнасцю ўзяло ў свае рукі фестыны і наладжвае іх у кожнай гміне, дзе жывуць беларусы. У 1993 годзе было праведзена 8 фестынаў, а ў 1995 годзе было іх ужо 15. Змяніўся часткова і арганізацыйны стыль фестынаў. Старшыня ГП БГКТ Сычэўскі выступае з



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

кароткай прамовай, а сакратар Валянціна Ласкевіч вядзе канцэрт, інфармуючы прысутных аб дзейнасці паасобных калектываў і салістаў. У фестынах удзельнічаюць паслы ў Сейм Польшчы і іншыя дастойныя госці. Літаратары з аб'яднання «Белавежа» падпісваюць набыўцам свае кніжкі. Урачыстасць, як правіла, заканчваецца вядомай песняй К. Буйло «Люблю наш край, старонку гэту», якую людзі ўспрымаюць з вялікай павагай, быццам свой гімн, і падчас яе выканання ўстаюць.

У 1994 годзе давялося мне быць на фестыне ў Нарве, а ў 1995 годзе — у Аўгустове, што каля Бельска, у Слохах Анапольскіх за Сямяцічамі над Бугам, у Кляшчэлях і Сямяцічах. Ганаровымі гасцямі былі там паслы Станіслаў Малішэўскі і Сяргей Плева, а ў Кляшчэлях удзельнічаў і генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхась Слямнёў. Усюды адчуваецца гасціннасць, сардэчнасць і ўдзячнасць самадзейнікам і арганізатарам імпрэзаў.

## Купалле

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў пошуках новых форм масавай культурна-асветнай дзейнасці звярнулася да даўніх традыцый адзначэння свята нашых продкаў.

Найважнейшым элементам старадаўняга святкавання было вогнішча. Вакол яго хлопцы і дзяўчаты вадзілі карагоды, спявалі купальскія песні, пускалі вянкі па рэчцы, варажылі, збіралі святаянскае зелле, якое ў гэтую ноч мела незвычайную аздараўляльную моц.

Першы раз беларускае таварыства адзначала купальскую ноч у 1985 годзе. У гэтым годзе гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку супольна з гуртком БГКТ з Рыбалаў пасля выступлення Беластоцкага хору ў гэтай вёсцы разам з яе жыхарамі паехалі ў падрыхтаванае месца над рэчкай Нарвай, непадалёку вёскі Войшкі. Там расказвалася аб свяце нашых продкаў, былі купальскія песні, вянкі і вогнішча, печаная на кіёчках каўбаска. Закончылася ўрачыстасць апусканнем вянкоў са свечкамі на хвалі Нарвы. У наступным годзе ўрачыстасць праходзіла яшчэ цікавей, з удзелам хораў з Бельска, Гайнаўкі і Гарадка. І гэтак распачалося купальскае мерапрыемства, якое ўвайшло ў традыцыю БГКТоўскай дзейнасці.

Пазней дзеячы гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, у тым ліку і хор, паехалі на купальскую ноч у Барык каля Гарадка і там з мясцовым аддзелам БГКТ Купалле праводзілі яшчэ больш урачыста, дасціпна з удзелам Ніны Мушынскай, якая падрыхтавала сцэнарый імпрэзы. Была там легендарная «Купалінка» ў асобе Тамары Бурачэўскай, варожкай-цыганкай апранулася Ніна Мушынская, а навокал вогнішча «лятала» Люба Гаўрылюк, апранутая ведзьмай, на мятле.



Гайнаўскі і Нараўчанскі аддзелы БГКТ наладжвалі Купалле ў Грушках, непадалёк ад Нараўкі.

28 чэрвеня 1988 года ГП БГКТ з упамянутымі аддзеламі БГКТ арганізавалі святкаванне ў купальскую ноч у Белавежы. Гэтае мерапрыемства праходзіла надзвычай добра, вельмі ўрачыста і эмацыянальна. Аб ім пісалася шырока ў Беларускім календары на 1989 год.

З таго часу кожны год Купалле святкуецца ў Белавежы. Надвячоркам прыязджаюць туды людзі, найбольш легкавымі машынамі і аўтобусамі. І кожны год пануе такі ж урачысты і сардэчны настрой. Прыбывае ў Белавежу заўсёды каля дваццаці і больш мастацкіх калектываў, усе з вянкамі. Калі пачынае змяркацца, запальваюць на вянках свечкі і пачынаецца непаўторнае шэсце на эстраду з песняй «Купалінка, купалінка, цёмная ночка». Гэтыя вянкі ўрачыста ставяцца на эстрадзе. Усе яны прыгожыя, каларытныя, розныя. І пасля гэтай цырымоніі старшыня ГП БГКТ адкрывае ўрачыстасць, вітае ўсіх прыбыўшых, у тым ліку і дастойных прадстаўнікоў улад з Польшчы і Рэспублікі Беларусь, а ганаровы старшыня А. Баршчэўскі расказвае аб старадаўнім свяце. Затым старшыню змяняюць канферансье: Валянціна Ласкевіч — сакратар ГП БГКТ і Мікола Бушка — дырэктар Дома культуры ў Гайнаўцы. Яны інфармуюць аб дзейнасці калектываў, салістаў і запрашаюць іх на сцэну, і купальскія песні пераплятаюцца з сучаснымі і народнымі.

Вельмі цёпла прысутныя ўспрымаюць выступленні мастацкіх калектываў і салістаў з Беларусі. Канцэрт працягваецца да поўначы, і ўсе выступленні ўзнагароджваюцца гучнымі апладысментамі. Апоўначы мастацкія калектывы з песняй «Купалінка» нясуць вянкі да рэчкі Нараўка і ўрачыста апускаюць іх на ваду. Яны памаленьку плывуць, усё далей і далей, а свечкі адлюстроўваюцца ў вадзе і быццам міргаюць гледачам на развітанне. Потым частка ўдзельнікаў з-над рэчкі, зноў з песняй «Купалінка», вяртаецца на эстраду, і там пачынаецца народная забава, якая са спевамі працягваецца да раніцы. Калектывы, госці і многа мясцовых жыхароў адпраўляюцца аўтобусамі і легкавымі машынамі ў Старую Белавежу. У глыбіні пушчы далей працягваюцца песні і гульні ля вогнішча. За сталамі, на пяньках і траве сядзяць, сілкуюцца, паднімаюць чаркі за здароўе, за далейшыя поспехі, за дружбу. Раз'язджаюцца тады, калі пачне ўжо днець.

У 1992 годзе прыбыло ў Белавежу на Купалле каля чатырох тысяч чалавек. Выступіла многа калектываў з Беласточчыны і дзесяць з Беларусі. Шмат было прадстаўнікоў улад, успомню толькі некаторых: Міхал Ягела — намеснік міністра культуры і мастацтва Польшчы, прадстаўнікі ваяводскіх і гмінных улад з



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Белавежы і іншых гмін, з Беларусі — міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч і іншыя. Як заўсёды, не прыбыло Польскае радыё, нягледзячы на тое, што Купалле не мае сабе роўных сярод культурна-асветных мерапрыемстваў на Беласточчыне. А ўжо ў 1995 годзе Купалле па колькасці прыбыўшых на яго адзначэнне пераўзышло ўсе спадзяванні. Прыбыло каля васьмі тысяч чалавек. Адрознівалася яно ад папярэдніх тым, што было значна больш прадстаўнікоў улад Польшчы і Беларусі. Купальскі настрой быў яшчэ больш узрушальны, а мастацкі і арганізацыйны ўзровень яго быў яшчэ больш дасканалы.

### Свята беларускай культуры

Да масавых мерапрыемстваў БГКТ належыць таксама Свята беларускай культуры, якое наладжваецца ў амфітэатры ў Беластоку. Заснаваў яго мясцовы гарадскі аддзел БГКТ, які, так як і іншыя аддзелы, наладжваў на сваёй тэрыторыі народныя фестыны. Некалькі фестынаў было арганізавана ў беластоцкім парку «Звярынец», а ў 1987 годзе, 5 ліпеня, — у амфітэатры. З дакладам аб дзейнасці БГКТ выступіў сакратар ГП Віталь Луба. Потым больш за тры гадзіны ішоў святочны канцэрт. Удзельнічалі ў ім лаўрэаты конкурсу «Беларуская песня-87». Выступілі: Гайнаўскі хор пад мастацкім кіраўніцтвам Дзмітрыя Ціханюка, жаночы калектыў з Гарадка з Юркам Налівайкам, які спяваў разам з мастацкім кіраўніком гэтага хору Сцяпанам Копам, «Цаглінкі» з Ляўкова пад кіраўніцтвам Васіля Целушэцкага, лаўрэаты школьнага конкурсу беларускай песні: з Дубяжына— Шаратуха і Ваўранюк, маленькая салістка з Ляўкова — Марыся Аліфер. Было гэта добрае знаёмства беластачан з беларускай песняй, з дасягненнямі нашых самадзейнікаў.

З 1988 года гэтае мерапрыемства стала сапраўдным святам беларускай культуры, арганізатарам яго з'яўляецца Галоўнае праўленне і гарадскі аддзел БГКТ. Адбылося яно 27 чэрвеня і было прысвечана 30-годдзю літаратурнага аб'яднання «Белавежа». З уступным словам выступіў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. А мастацкая частка складалася з выступленняў: дзяцей — лаўрэатаў конкурсу «Беларуская песня-88» для школьнікаў, танцавальна-вакальнага калектыву з Кляшчэляў «Любашкі» і Дабрыводаў, хораў гайнаўскага, беластоцкага і бельскага, а таксама народнага ансамбля «Музыкі» з Гродна. Вялі ўрачыстасць Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушка. Прысутнічалі навукоўцы з Беластока, Варшавы, Вроцлава, Гродна і Мінска, якія былі ўдзельнікамі навуковай канферэнцыі, прысвечанай 30-годдзю літаб'яднання «Белавежа». Прысутнічала больш за 2 тысячы чалавек.

Асаблівасцю Свята беларускай культуры ў 1989 годзе было тое,





Калектыў «Цаглінкі» са Старога Ляўкова. 1995. Фота С. Грынявіцкага.

што апрача выступленняў калектываў з Бельска, Беластока, Гайнаўкі, Дубіноў і Рыбалаў выступілі: беларускі танцавальны калектыў з Амерыкі «Васілёк» і «Лявоны» з Воранава, што на Беларусі.

Аздобай беларускага свята ў 1991 годзе было тое, што выступалі ў амфітэатры, апрача лаўрэатаў конкурса «Беларуская песня-91», артысты з Беларусі: «Новае неба» з Мінска, «Світанак» з Вілейкі і Дзяржаўны эстрадны аркестр пад кіраўніцтвам Міхася Фінберга, а з імі эстрадныя спевакі: Юлія Скараход, Алена Зеляневіч, Вадзім Касенка, Інна Афанасьева, Мікалай Скорыкаў і Уладзімір Кудрын, а таксама наша салістка Аля Дубэц.

26 чэрвеня 1995 года на Свята беларускай культуры прыбыло ўжо каля 3 тысяч чалавек, у тым ліку паслы Сейма Польшчы Станіслаў Малішэўскі і Сяргей Плева, а таксама кандыдат у прэзідэнты Польшчы Яцэк Курань і прадстаўнікі Міністэрства культуры, ваяводскіх і гарадскіх улад, праваслаўнае духавенства, генеральны консул Беларусі ў Беластоку Міхаіл Слямнёў і консул Ігар Хадасевіч.

Адкрыў урачыстасць старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Вяла імпрэзу, як заўсёды па-майстэрску, Валянціна Ласкевіч. Затым



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

распачаліся выступленні самадзейнікаў з Беласточчыны. Выступіла 12 калектываў з найлепшымі сваімі песнямі. Прысутныя вельмі сардэчна, моцнымі апладысментамі ўспрымалі ўсе выступленні. Нават дождж не перапыніў канцэрта. А на заканчэнне выступілі госці з Беларусі — калектыў «Калі ласка» з гарадскога Дома культуры ў Лідзе. Нашы літаратары з літаратурнага аб'яднання «Белавежа» падпісвалі свае кніжкі. Прадаваліся таксама выданні БГКТ. Ад многіх прысутных можна было пачуць пахвальныя ацэнкі аб гэтым канцэрце.

Поспехаў вам, арганізатары і самадзейнікі!

*Янка Сычэўскі*

# Летапіс дзейнасці БГКТ у 1995—1996 гадах.

## 1995 год

30.04. У I ваяводскім аглядзе самадзейных калектываў пенсіянераў у мясцовасці Чорная Беластоцкая прыняў удзел хор БГКТ з Беластока, які заняў першае месца.

2.05.
3.05. Адбыўся выезд прадстаўнікоў ГП БГКТ (В. Ласкевіч, У. Юзвюк, Я. Сычэўскі) і самадзейных калектываў з Орлі, Вулькі Тэрэхоўскай і Тыневіч Вялікіх у Мінск. Былі праведзены размовы па справах выдання Беларускага календара, дапамогі ў пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы, набору студэнтаў з Беласточчыны ў ВНУ Рэспублікі Беларусь і зроблены заказ на выкананне ў Мінску касцюмаў тром беларускім калектывам.

5.05. У Варшаўскім Доме дружбы адбылася ўрачыстасць у сувязі з заканчэннем I алімпіяды па беларускай мове. Лаўрэаты атрымалі ўзнагароды і дыпломы. З канцэртам выступіў мастацкі самадзейны гурт «Чарамшына» з Чаромхі.

6.05. У вёсцы Мялешкі адбылася ўрачыстасць з нагоды 20-годдзя мясцовага самадзейнага фальклорнага калектыву. Удзельнічалі прадстаўнікі ваяводскага ўпраўлення культуры і ГП БГКТ. З канцэртам выступіў хор з Гарадка і юбіляры.

7.05. У гмінным асяродку культуры ў Нарве адбыўся II цэнтральны агляд абрадавых праграм у выкананні самадзейных калектываў з Ляўкова Старога, Тыневіч Вялікіх, Паўлаў і Краснага Сяла. Агляд арганізавала ГП БГКТ у супрацоўніцтве з мясцовым асяродкам культуры. Прысутнічала 180 гледачоў.

9.05. У пасольстве Расіі ў Варшаве быў арганізаваны ўрачысты банкет з нагоды 50-ай гадавіны Перамогі над нямецкім фашызмам у II сусветнай вайне. Прымалі ўдзел польскія палітыкі, грамадскія дзеячы і ўдзель-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

нікі вайны. Ад імя ГП БГКТ удзельнічаў старшыня ГП.

11.05. Цэнтральны агляд конкурсу «Беларуская песня-95» для школьнікаў адбыўся ў Бельскім Доме культуры. Прыняло ўдзел 19 выканаўчых адзінак і 380 гледачоў. Галоўным арганізатарам агляду было ГП БГКТ.

12.05. У ваяводскім упраўленні таварыства супрацоўніцтва «Польшча — Усход» у Беластоку адбылося падсумаванне I алімпіяды па беларускай мове. Прымаў удзел ганаровы старшыня ГП праф. А. Баршчэўскі і старшыня ГП Я. Сычэўскі.

19.05. У ваяводскім праўленні культуры ў Беластоку адбылася сустрэча старшыні ГП БГКТ як арганізатара з намеснікам дырэктара праўлення — М. Лінкевічам і дырэктарам «ваяводскага асяродка анімацыі культуры» К. Дэркоўскім у справе арганізацыі III фестывалю польскай і беларускай песні «Беласток — Гродна» ў Беластоку.

20.05. Прадстаўнікі ГП БГКТ (старшыня і сакратар) удзельнічалі ў семінары, арганізаваным Хельсінскай фундацыяй правоў чалавека ў Варшаве. Семінар быў прысвечаны абмеркаванню правоў нацыянальных меншасцяў у Польшчы ў аспекце дзяржаўнага заканадаўства.

23.05. Візіт прадстаўнікоў ГП БГКТ у «Пронары» ў Нарве па справе працы музычнага інструктара Я. Шэмета з Віцебска і арганізацыі ў гэтай фірме мастацкага самадзейнага калектыву; у Гайнаўку — па справе арганізацыі беларускіх народных святаў у горадзе і ў вёсцы на тэрыторыі мясцовай гміны; у Белавежу — па справе арганізацыі беларускага свята Купалля і навуковай польска-беларускай канферэнцыі «Дарога да ўзаемнасці».

25.05. У Клубе міжнароднай кнігі і прэсы ў Беластоку была адкрыта выстаўка мастакоў-фатографаў з Рэспублікі Беларусь, якая выклікала высокае зацікаўленне гледачоў.

28.05. Беларускае народнае свята адбылося ў Нараўцы на пляцоўцы. Выступілі «Цаглінкі» з Ляўкова, калектыў з Нараўкі, дзіцячы калектыў «Душкі з пушкі», танцавальны калектыў з Латвіі і «Белыя росы» з Гродна. Прысутнічала каля 800 гледачоў.

30.05. Сустрэча старшыні ГП БГКТ Я. Сычэўскага і старшыні Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы К. Майсені з дырэктарам бюро і юрыстамі ваяводы беластоцкага па справе працягвання бу-






Калектыў «Тыневічанкі» з Тыневіч Вялікіх.

даўніцтва і дзейнасці музея.

31.05. Выезд прадстаўнікоў ГП па касцюмы для самадзейных калектываў з Орлі, Тыневіч Вялікіх і Вулькі Тэрэхоўскай. Адбылася сустрэча з міністрам культуры і друку РБ Анатолем Бутэвічам.

7.06. У спартыўнай зале клуба «Ягелонія» была адкрыта Міжнародная ярмарка, у якой удзельнічалі беларускія выдавецтвы з Польшчы і Беларусі.

9.06. У Клубе БГКТ у Беластоку адбылася сустрэча літаратараў «Беларуска-польскія ўздзеянні ў галіне літаратуры». Прымалі ўдзел: Васіль Белаказовіч, Ян Чыквін і Сакрат Яновіч.

18.06. Свята беларускай культуры адбылося ў Беластоцкім амфітэатры. Перад 2-тысячнай публікай выступілі: «Рэаль», «Ас», «Грамада», «Каласкі», Аля Дубэц, хор БГКТ, дзіцячы калектыў з Нараўкі, «Журавінкі», «Дзявочыя ноткі», «Васілёчкі», «Маланка», калектывы з Гарадка, Нараўкі, Паўлаў, «Тыневічанкі», «Каліна», і з Вулькі Тэрэхоўскай, «Хлопцы-Рыбалоўцы», «Красуні», «Арляне» і «Арэшкі». Прысутнічала звыш 2000 беластаччан.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

25.06. Беларускае народнае свята адбылося ў вёсцы Махнатае, што ў Гайнаўскай гміне. Выступілі: «Ас», «Рэаль», хор БГКТ і ГДК, «Арэшкі» і «Чыжавяне». На свята прыбыло каля 300 жыхароў.

26.06. Каля 100 асоб прыйшло ў памяшканне ГП БГКТ у Беластоку на ўрачысты юбілей 70-годдзя з дня нараджэння Міхася Хмялеўскага — журналіста, многагадовага рэдактара беларускамоўнага штотыднёвіка «Ніва».

1.07. У Гайнаўскім беларускім музеі адбылося пленарнае пасяджэнне Грамадскага камітэта пабудовы музея, прысвечанае вырашэнню спраў уласнасці аб'екта і канцэпцыі яго дзяржаўнасці.

2.07. У вёсцы Аўгустова, што на Бельшчыне, адбылося народнае свята. У мастацкай яго частцы выступілі калектывы «Ас» і «Рэаль» з Беластока, «Хлопцы-Рыбалоўцы» з Рыбалаў, «Арляне» з Орлі, хор «Васілёчкі» і гурт «Маланка» з Бельска Падляшскага, а таксама калектыў з Дубяжына. Было 1500 гледачоў.

8-9.07. У Белавежскім асяродку культуры адбылася міжнародная польска-беларуская навуковая канферэнцыя «Дарога да ўзаемнасці», арганізаваная польскім беларусазнаўчым таварыствам і Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў супрацоўніцтве з Саюзам палякаў на Беларусі. Удзельнікі, сярод якіх былі прадстаўнікі ўлад з Белавежы, Гайнаўкі і Бельска Падляшскага, а таксама дырэктар Бюро па справах нацыянальных меншасцяў Міністэрства культуры выслухалі 27 дакладаў і правялі цікавую і багатую дыскусію. Удзельнічала 60 асоб.

8.07. У Белавежы адбылося беларускае свята Купалле. Выступілі хор БГКТ з Беластока, «Каласкі», «Тыневічанкі», «Арэшкі», «Маланка», «Васілёчкі», «Цаглінкі», хор ГДК з Гайнаўкі, «Арляне», калектывы з Нараўкі, Дубяжына, Гарадка, Вулькі Тэрэхоўскай, Нарвы і Краснага Сяла, а таксама 6 мастацкіх калектываў з Брэстчыны. У свяце прымала ўдзел каля 8 тысяч гледачоў.

16.07. У Беластоцкім амфітэатры адбыўся III фестываль польскай і беларускай песні «Беласток — Гродна», арганізаваны ГП БГКТ і Саюзам палякаў на Беларусі. Выступілі польскія калектывы з Беларусі (хор «Голас з-над Нёмана», ансамбль песні і танца «Прыяцелі» з Ліды, дзіцячы калектыў «Гродзенскія салаўі» і Віктар Шалкевіч) і беларускія калектывы з Польшчы (хор БГКТ, «Тыневічанкі», «Чарамшына», хор ГДК, калектывы з Нарвы і Гарадка). Сярод 2-тысячнай публікі прысутнічалі: віцэ-маршалак Сейма Польшчы Аляксандр Малахоўскі, старшыня Камісіі па справах нацыянальных меншасцяў Сейма Яцэк Курань, намеснік ваяводы беластоцкага Гжэгож Рыкоўскі, Генеральны консул Польшчы ў Гродне Марыюш Машкевіч, Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхась Слямнёў і старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін.






Калектыў «Ас» з Беластока. 1996 г. Фота С. Грынявіцкага.

23.07. ГП БГКТ арганізавала Беларускае народнае свята ў Гайнаўцы. З прычыны дрэннага надвор'я канцэрт адбыўся ў канцэртнай зале Гайнаўскага Дома культуры, які памясціў каля 500 гледачоў. Выступілі: калектывы ГДК, «Арэшкі», «Маланка», «Чыжавяне», «Рэаль», «Ас», «Хлопцы-Рыбалоўцы», «Чарамшына», «Паўлы» і капэла са Свіслачы. Беларускае народнае свята адбылося ў Орлі. Выступілі: «Васілёчкі», «Маланка», «Арляне», «Дубяжын», «Красуні», «Арэшкі», «Чыжавяне», «Рэаль», «Ас», «Хлопцы-Рыбалоўцы» і «Паўлы». Удзельнічала 600 гледачоў.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

30.07. Беларускае народнае свята было арганізавана ГП БГКТ у вёсцы Слохы Аннапольскія, што каля Сямяціч. Выступілі: хор «Васілёчкі», «Маланка», «Арляне», «Цаглінкі», «Красуні», «Хлопцы-Рыбалоўцы» і калектыў з Нараўкі. Беларускае народнае свята адбылося ў мясцовасці Чаромха. Спалучана яно было з юбілеем 150-годдзя пабудовы ў Польшчы першай чыгункі і 120-годдзем чыгуначнай лініі ў Чаромсе. У свяце прыняло ўдзел каля 2000 гледачоў.

6.08. Беларускае народнае свята адбылося ў Міхалове. Выступілі хор БГКТ, хор ГДК, Аля Дубэц, Люба Гаўрылюк, «Каласкі», а таксама калектывы з Козлікаў, Гарадка і Тыневіч Вялікіх.

9.08. У памяшканнях ГП адбылася сустрэча грамадскіх дзеячаў таварыства з юбілярам, старшынёй Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ Уладзімірам Юзвюком з нагоды 70-годдзя з дня нараджэння.

13.08. Беларускае народнае свята адбылося ў гарадскім амфітэатры ў Дуброве Беластоцкай. Выступілі: хор БГКТ, «Цаглінкі», калектыў з Гарадка, мясцовыя гурты «Гранд» і «Сальвадар». Прыбыло 800 асоб. У выкананні тых жа калектываў, што і ў Дуброве, адбылося Беларускае народнае свята ў Саколцы.

20.08. Беларускае народнае свята адбылося ў Кляшчэлях. Выступілі: хор БГКТ, хор ГДК, «Васілёчкі», «Ас», «Гранд», «Чарамшына», «Каліна», калектыў з Дабрывады і гурт з Кляшчэляў. У гарадскім амфітэатры ў Сямяцічах адбылося Беларускае народнае свята з удзелам вышэйназваных калектываў. Прысутнічала каля 1000 асоб.

27.08. Беларускае народнае свята адбылося ў Нарве. Выступілі: хор БГКТ, «Маланка», «Цаглінкі», АДМ, 3 калектывы з «Пронару» ў Нарве і калектыў з Козлікаў. У свяце ўдзельнічала каля 1200 жыхароў.

1.2.09. Прадстаўнікі ГП (В. Ласкевіч, Я. Сычэўскі) прынялі ўдзел у сустрэчы лідэраў нацыянальных меншасцяў, арганізаванай Хельсінскай канвенцыяй правоў чалавека, прысвечанай праблемам украінскай меншасці ў Польшчы.

7-9.09. У Кляшчэлях, Гайнаўцы, Бельску Падляшскім і Беластоку адбыліся выязныя пасяджэнні Сеймавай камісіі па справах нацыянальных меншасцяў. На пасяджэнні камісіі ў памяшканнях ГП БГКТ абмяркоўваліся справы датацыі на культурныя мерапрыемствы таварыства, пабудову Беларускага музея, а таксама справы памяшканняў БГКТ.



10.09. Беларускае народнае свята адбылося ў гарадскім амфітэатры ў Бельску Падляшскім. Выступілі: «Васілёчкі», «Журавінка», «Дзявочыя ноткі», хор ГДК, «Маланка», «Чарамшына», «Рэаль», «Тыневічанкі», калектыў з Гарадка і «Гасцінец» з Гродна. На свяце прысутнічаў кандыдат у прэзідэнты Польшчы Аляксандр Квасьнеўскі. Прысутнічала каля 3000 гледачоў.

14—16.09. На Усходнееўрапейскім семінары, які праходзіў у Белай Падляскай, прымалі ўдзел прадстаўнікі ГП БГКТ (В. Ласкевіч, Т. Русачык, Я. Сычэўскі). Тэмай семінара з'яўлялася «Культурная спадчына на ўсходнім этнічным памежжы».

24.09. Беларускае народнае свята адбылося ў вёсцы Ягаднікі (гміна Дубічы Царкоўныя). Выступілі: хор БГКТ, Аля Дубэц, «Арэшкі», «Арляне», «Чыжавяне», калектыў з Козлікаў і дзіцячы калектыў з Орлі. Было 400 гледачоў.

5.10. У сядзібе ГП БГКТ адбылося пасяджэнне Камісіі культуры, прысвечанае падвядзенню вынікаў летняга сезона ў культурнай дзейнасці таварыства.

8.10. Адбылося пасяджэнне Камісіі асветы ГП БГКТ, прысвечанае супрацоўніцтву са школамі і школьнымі ўладамі Рэспублікі Беларусь.

12.X. Сустрэча прадстаўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый з галоўным рэдактарам радыё Беластока па справе ўдасканалення працы беларускамоўнай рэдакцыі.

22.10. Пасяджэнне прэзідыума ГП БГКТ адбылося ў Беластоку. Абмяркоўвалася праграма пленарнага пасяджэння Галоўнага праўлення.

27.10. Сустрэча старшыні ГП з дзяржаўнай дэлегацыяй Рэспублікі Беларусь (У. Гарнак, А. Білык, Г. Пяцігор) і Генеральным консулам РБ у Беластоку М. Слямнёвым. Дэлегацыя прывезла тэхнічныя абсталяванні для беларускіх дашкольнікаў у Беластоку і 7 тысяч кніжак для беларускіх школ на Беласточчыне.

6.11. Сустрэча старшыні ГП з У. Юзвюком і Г. Валкавыцкім па справе абмеркавання юбілейнага выдання кніжкі «40 гадоў БГКТ».

8.11. У пачатковай школе ў Нарве адбылася канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы, у якой прымалі ўдзел старшыня і сакратар ГП БГКТ.

10.11. Юбілей 15-годдзя фальклорнага калектыву «Тыневічанкі» адбыўся ў вёсцы Тыневічы Вялікія. Прысутнічалі



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012




Калектыў «Бярозкі» з вёскі Кнарыды. Фота С. Грынявіцкага.

прадстаўнікі ваяводскага ўпраўлення культуры і ГП БГКТ. Апрача юбіляраў выступілі «Арэшкі» з Арэшкава і хор Гайнаўскага Дома культуры.

12.11. У памяшканнях ГП адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае ацэнцы мінулага сезона культурнай і асветнай дзейнасці і планаванню працы на новы культурна-асветны год. У пленуме прымалі ўдзел войты гмінаў і бургамістры гарадоў Беласточчыны, а таксама дырэктары асяродкаў і Дамоў культуры.

18.11. У памяшканнях ГП былі арганізаваны «атрасіны» беларускіх студэнтаў. Галоўным арганізатарам было беларускае аб'яднанне студэнтаў, а ў рамках канцэрта выступілі беларускія гурты «Кардон» і «Рэаль».

24.11. Беларускія калектывы з Беласточчыны: «Ас», «Тыневічанкі» і «Чарамшына» выступілі з канцэртамі на аглядзе дасягненняў мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцяў, які адбыўся ў Доме культуры «Арсус» у Варшаве.

25.11. У Доме расейскай навукі і культуры ў Варшаве адбыўся канцэрт 3 беларускіх самадзейных калектываў з Беласточчыны («Ас», «Тыневічанкі» і «Чарамшына») для беларусаў, пражываючых у сталіцы. Прысутнічала каля 100 гледачоў.



25—26.11. У Пуньску адбыліся 2 сустрэчы нацыянальных меншасцяў з Сувальскага і Беластоцкага ваяводстваў. У сустрэчах прынялі ўдзел старшыня і сакратар ГП, а ў мастацкай частцы выступілі гурт беларускай песні «Маланка» і дзіцячы калектыў «Журавінка» з Бельска Падляшскага.

27.11. У Беластоку адбылося пасяджэнне праўлення Таварыства прыяцеляў горада Беластока, у якім прыняў удзел як член гэтай суполкі старшыня ГП БГКТ.

10.12. Старшыня ГП сустрэўся з віцэ-маршалкам Сейма Уладзімежам Цімашэвічам па справах III агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-96» і святкавання 40-годдзя БГКТ. У. Цімашэвіч прыняў ганаровы патранат над мерапрыемствам.

12.12. Адбыліся размовы старшыні ГП з Генеральным консулам Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхасём Слямнёвым па справе паездкі дэлегацыі ГП у Беларусь, звязанай са святкаваннем 40-годдзя БГКТ і фестывалю «Беларуская песня-96».

14.12. Старшыня ГП правёў размовы з дырэктарам ваяводскага ўпраўлення культуры Казімежам Дэркоўскім па справе святкавання 40-годдзя БГКТ і фестывалю «Беларуская песня-96».

15.12. У таварыстве «Польшча—Усход» адбыліся размовы старшыні ГП А. Баршчэўскага і Б. Хмелінскага па справе арганізавання І беларуска-польскай літаратурнай сустрэчы ў Гайнайцы, запланаванай на 21—23.1.1996 года.

19.12. У пачатковай школе ў Нарве адбыўся гмінны агляд дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова». Прысутнічалі прадстаўнікі ГП (В. Ласкевіч, Т. Русачык, Я. Сычэўскі).

20.12. Прадстаўнікі ГП сустрэліся ў Варшаве з дырэктарам Бюро па справах нацыянальных меншасцяў у Міністэрстве культуры Ежы Бісяком. Размовы датычыліся 40-годдзя БГКТ і фестывалю «Беларуская песня-96».

26.12. Члены прэзідыума БГКТ сустрэліся з прадстаўнікамі Савета Міністраў РБ, міністрам замежных спраў, міністрам культуры, намеснікам старшыні таварыства «Радзіма» ў Мінску. Праводзіліся размовы па справе святкавання 40-годдзя БГКТ, фестывалю «Беларуская



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

песня-96», працягу пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы і выдання Беларускага календара на 1997 год.

**1996 год**

13.01. У памяшканнях БГКТ у Беластоку адбыўся беларускі навагодні баль, у якім удзельнічала 180 асоб.

15.01. У беластоцкага ваяводы адбылася сустрэча, прысвечаная праблемам пабудовы і дзейнасці Беларускага музея ў Гайнаўцы. Прынялі ўдзел: М. Ягела, Е. Бісяк, А. Гаеўскі, Г. Рыкоўскі, К. Дэркоўскі, А. Баршчэўскі, К. Майсеня, Я. Патэюк, Я. Скепко, Я. Сычэўскі і М. Нікалаюк. Удзельнікі сустрэчы згодна пастанавілі прыняць канцэпцыю стварэння музея як дзяржаўнай установы пры захаванні ўласнасці пляца і аб'екта за беларускай грамадскай арганізацыяй.

20.01. Адбылося пасяджэнне прэзідыума ГП па справе 40-годдзя, фестывалю і Беларускага музея ў Гайнаўцы.

21.01. У Дуброве Беластоцкай адбыўся раённы агляд фестывалю «Беларуская песня-96». Вечарам у Саколцы быў арганізаваны канцэрт беларускіх самадзейных калектываў. Прысутнічала 300 асоб.

21—23.01. У Гайнаўцы адбыліся першыя літаратурныя польска-беларускія сустрэчы.

23.01. Раённы агляд дэкламатарскага конкурсу адбыўся ў пачатковай школе № 6 у Гайнаўцы.

25.01. Раённы агляд дэкламатарскага конкурсу адбыўся ў Доме культуры ў Бельску Падляшскім. Прысутнічала каля 300 гледачоў.

28.01. У Сямяцічах быў арганізаваны раённы агляд фестывалю «Беларуская песня-96». Прысутнічала 250 асоб.

30.01. Цэнтральны агляд дэкламатарскага конкурсу «Роднае слова» адбыўся ў пачатковай школе ў Нарве.

3.02. Раённы агляд фестывалю «Беларуская песня-96» адбыўся ў Беластоку. Удзельнічала 200 гледачоў.

4.02. Раённыя агляды фестывалю «Беларуская песня-96» адбыліся ў Бельску Падляшскім і ў Гайнаўцы. Разам прысутнічала 750 асоб.

9.02. У БГКТ адбылася прэс-канферэнцыя старшыні і членаў ГП, прысвечаная 40-годдзю таварыства і фестывалю «Беларуская песня-96».

10.02. Цэнтральны агляд III агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-96» адбыўся ў Беластоку. Выступіла 69 выканаўцаў. Было каля 300 гледачоў.

11.02. У вялікай зале спартыўнага клуба «Влукняж» адбыўся






Хор агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску. Фота С. Грынявіцкага.

канцэрт лаўрэатаў фестывалю «Беларуская песня-96», прысутнічала 2000 гледачоў.

17.02. У памяшканнях БГКТ адбыўся ўрачысты пленум ГП. Прысутнічалі прадстаўнікі дзяржаўных улад Польшчы і Рэспублікі Беларусь: намеснік прэм'ер-міністра РБ Уладзімір Русакевіч, міністр адукацыі і навукі РБ Васіль Стражаў, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, архіепіскап Сава, міністр культуры і мастацтва Польшчы Здзіслаў Падканьскі, намеснік міністра адукацыі Казімеж Дэра, ваявода беластоцкі Анджэй Гаеўскі і інш. Пленум быў прысвечаны 40-годдзю дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. З дакладам выступіў ганаровы старшыня Аляксандр Баршчэўскі. Прадстаўнікі ўлад і ганаровыя госці віншавалі таварыства з дасягненнямі на працягу 40 гадоў яго існавання ў галіне культурнай, асветнай і агульнаграмадскай дзейнасці. Былі ўручаны высокія ўзнагароды, дыпломы і ганаровыя граматы заслужаным дзеячам гэтай грамадскай арганізацыі.
У вялікай зале спартыўнага клуба «Влукняж» у Бела-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

стоку адбыўся ўрачысты гала-канцэрт III агульнапольскага фестывалю «Беларуская песня-96». На канцэрт прыбылі прадстаўнікі найвышэйшых улад дзвюх суседніх дзяржаў — Польшчы і Рэспублікі Беларусь: прэм'ер-міністр РП Уладзімеж Цімашэвіч, намеснік прэм'ер-міністра РБ Уладзімір Русакевіч, віцэ-маршалак Сейма РП Аляксандр Малахоўскі, міністр адукацыі і навукі РБ Васіль Стражаў, міністр культуры РБ Аляксандр Сасноўскі, міністр культуры і мастацтва РП Здзіслаў Падканьскі, намеснік міністра адукацыі РП Казімеж Дэра, упаўнаважаны пасла РБ Мечыслаў Часноўскі, Генеральны консул РБ у Беластоку Міхась Слямнёў, Генеральны консул РП у Гродне Марыюш Машкевіч, старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін. Прысутнічалі таксама ваявода беластоцкі Анджэй Гаеўскі, прэзідэнт горада Беластока Кшыштоф Юргель, старшыня гарадской рады Ян Хайноўскі і архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава, а таксама каля 3000 гледачоў. На сцэне выступілі найлепшыя выканаўцы беларускай песні ў Польшчы — лаўрэаты фестывалю «Беларуская песня-96» і беларускі ансамбль песні і танца «Крупіцкія музыкі» з Рэспублікі Беларусь.

18.02. У Святамікалаеўскім саборы ў Беластоку быў адслужаны малебен у сувязі з 40-годдзем Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На набажэнстве прысутнічала афіцыйная дэлегацыя ад Рэспублікі Беларусь з намеснікам прэм'ер-міністра Уладзімірам Русакевічам. Сустрэча ўрадавай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый адбылася ў Генеральным консульстве Рэспублікі Беларусь ў Беластоку.

20—21.02. Старшыня ГП прыняў удзел у канферэнцыі Рады Еўропы, якая адбылася ў Варшаве і была прысвечана праекту дзяржаўнага закона аб нацыянальных меншасцях і Еўрапейскай канвенцыі правоў чалавека.

22.02. Прадстаўнікі ГП БГКТ (Я. Сычэўскі), Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея (К. Майсеня) і намеснік ваяводы Г. Рыкоўскі падпісалі пагадненне аб працягу пабудовы аб'екта і дзейнасці музея як дзяржаўнай установы. Паводле пагаднення, музей, як дзяржаўная ўстанова, будзе ўласнасцю беларускай арганізацыі. Ваявода, карыстаючыся дапамогай бюджэту дзяржавы, будзе дапамагаць у заканчэнні пабудовы і ў дзейнасці музея як культурна-навуковай установы.



Прадстаўнікі ГП БГКТ пабывалі ў Нарве, Тыневічах Вялікіх, Бельску Падляшскім, Чаромсе і Нурцы Ст. Перадалі яны ўзнагароды лаўрэатам фестывалю «Беларуская песня-96» і вярнулі аўтару жывапісныя працы, якія былі экспанаваны ў зале БГКТ з нагоды юбілею і ўрачыстага пленума.

24.02. У памяшканнях БГКТ адбыліся праваслаўныя запусты (танцавальны вечар).

25.02. Фальклорны самадзейны калектыў у вёсцы Паўлы арганізаваў канцэрт і ўрачыстую сустрэчу з нагоды запустаў, у якой удзельнічалі прадстаўнікі ГП БГКТ, ваяводскага ўпраўлення культуры і «ваяводскага асяродка анімацыі культуры».

28.02. У Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Бельску Падляшскім адбыўся раённы конкурс — алімпіяда па беларускай мове. Прымалі ўдзел вучні агульнаадукацыйных ліцэяў ў Бельску Падляшскім і ў Гайнаўцы.

2.03. У справаздачна-выбарнай канферэнцыі ваяводскага аддзела таварыства супрацоўніцтва «Польшча—Усход» прынялі ўдзел прадстаўнікі ГП БГКТ (Я. Сычэўскі, Т. Русачык, В. Ласкевіч, З. Навіцкая). Абмяркоўваліся між іншым праблемы супрацоўніцтва нашых 2 арганізацый.

11.03. У Галоўным праўленні БГКТ адбылася сустрэча Генеральнага консула Рэспублікі Беларусь у Беластоку праф. Міхася Слямнёва з салісткай Алай Дубэц, якой ён уручыў узнагароду за ўдзел у III агульнапольскім фестывалі «Беларуская песня-96».

15.03. Адбылася нарада ў кабінеце дырэктара ваяводскага ўпраўлення культуры Казімежа Дэркоўскага па справе супрацоўніцтва з Гродзенскім аблвыканкамам у галіне культуры і выезду ў Гродна беластоцкай дэлегацыі. У нарадзе прыняў удзел старшыня ГП.

17.03. Старшыня ГП прыняў удзел у V канвенцыі сацыялдэмакратыі Польшчы, на якой закрануў праблемы беларускай меншасці на Беласточчыне.

21.03. У Бельскім беларускім ліцэі адбыўся цэнтральны агляд дэкламатарскага конкурсу для ліцэістаў і дарослых выканаўцаў «Сцэнічнае слова». Прыняло ўдзел 25 выканаўцаў.

25—26.03. Дэлегацыя дзеячаў культуры Беласточчыны знаходзілася на Гродзеншчыне. У складзе дэлегацыі прымаў удзел старшыня ГП. Адбылося наведванне дзяржаўных устаноў і пляцовак культуры, праводзіліся размовы з дзеячамі культуры, падпісана пагадненне паміж



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ваяводскімі аддзяленнямі культуры ў Гродне і ў Беластоку ў справе супрацоўніцтва.

У размовах з Саюзам палякаў Рэспублікі Беларусь прыняты ўступныя пастановы па справе арганізацыі фестывалю польскай і беларускай песні «Гродна—Беласток», які адбудзецца 15.IX.1996 г., і навуковай канферэнцыі «Дарога да ўзаемнасці» — 14—15.09.1996 г.

27.03. У памяшканнях ГП адбылася сустрэча камісіі Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь з уладамі БГКТ.

У сустрэчы прынялі ўдзел прадстаўнікі «Бюро да спраў культуры нацыянальных меншасцяў» Ежы Бісяк і Ежы Завіша, а таксама Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Міхась Слямнёў.

28.03. У вёсцы Агароднікі, што каля Беластока, старшыня і сакратар ГП сустрэліся з бургамістрам г. Супрасль, членамі мастацкага калектыву «Журавінкі» і жыхарамі вёскі па справе карыстання памяшканняў вясковай святліцы, у якой адбываюцца рэпетыцыі і канцэрты «Журавінак».

У Беластоцкім драматычным тэатры адбыўся спектакль Беларускага нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы з Мінска «Азірніся ў гневе» Д. Озбарна. Прысутнічалі прадстаўнікі ГП, настаўнікі беларускай мовы, вучні і дырэктары школ Беласточчыны.

31.03. Адбылося пасяджэнне прэзідыума ГП БГКТ з наступным парадкам: 40-годдзе БГКТ, задача аддзелаў, перспектывы Беларускага музея, розныя справы. Прэзідыум вырашыў склікаць пасяджэнне старшыняў аддзелаў БГКТ з мэтай абмеркавання і запланавання мерапрыемстваў з нагоды 40-годдзя БГКТ.

2.04. У Доме настаўніка ў Бельску Падляшскім адбыліся цэнтральныя элімінацыі II алімпіяды па беларускай мове для вучняў ліцэяў. У спаборніцтве прыняло ўдзел 15 вучняў з Бельскага і Гайнаўскага ліцэяў. Камісія, якую ўзначаліў праф. А. Баршчэўскі, званне алімпійцаў прызнала 6 удзельнікам.

3.04. У Гайнаўскім Доме культуры адбыўся цэнтральны агляд тэатральных самадзейных калектываў пачатковых школ з Беласточчыны. У конкурсе прыняло ўдзел 10 калектываў з 9 школ, а сярод публікі было каля 400 вучняў і настаўнікаў з гайнаўскіх школ.






Калектыў «Жаваранкі» з Гданьска. Фота С. Грыняўіцкага.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# З роднай Беласточчыны

*Уладзімір Юзвюк*

## Нарыс засялення і загаспадарання ўсходняй Беласточчыны

Беласточчына ўжо некалькі стагоддзяў выклікае зацікаўленне даследчыкаў многіх навуковых дысцыплін. Тут паяўляліся і гінулі першабытныя плямёны (нараўляне, бужане, дайнова), славутыя ачагі культуры (Супрасль, Сямяцічы) і фабрычнай прамысловасці (Харошча, Заблудаў, Супрасль, Маркоўшчына), дзесяткі разоў змяняліся дзяржаўныя і адміністрацыйныя граніцы, а народ застаўся верным сваім традыцыям, захаваў нават архаічную, старабеларускую мову — ва ўсходняй і мазурскую — у заходняй яе часткі. Землі гэтыя ўспамінаюць таксама старажытныя землеапісальнікі Герадот, Тацыт і іншыя.

На жаль, недастатковае даследаванне археалагічных і гістарычных помнікаў, павярхоўная або проста тэндэнцыйная ацэнка культуратворчых узаемаўздзеянняў суседніх народаў, іх гаспадарчай і веравызнаўчай экспансіі прычыніліся да сфарміравання даволі заблытанага вобраза сучаснай рэчаіснасці.

Скажам напачатку: на Беласточчыне паўсталі дзве аўтахтонныя этнічныя супольнасці, размежаваныя вядомай у літаратуры этнічнай мяжой*. Ігнараванне яе ў доследах непазбежна вядзе да памылак, якія выклікаюць абгрунтаваныя пратэсты. Аб пераможцах, акупантах і іх паслядоўніках будзем успамінаць як мага менш. Нашы разважанні абмяжуем да ўсходняй Беласточчыны, якая ў першай палове нашага тысячагоддзя называлася Падляшшам** — зямлёй па-суседску з ляхамі і тымі напластаваннямі, якія кранулі яе першабытны субстрат у працэсах засялення і загаспадарання.

* *Jaroszewicz J.* Obraz Litwy... Wilno. 1844, s. 206.

** Пазнейшая назва «Падлясе» адносіцца да зямель Падляскага ваяводства, якое існавала тут у 1520—1795 гадах і прасціралася ад Аўгустоўскай пушчы да мясцовасцей Венграў і Ласіцы на левабярэжжы Буга.



### Першабытнае засяленне тэрыторыі

Абмежаванае месца не дазваляе заняцца высновамі многіх польскіх і беларускіх археолагаў аб першабытным засяленні Падляшша балтамі і іншымі паўночна-заходнімі плямёнамі таму, што яны, паводле нас, не маюць пацвярджэнняў у рэчавым матэрыяле, хаця ігнараваць іх уздзеянне на мясцовыя археалагічныя тагачасныя культуры нельга. Большасць помнікаў глыбокай мінуўшчыны знішчана ў час загаспадарання тэрыторыі. Не захаваліся яны, а можа, яшчэ не знойдзены, нават на ўзбярэжжах рэк: Нарвы, Нурца, Супраслі, Бобры і мноства іх прытокаў, якія павінны былі паслужыць выгаднымі шляхамі рассялення і месцамі даўжэйшага побыту насельніцтва. Вядома, што толькі ў заходняй частцы Белавежскай пушчы выяўлена каля 45 магільнікаў розных перыядаў*. Спробу абагульнення даследаваных помнікаў на тэрыторыі Беласточчыны правялі археолаг Данута Ясканіс і іншыя даследчыкі. Беручы пад увагу іх выказванні, а таксама нешматлікія знаходкі ў магільных пахаваннях, папярэднічаючых жалезны век, яна выказала спачатку думку, што засяленне ўсходняй Беласточчыны пачалося ў каменным веку таксама з заходняга, паўночнага або паўднёва-заходняга напрамкаў. Аднак на аснове іншых знаходак, асабліва ў магільніках і курганах каля вёсак Кутавая, Катлоўка, Курашава на Гайнаўшчыне, Сураж, Растолты і Завыкі ў раёне Беластока, Драгічын і Цацэлі на Пабужжы ці Ясеновая Даліна на Сакольшчыне, прызнала паўднёвы напрамак за асноўны і нават акрэсліла прыналежнасць асадніцкіх плямёнаў да зарубінецкай культуры**.

Польскія даследчыкі Е. Антаневіч, А. Каміньскі, Г. Лаўмяньскі, К. Мусяновіч таксама адкідваюць першабытную заселенасць апісваемай тэрыторыі балтамі і іх нашчадкамі ятвягамі, але ўспамінаюць аб іх уздзеянні на побыт засяленцаў, асабліва ў пазнейшыя перыяды.

Большасць беларускіх археолагаў лічыць, што ў 15—11 стст. да н. э. тэрыторыю паўднёва-заходняй Беларусі, паўночнай Украіны і ўсходняй Польшчы, на сумежжы якіх знаходзіцца Падляшша, насялялі спачатку плямёны тшцінецкай, пасля мілаградскай, а з 3 ст. да н. э. і да 5 ст. н. э. — зарубінецкай культуры. Насельніцтва гэтых плямёнаў займалася адначасова збіральніцтвам, жывёлагадоўляй і земляробствам, будавала прамавугольныя паўземляныя жытлы з месцам для вогнішча, вырабляла прымітыўныя прылады працы, упрыгожанні з металаў, шкла і касцей дзікай або свойскай жывёлы. Інакш быць не магло, таму што ўсяго некалькі тысяч

* Park Narodowy w Puszczy Białowieskiej. PWRL. 1967.

** *Jaskanis D.* Pradzieje Białostocczyzny. Warszawa, 1969, s. 36





© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

кіламетраў на поўдзень у той самы час развівалася гаспадарчая дзейнасць, усё новыя грамадскія адносіны, а разам з гэтым культура і некаторыя галіны навукі.

Доказам прыналежнасці ўсходняй Беласточчыны да абшару зарубінецкай культуры сталіся доследы Крысціны Мусяновіч, якія яна правяла на сярэднім Пабужжы, асабліва абагульненні на аснове знаходак жалезных і бронзавых іглаў, грабянёў, шкляных пацерак, глінянай пасудзіны і гэтак далей. Крыху пазней каля вёскі Гацькі, непадалёк ад Бельска, праведзены доследы адной з найвялікшых стаянак *5* ст. да н. э. — *5* ст. н. э., якія, паводле нашай думкі, пацвердзілі выказванні К. Мусяновіч. Існавала там таксама гарадзішча пазнейшых перыядаў.

Супольнасць побыту насельніцтва, яго мовы, абароны супраць ворагаў садзейнічала ўзнікненню каля першай паловы тысячагоддзя племянных саюзаў, пачатку феадальнай залежнасці і славянскага этнасу. Усходняя Беласточчына апынулася на заходнім рубяжы найвялікшага тагачаснага племені — дрыгавічоў. Ахоплівала яно басейн Прыпяці, вярхоўя Нарвы, сярэдняга Буга і аграмадную тэрыторыю паўднёвай і цэнтральнай Беларусі. Такі абсяг іх межаў акрэслілі М. Доўнар-Запольскі, Д. Ясканіс, М. Грынблат, К. Мусяновіч і многа іншых даследчыкаў. Аднак незалежна ад гэтага П. Лысенка Падляшша спачатку ўключыў у межы ятвягаў (БелСЭ.Т.IV, 1971, с. 292), а пасля — у межы мазаўшан (Археалогія і нумізматыка Беларусі, 1993, с. 236). Сам жа акрэсліў непадалёк ад дзяржаўнай граніцы на Брэстчыне адно з найвялікшых даследаваных скопішчаў дрыгавіцкіх гарадзішчаў і курганных магільнікаў. З'явы гэтай вытлумачыць нашым чытачам не можам. Падляшскія дрыгавічы нікуды не адыходзілі і ніадкуль не вярталіся.

Побыт дрыгавічоў, узнікненне пануючага «княжання» выклікалі неабходнасць ужывання ў штодзённым жыцці нейкай мовы і яе ўдасканалення. На жаль, звестак аб ёй захавалася мала.

У канцы IX ст. землі паміж Бугам і Бабром апынуліся ў падпарадкаванні найвялікшай старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. На заходнім і паўночным рубяжах «рускіх дрэговічан»* хутка былі заснаваны, а можа ўзмоцнены, ужо існуючыя гарадзішчы: Дарагічын, Бельск, Бранск, Сураж, Тыкацін і іншыя. Вакол іх пашыралася засяленне зямель найбольш аддаленнымі селішчамі дрыгавічоў, на поўдні аказаліся: Мендзыжэц, Морды, Венграў, а на захадзе — Бужыска, Гарадзіска, Саколаў, Візна, якія пасля апынуліся ў абсягу мазаўшан.

У перыяд прыналежнасці Падляшша да Кіеўскай Русі ўзрасло засяленне ўсіх зямель, але найбольш прыкметна — на Пабужжы і

* *Шыманьскі В.* Гарадзішча ў Гацьках... Беларускі каляндар, 1972, с. 109.



на ўраджайных глебах паміж Бугам і Нарвай. Трэба адзначыць, што племянны ўсходнеславянскі тагачасны этнас не меў яшчэ выдзеленых народнасцей. Усё насельніцтва карысталася старажытнарускай мовай. Існаваў толькі падзел Падляшша на «землі» без акрэсленых граніц: Берасцейскую, да якой належала яго паўднёвая частка, Гарадзенскую, ахопліваючую паўночную частку. Землі гэтыя ў сваю чаргу дзяліліся на меншыя адміністрацыйныя адзінкі. У гэты перыяд узмацніліся таксама феадальныя адносіны і, як абарона супраць іх, узнікла форма «гаспадарскага» ўладання, якая была падпарадкавана вясковым старшыням, а праз іх — князям. Пашырэнне праваслаўя ўзмацніла дрыгавіцкі этнас.

Таму цяжка адгадаць, чаму вядомы польскі даследчык Падляшша Е. Вісьнеўскі пісаў: «Ад X ст. з захаду пасоўвалася надвіслянскае мазавецкае асадніцтва, якое заняло землі над Бугам... ахапіла цэлы басейн верхняй Нарвы... На пачатку XI ст. большасць зямель над Бугам і Нарвай знаходзілася ў польскім панстве і была густа заселена мазаўшанамі*». Некалькі гадоў раней той жа Е. Вісьнеўскі пісаў: «У XIII ст. галоўны горад — Драгічын апынуўся ў руках мазавецкіх князёў. На гэты перыяд прыпадае пачатак мазавецкага асадніцтва, згуртаванага каля Драгічына»** *(пераклад з польскай. — У. Ю.).*

Праўдападобна, першыя выказванні датычаць зямель, якія знаходзяцца на захад ад усходнеславянскай этнічнай мяжы і якія сталіся даволі рана арэнай міжсуседскіх набегаў. Калі не браць пад увагу кароткатрывалага падпарадкавання (1235—1240), дык у «панстве польскім» паўднёвае Падляшша апынулася ў другой палове XVI ст., а апошняя яго частка заставалася ў межах Вялікага княства Літоўскага да трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай. У перыяд раздробленасці Кіеўскай Русі на асобныя княствы ўзмацнілася на Падляшшы форма «гаспадарскага» ўладання і падпарадкавання сялян, пашырыліся элементы царкоўнай візантыйскай абраднасці, пачалі зараджацца гарады як гандлёвыя і рамесніцкія цэнтры. Адначасна самастойныя княствы ўсё часцей сталі вырашаць свае спрэчкі праз братазабойчыя войны, у якія ўцягвалі суседзяў. На адзін з такіх перыядаў — саюза Берасцейскай зямлі з Валына-Уладзімірскім княствам — прыпалі вялікія перасяленні на паўднёвае Падляшша дружыннікаў, рамеснікаў, дваран, што прыкметна ўзмацніла сувязі з Берасцейшчынай, якая

* *Wiśniewski J.* Zarys dziejów osadnictwa na Bialostocczyżnie. W. Atlas gwar wschodniosłowiańskich na Białostocczyźnie. T. 1. 1980. S. 14.

** *Wiśniewski J.* Zarys dziejów osadnictwa wiejskiego we wschodniej cześci woj. Białostockiego do połowy XVI wieku. W: Навуковы зборнік ГП БГКТ. Беласток, 1964. С. 4.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

«з'яўлялася натуральным прадаўжэннем турава-пінскага дрыгавіцкага Палесся*.

Гістарычныя абставіны гэтага перыяду зноў спрыялі ўваходу паўночнага Падляшша ў склад Гарадзенскай зямлі.

У загаспадаранні апісваемых зямель у XI—XIII стст. выключнае значэнне мелі два гарады: Драгічын і Бельск.

Драгічын вядомы ў гістарычных крыніцах з 1061 года. Яго выгаднае геаграфічнае палажэнне на скрыжаванні гандлёвых дарог на пераправе праз Буг садзейнічала ўзнікненню вядомага цэнтра гандлю скурамі, ваўнянымі вырабамі, мёдам, воскам і іншымі таварамі паміж усходам і захадам Еўропы. Аб гэтым сведчаць знойдзеныя ў час археалагічных раскопак мясцовыя і замежныя керамічныя вырабы, прылады працы, пячаткі са славянскімі надпісамі і звыш 3 тысяч алавяных пломбаў, якімі купцы забяспечвалі свае тавары і якія ў мясцовай таможні абрываліся. Каля 25 % пломбаў мае знакі рускіх князёў. Знойдзены таксама невялікія праваслаўныя крыжыкі, ручка нажа XII ст. з надпісам: «Ежков нож а іжэ украдет проклят б/удет/», фібулы розных тыпаў, усходнеславянскія абручыкі да валос, дзіцячыя цацкі і іншыя вырабы. Існаваў гандаль галіцкай соллю і збожжам. Летапіс адзначае існаванне ад 1240 года царквы Багародзіцы, у якой трынаццаць гадоў пасля каранаваўся князь Даніла Раманавіч. У 1154—1171 гадах Драгічын лічыўся сталіцаю Падляшша. Тут вяліся падрыхтоўкі ваенных нашэсцяў на Мазоўша і Яцвязь, ён уздзейнічаў пашырэнню яго ўсходнеславянскай культуры на ўсё Пабужжа.

Старэйшым, аднак (паводле дакументаў), быў Бельск. Заснаваны каля 1038 года на скрыжаванні гандлёвых шляхоў з Гродна, Бярэсця і Мазоўша, лічыўся найвялікшым горадам Падляшша. Тут ужо ў XII ст., а можа нават раней, існаваў замак, былі дружыннікі, якія ахоўвалі горад і гандлёвыя шляхі. Побач з замкам існаваў рынак, на якім мясцовае насельніцтва прадавала мёд, воск, смалу, скуры, прылады працы**. Тады паўднёвае Падляшша адносілася да багатых частак Берасцейскай зямлі. Таму можна меркаваць, што працяглая барацьба, якую вялі кіеўскія князі, знішчала найчасцей толькі сталіцы княжанняў і селішчы на шляхах нашэсцяў, а існуючая сетка тагачасных селішчаў заставалася амаль некранутай.

---

* *Грынблат М.* Беларусы. 1968. С. 78. Глядзі таксама: *Musianowicz K. Drohiczyn od VI do XIII wieku. Białystok, 1982.*

** *Krasko R. Bielsk Podlaski (rękopis 1968 roku).*



## Перыяд літоўска-беларускай дзяржавы

Далейшае засяленне і загаспадаранне Падляшша звязана з яго падпарадкаваннем каля паловы XIII ст. літоўска-беларускай дзяржаве — Вялікаму княству Літоўскаму. Паводле выказванняў некаторых гісторыкаў (Е. Ярошэвіч, Е. Вісьнеўскі і інш.), братазабойчыя войны знішчылі тут першабытнае засяленне, а яго месца занялі мазаўшане. Здаецца, што татальнае знішчэнне насельніцтва невялікімі варожымі дружынамі і на гэты раз было немагчыма з увагі на добра арганізаваную самаабарону ўсходніх славян, аб формах якой захаваліся звесткі ў літаратуры. Інакш нельга вытлумачыць захаванне матэрыяльнай культуры насельніцтва, яго абраднасці, старажытнабеларускай мовы і густой заселенасці тэрыторыі, якую выявілі валочны памер і люстрацыі «каралеўшчын» (дзяржаўных вёсак), праведзеныя ўсяго паўтара стагоддзя пазней. Той жа Е. Вісьнеўскі піша, што арэнай барацьбы былі землі на захад ад ракі Лізы і Нурца і паміж Ганёндзка-Візскай ды Гарадзенскай землямі. І толькі пасля ўстанаўлення ў 1358 годзе дзяржаўнай граніцы па рэках Нэта, Бобра, Бярозаўка і Супрасль (каля ўпадзення ў яе Невадніцы) абставіны стабілізаваліся. Л. Касіньскі лічыць нават, што ў перадунійны перыяд мазаўшане пасяліліся на абшары ад упадзення Нурца ў Буг да ўпадзення Бобры ў Нарву, а гэта значыць, крыху на захад ад этнічнай мяжы*. Ужо тады ўсходнія і заходнія славяне пачалі жыць побач спакойна, але не разам.

Новыя ўладары захавалі існуючыя феадальныя адносіны. Насельніцтва «гаспадарскіх» вёсак захавала за сабой папярэднія прывілеі, чыншы, пачало называцца «княжацкім», а прыгонныя атрымалі права павелічэння сваіх землеўладанняў карчаваннем лясоў. У выніку высокага натуральнага прыросту і кіраванай міграцыі заселенасць тэрыторыі прыкметна ўзрасла. Літоўска-беларускія вяльможы імкнуліся пашырыць яе так званымі «наданнямі» найчасцей ужо заселеных і яшчэ вольных зямель. Перасяленцамі былі звычайна сяляне княжацкіх вёсак, якія мелі хоць частковае права на перасяленне. Паводле М. Гайдука, сюды прыбывалі таксама сяляне з разбураных татарамі селішчаў, сярод якіх былі рамеснікі, купцы, дружыннікі. І гаспадарка пачала буйна развівацца**.

На поўдні апісваемых зямель у раёне Мілейчыц і Мельніка, напрыклад, ужо ў XV ст. існавалі амаль усе сучасныя нам вёскі. Сярод іх да каралеўшчын адносіліся: Нурэц, Малочкі, Бабічы, Сухары, Полаўцы, Калецічы, Сабятын, Краснікі, Паканева, Жэрчыцы, Гарнова, Машчона, Сутно, Цяляцічы і іншыя, а да

---

* *Kosiński L.* Miasta województwa białostockiego. 1962. S. 16.

** *Гайдук М.* Паратунак, 1993. С. 122.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

прыгонных: Рагачы, Зубачы, Літвінавічы, Клюкавічы, Вілінава, Такары і многа іншых.

Тэрыторыя на поўнач ад іх была вельмі густа заселена каралеўшчынамі, але паміж імі на нявыкарыстаныя землі кіраваліся прыгонныя сяляне. У 1477 годзе Судымунтавіч атрымаў аколіцы Сямяцічаў, у 1508 годзе Сапега—Боцькаў, а ў 1518 годзе Багавіцінавіч—Орлі. Вакол апошняй узніклі «... горад і фальварак Ворля, вёскі: Кашалі, Шарні, Тапчыкалы, Клузкі, Вервечкі, Тапарова, Крывяцічы, Рэдуты»*.

У засяленні міжрэчча Нарва — Супрасль важная місія выпала беларускім магнатам Хадкевічам, ва ўладанні якіх яно доўга знаходзілася. Каля 1443 года Іван, сын Ходзькі (будучы Хадкевіч), атрымаў як наданне за заслугі перад каралём частку Блудаўскай пушчы. Тэрыторыя была слаба заселена па прычыне маласпрыяльных прыродных умоў: асабліва слабаўраджайныя пясчаныя глебы, балоты і сасновыя бары. Невялікая заселенасць канцэнтравалася на ўзбярэжжах рэк. Вядома, што ў часе татарскага палону іх уладара Івана Хадкевіча, у пушчы пасяляліся ўцекачы з прыгонных сялян Бельшчыны. Такое паходжанне прыпісваецца вёскам Іванкі, Сакі, Гнецюкі, Сольнікі, Жукі, Пратасы, Кудрычы і іншым. Вядома таксама, што ў XV ст. у Гарадку ўжо існаваў драўляны замак (зараз ён даследуецца), а ў наваколлі былі селішчы, якія супольна перашкаджалі запрошаным сюды манахам з Кіева «блюсці іначаства». У надзелах Супрасльскаму манастыру ў 1500 годзе ўпамінаецца, што Аляксандр Іванавіч Хадкевіч аддаў частку Блудаўскай пушчы «...ад Жоўткаў людзей нашых» па Заблудаў і раку Сакалду з агульным лікам «...400 двароў з 1000 душ і мноствам, апрача ворыва, лясоў, сенажацей і рыбных лоўляў»**.

Да ўладанняў гэтых была далучана Хварошча, якую супрасльскія манахі замянілі на Хвасты (сучасныя Фасты) і беларускія праваслаўныя вёскі: Бацечкі, Крупнікі, Парослы, Лыскі, Клявінава і іншыя. Адсюль вынікае, што землі на захад ад Беластока былі заселены беларускім насельніцтвам перад XV стагоддзем і што ўласнікі наданняў найчасцей за ўсё абмяжоўваліся яго пераразмяшчэннем.

У засяленні сярэдняга Падляшша не выяўлена роля насельніцтва Бельшчыны. У палове XVI ст. у Бельскім павеце існавала 660 вёсак, у тым ліку 229 каралеўшчын, 410 паншчынных і 21 царкоўная***. Бельскі стараста меў дазвол надзелу сялян зямлёй ад 15 да 30 гектараў адной сям'і, калі яна згодзіцца перасяліцца ў глыбіню пушчаў. Бяльшчане мелі права на

* *Wawrzyńczyk A.* Rozwój wielkiej własnosci na Podlasiu...1951. S. 230.
** *Долматов Н.* Супрасльскій Благовещенскій Монастырь, 1892. С. 61.
****Jabłonowski A.* Polska XVI wieku. Podlasie. Warszawa, 1909. S. 21.



арэнду зямель над Супраслю і яе прытокамі Нераслю і Чорнай, права ставіць борці, праводзіць паляванні на баброў, касіць траву, сплаўляць па Супраслі драўніну, вырабляць паташ і смалу і нават пасяляцца тут настала.

Ізноў у Суражскім старостве было 208 вёсак, сярод якіх да каралеўшчын залічвалася ўсяго 26, а ўсе іншыя — да прыгонных. На такое падпарадкаванне сялян мела ўплыў мазавецкая каланізацыя XIV стагоддзя. «Насельніцтва Суража ў тыя гады прадстаўляла сабою двухмоўнае і двухверавызнаўчае зборышча з перавагаю, аднак, рускага элемента ў частцы горада на правым баку ракі Нарвы і даволі аднароднай масы польскага насельніцтва на яе левым баку»*. Успамінаецца таксама, што на правабярэжжы мазавецкае асадніцтва крыху пазней утварыла некалькі «дробнашляхецкіх гнёздаў, устойлівых на чужыя ўздзеянні: Сьрэдзіньске, Боровске, Чачкі і Лесьна».

Паўночная частка Падляшша, паводле выказванняў польскіх гісторыкаў, была да паловы XV ст. не заселена. Знаходзячыся пасуседску з крыжакамі, мазаўшанамі і курпамі, сапраўды магла яна доўга заставацца абшарам частых нашэсцяў, якія перашкаджалі загаспадаранню. Не заставалася, аднак, бязлюднай. Сюды даходзілі з раёна Ваўкавыска і Гродна паляўнічыя, бортнікі, сяляне, якія засноўвалі селішчы. Вядомы таксама гэтак званыя «пушчакі» — рамеснікі па вытворчасці дзёгцю, вугалю, паташу. Перыядам засялення прынята лічыць ізноў наданні. З гэтых дакументаў вынікае, што толькі ў канцы XV ст. па цячэнні рэк Свіслач, Ласосна, Валкушанка пачало пашырацца засяленне Гарадзенскай зямлі. Напрыклад, Крынкі вядомы з 1429 года, Саколда (сённяшняя Саколка) — з 1524 года, двор Малявічы і рудня Кузніца — з 1508 года**. Але для літоўскіх сялян у 1492 годзе чамусьці збудаваны ў Адэльску першы на гэтых землях каталіцкі касцёл. Невядома, ці былі тут раней цэрквы: успамінаў аб іх няма.

На поўнач ад Бобры ў напрамку Аўгустоўскай пушчы пашыралася засяленне сялянамі таксама з Гродзеншчыны. Адначасна ўздоўж рухлівых дарог пры рачных пераправах і ў суседстве дзяржаўных граніц сяліліся праваслаўныя баяры, якія за транспартныя і ваенныя паслугі вызваляліся ад чыншаў і паншчыны. Да такіх вёсак адносяцца: Габяты, Генюшы і Нетупа на Сакольшчыне, Анцуты і Рагазы на Гайнаўшчыне, Грыневічы і Гацькі на Бельшчыне, Дайліды, Жыўкова і Сяські каля Беластока. Але ўжо ў XVI ст. гэтыя баяры былі пазбаўлены прывілеяў, а пасля асіміляваліся з навакольным асяроддзем.

У XV ст. амаль ва ўсіх уладаннях штучна пачалі стварацца гарады дзеля ажыўлення гандлю. Частка з іх, заснаваная на

* *Stafiński Z. Z przeszłości Suraża. Białystok. 1937. S. 21.*
** *Wisniewski J.* Zarys dziejów osadnictwa na Białostocczyźnie. W. Atlas. gwar... S. 19.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

скрыжаванні гандлёвых шляхоў, хутка развівалася, аднак большасць у перыяд узнікнення фабрычнай прамысловасці і чыгунак перастала існаваць. У часе валочнага памеру на Падляшшы існавала 27 гарадоў, у якіх пражывала 28 тысяч жыхароў. Гарадское магдэбургскае права мелі: Бельск — ад 1430 г., Сураж — 1440, Бранск — 1493, Мельнік — 1501, Боцькі — 1508, Мілейчыцы — 1516, Кляшчэлі — 1523 (?), Нарва — 1529, Сямяцічы — 1542, Кузніца — 1546 (?), Заблудаў — 1563, Крынкі — 1569, Новы Двор — 1578, Ліпск — 1580, Саколка — 1609*. Гарадскія ўправы дабіліся падпарадкавання сабе па некалькі бліжэйшых вёсак, жыхары якіх плацілі чынш у іх касу. Пасяляцца ў гэтых гарадах мелі права рамеснікі і гандляры незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. Такімі прывілеямі карысталіся між іншым яўрэі. Адсюль многанацыянальны характар падляшскіх гарадоў. Не заўсёды, аднак, улады захоўвалі талерантныя адносіны да сваіх гараджан.

Буйнейшым горадам на Падляшшы і другім, пасля Вільні, у Беларусі ў далейшым быў Бельск, які ў 1570 годзе налічваў каля 4000 жыхароў. Рамяством займалася 232 чалавекі, апошнія ўтрымліваліся з гандлю рамесніцкімі вырабамі і імпартнымі таварамі. Мясцовыя сяляне прадавалі льновалакно і льновырабы, воўну, хмель, мяса, грыбы, гародніну, а крыху пазней — збожжа.

Густая заселенасць тэрыторыі, гарады, узрастаючыя запатрабаванні на збожжа прыцягвалі ўвагу тагачасных вяльможаў да гаспадаркі Падляшша. Землеўпарадкаваннем яе занялася каралева Бона. Да паловы XVI ст. яна адкупіла або адабрала большасць княжацкіх і царкоўных зямель, якія не мелі ўпарадкаванага землеўладання. Затым, карыстаючыся прынятай Сеймам у 1557 годзе «Уставай на валокі», правяла не сустраканыя дагэтуль зямельныя рэформы. Паўнамоцныя яе ўраднікі, у атмасферы тэрору і незадавальнення сялян, спачатку абмяжоўвалі арэал землеўладанняў кожнай вёскі ў форме прамавугольніка, дзялілі яго «сценкамі» на тры палеткі, а на сярэдзіне выдзялялі прамавугольную плошчу на аднолькавай шырыні сядзібы з загадам перанясення на яе пабудоў. З бязладных дагэтуль селішчаў утвараліся вёскі-вуліцоўкі.

Стандартнай адзінкай надзелу зямлі была валока ворыўнай зямлі, роўная 21,36 гектара, або яе палова. У кожным палетку надзялялася адна або некалькі «чонстак» (частак). Вялікія плошчы лясоў і выганаў утваралі агульнавясковыя (агульнаграмадскія) уладанні або заставаліся пусташамі. Уводзілася найбольш рацыянальная ў той перыяд трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі. Упарадкаванне землеўладанняў выклікала павелічэнне падаткаў і паншчыны, якіх сяляне не выконвалі. Дзеля спагнання падаткаў

* *Kosiński L.* Miasta województwa białostockiego. 1962, aneks.



паявіліся новыя адміністратары і невялікія двары. У 1563 годзе Варшаўскі сейм выдаў устаў аб правядзенні люстрацыі каралеўшчын. Падляшша знаходзілася ў межах ВКЛ, і такія ўставы яго не датычыліся. Да таго ж, ускладнілася падрыхтоўка Люблінскай уніі. Разгневаны кароль Зыгмунт Аўгуст, пасля зрыву літоўска-беларускімі магнатамі перагавораў, выдаў 5 сакавіка 1569 года акт інкарпарацыі (далучэння) паўднёвага Падляшша да Кароны. Граніца размежавала Белавежскую пушчу, а далей прайшла ў некалькіх кіламетрах на поўнач ад ракі Нарвы, вёскі Трычоўка ў напрамку ракі Бярозаўкі і Бобры. У некалькіх мясцовасцях былі пабудаваны таможні, адрамантаваны дарогі, масты, сляды па якіх і памяць сярод сялян захаваліся да сёння. У тым жа годзе была падпісана Люблінская унія, але ўпамянутая граніца захоўвалася яшчэ даволі доўга. Падзеленае ёю Падляшша дыферэнцыравалася. Паўночная частка ўзмацняла лучнасць з беларускімі землямі Гродзеншчыны, узбагачала сваю культуру, мову, інтэгравалася гаспадарча.

Ізаляваная паўднёвая частка надалей захоўвала прывілеі, вынікаючыя з прыналежнасці да каралеўшчын, папярэднюю абраднасць і старабеларускую мову. Старажытныя традыцыі былі тут такія моцныя, што не паддаваліся ніякім асіміляцыйным уздзеянням.

Вернемся, аднак, да ўпамянутых люстрацый. На Падляшшы пачалі яны праводзіцца ў 1570 годзе. З іх вынікае, што каралеўскія вёскі былі даволі густа заселены. Сяляне Аўгустова абраблялі 164 валокі зямлі, Кленікаў — 150, Рыбалаў — 86, Трысцянкі і Відава — па 74, а Дубічаў і Курашава — па 60 валокаў*. Улічваючы тэхнічныя магчымасці тагачаснай апрацоўкі глебы, вёскі гэтыя павінны налічваць ад 500 да 1000 і больш жыхароў, што складала каля 50 асоб на адным квадратным кіламетры паверхні, гэта значыць, у пяць разоў больш, чым сярэдняя лічба па ўсёй краіне. Перапіс ураджаяў у бельскім фальварку Галавеск і некаторых вёсках, зроблены для пробных абмалотаў, паказаў, што ў той час асноўнымі збожжавымі культурамі былі: жыта азімае і яравое, пшаніца азімая і яравая, ячмень, авёс, гарох і грэчка. У жывёлагадоўлі найвялікшае значэнне мела буйная рагатая жывёла. Люстратары выдзелілі: каровы дойныя, ялавыя, бычкі, невукі і цяляты. На наступным месцы былі свінні, затым гусі і куры, а ў некаторых фальварках — авечкі. Зусім адсутнічаюць коні. Відаць, асноўнай цяглавай сілай была буйная рагатая жывёла — валы.

Неабходна адзначыць паўсюдна пабудаваныя млыны і корчмы.

Канец XVI, усё XVII і першая палова XVIII ст. былі на Падляшшы змрочным перыядам узрастаючай эксплуатацыі сялян і

* Lustracje województwa podlaskiego 1570 i 1576. Wrocław, 1959.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

іх нацыянальнага прыгнёту. Е. Ярашэвіч характарызуе яго як пёрыяд разгулу шляхты. Паншчынныя сяляне вымушаны былі працаваць замест аднаго—пяць дзён у тыдзень, а каралеўскія — аддаваць чынш, роўны трэцяй частцы ўсіх сваіх даходаў. Пасля Брэсцкай уніі 1596 года пачаўся яшчэ і рэлігійны прыгнёт, знішчэнне ўсяго некаталіцкага. На Падляшшы захавалася толькі чатыры праваслаўныя прыходы. Грамадская несправядлівасць, апалячванне беларускіх вышэйшых грамадскіх слаёў паглыбілі ізаляванасць сялянства ад усялякіх заходніх плыняў і садзейнічалі выпрацаванню вядомых форм абароны.

Сярод шматлікіх антыфеадальных хваляванняў найвялікшым быў бунт сялян Суражскай зямлі з беларускіх вёсак Багданкі, Беле, Дарожкі, Растолты, Рэпнікі і іншых, які пачаўся ў 1592 годзе, а закончыўся пасля дваццацігадовага супраціўлення пацыфікацыяй вёсак. Ізноў сяляне Бельшчыны выступілі супраць свайго старасты, які «правы іх нарушае, грабіць падаткамі, экзекуцыямі па 300 кіёў карае, да цяжкіх працаў бясправўна знявольвае, ездзіць да Каралеўца, Варшавы і Любліна, змушае, на непаслухмяных карнікаў насылае*. Старасты ўсё часцей умешваліся ў жыццё гарадоў, якія, згодна з магдэбургскім правам, мелі ўласныя самаўправы.

Аграмадныя знішчэнні ў заселенасць уносіла смяротнасць у гады эпідэміі халеры, тыфу і воспы, ад якіх у многіх вёсках вымірала болей за палову насельніцтва. Спусташэнні ў гарадах пакінула шведская вайна. Напрыклад, Бельск у 1563 годзе налічваў 830 дамоў, а ў 1669 годзе — толькі 48, Кляшчэлі адпаведна — 385 і 13**.

У цяжкім становішчы аказаліся мясцовыя святары праваслаўных і уніяцкіх прыходаў. Яны былі пазбаўлены ўсіх правоў, сродкаў утрымання, але будучы выхадцамі з народа пры ім засталіся ў час 230-гадовай адасобленасці.

На Падляшшы былі таксама ачагі прагрэсу. Да іх трэба залічыць Заблудаў. Там яго ўласнік Рыгор Хадкевіч арганізаваў друкарню, у якой І. Фёдараў, П. Мсціславец і Г. Івановіч у 1568 і 1570 гадах выдалі дзве кніжкі: «Евангеліе учительное» і «Псалтырь с Часословцем». Вядомы таксама спробы аказання дапамогі сялянам у іх гаспадараванні.

Асобае месца ў гісторыі беларускай культуры займае Супрасльскі Благавешчанскі манастыр. Тут на пачатку XVI ст. узнік выдатнейшы помнік сусветнай архітэктуры — храм з вядомымі фрэскамі. Манастыр меў багацейшую ў ВКЛ бібліятэку, якая ў 1645 годзе налічвала 587 кніжак на розных мовах, у тым ліку славуты Супрасльскі рукапіс з XI ст., а таксама 46 іконаў

* *Kosiński L.* Miasta województwa białostockiego. 1962. S. 27.
** Akta sądu refendarskiego. AHAD. 1720. S. 67.



дауніейшага перыяду. У 1687—1806 гадах існавала друкарня, у якой славянскім, кірылаўскім і лацінскім шрыфтамі выдадзена звыш 300 загалоўкаў богаслужэбных і свецкіх кніжак. На патрэбы друкарні выраблялася нават уласная папера. Аднак у выніку рэлігійных непаразуменняў пачалі змяняцца ўласнікі, манастырская маёмасць была разграблена. У 1944 годзе адступаючыя гітлераўскія войскі ўзарвалі манастырскі храм. Зараз ён адбудоўваецца вызнаўцамі праваслаўя.

Увагі заслугоўвае таксама васемнаццацівечная дзейнасць магнатаў Браніцкіх у Беластоку. Іх намаганнямі збудаваны найпрыгажэйшы на Падляшшы палац, названы нездарма «Падляшскім Версалем», а вакол яго некалькі мураваных пабудоў для службы. Існавала бібліятэка, тэатр, вайсковы гарнізон. У палацы праводзіліся з'езды, гулянні, а ў суседніх вёсках ініцыявалася развіццё рамяства. Хаця гадавы «даход Браніцкіх з маёнткаў разам з урадавым жалаваннем сягаў аднаго мільёна польскіх злотых»*, яны бязлітасна эксплуатавалі сваіх сялян. Магчыма, таму іх уздзеянне на гаспадарчае развіццё горада і акружаючых вёсак было невялікае. Пасля далучэння Беластока да Новых Усходніх Прусаў горад налічваў усяго 3740 жыхароў, у тым ліку 194 рамеснікі**. Палац адкупілі немцы на сядзібу ўлад Беластоцкага дэпартамента.

На поўдні Падляшша многа карысных змен у загаспадаранне тэрыторыі ўвяла ў 1758—1801 гадах А. Ябланоўская. У сваіх фальварках Сямяцічы, Боцькі і падлеглых ім вёсках пашырыла шматпольны севазварот, увяла новыя сельскагаспадарчыя культуры, галандскую пароду жывёлы, арганізавала кааператывы па продажы тавараў, бедных сялян надзяліла зямлёй без права яе продажу і падзелу, апрацавала для іх статут, а для гараджан — збор законаў і паводзін. У Сямяцічах і навакольных вёсках арганізавала цагельні, водныя млыны, лесапільні з вытворчасцю фанеры, друкарню, бібліятэку, бальніцу, этнаграфічна-краязнаўчы музей. У канцы XVIII ст. горад налічваў 3500 жыхароў. На жаль, далейшае развіццё рамяства і гандлю затрымалі празмерна высокія падаткі. Заняпад гарадоў адмоўна паўздзейнічаў і на сельскую гаспадарку.

На поўначы Падляшша ў другой палове XVIII ст. ажыўленую гаспадарчую дзейнасць запачаткаваў літоўскі падскарбнічы і гродзенскі староста А. Тызенгаўз. Ён штучна ствараў невялікія гарады як месцы гандлю і развіцця рамяства, ініцыраваў пабудову мануфактураў, школ, дарог, выкарыстанне драўніны з мясцовых

* *Mościcki H.* Białystok. Zarys historyszny. Białystok, 1933. S. 47.
** *Красько Р.* Бялысток. 1973. С. 22.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

пушчаў і іншае. Але пасля яго смерці большасць прадпрыемстваў заняпала.

### У межах Расійскай імперыі

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай частка Беласточчыны на захад ад лініі Мельнік-Нарва-Гродна была далучана да Прусіі, але ў 1807 годзе па Тыльзіцкаму дагавору ўвайшла ў межы Расійскай імперыі. Змены дзяржаўнай прыналежнасці істотнага ўздзеяння на засяленне тэрыторыі не мелі. Але ўстанаўленне граніцы з Варшаўскім княствам і таможняў абмежавалі гандаль заходнімі таварамі. Каб пазбегнуць таможных абкладанняў, прамыслоўцы цэнтральнай Польшчы пачалі пераносіць свае прамысловыя прадпрыемствы ў раён Беластока. У Маркоўшчыне, Беластоку, Супраслі, Гарадку, Харошчы, Міхалове і іншых мясцовасцях заснавалі мануфактуры па вырабу сукна, корту на патрэбы расійскага рынку, а пасля рамонтныя майстэрні, прадпрыемствы спажывецкай прамысловасці. У пошуках працы сюды прыехалі рабочыя з Польшчы, Нямеччыны, навакольных вёсак і яўрэі. Найбольш дынамічна развівалася тэкстыльная прамысловасць, якая выкарыстоўвала мясцовую воўну і вытворчыя традыцыі насельніцтва. Пасля ўвядзення каля 1840 года паравых рухавікоў пачаўся перыяд бурнага развіцця некалькіх галін прамысловасці. На 48 мясцовых фабрыках тады працавала 4247 рабочых. Самай вялікай была фабрыка Ф. Захерта ў Супраслі, на якой працавала каля 600 рабочых. Але ўжо ў 1860 годзе на фабрыцы сукна Моеса ў Харошчы працавала 1116 рабочых. На Міхалоўскіх тэкстыльных фабрыках працавала 650 асоб, беластоцкіх — 453, у Дабрыневе — 164, Крынках — 106, Гарадку — 46, Сямяцічах — 40 і гэтак далей.

Беластоцкая тэкстыльная прамысловасць спецыялізавалася на вытворчасці грубых вырабаў, якія былі папулярны на ўсходніх рынках, а шынельнае сукно — у рускай арміі. У палове XIX ст. вартасць прадукцыі беластоцкай тэкстыльнай акругі дасягнула паловы вартасці той жа прадукцыі Варшаўскага княства. Склала яна каля 3 мільёнаў рублёў у год*. Чарговае ажыўленне ўнесла пабудова чыгункі, па якой наладжвалі ўвоз сыравіны і вываз гатовых вырабаў у адлеглыя раёны Расіі.

Пачаўся хуткі прырост насельніцтва. Ілюструюць гэта даныя першых на Падляшшы перапісаў.

* Województwo białostockie (pod red. J. Kostrowickiego). Lublin, 1967. S. 405—413.



| Паветы | Гады | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1816 | 1832 | 1851 | 1861 |
| Бельскі | 31 132 | 41 603 | 35 361 | 91 912 |
| Беластоцкі | 21 236 | 33 148 | 48 179 | 63 884 |
| Сакольскі | 22 868 | 32 861 | 36 770 | 78 308 |
| Разам | 75 236 | 107 612 | 120 310 | 234 104 |

Асабліва прыкметны прырост насельніцтва наступіў у гарадах. Непасрэдна пасля раздзелаў Польшчы буйнейшым горадам былі Сямяцічы. Налічвалі яны 3,6 тысячы жыхароў. Чарговыя месцы займалі: Беласток — 3,4 тысячы і Бельск — 1,7 тысячы. У 1897 годзе Беласток налічваў ужо 62,5 тысячы, Бельск — 7 тысяч, Саколка і Крынкі — каля 5 тысяч, а Сямяцічы — усяго 3,5 тысячы жыхароў.

Прырост гарадскога насельніцтва выклікаў патрэбу ў развіцці спажывецкай прамысловасці, паслугах, асвеце, будаўніцтве жылля. У раёне Беластока ў гэты перыяд з'явілася каля 350 млыноў, звыш 50 бровараў, з якіх буйнейшы — «Дайліды» — дзейнічае да сёння, дзесяткі пякарняў і іншых прадпрыемстваў. Пачынаючы з 1898 года да другой сусветнай вайны лік прамысловых рабочых утрымліваўся ў межах 10—12 тысяч чалавек. Вырабы мясцовай тэкстыльнай прамысловасці, асабліва грубаваўняныя, паўторныя са шматоў і рознасыравінныя, былі бесканкурэнтныя.

Структуру тагачаснай прамысловасці ілюструюць наступныя даныя: у тэкстыльнай працавала 53 % рабочых, спажывецкай — 16%, мінеральна-будаўнічай — 11 %, гарбарна-абутковай — 7 %, дрэваапрацоўчай і металаапрацоўчай — па 4 %, апошняя частка прыпадала на энергетыку, хімічную і іншыя віды прамысловасці. Былі слаба развітымі дрэваапрацоўка і выкарыстанне льновалакна, якое экспартавалася ў Жырардаў.

Наступілі аграмадныя змены ў грамадска-прававых адносінах. Новыя ўладары імкнуліся да як мага хутчэйшага ліквідавання слядоў польскасці і правядзення русіфікацыі ўсяго жыцця. Праваслаўных сялян і мяшчан, а пасля ўз'яднання уніяцкай царквы з праваслаўнай і ўсіх уніятаў, пачалі называць заходнерусамі, а іх землі «Северо-Западным краем Российской Империи». Быў скасаваны Статут Вялікага княства Літоўскага. Сюды сталі масава накіроўваць рускіх чыноўнікаў, вайскоўцаў, святароў, настаўнікаў, памешчыкаў. У другой палове XIX ст. сяляне ўпершыню пачалі паўсюдна вучыцца грамаце на рускай і царкоўнаславянскай мовах у царкоўнапрыходскіх і ў міністэрскіх школах. У 1834 годзе ў Беластоку быў адкрыты Інстытут шляхетных паненак. Наступіла таксама развіццё асветы на польскай мове.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Ліквідацыя прыгону ў 1861 годзе гаспадарчага ажыўлення не выклікала таму, што сяляне лічылі гэта чарговым ашуканствам. У Новай Волі, Заблудаве, Юхноўцы, Ясеноўцы арганізавалі яны масавыя пратэсты, у якіх прыняло ўдзел каля 10 тысяч сялян.

Паводле першага перапісу насельніцтва ў Расіі, праведзенага ў 1897 годзе, у цікавячых нас паветах пражывала:

| Павет | Агульны лік насельніцтва | у тым ліку | | Шчыльнасць на 1 км$^2$ |
|---|---|---|---|---|
| | | гарадскога | вясковага | |
| Бельскі | 164 441 | 18 000 | 146 000 | 53 |
| Беластоцкі | 206 611 | 75 000 | 131 000 | 81 |
| Сакольскі | 110 545 | 24 000 | 87 000 | 48 |
| Разам | 481 597 | 117 000 | 364 000 | 61 |

Выказаны ў перапісе нацыянальны склад аказаўся неадэкватным да рэчаіснасці. Перапісчыкі частку беларускага насельніцтва залічылі да рускіх або маларосаў, а беларусаў-католікаў — да палякаў.

Найвялікшыя спусташэнні ў загаспадаранне ўсходняй Беласточчыны нанесла першая сусветная вайна. Адступаючыя ў 1914 годзе рускія войскі правялі дэмантаж амаль усіх прамысловых прадпрыемстваў. Іх абсталяванне знішчылі на месцы або вывезлі ў глыб Расіі. Вясковаму праваслаўнаму насельніцтву загадалі пакінуць сялібы і адправіцца на ўсход, у бежанства. Многія вёскі апусцелі зусім, у апошніх засталося па некалькі сем'яў старых або хворых. Пакінутыя пабудовы былі часткова знішчаны ў часе ваенных дзеянняў, а апошнія раскрадзены зладзеямі. Сельская гаспадарка прыйшла ў поўны заняпад.

Немцы адбудавалі некаторыя прадпрыемствы на патрэбы фронту, а на ўскраінах пушчаў арганізавалі лесапільні: у Чорнай Беластоцкай, Валілах, Жэдні, Нараўцы, Белавежы, Гайнаўцы і іншых мясцовасцях і бязлітасна эксплуатавалі мясцовыя лясы.

Пасля заканчэння вайны большасць бежанцаў вярнулася на бацькаўшчыну. Паводле А. Крысінскага, у Бельскі павет вярнулася 51 тысяча, у Беластоцкі, Сакольскі і Аўгустоўскі, разам узятых, — 12 тысяч чалавек. Каля чацвёртай часткі бежанцаў загінула або засталося будаваць у Расіі заманлівую будучыню, у якую яны бязмежна верылі.

## Перыяд Рэчы Паспалітай і другой сусветнай вайны

Перыяд міжваеннага дваццацігоддзя быў для мясцовага беларускага насельніцтва бесперспектыўным. Знішчаныя гарады, прамысловасць, слаба развітыя рынкавыя адносіны, непрыхільнасць



польскіх улад і высокі натуральны прырост параджалі грамадскія канфлікты. Міграцыя з перанаселеных вёсак у гарады амаль не існавала. Польскія тагачасныя ўлады не ўключылі Беласточчыну ў «Крэсы ўсходнія» таму, што прадбачылі яе хуткую паланізацыю. Эйфарыя, выкліканая адваяваннем незалежнасці пасля 123-гадовай няволі, перарадзілася ў палітыку нацыянальнага прыгнёту і рэлігійнай барацьбы. Нам невядомы факты атрымання мясцовымі беларусамі вышэйшай адукацыі, займання адказных пасад у дзяржаўнай адміністрацыі, прамысловасці, асвеце ці іншых галінах гаспадаркі. Беларусы ўсходняй Беласточчыны заставаліся па-за дзяржаўным жыццём, маглі толькі араць зямлю, якую таксама павінны былі страціць. Беластоцкі ваявода Г. Асташэўскі прапанаваў засяляць яе выключна палякамі. Нават землі з выкупу і парцэляцыі перадаваць у польскія рукі, таму што «... аб прыналежнасці тэрыторыі сведчыць той факт, у чыіх руках знаходзіцца зямля»*. Мясцовае насельніцтва называў ён паслухмянай масай, пазбаўленай нацыянальнай свядомасці і палітычных імкненняў, падатнай на асіміляцыйныя працэсы. Са 160-тысячнага насельніцтва Бельскага, Беластоцкага, Сакольскага і Аўгустоўскага паветаў каля 55 тысяч залічваў тут да непатрэбных. Прапанаваў іх выселіць у цэнтральную Польшчу дзеля асімілявання. Для апошніх дамагаўся накіравання сюды польскіх настаўнікаў, адпаведна падрыхтаваных да вядзення працы ў няпольскіх асяроддзях.

Палітыка сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту сустрэла супраціўленне зрэвалюцыянізаванага ў гады першай сусветнай вайны і Кастрычніцкай рэвалюцыі сялянства. У раёне Белавежскай пушчы непасрэдна пасля іх заканчэння дзейнічалі партызанскія злучэнні ў ліку каля 300 асоб на чале з Г. Шыманюком (псеўданім Скамарох) і іншымі**. Яны дэзарганізоўвалі мясцовыя ўрадавыя ўстановы, разбуралі чыгункі, фальваркі, дамагаліся далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Хутка, аднак, былі разгромлены вайсковымі сіламі.

У 1925—1926 гадах тут дзейнічала Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ), якая налічвала 6700 членаў, згуртаваных у 142, а паводле іншых крыніц, — 180 гуртках. БСРГ мела свае гмінныя і павятовыя камітэты. Фенаменальны, адзіны ў тагачаснай Еўропе, легальны грамадаўскі рух прычыніўся да замацавання нацыянальнай свядомасці, але пры сутыкненні з першымі рэпрэсіямі аказаўся няўстойлівым***.

---

* *Ostaszewski H.* Wzmocnienie polskiego stanu posiadania... 1939 (рукапіс, Ваяводскі камітэт ПАРП у Беластоку — бібліятэка).

** Дзейнічалі таксама злучэнні «Хмара», «Муха», «Чорт» і інш.

***Powstanie i działalność Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady na Białostocczyźnie. Białystok, 1973.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Нелегальна дзейнічалі тут КПЗБ, якая налічвала каля 800 членаў, камсамол і легальная Незалежная партыя хлопска (НПХ).

Да прагрэсіўных з'яў міжваеннага перыяду трэба аднесці ўвядзенне ў апрацоўку глебы новых прыладаў працы — жалезнага плуга, бараны, малатарні, правядзенне ў некаторых вёсках падзелу на хутары, увядзенне абавязку навучання дзяцей на ўзроўні чатырох або сямі класаў пачатковай школы. У гарадах развіваліся гандаль, рамяство, тэкстыльная прамысловасць у Беластоку, Міхалове і Гарадку, гарбарная ў Крынках і Саколцы, а дрэваапрацоўчая — у Беластоку, Гайнаўцы, Нурцы, Сямяцічах і некаторых іншых мясцовасцях. Працавала 67 лесапілак і 4 фабрыкі фанеры, якія выраблялі ў 1930 годзе 14 тысяч кубаметраў фанеры.

Нацыянальны склад насельніцтва акрэсліць даволі цяжка. Розныя даследчыкі падаюць даныя паводле неаднолькавых крытэрыяў. Паводле М. Арловіча, у Беластоку пражывала 102 тысячы чалавек, з іх каталікі складалі 38,9 %, праваслаўныя — 6,2 %, яўрэі — 51,6 %, апошнюю частку — немцы, татары і іншыя. У павятовым Бельску з 8 тысяч жыхароў на каталікаў прыходзілася 42 %, праваслаўных — 20 % і яўрэяў — 38 %. У Гарадку каталікі складалі 10 %, праваслаўныя 22 %, а яўрэі — 69 %. У Заблудаве каталікі складалі 48,5 %, праваслаўныя — 5 %, а яўрэі — каля 56 % ад агульнага ліку насельніцтва*. Склад вясковага насельніцтва не змяніўся.

Найбольш бурліва развівалася Гайнаўка як цэнтр дрэваапрацоўчай прамысловасці. Ажыўленне аднатавана таксама ў Белавежы і Мілейчыцах па прычыне зараджэння турызму і рэкрэацыі.

Далучэнне ў 1939 годзе Беласточчыны да СССР беларускае насельніцтва ўспрыняло вельмі прыхільна. «Сяляне звычайна з хлебам і соллю выходзілі насустрач савецкім байцам, віталі як найбліжэйшых, як родных. У многіх вёсках пабудавалі ім прыбраныя кветкамі, зеленню брамы і трыбуны»**. З далейшага тэксту вынікае, што іх абнадзейвала іншая будучыня. Малазямельныя пачалі дзяліць панскую зямлю, ствараць камітэты самаўправы, вучыцца ў школах, пераязджаць на работу ў гарады. Можна дапоўніць спасцярогі аўтара, што дзяржаўныя святы, мітынгі, выбары праходзілі ўрачыста, з песнямі і танцамі. Спачатку адносіны ўлад былі талерантныя.

У гарадах пачалася мадэрнізацыя прамысловасці, гандлю. Упершыню ў Беластоку была створана вышэйшая навучальная ўстанова — Педагагічны інстытут, а ў 270 школах Беласточчыны пачала вывучацца беларуская мова. Арганізаваны саюзы беларус-

* *Orłowicz* . Przewodnik po województwie białostockim. Białystok, 1937.

** *Паўлючук У.* Як Беласточчына вітала савецкую ўладу. Мой родны кут. Беласток, ГП БГКТ, 1963. С. 127.



кіх і польскіх пісьменнікаў, а таксама першы ў Беластоку прафесійны драматычны тэатр, пры гэтым польскі. Беласток, пасля сталічнага Мінска, стаўся другім цэнтрам прамысловасці і культуры БССР. Рост колькасці гарадскога насельніцтва стварыў неабмежаваны рынак продажу сельскагаспадарчых тавараў, чаго раней не было. Хутка, аднак, сярод сялян паявілася незадавальненне высокімі падаткамі, абавязковым удзелам у лесанарыхтоўках і арганізаваннем калгасаў. Здаецца, што мясцовае вясковае насельніцтва Беласточчыны перажыло аптымальна карысны перыяд савецкай улады.

Значныя змены ў засяленне і загаспадаранне ўнесла другая сусветная вайна. Гітлераўскія акупанты мэтанакіравана разбуралі гарады, некаторыя вёскі і вынішчалі яўрэйскае насельніцтва. Заблудаў быў знішчаны на 82 %, Драгічын — на 62 %, Беласток — на 61 %, Сямяцічы ў палове, а Бельск, Міхалова і Супрасль — каля 20 %. Агульныя страты гарадской структуры склалі звыш 42 % маёмасці, а страты насельніцтва — каля 150 тысяч чалавек, гэта значыць трэцюю яго частку. Яўрэйскае насельніцтва склала каля 90 тысяч загінуўшых у беластоцкім гета і ў Асвенціме. У адносінах да мясцовага беларускага насельніцтва акупанты праводзілі палітыку выкарыстання яго як рабочай сілы пры рамонтах дарог, нарыхтоўцы спажывецкіх прадуктаў для войска, працы ў Нямеччыне. Сурова каралі кожнае супрацьстаўленне. За ўдзел у антыфашысцкім руху пазбавілі жыцця 10,5 тысячы жыхароў, а за сувязі з савецкімі партызанамі — іншых тут не было — правялі пацыфікацыю вёсак Райск, Папоўка і Полька. Прадугледжваючы супрацоўніцтва насельніцтва з партызанамі, выселілі з заходняй ускраіны Белавежскай пушчы 37 вёсак, пабудовы якіх загадалі разабраць або спаліць.

## Беласточчына ў межах Народнай Польшчы

Усходняя Беласточчына была вызвалена ў канцы ліпеня і на пачатку жніўня 1944 года без асаблівых кровапралітных баёў. Асноўныя сілы І Беларускага фронту, накіраваныя на акружэнне Брэста, занялі паўднёвую, а ІІ Беларускага фронту, накіраваныя на вызваленне Беластока, — яе сярэднюю частку. Немцы ўстрымалі на паўгода савецкае наступленне на суседняй Ломжыншчыне. На вызваленай тэрыторыі пачаўся перыяд трохуладдзя: ваеннай камендатуры, якая падтрымлівала згодна з пагадненнем паміж СССР і ПКВН ад 26.07.1944 года (Польскі камітэт нацыянальнага вызвалення) і варожай ім Дэлегатуры лонданскага эміграцыйнага ўраду.

Грамадскасць таксама падзялілася на дзве палітычныя арыентацыі. Беларусы пазітыўна ўспрынялі дагавор Народнай Польшчы



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

з СССР, ліпеньскі маніфест ПКВН у Любліне, правядзенне сельскагаспадарчай рэформы, заклікі да працы ў дзяржаўных установах, прамысловасці і іншых галінах гаспадаркі. Дагэтуль такіх магчымасцей грамадскага павышэння і раўнапраўя яны яшчэ не мелі. Без супрацоўлення рэалізавалі нават уведзеныя падаткі на мяса, бульбу, збожжа для патрэб саюзных армій. У гарадах рабочыя сталі спантанна наладжваць прамысловую вытворчасць, транспарт, арганізоўваць асветныя ўстановы.

На аснове пагадненняў ад 27.07.1944 г. у Любліне і рашэнняў Крымскай канферэнцыі 1945 года ў Маскве 16 жніўня 1945 года была ўстаноўлена дзяржаўная граніца паміж СССР і Польшчай па так званай лініі Керзона з некаторымі адхіленнямі ад яе на карысць польскага боку. Не адпавядала яна вядомай у навуцы этнічнай мяжы паміж усходнімі і заходнімі славянамі, у выніку чаго ў межах Польшчы засталося беларускае, а ў межах БССР — польскае насельніцтва. Для вырашэння гэтага пытання 6 ліпеня 1945 года было падпісана пагадненне аб двухбаковай дабравольнай эвакуацыі насельніцтва (часта званай «рэпатрыяцыі»). Аднак засядзелае сялянства з двух бакоў граніцы ўспрыняло пагадненне незычліва. З Беласточчыны выехала ў СССР усяго 34 411 чалавек, у тым ліку з Беластоцкага павета — 12 828, з Бельскага — 10 122 і з Сакольскага — 9 600 чалавек. Былі гэта ў асноўным былыя дзеячы беларускіх прагрэсіўных арганізацый міжваеннай Польшчы, малазямельныя і беззямельныя сяляне, а таксама жыхары этнічнага пагранічча, асабліва на захад ад Беластока, якія апынуліся ў паласе цяжкіх рэпрэсій польскага рэакцыйнага падполля. Яго метадам ачышчэння тэрыторыі ад беларускага насельніцтва сталіся пагрозы, пісьмовыя загады выездаў з Польшчы і нават забойствы цэлых сем'яў, пацыфікацыя вёсак.

Паводле першага перапісу насельніцтва, у Народнай Польшчы ў Беластоцкім ваяводстве пражывала 116 517 чалавек няпольскай нацыянальнасці*, у тым ліку каля 106 тысяч беларусаў. Атрыманыя тады вынікі перапісу ў часе ўзрастаючага тэрору былі несумненна заніжаны, але выявілі вельмі высокую грамадскую і нацыянальную свядомасць, асабліва на Бельшчыне. Усе чарговыя перапісы насельніцтва ў пасляваеннай Польшчы не падаюць нацыянальнага складу і таму існуюць толькі прыблізныя даныя.

Гаспадарчае развіццё ўсходняй Беласточчыны ў пасляваенны перыяд было падпарадкавана агульнадзяржаўнаму планаванню.

У часы трохгадовага плана адбудовы пасляваенных знішчэнняў былі адрамантаваны 4 тэкстыльныя фабрыкі, электрастанцыя, шклозавод, гарбарня і некалькі прадпрыемстваў спажывецкай прамысловасці ў Беластоку, а гэта ўжо акрэсліла яго будучае месца ў ваяводстве, адрамантаваны таксама фабрыка сукна ў

* Rocznik Statystyczny gus 1947. Warszawa, 1948. S. 2!.



Васількове і Міхалове, лесапільні ў Гайнаўцы і ў Чорнай Беластоцкай і некалькі іншых прадпрыемстваў.

У сельскай гаспадарцы даволі хутка быў дасягнуты даваенны ўзровень па збору збожжа, бульбы і ў жывёлагадоўлі. Былі наладжаны транспарт, гандаль і школьніцтва, у тым ліку навучанне беларускай мове, якое ў 1946—1949 гадах было ліквідавана, а пасля з цяжкасцю адноўлена. Міграцыі насельніцтва ў гарады амаль не існавала па прычыне недахопу жылля.

Вялікія змены пачаліся пасля прыняцця шасцігадовага плана індустрыялізацыі і пабудовы асноў сацыялізму, які ахопліваў 1950—1955 гады. На апісваемай тэрыторыі былі пабудаваны, у рамках развіцця прамысловасці на ўскраінах, 15 вялікіх заводаў агульнадзяржаўнага значэння, і ў тым ліку: інструментальны завод «Ухвыты» ў Беластоку, машынабудаўнічы завод у Чорнай Беластоцкай, буйнейшы ў ваяводстве тэкстыльны камбінат «Фасты», перабудаваны фанерны завод у Беластоку, завод сухой перагонкі драўніны ў Гайнаўцы, чыгуначныя майстэрні ў Старасельцах, гарбарня ў Крынках і некалькі важных прадпрыемстваў спажывецкай прамысловасці*. У канцы 1955 года дзейнічала 570 прамысловых прадпрыемстваў, у якіх працавала каля 22 тысяч рабочых. Пабудаваная тут металаапрацоўчая прамысловасць стварыла трывалыя месцы працы выхадцам з перанаселеных беларускіх вёсак.

У сельскай гаспадарцы пачаўся цяжкі для вясковага насельніцтва перыяд сацыялістычных калгасных пераўтварэнняў шляхам правядзення кааперацыі індывідуальных гаспадарак. Каапераваннем гэтым былі ахоплены ў першую чаргу сяляне беларускіх, больш прыхільных народнай уладзе, вёсак. У 1955 годзе існавала ў сямі паветах усходняй Беласточчыны каля 300 сельскагаспадарчых кааператываў, а ва ўсіх дванаццаці апошніх паветах ваяводства — толькі 70. У большасці вёсак узніклі ўзорныя гаспадарчыя пабудовы, паявіліся новыя першыя сельгасмашыны, штучныя ўгнаенні, электраэнергія. Піянерамі кааперацыі была вясковая бедната, якую большасць сялян не падтрымала. У выніку недаверу гэтай форме гаспадарання, а часта непаразуменняў, пачалася празмерная міграцыя сялян у гарады, якая давяла да нясустракана хуткага «старэння вёсак». Пасля польскага кастрычніка 1956 года большасць заснаваных кааператываў распалася. Але пачатая міграцыя ў гарады працягвалася яшчэ цэлыя дзесяцігоддзі.

Чарговыя пяцігадовыя планы развіцця народнай гаспадаркі ПНР прыкметных зменаў у жыцці Беласточчыны не ўнеслі. Зменшыліся капіталаўкладанні, застаўся аграрна-прамысловы яе

* Województwo białostockie. Monogr. pod red. J. Kostrowickiego Lublin. 1967. S. 457.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

характар на Беласточчыне. У некаторых агульнадзяржаўных паказчыках удзел усходняй Беласточчыны быў даволі высокі. У вытворчасці фанеры складаў ён у тыя гады 25 %, плюшу — 14 %, а ваўняных вырабаў — 5 % усёй краіны*.

Перыядам гаспадарчага ажыўлення былі сямідзесятыя гады. На аснове ўласных сродкаў і замежных крэдытаў была мадэрнізавана большасць існуючых прадпрыемстваў усходняй Беласточчыны і збудаваны новыя: паліграфічны камбінат, завод будаўнічых панеляў, дарожных машын, мясакамбінат у Беластоку, філіял інструментальнага завода і завод сухога малака ў Бельску, дрэвападобных плітаў і мэблі ў Гайнаўцы, керамічны завод у Старым Ляўкове, будаўнічай сталяркі ў Саколцы. Упершыню на гэтай тэрыторыі паявілася электронная прамысловасць (Беласток, Бельск, Ліпск).

Сямідзесятыя гады былі спрыяльнымі і для сельскай гаспадаркі. Канчаткова была зліквідавана на Беласточчыне цераспалосіца і трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі, больш шырока праведзена меліярацыя, закончана электрыфікацыя вёсак, пашырана крэдытная сістэма на сялянскія пабудовы і набыццё штучных угнаенняў, удасканалены формы контрактацыі на сельскагаспадарчыя тавары. Добрыя вынікі дасягнуты ў жывёлагадоўлі. На 100 гектараў сельгасугоддзяў выпадала тады 60 галоў буйной рагатай жывёлы і каля 90 галоў свіней**. Сяляне мелі запэўнены збыт на ўсе свае тавары па цэнах крыху вышэйшых, чым рынкавыя.

Першыя разрэгуляванні грамадскага і гаспадарчага жыцця пачаліся ў канцы 1980 года пад уздзеяннем «Салідарнасці». Яе палітычныя патрабаванні, спалучаныя з падрыхтоўкай да захопу ўлады з аднаго і супраціўленне дагэтуляшніх уладаў з другога боку, выклікалі пагрозлівыя абставіны грамадзянскай братазабойчай вайны, а можа, нават і знешняй інтэрвенцыі. Заняпад вытворчасці, недахоп тавараў, інфляцыя сталіся цяжкай рэчаіснасцю штодзённага жыцця амаль усіх грамадзян. У такіх абставінах насельніцтва Беласточчыны чарговы раз падзялілася на прыхільнікаў «салідарніцкага руху» і ўраду. Беларускае праваслаўнае насельніцтва падтрымлівала народную ўладу, а польскае — у значнай большасці «Салідарнасць». Усяму канец палажыла ўвядзенне ваеннага становішча ў краіне ў 1981 годзе. Беларусы адразу ацанілі яго ўвядзенне станоўча таму, што яно закончыла дзейнасць апазіцыі бескрывавым шляхам.

Аднак цэлае наступнае дзесяцігоддзе гаспадарчае жыццё было быццам затарможанае, без упадку і без прагрэсу. У выніку захопу

* Rocznik Statystyczny województwa białostockiego. 1966. WUS w Białymstoku. S. 33.
** Rocznik Statystyczny województwa białostockiego, 1980. WUS. S. 126.



ўлады ў 1989 годзе салідарніцкімі групоўкамі, зрыву эканамічных унутрыдзяржаўных і замежных сувязей, ліхаманкавага імкнення да ўвядзення рынкавых адносін наступіў гвалтоўны ўпадак вытворчасці, банкруцтвы банкаў, масавае беспрацоўе, несустраканая дагэтуль інфляцыя і абядненне насельніцтва. У канцы 1994 года ў Беластоцкім ваяводстве апынулася без працы каля 50 тысяч чалавек, гэта амаль столькі, колькі раней працавала ва ўсёй яго прамысловасці. Ізноў прычынай працяглай рэцэсіі ў сельскай гаспадарцы быў некантраляваны імпарт танных нізкаякасных тавараў з Заходняй Еўропы і Амерыкі. Няўпэўненасць у заўтрашнім дні, асабліва сярод моладзі, сталася небяспечным прывідам будучыні. З шырэйшай ацэнкай апошняга пяцігадовага паслясалідарніцкага перыяду трэба яшчэ ўстрымацца.

## Аб нас — і мы аб сабе

У нашых разважаннях нельга пакінуць некранутымі сучасныя пытанні тоеснасці беларускага насельніцтва. Аднак адказаць на іх нялёгка. У выніку шматвекавога сужыцця з суседзямі паміж усходнімі і заходнімі славянамі сфарміравалася этнічная мяжа. Адно з першых апісанняў яе даў ураджэнец Бельска прафесар Віленскага універсітэта Юзэф Ярашэвіч. Паводле яго: «Лінія сутыкнення гэтых славянскіх плямёнаў розных па мове, звычаях, фізіяноміі і веравызнаннях, захоўваецца да сённяшняга дня ў былой Беластоцкай акрузе. Асаблівасці польскай мовы ў мазавецкім дыялекце ёсць па старане заходняй, г. зн. у напрамку граніцы Польскага Каралеўства, мова руская — ад усходняй або даўнейшай граніцы Гродзенскай губерні. Руская мова канчаецца ў Драгічынскім павеце на лініі, якую вызначаюць вёскі (*напісанне назваў захоўваецца, як у арыгінале Ярашэвіча. — У. Ю.*): Слохі, Огороднікі, Клекотово, Крупец, Рогавка, Клюково, Верэмейкі, Журобіцэ, Горново, Лубрэйкі. Адна толькі шляхецкая аколіца Толвін ляжыць паміж Русінамі, у Бельскім павеце (паводле даўнейшых яго граніц, таму што сёння спалучаны з ім і Драгічынскі) і Беластоцкім, канчаецца руская мова, а пачынаецца польская ў наступных вёсках: Якубовічэ, Верцене, Лубін, Маліново, Банькі, Невіно Лесьнэ, Ольшаніца, Малешэ, Страбля (дагэтуль Бельскі павет), Дрозды, Ходоры, Зімнохы, Чачкі, Ковале, Туросль Косьцельна, Іванувка, Неводніца, Чаплін, Хорошч, Ленцэ, Яворувка, Храболы, Пэнске, Богушэво, Магусы, Сікоры, Калінувка, Вельке Рудковске, Монюшкі, Долістово (у Беластоцкім павеце)* (*пераклад з польскай м. — У. Ю.*).

Не пазбаўлена гэтая мяжа невялікіх памылак, але на яе слушна спасылаюцца многія даследчыкі. Больш супярэчлівым стаўся

* *Jaroszewicz J.* Obraz Litwy... Wilno. 1848. S. 206.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ўнутраны падзел усходняй Беласточчыны лінгвістычнымі і веравызнаўчымі межамі.

Расейскі генерал, па нацыянальнасці беларус, Павел Баброўскі пісаў: «Итак, основываясь на языке в Гродненской губерни, мы отличаем две русские народности: Чернорусов, тех же Белорусов, и Малоросиян, или лучше Полешуков, или Пинчуков, или Бужан»*. Некалькі старонак далей дадаў: «На юге, за Наревом, заблудовский язык примыкает опять к особому оттенку русского языка, который у здешних жителей называется «королиоуским».

Трэба заўважыць, што ў выказваннях генерала закранута многа цікавых, незакончаных спасцярогаў.

У 1863 годзе Р. Эркерт, праводзячы падзел беларусаў на тры групы, выдзеліў падляшан як найбольш апалячаных, а заселеную імі тэрыторыю на поўдні аддзяліў мяжой па вярхоўях ракі Нурэц да Бранска, а далей на поўначы — у напрамку Беластока.

Чарговы расейскі генерал А. Рыціх адсунуў яе каля 30 кіламетраў на поўнач на рубеж ракі Нарвы. Ад гэтага часу пачаліся нічым не даказаныя «перасоўванні» не моўнай, а этнічнай мяжы беларускага насельніцтва. Мовавед Я. Карскі ў 1903 годзе пісаў: «...южную границу белорусов проведем следующим образом: рекою Наревом, по Бельскому уезду Гродненской губерни до Беловежской пущи, далее по р. Наревке она прорезает последнюю до м. Шерешева»**. Аднак хутка заўважыў сваю памылку і перасунуў этнічную мяжу на Нурэц на аснове некалькіх моўных асаблівасцей. Нічога дзіўнага ў тым, што ў атмасферы хісткасці выказванняў такіх аўтарытэтных даследчыкаў, паводле першага перапісу насельніцтва Расіі 1897 года, ўсё насельніцтва Бельшчыны было залічана да маларусаў, што тады было яшчэ раўназначна існуючаму ў народзе паняццю «тутэйшыя», а пасля таго як аджыў тэрмін «маларусы» — да ўкраінцаў. Вось як тлумачыў гэтую з'яву каля дзесяці гадоў пасля гісторык Аляксандр Ябланоўскі: «...рускія асаднікі Падляшша ішлі пераважна з боку Палесся — аб гэтым пераконвае ў першую чаргу мова люду рускага зямель як Брэсцкай, так і драгічынска-бельскай, больш збліжанай да гаворкі маларускай пінскай, чым валынскай»*** (*пераклад з польскай м. — У. Ю.*).

Метадам Карскага карыстаўся польскі мовавед В. Курашкевіч. Ён зноў усё насельніцтва паміж Бугам і Нарвай залічыў, паводле некалькіх гукаў, да ўкраінцаў у той перыяд, калі на гэтым абшары пад уздзеяннем БСРГ (Грамады) узрастала беларуская

---

* *Бобровский П.* Материалы для географии и статистики России. Гродненская губерня. Ч. I, Спб. 1863. С. 623.

** *Карский Е.* Белорусы. Т. I. Варшава, 1903. С. 11

***Jablonowski *A.* Polska XVI wieku. Podlasie. Warszawa. 1909. S. 2.



нацыянальная свядомасць у барацьбе з польскімі санацыйнымі ўладамі.

Беларускія этнографы, асабліва Мітрафан Доўнар-Запольскі (1919) і Майсей Грынблат (1968), вярнуліся да этнічнай мяжы Ю. Ярашэвіча, удакладнілі яе, а на поўдні акрэслілі нават на левым пабярэжжы Буга*.

Тэрмінам «рускі», «русіны» карысталіся польскія гісторыкі З. Глёгер, А. Каміньскі, Е. Вісьнеўскі і іншыя, якія за асноўны крытэрый нацыянальнай прыналежнасці насельніцтва Падляшша прымалі яго гістарычную прыналежнасць да Кіеўскай Русі.

Багаты даследчы матэрыял прадстаўлены таксама ў Атласе гаворак усходняй Беласточчыны**. Картасхемы фанетычнага падзелу дыялектаў, максімальныя іх межы, каментары робяць выданне даволі цікавым, але гэта зноў толькі адзін з крытэрыяў — мова.

Нам хацелася б мець даследаванне мясцовага моўнага архаізму, які стаўся субстратам развіцця беларускіх і ўкраінскіх дыялектаў.

Арыгінальныя думкі ў акрэсленні нацыянальнасці мясцовага насельніцтва выказалі беластоцкія сацыёлагі. Уладзімір Паўлючук на аснове аналізу ўздзеяння на яго свядомасць веравызнання выказаў супярэчлівае для ўсходняй Беласточчыны паняцце «этнічная група». Не пракаменціраваў, якога насельніцтва яго датычыць: каталіцкай Сакольшчыны, як беларускага пакладу, ці праваслаўнай Бельшчыны, як дзейнага капіталу. Паміж імі ўсё ж розніца вялікая. Піша ён: «Даходзім, значыць, да высноваў, што ва ўсходніх паветах Беласточчыны сфармавалася, на базе веравызнаўчай адметнасці, этнічная група, не маючая ўласнага этнаграфічнага аблічча, якая, аднак, выразна адрозніваецца свядомасцю сваёй іншасці» і адметнасцю агульных паводзін*** (*пераклад з польскай м. — У. Ю.*).

Другі сацыёлаг, Андрэй Садоўскі, на аснове выказванняў невялікай групы мясцовых жыхароў выдзеліў тыпы іх нацыянальнай свядомасці: праваслаўных, праваслаўных палякаў, палякаў беларускага паходжання, польскіх беларусаў, беларусаў, пражываючых у Польшчы, і беларусаў. Тры апошнія групоўкі раўназначныя і адэкватныя паняццю нацыянальнасці або нацыянальнай меншасці. Акрэсленне «палякі беларускага паходжання» з'яўляецца ўсяго толькі гульнёй слоў, а паняцці, звязаныя з веравызнаннем, у этнаграфіі раўназначна з нацыянальнасцю не выступаюць. Увяла іх раней каталіцкая, а апошнім часам праваслаўная іерархія артыкулам у адным з календароў «Хто ты».

---

* *Гринблат М. Я.* Белорусы. Очерки происхождения... Мн. 1968. С. 84.

** Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. T. I. 1980. S. 122 i inne.

***Pawluczuk W. Białorusini jako grupa etniczna-próba interpretacji sociologicznej. W: Studia Socjologiczne № 2. 1968. S. 35.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Зразумела, гэта ёсць вынік вельмі нізкай нашай нацыянальнай свядомасці і неадукаванасці. Мы выразна належым да двух гістарычна-этнаграфічных беларускіх рэгіёнаў: Заходняга Палесся — на поўдні і Панямоння — на поўначы.

Польскамоўная прэса перыяду народнай улады, у тым ліку беластоцкая, рэдка займалася беларускай праблематыкай, калі нават яе закранала, дык толькі пахвальна-куртуазна. Але на хвалях палітычных антыўрадавых падзей пяцідзесятых, асабліва васьмідзесятых і дзевяностых, гадоў ужо буйнела гневам да «рускіх» (чытай — праваслаўных беларусаў). У 1981 годзе разгарэлася на старонках органа ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку дыскусія над артыкулам С. Яновіча «Нашыя беларусы»*.

У 1989 годзе К. Семяняка апублікаваў у мясцовай газеце «Кур'ер падляскі» артыкул «Пад рознымі крыжамі», які раней быў узнагароджаны ў конкурсе пад назвай «Крэсы даўней і сёння». Гнеўная над ім дыскусія пераўтварылася ў «суд над беларусамі»** і была затрымана. Такія прэсавыя безадказныя нападкі паўтараліся даволі часта.

Найвялікшае браджэнне ў беларускім асяроддзі выклікала інтэрв'ю каталіцкага ксяндза А. Стопкі з архіепіскапам беластоцкім Станіславам Шымэцкім, біскупам памоцным Э. Азароўскім і ксяндзом пралатам С. Пятроўскім, якое было змешчана ў 1993 годзе ў газеце «Госць недзельны» пад загалоўкам «Праблемы з суседзямі»***. Пасля супольнага адказу Галоўнага праўлення БГКТ і Галоўнага праўлення Праваслаўнага брацтва ў Польшчы разгарэлася заўзятая веравызнаўчая палеміка над абвінавачаннямі нашай меншасці. Прывядзём з упамянутага інтэрв'ю кароткія вытрымкі: «Да 1980 года на гэтым абшары беларусаў не было зусім. Пад уздзеяннем пэўных правадыроў, зараз крыху сілай, абуджаецца сярод часткі насельніцтва беларуская свядомасць». У іншым месцы: «Дэмакратыя (беларусаў) абвастрыла іх пачуцці не толькі на сваё веравызнанне, але таксама на справы дзяржаўнай адметнасці («одрэмбнасці»). Лічу, што пад парасонам веравызнання прабуджаецца ў іх імкненне да здабыцця беларускай дзяржаўнасці... Масква праваслаўных лічыла сваімі падданымі. У сувязі з гэтым на вызнаўцаў праваслаўя кладзецца цень, што яны на паслугах у Масквы» (*пераклад з польскай м. — У. Ю.*).

Прысуд гэта над беларусамі праваслаўнага веравызнання ці толькі чарговы заклік да распальвання нацыянальных непаразуменняў — адгадаць цяжка. У кожным выпадку пастыры

* *Janowicz S.* Nasi Białorusini. W: Gazeta Współczesna. № 201. Białystok. 1986.
** Rosinski. Sąd Siemieniaki nad Białorusinami. W: Kurier Podlaski. 1989. № 30
*** Problemy z sąsiadami. W: Gość Niedzielny. 1993. № 35, i List otwarty do Jego Ekscelencji Księdza Arcybiskupa Stanisława Szymeckiego... Kurier Poranny 1993. 5—7.XI



ужо знайшліся, але не аказалася авечак. Польская папулярная газета «Не» (1994 г., № 15) заўважыла, што «...незалежна ад экуменічных заклінанняў пана папы кіпіць тут безупынная барацьба між Касцёлам кат. і «рускімі», якія ў навуковай літаратуры называюцца праваслаўнымі» (*тлумачэнне з польскай мовы. — У. Ю.*). Напружанасці ў штодзённым жыцці ўсходняй Беласточчыны мы не адчуваем. Але палітычная і рэлігійная дыферэнцыяцыя насельніцтва паглыбляецца. Аб гэтым сведчаць вынікі выбараў у Сейм Польшчы, прэзідэнта і ў мясцовыя самаўправы. Беларускае праваслаўнае насельніцтва рашуча падтрымлівае левыя групоўкі незалежна ад іх назваў. Адначасна хутка расце колькасць праваслаўных вернікаў.

Колькасць беларускага насельніцтва на тэрыторыі ўсходняй Беласточчыны невядома. Розныя крыніцы, у залежнасці ад прынятых крытэрыяў вызначэння нацыянальнасці, падаюць яго прыблізную колькасць ад 120—140 тысяч* да 200—250 і нават 350 тысяч**. Трэба адзначыць, што тры апошнія выступаюць у выданнях БГКТ або паходзяць ад аўтараў, звязаных з яго дзейнасцю.

Аўтар гэтай публікацыі таксама двойчы правёў такія падлікі. У іх аснову была пакладзена заселенасць тэрыторыі ад дзяржаўнай граніцы Польшчы з Беларуссю да ўпамянутай раней этнічнай мяжы. У 1966 годзе, паводле даных ваяводскай статыстычнай управы ў Беластоку, тут пражывала 687 тысяч асоб, у тым ліку мы далічыліся 376 тысяч беларусаў. У 1987 годзе адпаведна — 645 тысяч і 356 тысяч беларусаў. Падлікі апублікаваны ў «Ніве»***.

Вызначэнне нацыянальнага складу і колькасць насельніцтва ў вёсках сумненняў не выклікае. Але ў гарадах нацыянальнасць затойваецца па розных прычынах. Бездзяржаўная гістарычная мінуўшчына беларусаў, рэпрэсіі, эвакуацыі, рэлігійныя націскі каталіцкага кліру парадзілі тып прыстасаванцаў да акрэсленых абставін і кан'юнктуры, пры якіх у гарадскім асяроддзі яны залічваюць сябе да палякаў, а ў вясковых у той самы дзень — да беларусаў. Нацыянальную прыналежнасць такога насельніцтва можна правільна вызначыць толькі пасля многагадовага супольнага побыту. Таму прыняты для Беластока, Сямяцічаў і Саколкі паказчык 33 %, а для Бельска і Гайнаўкі — 50 % беларусаў ад агульнага ліку жыхароў****.

У практычнай дзейнасці БГКТ улічваюцца, аднак, рэаліі. Паўночная частка апісаных тут зямель, як заўважыў С. Шырокі,

* Województwo Białostockie. Monogr. pod red. J. Kostrowickiego. Lublin. 1967. S. 71.
** Беларускія календары ГП БГКТ і «Ніва».
*** Юзвюк У. Колькі нас ёсць. Ніва. 1967. № 51. Колькі нас. Ніва. 1989. № 3.
**** Целушэцкі Я. акрэслівае лік беларускага насельніцтва ў Гайнаўцы на 70 %. Беларускі каляндар ГП БГКТ. 1993. С. 79.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

«парэ кселанс народнабеларуская», захоўвае беларускую матэрыяльную культуру і мову, але размежавалася паводле вера-вызнаўчага крытэрыю: каталікі — значыць палякі, а праваслаўныя — беларусы. У арганізацыйнай дзейнасці вельмі нерашучыя, настаўлены на ўспрыманне культурна-асветных мерапрыемстваў, але не на іх стварэнне.

Сярэдняя частка тэрыторыі ў працэсе засялення і загаспадарання сталася многанацыянальнай, асабліва ў гарадскім асяроддзі. Зараз знаходзіцца пад вялікім уздзеяннем ваяводскай метраполіі г. Беластока. У нацыянальных адносінах таксама не выказвае вялікай актыўнасці, асабліва сатэлітарныя гарадкі: Васількова, Харошча, Заблудаў, Міхалова, Супрасль.

Паўднёвая частка была і застаецца асноўным абшарам дзейнасці БГКТ, развіцця школьніцтва з беларускай мовай (навучання, мастацкага самадзейнага руху) нават такіх ініцыятыў, як пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы. Можна сказаць, што тут сапраўды старабеларускасць спалучаецца разумна з сучаснай грамадскай актыўнасцю насельніцтва.

*Сяргей КРЭЙЗА*

## След нашай мінуўшчыны

Падрыхтоўваючы справаздачна-выбарную канферэнцыю аддзела БГКТ у Сямяцічах, яго праўленне правяло ў 1957 годзе даследаванні колькасці беларускага насельніцтва ў сваім павеце. Работай кіраваў тагачасны сакратар аддзела Сяргей Крэйза.

Агульная колькасць жыхароў для паасобных мясцовасцей была ўзята з уліку насельніцтва 1954 года ў паасобных грамадах, у які ўведзены папраўкі на натуральны прырост за чарговыя два гады і акругленні да 10 асоб (непатрэбна!). Са спісу вынікае, што ў выказаных грамадах пражывала 33 490 асоб, а беларусы складалі каля 60 % іх ліку. Веравызнанне прынята за асноўны крытэрый нацыянальнай прыналежнасці, які мы лічым памылковым. Але на паўднёва-заходнім этнічным паўзмежжы Беласточчыны вялікай памылкі не дапушчана таму, што тут этнічная мяжа паміж усходнімі і заходнімі славянамі супадае з гістарычнай мяжой праваслаўнага і каталіцкага веравызнанняў.

Мы паспрабавалі праверыць некаторыя даныя, і аказалася, што яны даволі дакладныя для вясковага насельніцтва і крыху заніжаныя для гарадскога — Драгічына і Сямяцічаў. Няма ніякіх заўваг па іншых нацыянальнасцях, у тым ліку — украінцах. Іх тады проста яшчэ не было. Можа, гэта сапраўды правакацыя пэўных колаў сучасных улад, як піша В. Аляксеюк у «Часопісе» (1994, № 12), якія «ўкраінізацыю Падляшша» праводзяць у акрэсленых мэтах.



Арыгінал спіса на польскай мове захоўваецца, пераклад У. Юзвюка.

Сямяцічы. 10.10.1957. *Праўленне аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Сямяцічах*

### Спіс
**грамадскіх радаў нарадовых і падпарадкаваных ім вёсак, у якіх пражывае беларускае насельніцтва, а таксама колькасць дэлегатаў на II з'езд БГКТ**

| № | Сядзіба ГРН (гміны) | Падлеглыя ГРН вёскі | Лік жыхароў | | Лік дэлегатаў | Адказны за сход |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | разам | у тым л. беларус. | | |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 1. | Бацікі Сярэднія | | 370 | 370 | 4 | Сяргей |
| | | Бацікі Дальшыя | 290 | 280 | 3 | Крэйза |
| | | Бацікі Бліжшыя | 330 | 330 | 3 | |
| | | Раманаўка | 320 | 300 | 3 | |
| | | **Разам** | 1310 | 1280 | 13 | |
| 2. | Каянка | | 250 | 140 | 1 | Аляксандр |
| | | Машчоная Панская | 400 | 380 | 4 | Чырында |
| | | **Разам** | 650 | 520 | 5 | |
| 3. | Баратынец Рускі | | 350 | 300 | 3 | Віталі |
| | | Шэршэні | 220 | 220 | 2 | Граховіч |
| | | Машчоная Каралеўская | 330 | 330 | 3 | |
| | | **Разам** | 900 | 850 | 8 | |
| 4. | Грабарка | | 240 | 240 | 2 | Аляксандр |
| | | Сычы | 230 | 230 | 2 | Чырында |
| | | Паўлавічы | 260 | 260 | 2 | |
| | | Баратынец Ляцкі | 200 | 100 | 1 | |
| | | **Разам** | 930 | 830 | 7 | |
| 5. | Чартаева | | 650 | 50 | - | Сяргей |
| | | Лешчка | 190 | 110 | 1 | Крэйза |
| | | **Разам** | 840 | 160 | 1 | |
| 6. | Верцень | | 300 | - | - | |
| | | Верамейкі | 120 | 80 | 1 | Сяргей |



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Ляхаўка | 130 | 10 | - | Крэйза |
| | | Разам | 550 | 90 | 1 | |
| 7. | Скiвы Вялiкiя | | 140 | 50 | 1 | |
| | | Залессе | 250 | 40 | - | Яўген |
| | | Цацэлі | 350 | 350 | 3 | Лапацюк |
| | | Разам | 740 | 440 | 4 | |
| 8. | Чорная Сярэдняя | | 470 | 470 | 4 | |
| | | Чорная | | | | Сяргей |
| | | Царкоўная | 200 | 200 | 2 | Крэйза |
| | | Чорная | | | | |
| | | Вялікая | 380 | 380 | 4 | |
| | | Разам | 1050 | 1050 | 10 | |
| 9. | Мілкавічы Мацькі | | 290 | 90 | 1 | Яўген |
| | | Наройкі | 350 | 350 | 3 | Лапацюк |
| | | Разам | 640 | 440 | 4 | |
| 10. | Дзядкавічы | | 200 | 60 | 1 | |
| | | Гарнова | 650 | 80 | 1 | Сяргей |
| | | Ліпіны | 140 | 10 | - | Крэйза |
| | | Разам | 990 | 150 | 2 | |
| 11. | Гарадзіска | | 280 | 120 | 1 | |
| | | Макаркі | 270 | 200 | 2 | Сяргей |
| | | Дрохлін | 210 | 200 | 2 | Крэйза |
| | | Разам | 760 | 520 | 5 | |
| 12. | Клюкавічы | | 420 | 400 | 4 | |
| | | Клюкавічы | | | | |
| | | Калёнія | 230 | 150 | 1 | Кастусь |
| | | Вычулкі | 290 | 290 | 3 | Пытэль |
| | | Літвінавічы | 260 | 260 | 2 | |
| | | Разам | 1200 | 1100 | 10 | |
| 13. | Сяміхочы | | 410 | 410 | 4 | |
| | | Вэрпаль | 270 | 200 | 2 | Кастусь |
| | | Тымянка | 550 | 550 | 5 | Пытэль |
| | | Разам | 1230 | 1160 | 11 | |
| 14. | Вілінава | | 530 | 510 | 5 | |
| | | Стаўбцы | 390 | 300 | 3 | Кастусь |
| | | Такары | 360 | 90 | 1 | Пытэль |
| | | Разам | 1280 | 900 | 9 | |
| 15. | Волька Нурэцкая | | 610 | 610 | 6 | |
| | | Янцэвічы | 160 | 100 | 1 | Лідзія |
| | | Зубачы | 310 | 310 | 3 | Лубачэўская |
| | | Баброўка | 240 | 240 | 2 | |
| | | Разам | 1320 | 1260 | 12 | |
| 16. | Крупічы | | 440 | 250 | 2 | |
| | | Рагаўка | 450 | 400 | 4 | Сяргей |
| | | Клюкава | 240 | 140 | 1 | Крэйза |
| | | Клекатова | 180 | 100 | 1 | |
| | | Разам | 1310 | 890 | 8 | |
| 17. | Заячнікі | | 600 | 400 | 4 | Міхась |
| | | Буякі | 490 | 90 | 1 | Волчук |
| | | Разам | 1090 | 490 | 5 | |
| 18. | Слахі Аннапол. | | 500 | 500 | 5 | |



| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Агароднікі | 250 | 250 | 2 | Міхась |
| | | Волька над | | | | Волчук |
| | | Бугам | 180 | 180 | 2 | |
| | | Турна Вялікая | 320 | 320 | 3 | |
| | | Турна Малая | 160 | 160 | 1 | |
| | | Разам | 1410 | 1410 | 13 | |
| 19. | Мельнік | | 840 | 440 | 4 | Пётр |
| | | Радзівілаўка | 280 | 200 | 2 | Бадавец |
| | | Разам | 1120 | 640 | 6 | |
| 20. | Мілейчыцы | | 1330 | 1000 | 10 | Пётр |
| | | Навасёлкі | 160 | 160 | 1 | Бадавец |
| | | Разам | 1490 | 1160 | 11 | |
| 21. | Рагачы | | 370 | 370 | 4 | |
| | | Мікулічы | 340 | 340 | 3 | Люба |
| | | Мядзвежыкі | 290 | 290 | 3 | Сыч |
| | | Баравікі | 240 | 240 | 2 | |
| | | Разам | 1240 | 1240 | 12 | |
| 22. | Паканева | | 250 | 100 | 1 | Віктар |
| | | Паканева | | | | Такаюк |
| | | Калёнія | 300 | 140 | 1 | і |
| | | Грабарка | 120 | 120 | 1 | Аляксандр |
| | | Харашчэва | 270 | 70 | 1 | Праховіч |
| | | Валкі | 230 | 120 | 1 | |
| | | Клімкавічы | 90 | 90 | 1 | |
| | | Разам | 1260 | 640 | 6 | |
| 23. | Асада Нурэц | | 1120 | 220 | 2 | |
| | | Нурэц | 250 | 250 | 2 | |
| | | Нурэц Калёнія | 80 | 80 | 1 | Віктар |
| | | Нурчык | 130 | 130 | 1 | Такаюк |
| | | Нурчык Калёнія | 110 | 50 | - | |
| | | Хане Хурсы | 130 | 130 | 1 | |
| | | Аўгустынка | 340 | 300 | 3 | |
| | | Разам | 2160 | 1160 | 10 | |
| 24. | Жэрчыцы | | 330 | 310 | 3 | |
| | | Забалоцце | 210 | 210 | 2 | Пётр |
| | | Залессе | 360 | 340 | 3 | Новік |
| | | Барысаўшчына | 120 | 120 | 1 | |
| | | Разам | 1020 | 980 | 9 | |
| 25. | Сямяцічы | Разам | 4900 | 800 | 8 | С. Крэйза |
| 26. | Драгічын | Разам | 2100 | 300 | 3 | П. Бадавец |
| | | Агулам | 33490 | 20460 | 193 | — |

Заўвага: прыведзеныя вышэй даныя атрыманы з перапісу насельніцтва 1954 года, уведзены папраўкі ў акругленні да 10 асоб у кожнай рубрыцы і ўлічаны натуральны прырост насельніцтва.

Подпіс *С. Крэйза*



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Аляксандр Іванюк*

## Вытокі Беларускага музея ў Польшчы (1956—1973)

1996 год з'яўляецца той датай, якая натрывала запішацца ў гісторыі беларускай меншасці ў Польшчы. Менавіта на гэты год прыпадае 40-ая гадавіна тых перамен, якія мелі свой пачатак у памятным 1956 годзе. З нараджэннем Беларускага грамадска-культурнага таварыства адраджалася і нацыянальнае жыццё беларусаў у Польшчы. Ад самага пачатку з дзейнасцю таварыства былі звязаны розныя мерапрыемствы, якія актывізавалі беларускае асяроддзе, будзілі нацыянальную свядомасць, выклікалі зацікаўленне да сваёй гісторыі, традыцый, культуры і роднай мовы. З гісторыяй і дзейнасцю БГКТ непарыўна звязана і гісторыя беларускага музея.

Ідэю стварэння памятніка матэрыяльнай і духоўнай культуры доўгія гады насілі ў сваіх сэрцах многія беларускія актывісты, аднак для ажыццяўлення гэтай ідэі не было спрыяльных умоў. І толькі пасля таго, як было створана Беларускае грамадска-культурнае таварыства, з'явілася магчымасць пертварыць ідэю ў рэчаіснасць. Аднак пры рэалізацыі гэтага задання паўставалі такія перашкоды і цяжкасці, якія з цягам часу мусілі выклікаць не толькі ўражанні, але нават перакананні, што гэтыя «рэальныя магчымасці» могуць стацца нерэальнымі. Многія факты, аб якіх будзе яшчэ гутарка, з'яўляюцца найлепшым доказам таго, што гэтыя адчуванні не былі пазбаўлены падстаў. Але, каб утрымаць пэўную храналогію, трэба вярнуцца да пачатку. З дакументаў вынікае, што гэтым пачаткам быў І з'езд БГКТ, які адбыўся 26 лютага 1956 года. Трэба затым лічыць, што гісторыя музея — гэта частка гісторыі таварыства. Уладзімір Юзвюк у сваім артыкуле «Мінулае і будучае беларускага музея» (Беларускі каляндар на 1987 г.) сцвярджае: *Ідэя арганізавання Беларускага этнаграфічнага музея ўзнікла разам са стварэннем БГКТ.*

Гэты факт сведчыць аб тым, з якой павагай і сур'ёзнасцю адносіліся заснавальнікі беларускага адраджэння да багатай матэрыяльнай і духоўнай спадчыны, якую стагоддзямі стваралі іх продкі — беларусы ўсходняй Беласточчыны. Думаю, што такая нагода, як саракагоддзе БГКТ, з'яўляецца добрай аказіяй на тое, каб гэтым людзям выразіць шчырую падзяку і захаваць іх у нашай памяці. Такой памяці заслугоўваюць: **Васіль Дзун, Мікола Лебядзінскі, Васіль Літвінчук, Піліп Кізевіч, Мікалай Седунь, Мікалай Самоцік** і многа, многа іншых, якія яшчэ жывуць і дзейнічаюць у БГКТ.

Такім чынам, дзякуючы актыўнасці многіх членаў БГКТ, зацікаўленне этнаграфічнай спадчынай усходняй Беласточчыны



пашыралася. У выніку такога зацікаўлення можна было зрабіць вельмі важны вывад: на гэтай тэрыторыі захавалася надзвычай багатая і арыгінальная матэрыяльная і духоўная культура, якую стварылі аўтахтонныя яе жыхары — беларусы.

Гэта была важная справа, якая ўвесь час была стымулам да дзейнасці над арганізацыяй музея. Першапачатковай формай папулярызацыі беларускай мастацкай культуры сталі выстаўкі. Упершыню такія выстаўкі былі арганізаваны восенню 1956 года ў Бельску Падляшскім і Гарадку. 14 кастрычніка акруговы музей у Беластоку пры ўдзеле беларускага таварыства падрыхтаваў выстаўку беларускай народнай творчасці. У польскай газеце «Трыбуна люду» ад 27 снежня 1959 года давалася наступная ацэнка выстаўкі: «Беларуская народная творчасць — гэта прыгожа тканыя дываны, кілімы, пругі, мастацкія гафты, саламяныя пляцёнкі».

Аднак выстаўкі не развязвалі праблему. Развязкай мог быць толькі музей. І таму ідэя пабудовы музея была ўвесь час ідэяй жывой і актуальнай. III з'езд БГКТ, які адбыўся 29 мая 1960 года па справе музея, прыняў у пастанове наступны пункт: «Прыкласці намаганні ў напрамку стварэння пры Беластоцкім музеі беларускага аддзела з тым, каб у будучыні ён мог служыць базай для самастойнага беларускага музея».

На той час, калі не было асобнага будынка, калі беларускае таварыства не мела ніякіх фінансавых сродкаў, такое рашэнне здавалася лагічным. Аднак так не сталася. У згаданым ужо артыкуле У. Юзвюк тлумачыць гэта наступна: «Рэалізаваць пастанову не ўдалося з увагі на ўжо існуючую ў музеі этнаграфічную выстаўку і пануючую ў ім цеснату».

Трэба згадзіцца з аўтарам вышэйсказанага, што ў Беластоцкім музеі былі цяжкія ўмовы. Аднак у кантэксце гэтага ўзнікае рэфлексія і больш агульнага характару. Менавіта многія факты з далейшага ходу падзей выразна даказваюць, што ўсе цяжкасці і перашкоды, звязаныя з беларускім музеем, мелі характар «аб'ектыўных». З перспектывы мінулага часу можна паставіць наступны тэзіс: сама аб'ектыўная перашкода і цяжкасць заключалася ў тым, што ідэя пабудовы беларускага музея не атрымала ў той час належнай падтрымкі з боку ўлад. Бо чым жа іншым, як не гэтым, можна вытлумачыць факт, што пабудовы сапраўднага музея беларуская меншасць мусіла чакаць аж 30 гадоў.

Нягледзячы на тое, што ад самага пачатку былі шматлікія перашкоды і цяжкасці, БГКТ і яго актыў не трацілі надзеі. У пачатку шасцідзесятых гадоў па ініцыятыве БГКТ быў створаны Грамадскі камітэт пабудовы Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Беластоку. Гэты факт патрабуе пэўнага паяснення. Уладзімір Юзвюк у артыкуле «Мінулае і будучае беларускага музея» (Беларускі каляндар на 1987 г.) піша наступнае: «... 26. 11.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012

1962 г. быў пакліканы Грамадскі камітэт пабудовы Дома культуры імя К. Каліноўскага ў Беластоку, яго ўзначальваў намеснік старшыні ВРН Станіслаў Юхніцкі».

Сапраўды, у гэты дзень у Беластоку адбылося пасяджэнне Грамадскага камітэта пабудовы Дома-памятніка імя К. Каліноўскага. У пасяджэнні бралі ўдзел наступныя асобы: Юхніцкі, Рызнар, Пярэська, Трыбульскі, Баравік, Валкавыцкі. З пратакола, аднак, вынікае, што пасяджэнне не было прысвечана пакліканню камітэта, але было чарговым яго пасяджэннем, на якім разглядаліся справы, звязаныя з пабудовай Дома імя К. Каліноўскага ў Беластоку. Гэтыя факты знаходзяць пацвярджэнне, але ўжо ў іншым артыкуле — «Этнаграфічны музей у Белавежы» (Беларускі каляндар на 1967 г.). Аўтар піша: «Другая прапанова прадугледжвала стварэнне Грамадскага камітэта пабудовы Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Беластоку. Камітэт працаваў звыш пяці гадоў, а ў 1964 г. перавёў сабраныя 160 тысяч злотых на заканчэнне будовы Дома культуры ў Гарадку». З вышэйсказанага выразна вынікае, што гэты камітэт не мог быць створаны ў 1962 г., а значна раней. З датай 26.11.1962 г. звязана яшчэ адна важная для гісторыі беларускага музея справа. Менавіта ў час гэтага пасяджэння ўпершыню разглядалася прапанова ГП БГКТ, каб замест Дома культуры імя К. Каліноўскага ў Беластоку пачаць арганізоўваць (будаваць) музей у Гайнаўцы. Гэтая новая канцэпцыя з боку ўдзельнікаў пасяджэння атрымала наступную ацэнку: «Прысутныя з увагай аднесліся да прапановы БГКТ, аднак, азнаёміўшыся з коштамі такой пабудовы, дайшлі да вываду, што ў сучасны момант камітэт не зможа выканаць такую сур'ёзную інвестыцыю. З гэтай прычыны камітэт пастанаўляе застацца пры старой канцэпцыі, што не выключае змены пастановы, калі ГП БГКТ прад'явіць рэальны план пабудовы музея ў Гайнаўцы».

У гэтым месцы трэба ўспомніць яшчэ аб адным факце. Менавіта на пасяджэнні 26.11.1962 г. па ініцыятыве тадышняга галоўнага рэдактара «Нівы» Георгія Валкавыцкага ў склад камітэта быў уведзены сакратар ГП БГКТ У. Юзвюк. Гэтая інфармацыя важная таму, што У. Юзвюк доўгія гады быў у цэнтры ўсіх праблем, звязаных з беларускім музеем. Узнікае затым пытанне: па якой прычыне ГП БГКТ выступіла з прапановай, каб замест Дома культуры імя К. Каліноўскага ў Беластоку пачаць будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы?

Абгрунтаванага адказу ў захаваных дакументах не знаходзім. Знаходзяцца інфармацыі агульнага характару, якія часткова паясняюць прычыны такой змены. Ініцыятарамі пабудовы музея ў Гайнаўцы былі актывісты беларускага таварыства з Гайнаўкі. Першая звестка знаходзіцца ў пратаколе з пасяджэння праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ, якое адбывалася 12.X.1962 г. Фармулёўка



© PDF: Kamunikat.org 2012

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

запісу была наступная: «З ініцыятывы Кастуся Майсені праўленне аддзела пастанавіла звярнуцца да БГКТ з прапановай, каб пачаць старанні ў напрамку пабудовы музея імя К. Каліноўскага ў Гайнаўцы ў сувязі з 100-ай гадавінай яго смерці ў 1964 г.». Больш канкрэтную матывіроўку аб пабудове музея ў Гайнаўцы знаходзім у прапанове з першага пасяджэння камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, якое праводзілася 10.1.1963 г. (такі камітэт быў створаны раней, аб чым будзе гутарка ў далейшай частцы артыкула). У гэтым пратаколе знаходзім наступны запіс: «У 1962 г. Гайнаўскі аддзел БГКТ звярнуўся да ГП БГКТ з прапановай разгледзець магчымасць пабудовы музея ў Гайнаўцы з увагі на тое, што насельніцтва Гайнаўшчыны — гэта ў асноўным беларусы, а сама Гайнаўка знаходзіцца на шырокавядомым шляху ў Белавежу».

Іншую прычыну аб патрэбе змены месца пабудовы беларускага музея выказала Лідзія Бялецкая (у той час старшыня ГП БГКТ) на другім пасяджэнні новастворанага Грамадскага камітэта пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, якое адбывалася ў Беластоку 16 студзеня 1963 г. У дыскусіі Л. Бялецкая сказала: «У Беластоку існуе ўжо некалькі гадоў малааператыўны камітэт пабудовы помніка К. Каліноўскаму, які на сваім банкаўскім рахунку мае 160 тысяч злотых. Трэба прапанаваць гэтаму камітэту, каб ён пералічыў грошы на патрэбы музея» (*маецца тут на ўвазе музей у Гайнаўцы. — А. І.*). Калі ідзе гаворка пра грошы, аб якіх успамінае Бялецкая, то яны былі пералічаны, аднак, на завяршэнне пабудовы Дома культуры ў Гарадку, і прысвоена было яму імя К. Каліноўскага. З вышэйсказанага вынікае, што ў 1963 г. тагачасныя ўлады БГКТ і яго актыў дайшлі да наступных вывадаў:

— па-першае, няма ніякіх магчымасцей стварыць помнік беларускай культуры ў Беластоку;

— па-другое, замест такога помніка ў форме Дома культуры трэба будаваць сапраўдны музей;

— па-трэцяе, месцам яго пабудовы павінна быць Гайнаўка. Такім чынам, ад другой паловы 1961 г. гісторыя беларускага музея пачынае цесна звязвацца з самой Гайнаўкай і Гайнаўшчынай. Значыцца, пачынаецца новы этап змагання беларусаў у Польшчы за музей. Аднак, як хутка акажацца, гэты новы этап не быў лепшы ад папярэдняга. Але расчараванні ўзніклі значна пазней, а на самым пачатку гэтага новага перыяду камітэт праяўляў вялікі энтузіязм і дынамізм дзеяння. Вяртаючыся да храналагічнага плана ў нашых разважаннях, яшчэ раз прыгадаем, што першая прапанова аб пабудове Беларускага музея ў Гайнаўцы была ўнесена **12 кастрычніка 1961 года**.

Ужо 15 сакавіка 1962 г. на IV пленуме ГП БГКТ, прысвечаным дзейнасці гурткоў, многа месца было прызначана справе музея.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Выразна было відаць, што справа стварэння музея станавілася асноўнай праблемай у статутнай дзейнасці БГКТ. Каб лепш справіцца з гэтым заданнем, па ініцыятыве Прэзідыума ГП 17 ліпеня 1962 г. быў створаны грамадскі камітэт, які прыняў назву **«Грамадскі камітэт пабудовы рэгіянальнага музея ў Гайнаўцы»**. Яго асабовы склад быў наступны: 1. Станіслаў Юхніцкі — старшыня Ваяводскага камітэта народнага Фронту адзінства, 2. Пётр Любянецкі — сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП, 3. Георгій Валкавыцкі — галоўны рэдактар «Нівы», 4. Уладзімір Юзвюк — сакратар ГП БГКТ, 5. Лідзія Бялецкая — старшыня ГП БГКТ, 6. Кастусь Майсеня — старшыня ПЗГС у Гайнаўцы, 7. Кастусь Ляшчынскі — старшыня гарадской рады ў Гайнаўцы, 8. Аляксандр Хілецкі — старшыня павятовай рады ў Гайнаўцы, 9. Пётр Санюковіч — першы сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы, 10. Мікалай Самоцік — сакратар павятовага камітэта ПАРП у Гайнаўцы, 11. Пётр Ластаўка — дырэктар прадпрыемства «Бэтэска» ў Варшаве, 12. Леакадзія Зіневіч — кіраўнік аддзела культуры ВРН у Беластоку.

Ініцыятыва пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы знайшла моцную падтрымку з боку Ваяводскага камітэта партыі. У пісьме ад 16.VIII.1962 г. за подпісам самога першага сакратара Аркадзія Лашэвіча сцвярджалася: «Ваяводскі камітэт ПАРП у Беластоку падтрымлівае просьбу Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства адносна арганізацыі музея імя Каліноўскага ў Гайнаўцы».

У хуткім часе з уладамі Гайнаўкі былі ўзгоднены амаль усе ўступныя справы. На аснове гэтых узгадненняў 6 верасня 1962 г. быў выдадзены дазвол на будову музея ў Гайнаўцы на скрыжаванні вуліц Вызвалення і Леніна на плошчы каля 3000 квадратных метраў. З боку ўлад БГКТ быў апрацаваны тэхнічны праект, у якім прадбачвалася, што будова мае адбывацца ў 1963—1964 гадах. Тлумачылася гэта тым, што на гады 1963 і 1964 прыпадала сотая гадавіна Студзеньскага паўстання на Беларусі і сотая гадавіна смерці яго кіраўніка К. Каліноўскага. Аргументацыя з кожнага пункту гледжання лагічная. Паводле праекта будынак меўся быць мураваны, трохпавярховы з агульнай кубатурай каля 3000 метраў. Планавалася, што пабудова будзе каштаваць у межах 2 мільёнаў злотых. Больш дакладны праект музея апрацаваў інжынер з Варшавы Павел Дэйкала. Каб надаць справе больш законны характар, 18.IX. 1962 г. ГП БГКТ звярнулася ў прэзідыум ВРН у Беластоку з просьбай прадбачыць у сваіх планах будову музея на гады 1963—1964.

Праяўляе сваю актыўнасць і Грамадскі камітэт пабудовы музея ў Гайнаўцы. Напачатку 1963 года, 10 студзеня, праводзіць сваё чарговае пасяджэнне, на якім прымае наступныя пастановы:



1. Зарэгістраваць камітэт пад назвай «Грамадскі камітэт пабудовы рэгіянальнага музея імя К. Каліноўскага ў Гайнаўцы».
2. Адкрыць банкаўскі рахунак.

Трэба, аднак, сказаць, што камітэт не быў самастойнай адзінкай з юрыдычнага пункту гледжання. Вынікала гэта з таго, што дзейнічаў ён не паводле свайго статута, а паводле статута беларускага таварыства. У першым пункце «Рэгуляміна», паводле якога дзейнічаў камітэт, знаходзіўся наступны запіс: «Пакліканы з ініцыятывы БГКТ Грамадскі камітэт пабудовы рэгіянальнага Беларускага музея ў Гайнаўцы, дзейнічае ў рамках статута Беларускага грамадска-культурнага таварыства». Можна затым лічыць, што камітэт быў пашыранай формай грамадскай дзейнасці таварыства ў рэалізацыі канкрэтнага задання — пабудовы музея. Інакш кажучы, быў гэта дарадчы орган ГП БГКТ.

У хуткім часе, 16 студзеня 1963 г., адбылося наступнае пасяджэнне камітэта, на якім выбраны яго прэзідыум у складзе: Мікалай Самоцік — старшыня, Станіслаў Юхніцкі — намеснік старшыні, Аляксандр Хілецкі — намеснік старшыні, Кастусь Майсеня — сакратар, Уладзімір Юзвюк — скарбнік. Апрача гэтага, прысутныя дамагаліся як найхутчэй зарэгістраваць камітэт, адкрыць банкаўскі рахунак, рабіць захады ў здабыванні фінансавых сродкаў. У выніку гэтага 17 студзеня 1963 г. камітэт быў зарэгістраваны, а 18 студзеня ў сельскагаспадарчым банку ў Гайнаўцы адкрыў свой рахунак (*конта*). Актыўнасць беларускага асяроддзя ў справе свайго нацыянальнага музея ўзрастала з кожным годам. Найлепшым доказам гэтага быў чарговы IV з'езд БГКТ, які адбываўся 16 чэрвеня 1963 г. Адносна музея з'езд прыняў наступную пастанову: «Беручы пад увагу тое, што беларускі раён Беласточчыны з'яўляецца адным з найбольш каштоўных крыніц этнаграфічных помнікаў, трэба зрабіць энергічныя крокі ў напрамку пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, не чакаючы вырашэння гэтай справы, пачаць як найхутчэй збор экспанатаў і часова перахоўваць іх у падрыхтаваных да гэтага памяшканнях».

Зразумела, што для такой беднай арганізацыі, як беларускае таварыства, значна лягчэй было прыступіць да рэалізацыі з'ездаўскай пастановы адносна збору экспанатаў, чым пачаць пабудову музея. У другой палове 1963 г. пачалася планавая праца ў гэтым напрамку. Пачатак быў цяжкі, а вынікі сціплыя. Тым не менш да канца 1963 г. удалося сабраць каля 30 экспанатаў. У 1964 г. справа музея далей займала важнае месца ў працы таварыства. Напрыклад, справе музея многа месца было прысвечана на III пленарным пасяджэнні, якое адбывалася 26 красавіка 1964 г. У дыскусіі на гэту тэму выказваліся: М. Лобач, В. Дзун, К. Майсеня. Кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Мікалай Лобач сказаў: «У сувязі з пабудовай музея імя К. Каліноўскага ў Гайнаўцы звяр-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

таюся з просьбай да ўсіх прысутных прыйсці з дапамогай у зборы экспанатаў. Ад імя Гайнаўскага аддзела БГКТ прашу, каб справа збору экспанатаў знайшла месца ў пастановах сённяшняга Пленума». З выказванняў У. Юзвюка вынікае, што ГП БГКТ было інфармавана аб стварэнні праз ваяводскія ўлады канцэпцыі турыстычнага адцяжання Белавежы на карысць Гайнаўкі. Таму ўсе прамоўцы з Гайнаўскага аддзела беларускага таварыства хацелі выкарыстаць момант на ўвядзенне пабудовы беларускага музея ў планы загаспадарання горада Гайнаўкі. Так і сталася. Была прынята наступная пастанова: «Праводзіць збор экспанатаў матэрыяльнай культуры ў будучы Беларускі музей імя К. Каліноўскага ў Гайнаўцы, якія будуць добрым наглядным дапаможнікам пры ацэнцы жыцця людзей у мінулым і сёння».

Рэалізуючы гэту пастанову, на працягу 1964 г. удалося сабраць каля 300 экспанатаў. Найбольшы ўклад у збор экспанатаў унеслі такія актывісты, як У. Юзвюк, К. Майсеня, В. Дзун, К. Хлябіч, В. Бура, А. Іванюк, А. Баршчэўскі, М. Самоцік, М. Міруць, С. Раманчук, А. Харкевіч і многія іншыя. З дапамогай прыйшлі многія настаўнікі беларускай мовы і жыхары вёсак. Сабраныя экспанаты загаспадароўваліся па-рознаму. Частка экспанатаў (пераважна ткацтва) перахоўвалася ў будынку беларускага таварыства ў Беластоку, невялікая іх колькасць знаходзілася ў Гайнаўскім аддзеле БГКТ, а вырабы з драўніны і жалеза захоўваліся ў складзе ГС у Нараўцы. У пачатку 1965 г. склалася наступная сітуацыя: былі экспанаты, але не было дзе з пажыткам іх экспанаваць. Пабудова музея ў Гайнаўцы ставалася штораз менш рэальнай. Прычына? Як заўжды тая самая — малое зацікаўленне беларускім музеем з боку ўлад (у тым выпадку гайнаўскіх) і недахоп фінансавых сродкаў. Перад арганізатарамі музея ўзнікла зноў пытанне: што далей? Адказ мог быць толькі адзін — трэба было зрабіць усё, каб каштоўныя экспанаты не ляжалі на складах. Каб так сталася, трэба было знайсці адпаведны будынак. У артыкуле «Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы» (Беларускі каляндар за 1967 г.) адносна гэтай справы У. Юзвюк піша наступнае: «...было сабраных каля 300 экспанатаў, але падрыхтаваць іх да экспазіцыі ў той жа Нараўцы нам не ўдалося, паколькі не хапала памяшкання».

Затым была атрымана згода ваяводскіх улад на збор фінансавых дараванняў ад насельніцтва. Займаліся ім штатныя працаўнікі аддзелаў БГКТ, якіх разлічвала бухгалтэрыя ГП, а сродкі пераказвала на рахунак Грамадскага камітэта пабудовы музея ў Гайнаўцы. Былі яны вельмі скромныя, не перавышалі адной тысячы злотых у месяц.

Прэзідыум ГП пачаў задумвацца над далейшым лёсам будучага музея, экспанатаў і дайшоў да вываду, што ў турыстычных адносінах Нараўка малаперспектыўная. Увага была накіравана на турыстычны цэнтр Беласточчыны — Белавежу. Пачаліся пошукі памяшкання, у тым ліку атрымання старога паслямузейнага будынка ў парку.

Сёння можна сказаць, што, нягледзячы на тое, які далейшы быў лёс Беларускага музея ў Белавежы, выбар месца быў з кожнага пункту гледжання правільным. Дзякуючы актыўнасці і ахвярнасці такіх людзей, як У. Юзвюк, К. Майсеня, В. Дзун, М. Седунь, М. Самоцік, і іншых, ідэя стварэння музея ў Белавежы пачала хутка ажыццяўляцца. 28 красавіка 1965 г. у Белавежы адбылося выязное пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ з удзелам прадстаўнікоў улад Белавежы. У выніку абмену поглядамі былі прыняты наступныя пастановы:

— ГС у Белавежы перадасць на патрэбы музея драўляны будынак (уласнасць Вашкевічаў);

— прызначыць для ГП БГКТ патрэбныя матэрыялы на рамонт;

— Беларускае таварыства грамадскім чынам правядзе бягучы рамонт будынка і падрыхтуе экспазіцыі.

Трэба сказаць, што прынятыя пастановы выконваліся вельмі салідна. У хуткім часе будынак быў прыведзены да належнага стану, працаўнікі БГКТ пачалі звозіць экспанаты. Сцэнарый экспазіцыі падрыхтаваў этнограф з музея ў Торнуні Мар'ян Пецюкевіч, а выканалі яго мастакі з Гайнаўкі Віктар Кабац і Анатоль Корзун.

Такім чынам, набліжаўся важны момант у гісторыі беларускага музея. 12 сакавіка 1966 года адбылося ўрачыстае адкрыццё музея. Урачыстасць адкрыў былы старшыня ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі, а з дакладам выступіў тадышні сакратар таварыства Уладзімір Юзвюк. У дакладзе напаміналася аб ідэі і гісторыі музея, аб вялікай ахвярнасці людзей пры зборы экспанатаў, аб карысным супрацоўніцтве беларускага таварыства з уладамі гмінных сялянскіх кааператываў (ГС) Гайнаўшчыны. Апрача гэтага, выказвалася надзея на тое, што з часам беларускі музей атрымае лепшыя ўмовы. У дакладзе, які ў дакументах захаваўся на польскай мове, было сказана: «Не спынім збору экспанатаў. Распачатую працу хочам давесці да канца. Яе заканчэннем будзе арганізацыя самага багатага музея беларускай культуры. Заданне гэтае выканаем тады, калі ўлады акажуць нам дапамогу ў атрыманні прыгаданага будынка» (*маецца тут на ўвазе будынак, у якім знаходзіўся Прыродазнаўчы музей у Белавежы. — А. І.*).

Такім чынам, ад 12 сакавіка 1966 года пачынаецца наступны перыяд гісторыі беларускага музея, звязаны ўжо не з Беластокам, не з Гайнаўкай, а з Белавежай. Але гэтая новая старонка ў гісторыі не была ўжо чыстай, бо на ёй быў зроблены запіс: «Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы». Калі ўлічыць факт, што праз увесь час была надзея на пабудову новага музея, то скромны



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

музей у Белавежы быў вялікім дасягненнем. Гэта мусіла цешыць і мабілізаваць да далейшай працы. Першы год музей працаваў без штатнага працаўніка. Зразумела, што такое становішча не магло працягвацца. Наведвальнікаў абслугоўвалі працаўнікі бюро ГСу, якое знаходзілася непадалёк музея. У той час існавала яшчэ дамоўленасць, што музей, арганізаваны ў супрацоўніцтве з гандлёвым кааператывам ГС у Белавежы, а нават і з павятовым ПЭГС «Самапомач Хлопска» ў Гайнаўцы, старшынёй якога быў Канстанцін Майсеня, быў супольнасцю арганізатараў. Сяродпушчанскі ГС бедны, але зычлівы, асабліва ў асобах старшыні А. Вашкевіча і старшыні Надзорчай рады М. Седуня, прыняў на сябе абавязак утрымання музея. Лічыў на зварот часткі коштаў за ўступныя білеты. Але праз год дамоўленасць нарушыў. Часова музей пачаў абслугоўваць працаўнік аддзела БГКТ у Гайнаўцы Мікола Лобач. І таму, стараннямі ГП БГКТ, у сакавіку 1967 г. на пасаду ахавальніка фондаў музея быў пакліканы выпускнік Варшаўскага універсітэта археолаг Уладзімір Гацута. Дзякуючы яго ахвярнасці і кампетэнтнасці музей паступова станавіўся цікавым культурным аб'ектам для шырокага краязнаўча-турыстычнага руху. Са справаздачы У. Гацуты вынікае, што музей наведвалі жыхары Беласточчыны, вучнёўскія экскурсіі і турыстычныя групы з розных месц Польшчы, а таксама замежныя турысты. Аб тым, што музей беларускай матэрыяльнай культуры выклікаў шырокае зацікаўленне, сведчаць наступныя даныя: у 1968 годзе музей наведала 6 тысяч асоб, у 1969—7000, у 1970 — 12 000 (у тым ліку 1500 замежных), у 1971-ым — 11 630 (1100 замежных). Знаходзіўся ён ва ўладанні ГП БГКТ.

Музей не толькі карыстаўся папулярнасцю з турыстычнага пункту гледжання, але высока цаніўся паводле сваёй гістарычна-мастацкай вартасці. Кіраўнік музея У. Гацута ў артыкуле «Рэгіянальны беларускі музей у Белавежы» (Беларускі каляндар за 1969 г.) прыводзіць прыклады такіх ацэнак, якія наведвальнікі запісвалі ў «Кнізе для памяці». Аўтар піша: «Некаторыя звярнулі ўвагу на багацце экспанатаў музея, напрыклад, экскурсія з Варшавы 22 чэрвеня 1967 г. піша: «Гэтыя экспанаты з'яўляюцца унікальным і непаўторным зборам, які сведчыць аб вялікай кемлівасці і працавітасці людзей, якія тут пражываюць». Многія наведвальнікі выражалі свой непакой па той прычыне, што такая цэнная калекцыя экспанатаў знаходзілася ў вельмі неспрыяльных умовах».

У. Гацута ў згаданым артыкуле піша аб гэтым далей: «Студэнтка з Кіпра пісала, што для гэтых цікавых і каштоўных экспанатаў трэба пабудаваць новы будынак таму, што могуць яны знішчыцца ў недастасаваным для гэтай мэты будынку». Аб дрэнных умовах і неадкладнай патрэбе іх змены інфармаваў у сваіх справаздачах



кіраўнік музея У. Гацута. Напрыклад, у справаздачы за 1968 год пісаў ён: «Беларускі грамадскі музей у сваёй працы мае розныя клопаты з прычыны вельмі цяжкіх умоў, у якіх дзейнічае. Будынак стары і недастасаваны да патрэб музея».

Такое становішча мусіла выклікаць непакой сярод актыву таварыства. Знайшло гэта адлюстраванне на V пленарным пасяджэнні ГП 10 сакавіка 1968 года. Многія члены пленума асабліва крытычна ацанялі працу Грамадскага камітэта пабудовы музея. Характэрным у гэтым сэнсе было выступленне прадстаўніка Гайнаўкі Васіля Дзуна, які сказаў: «Як да гэтай пары, то Грамадскі камітэт выказваў малую актыўнасць. У свой час, — прадаўжаў прамоўца, — прадстаўнік Міністэрства ўнутраных спраў абяцаў, што атрымаем грошы, калі будуць экспанаты. Экспанаты ўжо маем, дзякуючы ахвярнасці працаўнікоў ГП, актыву і насельніцтва. Думаю, што ўлада павінна стрымаць слова. Пабудова музея — гэта не толькі справа БГКТ». Член пленума А. Кунах дамагаўся, каб пленум прыняў пастанову адносна працы камітэта пабудовы музея. У адрас камітэта былі накіраваны таксама заўвагі К. Масальскага, Ю. Бусловіча і іншых. Вельмі характэрным было становішча сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Р. Зялінскага. Адносна Грамадскага камітэта пабудовы музея ён падзяляў погляд іншых членаў пленума. Але ўжо ўдзел беларускага таварыства ў працах музея ацаніў крытычна, заяўляючы: «Не ўспрымаецца добра факт, што беларускае таварыства займаецца справамі будовы музея. Гэта не вынікае з яго статута».

Ад сябе можна толькі дадаць, што беларускае таварыства як грамадская арганізацыя мела ўсе юрыдычныя правы займацца справамі музея, вяртаючыся да спраў, звязаных з Грамадскім камітэтам, трэба прызнаць, што крытычная ацэнка яго дзейнасці была цалкам абгрунтаванай. Аб яго пасіўнасці і непаслядоўнасці ў працы найлепш сведчыць факт, што на працягу пяці гадоў (1963—1968) не адбылося ніводнага пасяджэння. І толькі пад уплывам крытычнай ацэнкі 16 сакавіка 1968 г. адбываецца пленарнае пасяджэнне камітэта.

З праблем, якія на гэтым пасяджэнні ставіліся, заслугоўваюць увагі дзве справы: па-першае, быў укамплектаваны асабовы склад камітэта, па-другое, камітэт рашыў, што месцам пабудовы мае быць Белавежа. Адносна месца пабудовы музея сярод членаў камітэта былі розныя погляды. Адны з іх даказвалі, што гэтым месцам надалей павінна быць Гайнаўка, іншыя былі за Белавежу. Канчаткова, аднак, камітэт вырашыў будаваць музей у Белавежы. А паколькі справа змены месца пабудовы музея з Гайнаўкі на Белавежу была вырашана значна раней, то пастанова камітэта з'яўлялася толькі акцэптацыяй раней прынятага рашэння. Тым не менш пастанова камітэта была станоўчым фактарам і сведчыла аб



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

тым, што ў справах музея паміж ГП БГКТ і Грамадскім камітэтам не было рознагалосся. Так пачаўся новы перыяд змаганняў за Беларускі музей у Белавежы.

Заслугоўвае ўвагі факт, што ад самага пачатку падыход улад таварыства і Грамадскага камітэта меў альтэрнатыўны характар: першай справай была пабудова музея, другой — атрымаць на яго патрэбы гатовы будынак. Абедзве вяліся адначасна.

9 сакавіка 1967 г. ГП БГКТ выступіла да ўлад Белавежы з просьбай выдзеліць пляц паверхняй 1500 квадратных метраў. Пытанне вырашалася вельмі доўга з увагі на недахоп зямлі ў цэнтры пасёлка, таму 21 сакавіка і 27 верасня 1968 г. з такой жа просьбай ГП звярнулася да павятовых улад у Гайнаўцы. Гайнаўскія ўлады прыхільна аднесліся да прапановы ГП і выказалі згоду на пабудову музея ў Белавежы. У пісьме гн-р БУА 11—440/66/68 Аддзелу будаўніцтва і архітэктуры ў Беластоку ПРН у Гайнаўцы інфармавала не толькі аб сваёй згодзе, але нават дакладна акрэсліла месца пабудовы музея. Здавалася, што ўся справа закончыцца ўдачна. Але і на гэты раз здарылася не так. Патрэбна была яшчэ згода і ваяводскіх улад у Беластоку. І таму 31 сакавіка 1969 г. ГП накіравала справу ў ваяводскую камісію гаспадарчага планавання. Паколькі пабудова музея лічылася інвестыцыяй культурнага характару, то для далейшага разгляду справа была перададзена ваяводскаму аддзелу культуры. А аддзел гэты 7 мая 1969 г. праінфармаваў, што з прычыны недахопу фінансавых сродкаў пабудова музея ў Белавежы з'яўляецца справай нерэальнай.

У такой сітуацыі засталася другая мажлівасць — атрымаць гатовы будынак. Здавалася, што стараннi ў гэтым напрамку закончацца паспяхова. Спрыяла гэтаму наступная акалічнасць: на патрэбы Белавежскага прыродазнаўчага музея будаваўся новы комплекс. Правільным было меркаванне, што на патрэбы беларускага музея, без ніякіх праблем, можна будзе перадаць старое памяшканне. Тут месца адзначыць, што раней, 17 сакавіка 1967 г., ГП БГКТ звярнулася па гэтай справе да Міністэрства лясной гаспадаркі ў Варшаве. Паколькі ў 1967 годзе пабудова новага будынка не была закончана, міністэрства адказала, што да справы можна будзе вярнуцца праз 3 гады. Такі адказ не выклікаў, вядома, энтузіязму, але дазваляў мець надзею на лепшую будучыню музея. І таму праз два гады, 6 лютага 1969 г., ГП накіравала ў міністэрства другое пісьмо, у якім паўтарыла сваю просьбу, матывуючы яе дадатковай інфармацыяй аб тым, што будынак на патрэбы Прыродазнаўчага музея будзе закончаны да канца 1969 года. Адказу на гэтае пісьмо не атрымалі.

У першай палове 1969 г. у гуртках і аддзелах БГКТ праводзілася выбарчая кампанія. На сходах ацэньвалася праца таварыства. Пры гэтай ацэнцы актыў звярнуў увагу і на недахопы ў дзейнасці сваёй арганізацыі. Праблемай, якая непакоіла многіх актывістаў, была справа музея. Нічога дзіўнага, што праблема музея знайшла сваё адлюстраванне і ў працы VI з'езда БГКТ, які адбыўся 11 мая 1969 г.



З'езд выбраў новае кіраўніцтва. Старшынёй ГП быў выбраны Міхась Хмялеўскі, а абавязкі сакратара прыняў Янка Зенюк. Адносна музея з'езд прыняў наступныя пастановы: 1. З'езд абавязвае аддзелы БГКТ, каб у далейшым праводзілі збор экспанатаў для Белавежскага музея; 2. Прапанаваць збор грамадскіх складчын на пабудову музея.

З пастаноў вынікае, што не змянілася выпрацаваная раней канцэпцыя. VI з'езд абавязваў новае кіраўніцтва да арганізацыі музея ў Белавежы. Была яшчэ надзея атрымаць будынак, у якім знаходзіўся Белавежскі прыродазнаўчы музей перад яго пераездам у новае памяшканне.

6 кастрычніка 1969 г. ГП накіравала па гэтай справе ў Міністэрства лясніцтва ўжо трэцяе пісьмо. Чытаем у ім: «ГП БГКТ, спасылаючыся на нашыя пісьмы ад 17 сакавіка 1967 г. і 6 лютага 1969 г. і Ваш адказ ад 5 чэрвеня 1967 г. згодна з пастановамі VI з'езда БГКТ і пастановамі ваяводскіх улад — Ваяводскага камітэта ПАРП і прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай, — звяртаецца з просьбай перадаць будынак Прыродазнаўчага музея ў Белавежы на патрэбы Рэгіянальнага беларускага музея ў Белавежы».

З тых дакументаў, якія выкарыстоўваліся пры апрацоўцы артыкула, вынікае, што і на гэтае пісьмо міністэрства адказу не дало. У гэты ж час Міністэрства ўнутраных спраў анулявала тыя невялікія фінансавыя сродкі, якія дазвалялі функцыяніраваць музею. Дапамогу пачаў аказваць Грамадскі камітэт у Гайнаўцы.

Паступова набліжаўся канец 60-ых гадоў. Разам з гэтым перыядам адыходзіла «сярмяжная» эпоха Гамулкі і надыходзіў перыяд Герака, перыяд «маральнай еднасці польскага народа». Не ёсць мэтай гэтага артыкула даваць ацэнку перыяду сямідзесятых гадоў. Трэба, аднак, сказаць, што дзесяцігоддзе 1970—1980 гг. не было спрыяльным для беларускіх спраў, у тым ліку і для беларускага музея. Аб гэтым будуць сведчыць ніжэйпрыведзеныя факты.

22 сакавіка 1970 г. на Прэзідыуме ГП БГКТ сакратар Янка Зенюк склаў шырокую інфармацыю аб стане экспанатаў Рэгіянальнага беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. З інфармацыі вынікалі наступныя вывады: па-першае — беларускі музей знаходзіцца ў вельмі дрэнных умовах; па-другое — каб урававаць цэнныя экспанаты, трэба неадкладна змяніць гэтыя ўмовы на лепшыя; па-трэцяе — без дапамогі з боку дзяржаўных улад БГКТ не здолее змяніць становішча, існуючае ў музеі. У канцы сваёй інфармацыі Я. Зенюк выступіў з новай канцэпцыяй, а менавіта,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

каб фінансавую і адміністрацыйную дзейнасць музея перадаць Міністэрству культуры і мастацтва. Прапанова абгрунтоўвалася наступна: «ГП БГКТ не ёсць у стане забяспечыць належныя ўмовы для дзейнасці музея, бо не мае для гэтага ні фінансавых сродкаў, ні штатаў. Міністэрства ўнутраных спраў, якому падлягае арганізацыя (*маецца на ўвазе БГКТ. — А. І.*), не займаецца ні музейнымі справамі, ні аховай помнікаў культуры і ў сувязі з тым не можа дапамагчы БГКТ. Установай, якая займаецца гэтымі справамі, з'яўляецца менавіта Міністэрства культуры і мастацтва, а дакладней — Дэпартамент музейных спраў і аховы помнікаў. Такім чынам, трэба падумаць над тым, каб перадаць Рэгіянальны беларускі музей у Белавежы пад фінансавую і адміністрацыйную апеку міністэрства».

Нельга сказаць, што разважанні сакратара Я. Зенюка былі пазбаўлены логікі. Сапраўды, такімі культурнымі ўстановамі, як музеі, павінна было займацца Міністэрства культуры і мастацтва. Усё гэта праўда. Аднак для беларускага боку было менш істотным, паводле якой «логікі» будзе развязвацца праблема беларускага музея. Для арганізатараў музея найважнейшым было тое, каб гэты музей мог існаваць.

І таму, кіруючыся гэтым дамінуючым прынцыпам, прапанова «шукаць паратунку» ў Міністэрстве культуры і мастацтва была прынята.

Ужо 19 мая 1970 г. ГП БГКТ звярнуўся па гэтай справе да Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку з прапановай прыняцця музея на дзяржаўнае ўтрыманне пры наступных умовах: музей меўся захаваць сваю назву «Рэгіянальны беларускі этнаграфічны музей у Белавежы»; БГКТ атрымае права на ўздзеянне на сцэнарый экспазіцыі і права на распараджэнне экспанатамі, будуць утрыманы назвы экспанатаў на польскай і беларускай мовах, без згоды БГКТ нельга было б назначаць і адклікаць кіраўнікоў музея.

У пісьме Міністэрству культуры і мастацтва ад 27 жніўня 1970 г. ВРН выказала сваю прыхільнасць да просьбы ГП, каб беларускі музей перайшоў на дзяржаўнае ўтрыманне, падкрэсліваючы, аднак, што гэта можа наступіць толькі тады, калі будуць прызначаны фінансавыя сродкі. У адказе Міністэрства культуры і мастацтва ад 2 лютага 1971 г., накіраваным ВРН, чытаем: «Як ужо вядома, агульная сітуацыя дзяржаўных музеяў у Беластоцкім ваяводстве не ёсць задавальняючая. У сувязі з гэтым не здаецца нам, каб існавалі поўнасцю падставы для таго, каб выдзяляць новыя пляцоўкі (*маецца на ўвазе музей. — А. І.*) або пераймаць грамадскія музеі на дзяржаўны бюджэт. Пры такіх абставінах здзяйсненне прапановы Беларускага грамадска-культурнага таварыства з'яўляецца маларэальным».



Як відаць, і гэтая ініцыятыва не знайшла падтрымкі з боку ўлад.

Услед за гэтым з'яўляюцца новыя факты, якія пачынаюць выразна сведчыць аб тым, што справы беларускага музея развіваюцца штораз у менш карысным напрамку. Напрыклад, 16 лютага 1971 г. Беларускі музей у Белавежы наведвае кантрольная камісія пад кіраўніцтвам ваяводскага захавальніка помнікаў культуры Паўла Паўлючука. Паколькі ў той час музей быў закрыты (у зімовыя месяцы музей не працаваў з прычыны холаду ў памяшканні), то камісія падрыхтавала запіску на аснове размовы, якую правяла з кіраўніком музея Уладзімірам Гацутам. Завяршальныя вывады камісіі былі наступныя:

«Ваяводскі кансерватар помнікаў у Беластоку праінфармаваў кіраўніка Этнаграфічнага музея ў Белавежы Уладзіміра Гацуту аб тым, што экспанаты дрэнна забяспечаны і нішчэюць, падкрэсліў адначасна, што, калі ў найбліжэйшым часе сітуацыя не зменіцца на лепшае, то ваяводскі кансерватар помнікаў у Беластоку будзе прымушаны, згодна з законам ад 15 лютага 1962 г., сабраную ў Этнаграфічным музеі ў Белавежы калекцыю экспанатаў стараннямі ГП БГКТ перадаць часова Прыродазнаўчаму музею ў Белавежы і часткова Сельскагаспадарчаму музею ў Цеханоўцу».

Не здзіўляе факт, што спецыялісты захацелі ўбачыць, у якім стане знаходзіцца беларускі музей і як захоўваюцца экспанаты. Не выклікаюць ніякай засцярогі заўвагі камісіі адносна дрэнных умоў, у якіх знаходзіўся музей. Аб драматычнай сітуацыі музея ведалі ўсе органы дзяржаўных улад, бо аб гэтым пісалася ў афіцыйных лістах, у гадавых справаздачах аб дзейнасці музея, гаварылася на з'ездах і канферэнцыях БГКТ, розных сходах, сустрэчах і г. д.

Менавіта дрэнныя ўмовы былі галоўнай прычынай таго, што з боку БГКТ накіроўваліся да партыйных і дзяржаўных улад розныя пісьмы, праводзіліся сустрэчы і размовы з паасобнымі прадстаўнікамі ўлад. І ўсё гэта рабілася дзеля таго, каб беларускі музей мог дзейнічаць, хаця і ў скромных, але, па меры магчымасці, у нармальных умовах. І што ж аказвалася? Аказвалася, што ніхто не змог прыйсці з канкрэтнай дапамогай. І таму, у кантэксце вышэйсказанага, мусіць выклікаць здзіўленне канцавая пастанова камісіі. Яна не толькі здзіўляе, але дазваляе зрабіць вывад, што для ўлад менш залежала на тым, каб беларускі музей існаваў, а больш — на тым, каб яго ліквідаваць.

Вышэйзгаданы погляд не вынікае з ніякіх суб'ектыўных прычын, але з фактаў, якія аб'ектыўна такі погляд абгрунтоўваюць. Таму зноў накіруем нашу ўвагу на факты. Прыпомнім апошні з іх, а менавіта, што ўлады не згадзіліся ўзяць беларускі музей на дзяржаўны бюджэт. У такой сітуацыі ГП БГКТ было вымушана



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

паўторна вярнуцца да справы Прыродазнаўчага музея ў Белавежы. На гэты раз прыбылі дзве важныя акалічнасці:

— па-першае, на патрэбы Прыродазнаўчага музея быў ужо гатовы новы будынак;

— па-другое, 29.XII.1971 г. была зроблена экспертыза, якая выказала, што стары будынак, пасля невялікага рамонту, будзе можна выкарыстаць на патрэбы беларускага музея. Маючы такія аргументы, ГП БГКТ у пісьме Міністэрству лясніцтва ад 10.I.1972 г. яшчэ раз стараецца ўпрасіць міністэрскія ўлады, каб яны згадзіліся перадаць стары будынак на патрэбы беларускага музея. У ім сцвярджалася, што гэта адзіная развязка, якая можа ўратаваць ад знішчэння 1200 каштоўных экспанатаў беларускай матэрыяльнай культуры ў Польшчы.

Але і тым разам міністэрства справу прамаўчала. Адказ, аднак, прыйшоў з другога міністэрства — з Міністэрства культуры і мастацтва, якое ў пісьме ад 7.VI.1972 г. за подпісам Багуслава Плазы паведамляла: «У сувязі з тым, што на сустрэчы з міністрам Вронскім (*у той час міністрам культуры і мастацтва. — А. І.*) была ўнесена прапанова, каб Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству перадаць былы будынак Прыродазнаўчага музея ў Белавежы, ветліва паведамляю, што пасля высвятлення гэтай справы не бачу магчымасці падтрымаць яе ў Міністэрстве лясніцтва».

Але, каб суцешыць «упартых беларусаў», міністэрства велікадушна прапанавала перадаць беларускія экспанаты ў акруговы музей у Беластоку.

Амаль у тым самым часе адносна далейшага лёсу Беларускага музея ў Белавежы пачынае афіцыяльна выказвацца і Міністэрства ўнутраных спраў. Але ў адрозненне ад Міністэрства культуры і мастацтва ў яго пастановах няма ўжо ніякіх прапаноў, недамовак. У студзені 1972 г. гэтае Міністэрства ліквідуе адзіны ў музеі штат, у якім ад сакавіка 1967 г. працаваў Уладзімір Гацута. Некалькі месяцаў пазней Дэпартамент фінансаў МУС у пісьме (№ Фэ-326) катэгарычна загадвае ўладам БГКТ ліквідаваць банкаўскі рахунак Грамадскага камітэта пабудовы беларускага музея.

На гэты раз улады БГКТ загаду яшчэ не выканалі. 30.V.1972 г. Міністэрства ўнутраных спраў паўтарае сваю пастанову адносна ліквідацыі рахунку. Сітуацыя станавілася драматычнай: Міністэрства культуры і мастацтва імкнулася пазбавіць беларускі музей экспанатаў, а Міністэрства ўнутраных спраў — фінансавых сродкаў. У сувязі з тым Прэзідыум ГП БГКТ на сваім пасяджэнні 27.VII.1972 г. прыняў дзве пастановы. Паводле пратакола гэтага пасяджэння змест іх наступны:

1. «Спасылаючыся на пісьмо з Дэпартамента фінансаў МУС ад 30.V.1972 г., Прэзідыум БГКТ даручае Грамадскаму камітэту пабудовы беларускага музея правесці пасяджэнне, на якім трэба разгледзець справу перадачы фінансавых сродкаў на рахунак ГП БГКТ. Прытым сродкамі гэтымі надалей павінен распараджацца Грамадскі камітэт пабудовы музея».

2. Другая пастанова непасрэдна адносілася да прапановы Міністэрства культуры і мастацтва, каб экспанаты з беларускага музея перадаць акруговаму музею ў Беластоку. У пастанове Прэзідыума БГКТ сцвярджалася: «Прэзідыум пастанавіў не перадаваць экспанатаў і далей утрымоўваць іх у будынку Рэгіянальнага беларускага музея ў Белавежы».



Згодна з першай пастановай ГП БГКТ 3.VII.1972 г. праводзіць сваё пасяджэнне Грамадскі камітэт пабудовы музея і прымае аднагалосна наступныя тры пастановы:

1. «Правесці сустрэчу з дырэктарам Грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента МУС на тэму далейшага лёсу музея з удзелам членаў Прэзідыума ГП БГКТ і старшынь аддзелаў БГКТ».

2. «Да часу высвятлення спраў музея фінансавыя сродкі павінны далей знаходзіцца на банкаўскім рахунку камітэта».

3. «Камітэт пастанаўляе пакрываць усе кошты, звязаныя з бягучай дзейнасцю музея, са свайго банкаўскага рахунку».

Вышэйзгаданыя пастановы выразна сведчаць аб тым, што і БГКТ, і грамадскі камітэт працягвалі сваё змаганне за музей, не выражалі згоды на прапановы ўлад і ўсімі спосабамі імкнуліся знайсці найбольш карысную развязку. Але відавочна, што магчымасці ў гэтым змаганні вычэрпваліся не на карысць беларускаму боку. Факты штораз выразней сведчылі аб тым, што няўмольна набліжаўся канец існавання Грамадскага камітэта пабудовы музея і канец існавання самога музея. Датай, якая заканчвае дзесяцігадовы перыяд змагання за музей, з'яўляецца 1.II.1973 г. Менавіта ў гэты дзень Грамадскі камітэт пабудовы музея адбывае сваё апошняе пасяджэнне, на якім прымае пастанову аб ліквідацыі свайго банкаўскага рахунка, і тым самым спыняе сваю дзейнасць.

Варта ў гэтым месцы прывесці словы старшыні камітэта Мікалая Самоціка (у тым часе М. Самоцік з'яўляўся штатным старшынёй ГП БГКТ), які, адкрываючы гэтае апошняе пасяджэнне, сказаў: «Ад 1.II.1972 г. Міністэрства ўнутраных спраў перастала пакрываць выдаткі, звязаныя з дзейнасцю музея. З прычыны ліквідацыі штата музей мусіў быць закрыты. Да апошняй хвіліны ўсе выдаткі, звязаныя з утрыманнем музея, пакрывае Грамадскі камітэт.

З дапамогай ваяводскіх улад атрымалі мы пастанову Міністэрства лясніцтва, якая гаворыць, што будынак па былым Прыродазнаўчым музеі будзе перададзены Ваяводскай управе з прызначэннем на патрэбы акруговага музея ў Беластоку, які прыме нашы экспанаты і ўтворыць філіял музея ў Белавежы. Рамонт



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

будынка будзе праведзены за кошт Ваяводскай рады нарадовай. З Дзяржаўным акруговым музеем будзе падпісана пагадненне адносна надпісаў на экспанатах, інфармацыйнай дошкі і юрыдычнага забеспячэння права БГКТ на экспанаты. У сувязі з гэтым пабудова новага музея з'яўляецца неактуальнай, і таму няма патрэбы, каб камітэт утрымоўваў свой банкаўскі рахунак. Фінансавыя сродкі, якія знаходзяцца на гэтым рахунку, трэба пералічыць на рахунак БГКТ і распусціць камітэт». Узнікае пытанне: ці сапраўды ў 1973 г. пабудова музея стала «справай неактуальнай»? Адказам на вышэйпастаўленае пытанне можа быць наступны погляд: у тагачасных палітычна-грамадскіх умовах без фінансавай дапамогі з боку дзяржаўных органаў БГКТ не было ў сілах справіцца з такім заданнем. Погляд гэты знайшоў сваё абгрунтаванне ў дыскусіі, якая мела месца ў час згаданага ўжо пасяджэння камітэта 1.ІІ.1973 г. Напрыклад, Уладзімір Юзвюк пасля выступлення М. Самоціка сказаў:

«Сітуацыя нас прымушае выказаць згоду на такую развязку, бо ўжо паўгода музей закрыты».

Паколькі грамадскі камітэт спыніў сваю дзейнасць, то для выканання прынятых на сваім апошнім пасяджэнні пастаноў упаўнаважыў ГП БГКТ. Такім чынам, надышоў канцавы этап у гісторыі беларускага музея. Ужо 7.VI.1973 г. Беластоцкі акруговы музей звярнуўся да ГП БГКТ з прапановай склікання супольнай камісіі, якая б занялася перадачай экспанатаў. З боку акруговага музея ў склад камісіі меліся ўвайсці наступныя асобы: Барбара Кестэніс-Студзінска, Галіна Савіцка і Францішак Барыцкі. Камісія мелася распачаць працу 18.IV.1973 г. у 10 гадзін раніцы. Услед за гэтым 11.IV.1973 г. ГП БГКТ у склад камісіі вызначыла сваіх прадстаўнікоў у асобах: Уладзімір Гацута, Валянціна Філіпюк і Кастусь Хлябіч.

У выніку працы гэтай шасціасабовай камісіі 31.V.1973 г. акруговы музей у Беластоку прыняў на свой стан амаль 990 экспанатаў з Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы. Уладзімір Юзвюк у сваім артыкуле «Мінулае і будучае беларускага музея» (Беларускі каляндар за 1987 г.) адносна гэтага закона выразіў наступны погляд: «У красавіку таго ж года (*маецца на ўвазе 1973 г. — А. І.*) Прэзідыум ГП і акруговы музей стварылі супольную камісію перадачы-прыняцця экспанатаў у складзе шасці асоб, якая 31 мая 1973 г. пад націскам тадышняга старшыні Прэзідыума ГП БГКТ Мікалая Самоціка канчаткова перадала акруговаму музею 847 панумараваных і 140 непанумараваных — разам 987 экспанатаў. Пратакол не мае ўпамянутых раней дадатковых абумоўленняў. З боку таварыства ўваходзілі ў камісію людзі юрыдычна некампетэнтныя».

Удакладняючы вышэйпрыведзеную думку, трэба прыпомніць аб тым, што, выражаючы згоду на такую развязку, члены ГП і грамадскага камітэта паставілі наступныя ўмовы: захаваць назву «Беларускі рэгіянальны музей», захаваць рэгіянальныя назвы экспанатаў з надпісамі на беларускай і польскай мовах, мець права ўплыву на сцэнарый экспазіцыі і забяспечыць юрыдычна права ГП БГКТ на экспанаты.

Аднак так не сталася. Экспанаты былі перададзены без ніякіх абумоўленняў. Думаю, што сталася так не толькі па прычыне «юрыдычнай некампетэнцыі» членаў камісіі з боку таварыства, як сцвярджае У. Юзвюк. Не ў меншай ступені сталася так з віны самога старшыні М. Самоціка, які з рацыі свайго становішча і абавязкаў павінен быў выконваць прынятыя грамадскім актывам пастановы, але іх не рэалізаваў. Многіх перададзеных экспанатаў зараз знайсці немагчыма, асабліва драўлянага манежа, кроснаў да вырабу сітаў, арыгінальнай сахі, камплекту сівакоў У. Гладскага, такарні ўтулак да вазоў і іншых. Так закончыўся дзесяцігадовы перыяд змагання беларусаў за свой нацыянальны музей.

Музей у Белавежы перастаў існаваць. Але ў працэсе грамадскага жыцця існуе свая логіка, з якой вынікае, што, калі не ажыццяўляецца важная для людзей ідэя, гэта не сведчыць, што яна адходзіць у небыццё. Калі жыве ідэя, заўсёды існуе патрэба яе ажыццяўлення. Паводле такога прынцыпу ў 80-ыя гады прадстаўнікі беларускай меншасці ў Польшчы пачалі паўторнае змаганне за свой музей. Але гісторыі музея на гэтым новым этапе павінен быць прысвечаны асобны артыкул. Трэба толькі адзначыць, што змаганні на гэтым этапе закончыліся вялікім поспехам. У горадзе Гайнаўцы стаіць комплекс будынкаў, у якіх знойдзе сваё месца беларускі музей і асяродак беларускай культуры.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Нашы браты — нашы суседзі

*Расціслаў Жмойдзяк,*
*прафесар, дэкан геафака БДУ*

## Рэспубліка Беларусь у 90-ыя гады

У пачатку 90-ых гадоў сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі адбывалася пад уплывам ідэй перабудовы і паскарэння. Прадаўжаецца перабудова гаспадарчага механізма, аб'яўленая рэформай канца 80-ых гадоў. Пастаўлена задача стварыць новую сістэму кіраўніцтва эканомікай, пашырыць самастойнасць прадпрыемстваў і аб'яднанняў, павысіць іх адказнасць за канчатковыя вынікі працы. Прадугледжваўся пераход да эканамічных метадаў кіравання на ўсіх узроўнях народнай гаспадаркі.

Ужо ў канцы 80-ых гадоў па-новаму пачалі працаваць уся прамысловасць, аграпрамысловы комплекс, прадпрыемствы і арганізацыі транспарту, сувязі, гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва, большасць будаўнічых арганізацый. Гэтаму садзейнічаў увод у 1988 г. у дзеянне Закона аб дзяржаўным прадпрыемстве, які вызначаў пашырэнне іх эканамічнай самастойнасці, зніжэнне дыктату цэнтра. Замест плана прадпрыемствы атрымлівалі дзяржзаказ. Усе ўзаемасувязі паміж імі пачалі будавацца на дагаворных абавязацельствах.

У рэспубліцы была распрацавана і пачала дзейнічаць праграма «Інтэнсіфікацыя». Ажыццяўляліся харчовыя праграмы, праграмы эканамічнага і сацыяльнага развіцця вёскі, транспарту, будаўніцтва і інш. Пачала дзейнічаць на многіх прадпрыемствах дзяржпрыёмка. Ажыццяўляюцца мерапрыемствы па асваенні новых вырабаў і ўдасканаленні тэхналагічных працэсаў. У сельскай гаспадарцы пашыраюцца падрадныя формы вытворчасці. Адбыліся перамены ў арганізацыйнай структуры аграпрома. Ва ўсіх галінах пачалі дзейнічаць навукова-вытворчыя сістэмы, якія аб'ядналі гаспадаркі, навуковыя ўстановы і даследчыя ўчасткі.

Але эканамічная рэформа прынесла шмат адмоўных вынікаў у народную гаспадарку, асабліва ў прамысловасць, таму што прадпрыемствы не атрымалі поўнай самастойнасці. Адсутнасць закона аб уласнасці дазваляла міністэрствам і ведамствам па-ранейшаму дыктаваць свае ўмовы. Вытворчыя сувязі паміж прадпрыемствамі праз дагаворы аб узаемапастаўках не былі трывалымі. Шмат працоўных калектываў пачалі скарачаць вытворчасць і павялічваць фонды аплаты працы, што прывяло да росту інфляцыі. У выніку ў пачатку 90-ых гадоў узмацнілася разбалансаванасць эканомікі, у ёй з'явіліся крызісныя з'явы. Каб выйсці з гэтага становішча, ВС БССР у



1990 г. зацвердзіў асноўныя накірункі па стабілізацыі народнай гаспадаркі і пераходу да рыначнай эканомікі.

У непарыўнай сувязі з сацыяльна-эканамічнымі пераўтварэннямі ў рэспубліцы адбываліся захады па дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця. Значную ролю ў гэтым працэсе адыграла публічнасць. На старонках газет і часопісаў, у тэле- і радыёперадачах павялася размова аб умовах грамадскага жыцця, шляхах абнаўлення сацыялізму і паскарэння эканамічнай рэформы. Сродкі масавай інфармацыі падрыхтавалі ў грамадстве думку аб тым, што перабудова немагчыма без рэформы палітычнай сістэмы.

У сакавіку 1990 г. па-новаму былі праведзены выбары ў Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы народных дэпутатаў БССР. У большасці выбарчых акруг разглядаліся некалькі кандыдатур. Вярхоўны Савет Беларусі разгарнуў вялікую заканадаўчую дзейнасць, накіраваную на рэфармаванне эканомікі, палітычнай сістэмы, усяго ладу жыцця.

27 ліпеня 1990 г. была прынята Дэкларацыя Вярхоўнага Савета БССР аб дзяржаўным суверэнітэце. Дзяржаўны суверэнітэт азначаў, што Беларусь выбрала свой уласны шлях свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна рэспублікі на аснове забеспячэння правоў асобы ў адпаведнасці з Канстытуцыяй БССР і яе міжнароднымі абавязацельствамі. Вярхоўны Савет абвясціў суверэнітэт як забеспячэнне палітычнай і эканамічнай самастойнасці, паўнату дзяржаўнай улады рэспублікі, незалежнасць рэспублікі ў знешніх адносінах. У красавіку 1991 г. была абвешчана рэформа цэн і пачалася структурная перабудова эканомікі. Усё гэта прадугледжвала садзейнічанне ўтварэнню рыначных умоў і эфектыўнаму вядзенню гаспадаркі. 25 жніўня 1991 г. ВС БССР прыняў пакет рашэнняў аб палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларусі. 19 верасня 1991 г. БССР была перайменавана ў Рэспубліку Беларусь (РБ). Распрацавана і 15 сакавіка 1994 г. прынята новая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь.

У снежні 1991 г. Рэспубліка Беларусь сумесна з Расіяй і Украінай сталі заснавальнікамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД), падпісаўшы 8 снежня пагадненне аб яе ўтварэнні і аб скасаванні СССР. 21 снежня 1991 г. у склад СНД увайшлі яшчэ 7 незалежных рэспублік былога СССР, пазней — яшчэ дзве. Сучасная РБ — суверэнная дзяржава, раўнапраўны член СНД у складзе 12 былых саюзных рэспублік.

Крах таталітарнай палітычнай сістэмы і аб'яўленне Рэспублікай Беларусь свайго дзяржаўнага суверэнітэту змянілі яе становішча ў сістэме міждзяржаўных сувязей. Беларусь як самастойная дзяржава прызнана ўсімі буйнейшымі краінамі свету. На 1 студзеня 1996 г. Рэспубліку Беларусь прызналі больш як 110 дзяржаў, з многімі з іх устаноўлены дыпламатычныя адносіны. Яна актыўна дзейнічае ў ААН, іншых міжнародных арганізацыях. Беларусь разам з другімі краінамі стала сааўтарам дакументаў па праблемах раззбраення, умацавання мер даверу. Прызнанне нашай краінай агульначалавечых каштоўнасцей, удзел у стварэнні ўсеагульнай сістэмы міжнароднай бяспекі прывялі да росту аўтарытэту Беларусі на міжнароднай арэне.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Распад былога СССР і абвяшчэнне дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь выклікалі неабходнасць пабудовы новай эканомікі рыначнага тыпу. У рэспубліцы ствараюцца прадпрымальніцкія, банкаўскія і камерцыйныя структуры, пачала праводзіцца прыватызацыя. У сяле адбываецца станаўленне новых форм вытворчасці — уласных фермерскіх сялянскіх гаспадарак. Але іх развіццё ідзе марудна, таму што не распрацавана іх заканадаўчая база і захаваўся ранейшы стэрэатып мыслення. Узнікла шмат цяжкасцей, перашкод, якія існуюць і зараз. Рост цэн на нафту, каменны вугаль і іншыя энерганосьбіты, разрыў вытворчых сувязей паміж рэспублікамі СНД прывялі да таго, што на Беларусі пайшоў рэзкі спад вытворчасці.

У 1990 г. (апошнім годзе стабільнага развіцця эканомікі СССР) па аб'ёму нацыянальнага даходу на душу насельніцтва Беларусь займала пятае месца сярод 15 рэспублік былога Саюза, а па тэмпах росту прамысловасці і прадукцыйнасці працы ў прамысловасці — першае месца. Пачынаючы з 1991 г. у выніку дэзінтэграцыі СССР эканамічныя паказчыкі развіцця рэспублікі пагаршаюцца. Ужо ў 1992 г. у параўнанні з 1991 г. спад вытворчасці ў прамысловасці склаў 14 %, у сельскай гаспадарцы — 17 %. Валавы ўнутраны прадукт (ВУП) у 1995 г. зменшыўся ў параўнанні з 1990 г. на 37 %, вытворчасць у прамысловасці — на 40 %. Гэта, у сваю чаргу, прывяло да зніжэння прыросту нацыянальнага даходу і пагоршыла матэрыяльнае становішча насельніцтва. У цяперашні час Беларусь, па класіфікацыі ААН, належыць да ліку «краін пераходнага перыяду ад цэнтралізавана плануемай да рыначнай эканомікі» і значна адстае па важнейшых эканамічных паказчыках ад высокаразвітых краін свету.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на долю беларускага народа ў сувязі з вынікамі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Эканамічны ўрон ад яе складае 32 гадавыя бюджэты рэспублікі, або 235 млрд. долараў, а вынікі для здароўя людзей наогул непрадбачаныя. Чацвёртая частка тэрыторыі рэспублікі, дзе пражывала звыш 2 млн. чалавек, ахоплена радыеактыўным забруджваннем. З гаспадарчага абароту былі выведзены каля 300 тыс. га сельскагаспадарчых угоддзяў, што прывяло да значнага недабору сельскагаспадарчай прадукцыі. Звыш 400 населеных пунктаў засталіся без жыхароў, адселена 131 тыс. чалавек. Штогод выдзяляецца на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі 20—25 % бюджэту рэспублікі. Патрабуюцца вялікія намаганні з боку дзяржавы і дабрачынных таварыстваў, каб ажыццявіць неабходныя меры па ахове здароўя насельніцтва, перасяленні пацярпеўшых ад аварыі. Нам неабходна канкрэтная мэтавая фінансавая, тэхналагічная і метадалагічная падтрымка з боку міжнароднага супольніцтва.

Значнае адмоўнае ўздзеянне на экалагічную сітуацыю ў рэспубліцы былых праблем. Хімічныя выкіды мноства прамысловых прадпрыемстваў забруджваюць паветра, рэкі і вадаёмы. Нездавальняюча вырашаюцца салігорская, наваполацкая, прыпяцкая і інш. праблемы. Пераадольванне іх у многім будзе залежаць ад таго, як хутка пачнецца ўздым вытворчасці і запрацуе на поўную магутнасць рыначная эканоміка.

29 сакавіка 1996 г. падпісаны чатырохбаковы дагавор аб паглыбленні інтэграцыі ў эканамічнай і гуманітарнай сферах паміж Беларуссю, Расіяй, Казахстанам і Кыргызстанам. 2 красавіка 1996 г. дзве славянскія рэспублікі пайшлі далей у сваіх інтэграцыйных пачынаннях. Падпісаны беларускарасійскі дагавор аб стварэнні Супольніцтва дзвюх суверэнных дзяржаў. Супольніцтвам беларускім і расійскім грамадзянам гарантуюцца абсалютна роўныя правы ў пытаннях сацыяльнага забеспячэння, працаўладкавання, аховы здароўя, адукацыі, набыцця маёмасці, будаўніцтва жылля. Аб'яднанне матэрыяльных і духоўных рэсурсаў беларускага і расійскага народаў дазволіць хутчэй пераадолець крызісныя з'явы.



Працэсы дэмакратызацыі, палітычныя і эканамічныя рэформы стварылі ўмовы для беларускага нацыянальна-культурнага адраджэння. Грамадска-палітычныя арганізацыі, творчыя саюзы з'явіліся ініцыятарамі гэтага працэсу. На падставе ініцыятывы знізу стварыліся новыя грамадскія і самадзейныя суполкі, нефармальныя аб'яднанні, таварыствы, а таксама палітычныя партыі, што сведчыла пра глыбокія пераўтварэнні ва ўмовах грамадскага жыцця і развіцця дэмакратыі. Інтарэсы палякаў, пражываючых на тэрыторыі Беларусі, абараняе нацыянальна-тэрытарыяльная, незалежная і самастойная арганізацыя — Саюз палякаў у Беларусі.

Да важнейшых падзей культурнага жыцця адносяцца праведзеныя ў 1990—91 гг. Усесаюзнае свята славянскай пісьменнасці і славянскіх культур, Міжнародны кангрэс беларусістаў, урачыстасці, прысвечаныя 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны. У 1989—91 гг. адкрыўся музей гісторыі АН Беларусі, у Горках — раённы краязнаўчы музей, у Полацку — музей беларускага кнігадруку, у Мінску — цэнтр беларускага фальклору і літаратуры, музей М. Багдановіча. Дзякуючы дзейнасці дзяржаўных і грамадскіх арганізацый вернуты сумленныя імёны многім палітыкам, дзеячам навукі і культуры і забытыя творы.

Умацаванню духоўнасці ў беларускім грамадстве паслужыла і актывізацыя рэлігійных арганізацый. З 1988 па 1994 г. у рэспубліцы перададзена рэлігійным арганізацыям 539 царкоўных будынкаў, у тым ліку 334 праваслаўныя, 190 каталіцкіх, 15 — іншых канфесій. Пачала працаваць Жыровіцкая праваслаўная духоўная семінарыя, у Полацку адноўлены Спаса-Ефрасіннеўскі жаночы манастыр, выдаюцца «Минские епархиальные ведомости», на сходзе прадстаўнікоў Мінска, Гомеля і Гродна ўтворана Беларускае каталіцкае таварыства.

Рэспубліка падтрымлівае шырокія сувязі з замежнымі краінамі ў сферы эканомікі, адукацыі, навукі і культуры. Беларусь актыўна ўдзельнічае ў абмеркаванні шляхоў павышэння бяспекі ядзернай энергетыкі ў рамках МАГАТЭ. Штогод звыш 5,5 тыс. замежных студэнтаў навучаюцца ў ВНУ і тэхнікумах рэспублікі.

Спецыялізацыя народнай гаспадаркі Беларусі канца 1980 — пачатку 1990-ых гадоў склалася пераважна ў пасляваенныя гады, на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. У сферы матэрыяльнай вытворчасці Беларусі вядучая роля належыць прамысловасці, дзе ствараецца каля 45 % нацыянальнага прыбытку, у сельскай гаспадарцы — каля 30 %, у будаўніцтве — 10 %. Прамысловасць характарызуецца развіццём кваліфікаванага машынабудавання: вытворчасцю грузавых аўтамабіляў, трактароў, металарэзных станкоў, электронна-вылічальных машын, прылад і сродкаў аўтаматызацыі, тэлевізараў, гадзіннікаў, халадзільнікаў, матацыклаў, веласіпедаў. Вялікая доля



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

вытворчасці хімічнай прадукцыі: мінеральных угнаенняў, хімічных валокнаў і нітак, пластмас і шын. Развіта таксама харчовая і лёгкая прамысловасць, асабліва па выпуску льняных і шарсцяных тканін, дываноў, трыкатажных вырабаў, абутку.

Сельская гаспадарка, як і ўвесь аграпрамысловы комплекс Беларусі, спецыялізуецца на вытворчасці мяса, малака, ільну, бульбы.

Спецыялізацыя гаспадаркі рэспублікі ў значнай меры абумоўлена яе прыроднымі і сацыяльна-эканамічнымі ўмовамі. Аднак у савецкі перыяд пры цэнтралізаваным планаванні, пры парушэнні эканамічных законаў развіцця нярэдка не ўлічваліся інтарэсы рэспублікі, яе канкрэтныя ўмовы пры размяшчэнні вытворчасці. Прыкладам з'яўляецца спецыялізацыя Беларусі на вытворчасці магутных аўтасамазвалаў, прадукцыі нафтаперапрацоўчай і нафтахімічнай прамысловасці.

Разам з тым Беларусь мае нізкую забяспечанасць уласнымі сыравіннымі і энергетычнымі рэсурсамі. Каменны вугаль, прыродны газ, бавоўна, шэрсць і многія іншыя сыравінныя рэсурсы цалкам прывазныя. Штогод рэспубліка ўвозіла да 4 млн. т збожжа для харчовых і фуражных мэт.

Такім чынам, гаспадарка Беларусі развівалася і да цяперашняга часу развіваецца ва ўмовах інтэнсіўных эканамічных сувязей з другімі дзяржавамі СНД і сусветнага супольніцтва. Найбольшыя сувязі Беларусь мае з Расіяй (64 % усяго імпарту рэспублікі) і Украінай (19 % увозу). З Расіі ў Беларусь паступаюць нафта, прыродны газ, каменны вугаль, пракат чорных металаў, каляровыя металы, драўніна, цэмент, машыны і абсталяванне, рыба і рыбныя прадукты, спажывецкія тавары і інш. З Украіны Беларусь атрымлівае вугаль, метал, цэмент, машыны і абсталяванне, соду, збожжа і цукар, алей і інш. Беларусь пастаўляе ў Расію і на Украіну грузавыя аўтамабілі, трактары, металарэзныя станкі, вылічальныя машыны, прылады і сродкі аўтаматызацыі, калійныя ўгнаенні, нафтапрадукты, тканіны, бульбу, ільновалакно, мяса-малочныя прадукты і інш.

Падпісаны міжурадавыя пагадненні аб гандлёва-эканамічным і навукова-тэхнічным супрацоўніцтве з многімі дзяржавамі Еўропы, Азіі, Амерыкі. Так, у 1993 г. Беларусь акрамя дзяржаў СНД экспартавала свае тавары ў 87 краін свету, у 1995 г. — у 120 краін. Асноўнымі знешнеэканамічнымі партнёрамі рэспублікі з'яўляюцца еўрапейскія краіны (70 % знешнегандлёвага звароту). Сярод іх першыя пазіцыі займаюць Германія і Польшча. Павялічваюцца знешнегандлёвыя сувязі з ЗША, Бразіліяй. Самыя буйныя партнёры сярод азіяцкіх краін — Кітай, Турцыя, Тайвань.

На ўзаемавыгаднай падставе складваюцца гандлёвыя сувязі паміж Рэспублікай Беларусь і Польшчай. Беларусь атрымлівае з Польшчы рознае тэхналагічнае абсталяванне, асабліва для харчовай прамысловасці, медыкаменты, будаўнічыя і лакафарбавыя матэрыялы, харчовыя прадукты. У Польшчу экспартуюцца шыны, халадзільнікі, дываны, піламатэрыялы, мэбля, шпалеры, іншыя тавары спажывання. Каля 30 % знешнегандлёвага абароту Беларусі прыходзіцца на Польшчу. Дзейнічае шмат сумесных беларуска-польскіх прадпрыемстваў (573 на 1.1.1996 г.). З 828 замежных прадпрыемстваў (на 1.1. 1996 г.), створаных замежнымі партнёрамі ў Беларусі, амаль палова належаць Польшчы.



Экспартуе рэспубліка ў асноўным прадукцыю хімічнай прамысловасці, на другім месцы — машыны, абсталяванне, транспартныя сродкі, фанера, ільняныя і шарсцяныя вырабы. Нам пастаўляюць замежныя краіны ў асноўным машыны і абсталяванне, прадукцыю расліннага паходжання (збожжа, кофе і інш.), цукар, алей, медыкаменты. Імпарт Беларусі больш за экспарт (у 1993 г. на 34 млн. долараў).

Усё большую ролю ў эканоміцы Беларусі пачынаюць адыгрываць сумесныя прадпрыемствы (СП) з удзелам замежных фірмаў і арганізацый. Калі ў 1990 г. на тэрыторыі рэспублікі іх было 54, у 1991 г. — 283, у 1992 г. — 716, то на 1.1. 1996 г. — 1967.

У 1993 г. СП выпусцілі 2 млн. пар абутку, 3623 веласіпеды, каля 4,5 тыс. камп'ютэраў, звыш 350 т марожанага, 2 тыс. т парфумерна-касметычных вырабаў. Адным з першых было сумеснае беларуска-германскае прадпрыемства «Белвест» у Віцебску па вытворчасці абутку. У Маладзечанскім раёне працуе беларуска-германскае прадпрыемства па вытворчасці мэблі, паркету, будаўнічых матэрыялаў. Рамонтам складанай бытавой тэхнікі займаецца беларуска-амерыканскае прадпрыемства «Белінтэрсервіс».

Распрацоўваюцца пагадненні аб эканамічным супрацоўніцтве: з аўстрыйскай фірмай «Хэмі Лінц» па экспарту-імпарту смол і палімераў на базе вытворчага аб'яднання «Палімір» (гадавы абарот 4,33 млрд. дол.); з аўстрыйскай фірмай «Альпінэ» заключаны дагавор на рэканструкцыю беларускіх дарог; беларускія хімічныя прадпрыемствы заключылі кантракт з нямецкай кампаніяй «Paue Bauder» па імпарту поліэфірнага валакна; кітайская кампанія «Сяменя» зацікаўлена ў супрацоўніцтве з беларускімі хімічнымі прадпрыемствамі, а кітайская карпарацыя па імпарту-экспарту хімікатаў «Сінофем» гатова аказаць фінансавую дапамогу прадпрыемствам хімічнага комплексу РБ і інш.

Галоўнай задачай развіцця прамысловасці з'яўляецца рэканструкцыя апрацоўваючых галін і павышэнне канкурэнтаздольнасці іх вытворчасці на сусветным рынку. Прадугледжваецца ажыццявіць паскораную прыватызацыю малых і сярэдніх прадпрыемстваў, акцыяніраваць вялікія вытворчыя аб'яднанні з іх адначасовай арганізацыйнай і фінансавай перабудовай. Ставіцца задача фарміравання фінансава-прамысловых груп і другіх буйных прадпрымальніцкіх арганізацый, асабліва ў навукаёмістых галінах. Рэалізацыя комплексу мер па развіцці прамысловай вытворчасці дасць магчымасць павялічыць аб'ём вытворчасці да 2000 г. у параўнанні з 1995 г. на 11—13 %.

У аграпрамысловым комплексе пастаўлена задача на перспектыву — у адпаведнасці з неабходнасцю рашэння харчовай праблемы вывесці рэспубліку на больш высокі ўзровень самазабеспячэння важнейшымі відамі прадукцыі, да мінімуму скараціць імпарт збожжа, цукру, расліннага масла, бялковых дабавак да камбікормавай прамысловасці. Прадугледжваецца падтрымка фермерскіх гаспадарак, сістэма рэфармавання адносін уласнасці, рэгуляванне зямельных адносін на падставе дзяржаўнай, калектыўнай і прыватнай уласнасці з выкарыстаннем сістэмы зямельнай арэнды, залогу зямлі, крэдыту.

У будаўнічым комплексе прадугледжваецца павелічэнне выпуску но-



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

вых канструкцый і матэрыялаў на падставе выкарыстання палімерных і мясцовых сыравінных рэсурсаў. Аб'ём будаўніча-мантажных работ і капітальнага рамонту будынкаў і збудаванняў да 2000 г. павялічыцца на 11 % да ўзроўню 1995 г.

Гаспадарка стала арыентавацца на патрэбы чалавека, на стварэнне належных умоў жыцця, на павелічэнне ўдзельнай вагі вытворчасці тавараў спажывання, развіццё ўсёй сацыяльнай сферы. Патрэбна скарачэнне долі матэрыяла- і энергаёмістых вытворчасцей, перапрафіліраванне многіх прадпрыемстваў, павышэнне долі навукаёмістых вытворчасцей. Узнікае мэтазгоднасць арганізацыі ўласнай вытворчасці шматлікіх дэталей, вузлоў, камплектуючых вырабаў, паўфабрыкатаў і інш., якія раней увозіліся і якія ў змяніўшыхся ўмовах эфектыўней вырабляць у рэспубліцы. Мэтазгодна адмаўленне ад новага будаўніцтва вытворчасцей з неэкалагізаванымі тэхналогіямі, а таксама перапрафіліраванне ці мэтанакіраваная экалагізацыя дзеючых прадпрыемстваў, якія аказваюць адмоўны ўплыў на прыроднае асяроддзе і здароўе людзей, адмаўленне ад будаўніцтва новых буйных прадпрыемстваў цяжкай прамысловасці, стварэнне сумесных прадпрыемстваў, фермерскіх гаспадарак, стварэнне новых працоўных месцаў на чыстых тэрыторыях для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны, трансфармацыя гаспадаркі на забруджаных тэрыторыях і г. д. Укараненне рыначных адносін у эканоміку мае мэтай павелічэнне вытворчасці і паляпшэнне якасці тавараў спажывання, задавальненне патрэб людзей у таварах і паслугах.

Значныя зрухі ў структуры гаспадаркі звязаны таксама з ажыццяўленнем канверсіі — пераводу прадпрыемстваў з выпуску прадукцыі для ваенна-прамысловага комплексу на вытворчасць тавараў спажывання. Гэтаму садзейнічае ўкараненне розных форм уласнасці, у тым ліку прыватнай. Ідзе прыватызацыя, галоўным чынам малых прадпрыемстваў, прадпрыемстваў гандлю і іншых сфер абслугоўвання.

Распрацаваныя праграмы забеспячэння эканамічнага суверэнітэту Беларусі ў многім арыентуюцца на выгаднае эканоміка-геаграфічнае становішча РБ, існуючы навукова-тэхнічны патэнцыял, перавагу апрацоўваючых галін, і ў прыватнасці кваліфікаванага машынабудавання, параўнальна развітую інфраструктуру.

Такім чынам, важнейшымі праблемамі сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі з'яўляюцца: структурная перабудова эканомікі, наладжванне рацыянальных эканамічных сувязей рэспублікі як з краінамі СНД, так і з другімі краінамі свету, пераадоленне вынікаў чарнобыльскай катастрофы, удасканаленне тэрытарыяльнай арганізацыі вытворчасці і рассялення насельніцтва рэспублікі.



# На пытанні Уладзіміра Юзвюка адказвае Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку прафесар МІХАСЬ СЛЯМНЁЎ

**У. Ю**. *Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку з'яўляецца адзінай у нашым горадзе замежнай дыпламатычнай установай. Скажыце, як яно было створана?*

**М. С**. Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку працуе са снежня 1993 года на падставе адпаведнай пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. Адкрыццё гэтай установы менавіта тут, у Беластоку, адзін знакаміты прадстаўнік мясцовага асяроддзя назваў самым вялікім цудам у сваім жыцці. «Я і думаць не думаў, — адзначыў ён, — што дажыву да таго часу, калі не толькі на Беласточчыне, але і ўвогуле ў Польшчы з'явіцца беларуская дыпламатычная ўстанова». Але такі час прыйшоў. І прыйшоў дзякуючы таму, што ў 1991 годзе Беларусь аб'явіла аб сваёй незалежнасці, прыняла Дэкларацыю аб суверэнітэце, якой хутка быў нададзены статус канстытуцыйнага Закона. І трэба адзначыць, што першым міждзяржаўным дагаворам, які заключыла незалежная Рэспубліка Беларусь, быў дагавор са сваёй суседкай з захаду — Польшчай. А потым былі адкрыты два генеральныя консульствы: адно — у Гданьску, другое — у Беластоку.

**У. Ю**. *А чаму менавіта ў гэтых гарадах?*

**М. С**. Прычын гэтаму некалькі. Што датычыцца Беластока, то важнейшыя сярод іх — блізкасць горада да дзяржаўнай мяжы і кампактнае пражыванне ў гэтым рэгіёне вялікай колькасці этнічных беларусаў. Дарэчы, тымі ж меркаваннямі кіраваўся і польскі бок, калі адкрываў Генеральнае консульства ў Гродне. Нагадаю, што акрамя Генеральнага консульства ў Гродне Польшча мае яшчэ сваё консульства ў Брэсце. Гэтыя дзве польскія консульскія ўстановы, калі можна так сказаць, абслугоўваюць пагранічча ад Гродна да Брэста. Дарэчы, у нашу консульскую акругу акрамя Беластоцкага ўваходзяць яшчэ сем іншых ваяводстваў: Люблінскае, Хелмскае, Седлецкае, Бяла-Падляскае, Сувалкаўскае, Ломжынскае і Астраленьскае. Так што работы ў нас хапае.

**У. Ю**. *А што азначае «Генеральнае консульства»?*

**М. С**. Генеральнае консульства адрозніваецца ад консульства, віцэ-консульства і іншых консульскіх устаноў ступенню самастойнасці прымаемых рашэнняў, шырынёй прадстаўнічых функцый у дзяржаве знаходжання, памерамі фінансавання і др. Ну а галоўнае адрозненне, як паўжартаўліва сказаў адзін спецыяліст па міжнароднаму праву, — у гэтай установе ёсць Генеральны консул, які з'яўляецца «паслом у межах сваёй акругі». І ў гэтым жарце ёсць доля ісціны.

**У. Ю**. *Якія накірункі дзейнасці дамінуюць у працы консульства?*

**М. С**. У адпаведнасці з консульскім статутам, на нашу ўстанову ўскладзена мноства задач. Калі сфармуляваць іх як мага карацей, то функцыямі Генеральнага консульства можна назваць аказанне прававой дапамогі грамадзянам і юрыдычным асобам Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца на



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

тэрыторыі консульскай акругі, а таксама спрыянне развіццю эканамічнага, гандлёвага, культурнага, навуковага і іншых відаў супрацоўніцтва дзяржаў-суседзяў. Ёсць шэраг і другіх спраў. Калі гаварыць аб важнейшых сярод іх, то, напэўна, сёння трэба выдзеліць аказанне дапамогі нашым суайчыннікам, якія жывуць у паўночна-ўсходнім рэгіёне Польшчы ці стала, ці апынуліся тут часова. Асабліва часта да нас звяртаюцца нашы гандлёвыя «турысты», якія трапляюць у розныя непрыемныя сітуацыі: абрабаваныя, пабітыя, згвалтаваныя, згубіўшыя грошы ці рэчы, затрыманыя праваахоўнымі органамі і г. д. Так, толькі за тры першыя месяцы 1996 года да нас звярнулася каля 100 грамадзян Беларусі, у якіх выкралі ці прымусова адабралі разам з грашыма і пашпарты. А без апошняга на Радзіму вярнуцца нельга. I мы выдаём адпаведнае пасведчанне — часовы эквівалент пашпарта. Пры гэтым трэба адзначыць, што і нашы суайчыннікі не заўсёды добра паводзяць сябе за мяжой. У прыватнасці, па стану на 01.03.96 года ў месцах зняволення консульскай акругі знаходзіцца 57 жыхароў Беларусі, а затрымана і арыштавана — 211. Але ж гэта таксама нашы грамадзяне. I ім патрэбна дапамога. Тым больш што многія з іх трапляюць у прававыя калізіі па недарэчнасці.

Шмат увагі мы ўдзяляем і развіццю шматбаковага супрацоўніцтва Беларусі і Польшчы, асабліва яе прыгранічных рэгіёнаў. Трэба з задавальненнем адзначыць, што такое супрацоўніцтва і пашыраецца,і паглыбляецца з кожным днём. Гэтаму спрыяе заключэнне двухбаковых пагадненняў паміж суседнімі ваяводствамі і абласцямі. Наладжваюцца добрыя гандлёва-эканамічныя і навукова-культурныя кантакты паўночна-ўсходняга рэгіёна Польшчы з Мінскай і Віцебскай абласцямі. Вялікую ролю ў гэтым адыгрываюць міжнародныя таргі, кірмашы, выставы, якіх асабліва шмат праводзіцца ў Беластоку і Сувалках. Можна спадзявацца, што хутка ў двухбаковым супрацоўніцтве дзвюх дзяржаў будзе назірацца якасны прарыў. Я маю на ўвазе стварэнне на тэрыторыі беларуска-польскага памежжа дзвюх свабодных эканамічных зон: «Буг» і «Нёман». Калі такое здзейсніцца, то на больш высокую ступень будуць падняты ўсе бакі трансгранічнага супрацоўніцтва, у тым ліку ў значнай ступені вырашана балючае пытанне прыстойнага перасячэння дзяржаўнай мяжы грамадзянамі як з аднаго, так і з другога боку.

**У. Ю**. *Як успрыняло вашу ўстанову беларускае асяроддзе Беласточчыны?*

**М. С**. Аб гэтым было б лепш запытаць у яго прадстаўнікоў. Мне ж здаецца, што ўвогуле станоўча. Хаця ў розных беларускіх арганізацыях, а іх тут налічваецца шмат, адносіны да нашага консульства розныя. Але варожасці не назіраецца. Што датычыцца адносін консульства да беларускага асяроддзя, то мы ў меру нашых сіл і магчымасцей падтрымліваем намаганні ўсіх беларускіх арганізацый, дзейнасць якіх накіравана на развіццё нашай нацыянальнай культуры, на замацаванне любові да беларускага слова, на ўсталяванне дружалюбных адносін паміж дзяржавамі-суседзямі. Я б не хацеў абсалютызаваць дзейнасць беларускіх арганізацый, у тым ліку і БГКТ, у гэтым накірунку. Але тое, што зроблена па захаванню і развіццю, калі можна так сказаць, «беларушчыны» на Беласточчыне і на ўзроўні звычайнай масавай свядомасці, і на больш высокіх яе «паверхах»: навуковым, мастацкім, літаратурна-паэтычным, журналісцкім — не можа вызваць высокія пачуцці. А тое, што адносіны паміж асобнымі беларускімі арганізацыямі не заўсёды складаюцца так, як хацелася б, не павінна вельмі засмучаць. Галоўнае, каб рабілася добрая справа на карысць людзям. А час усё паставіць на сваё месца.

**У. Ю**. *Якія вы бачыце перспектывы развіцця консульства?*

**М. С**. Сёння нас вельмі турбуе пытанне аб размяшчэнні нашай установы. Вось ужо больш двух гадоў Генеральнае консульства знаходзіцца ў дрэнна прыстасаваным для работы і вельмі непрыглядным з вонкавага боку памяшканні. Але ёсць надзея, што гэта пытанне ў рэшце рэшт вырашыцца станоўча. Магчыма, мы будзем будавацца, магчыма, мясцовыя ўлады прапануюць прыстойны будынак для арэнды. А з паляпшэннем умоў нашага існавання з'явяцца і новыя формы работы. У прыватнасці, мы змаглі б перыядычна арганізоўваць сустрэчы з вядомымі людзьмі з Беларусі, мастацкія выставы, творчыя вечары і г. д.; і такое, я ўпэўнены, абавязкова будзе.

**У. Ю**. *Вашы пажаданні чытачам «Беларускага календара», членам і сімпатыкам яго выдаўца — Галоўнага праўлення БГКТ?*

**М. С**. Усім — здароўя, шчасця, плёну, дабрабыту. А БГКТ — пасля цяжкай дыстанцыі, даўжынёй у 40 гадоў, — знайсці другое дыханне.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Літаратурная частка

*Віктар Швед*

## Суседзям

Суседзі нашыя славянскія,
Палякі — блізкія суседзі,
Не будзьце ж вы занадта панскія,
Бо на адным мы возе едзем.

Правы аднолькавы нам дадзены,
Аднолькавыя абавязкі.
Не хочам быць мы абакрадзены,
Не хочам з вашае жыць ласкі.

Хоць мы і са сцяны усходняе,
Аднак з жывой яшчэ душою.
За беларускае, за роднае
Стаім мы цвёрдаю сцяною.

Былі мы доўга пад прымусамі
І пагарджанымі заўсёды.
Ды асталіся беларусамі,
Лічыцца сталі мы народам.

Не хочам быць безабароннымі,
Мы будзем за сваё змагацца.
Даволі быць заўжды прыгоннымі,
Людзьмі нарэшце хочам звацца!

Супольнаю сям'ёю дружнаю
Жыць хочам у адной краіне.
Заможнымі быць, не лапцюжнымі —
Наша супольная павіннасць.



## На той свет вазьму гармонік

*Мікалаю Пракапюку*
*з вёскі Трывежа прысвячаю*

Колькі ж страшэннай смерці джала
Пасля ліхой вайны падзей
Нам з вёсак назаўжды забрала
Ці акалечыла дзяцей.

Той дзесяцігадовы Коля,
Што кароў пасвіў каля хат,
Хацеў размантаваць у полі
Вайной астаўлены снарад.

І вынік гэтага вядомы:
Патухнуў назаўсёды зрок
І наступілі ног узломы,
На старасць цяжка зрабіць крок.

Ён часта моліцца да Бога:
Ты патушыў вачэй агні
Яшчэ ж у хлопчыка малога —
Мне на тым свеце зрок вярні.

Чорным яму заўжды свет белы,
Сэрцам адшуквае людзей,
Рукамі зведаў жонкі цела,
Не знае колеру вачэй.

Ён ласкай выпесціў дачушку
І дарагі яму стаў зяць,
І навучыўся ўнукаў гушкаць,
Песні вясёлыя спяваць.

У рукі ён бярэ гармонік,
У ім яго жыцця сакрэт,
І смутак ад сябе прэч гоніць,
Стаецца весялейшым свет.

Хоча гармонік свой вясёлы
Ён на той свет забраць з сабой,
Каб там заўжды іграць анёлам
І ўсёй ерархіі святой.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## Ноч над морам

Выплыў з вадзяной прасторы
Поўны месяц залацісты.
Выкупаўся ў цёплым моры,
Стаўся крышталічна чыстым.

І завіснуў у паветры
Быццам лямпа Аладзіна.
Заглядае ў мора нетры,
Як у люстра гладзь, жанчына.

Заблішчэлі зорак каралі,
Астывае пляж да ранку.
І ціхутка мора хвалі
Зашумелі калыханку.

Засынае ўсё навокал
У надморскае старонцы.
Толькі месяц адзінокі
Выглядае стрэчы з сонцам.

## Беларускі музей

Казалі нам, што ў вочы рэжа
І што псуе турыстам кроў,
Музей няпольскі ў Белавежы,
Паміж дубоў, паміж зуброў.

Нялюдскім варварскім загадам,
Як крывадушнік-фарысей,
Хутка ліквідавалі ўлады
Этнаграфічны наш музей.

Даробак знішчылі багаты
Нашых сяліб, нашай зямлі,
І унікумы-экспанаты
У Цехановец аддалі.

І мы упорыста, гадамі,
З ахвяр грашовых землякоў,
З натугаю будуем самі
У Гайнаўцы музей ізноў.

І ў павільёне ўжо гатовым,
Што вырас нам, як прыгажосць,



Музей мы ўжо адкрылі новы,
Усім праціўнікам на злосць.

Дык, людцы добрыя, у хатах,
На панадворках чым хутчэй
Збірайце зноўку экспанаты,
Аддаючы іх у наш музей!

## Будаўнік

Ты нашы вёскі абнадзеіў,
Крамаў узнёс ім значны лік.
Цяпер ты ў Гайнаўцы музея
Непераможны будаўнік.

Хто ж з нас не ведае Майсені,
Яго пазнала й Беларусь,
І будучыя пакаленні
Скажуць: наш будаўнік Кастусь.

Музей нам стаўся веліканам
І наш ён гонар, сапраўды.
І будуць тут у ім сабраны
Нашай мінуўшчыны сляды.

Усе прылады чалавека,
Што захаваў наш слаўны люд,
Доказ, што тут жывём спрадвеку,
Тут наш айчынны родны кут.

Хутка прац будзе завяршэнне.
Сядзець бяздзейна не прывык
Наш дарагі Кастусь Майсеня,
Музея слаўны будаўнік!

## Беларусы баяцца беларусамі звацца

Лаўлю я вухам, шукаю зрокам
Беларусаў у Беластоку.
І ў душы мне становіцца горка,
Нідзе не чую роднай гаворкі.
Быццам папала ў нейкую пастку
Жыхароў горада трэцяя частка.
І не чуваць іх у наваколлі,
Нібыта і не было тут ніколі.
І заўжды чую на кожным кроку



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Толькі палякаў у Беластоку.
Чуецца ўсюды польская мова,
Цалкам заглохла нашае слова.
Хоць афіцыйна няма прымусу,
Няма адважных быць беларусам.
Большасці раптам сталі баяцца,
Беларусамі публічна звацца.

## Прыстасаванцы

І штораз меншыя ўжо шанцы,
Каб беларусамі астацца.
Да большасці прыстасаванцы,
Імкнемся ёй прыпадабацца.

Стараемся мы адначасна,
Як большасць наша быць такімі ж.
Зракаемся ідэі ўласнай,
Сабе становімся чужымі.

Зракаемся сваіх карэнняў
І памяці бацькоў вясковых,
І папярэдніх пакаленняў,
І роднай беларускай мовы.

Цікава, большасць як асудзіць
Гэты нашыя заганы?
І ці яна заўсёды будзе
Да нас адносіцца з пашанай?

## Уцекачы

Сумнае дзеецца з вёскамі,
Быццам няма вінаватых.
Вокны, забітыя дошкамі,
Страшаць пустэчаю хаты.

Мы назаўжды развіталіся
З роднай бацькоўскай зямлёю,
Вёсцы чужымі ўжо сталіся,
Наша жыццё — гарадское.

Мы, як сяляне ўжо быўшыя,
Рэдка бываем тут госцем.
Нашы бацькі, век аджыўшыя,
Спяць вечным сном на пагосце.



Мы, гарадскія асаднікі,
Што разбрыліся па свеце.
Хоць і зямліцы мы здраднікі,
З ёй нам зрадніцца прыдзецца.

## Маё грамадзянства

Я нарадзіўся менавіта
У другой Рэчы Паспалітай.
І да сусветнае няспынна
Я быў яе грамадзянінам.
А потым здарылася гэтак,
Што прыбылі да нас Саветы,
І я тады вось такім чынам
Саюза стаў грамадзянінам.
А потым нас запаланіла
Нячыстая фашыстаў сіла
І ў зняволенай краіне
Я Рэйху стаў грамадзянінам.
Вайны заціхла кананада.
Народная ў Польшчы ўлада.
Я споўніў зноў сваю павіннасць,
Той Польшчы стаў грамадзянінам.
І пасля змен несамавітых
Я ў трэцяй Рэчы Паспалітай.
Хачу дажыць тут, проша паньства,
Без новых зменаў грамадзянства.

## Рэчаіснасць

Няма гаспадара ўжо ў Моры,
Пенсіянерам стаў брат мой.
І брукаваны панадворак
Пазарастаў ужо травой.

І непатрэбны стаў нікому
Плужок жалезны з бараной,
І трактар стаўся горбай лому,
Аджыў ужо век доўгі свой.

Бацькоўская старая хата
Яшчэ стаіць, як маналіт.
Век аджывае разам з братам,
Разам адыйдуць у нябыт.

Калі бываю ў Моры зрэдку,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Тут у такі ўваходжу стан:
Як уміранне вёскі сведка,
Як той апошні з магікан.

## Сон

*Памяці Маці*
*прысвячаю*

Прысніўся сон. У роднай хаце
Я, апынуўшыся ізноў,
Сустрэўся са старэнькай маці
І прывітаў яе без слоў.

І на калені, як ніколі,
Матулю ўзяў, нібы дзіця,
І маё сэрца, замест болю,
Было паўнютка пачуцця.

Нядоўга цешымся нат снамі...
Настаў майго ад'езду час.
Хацеў забраць з сабою маму,
Ды ад яе пачуў адказ:

— Я ўжо, сынок, жыву ў цярпенні,
Мне рэдка не баліць калі.
Узяў мяне ты на калені —
Быццам абвёз вакол зямлі.

## Калі ж мы станемся партнёрамі?

Не ведалі сваёй мы вартасці,
Яна зусім прапала недзе.
Прасілі толькі талерантнасці
Заўсёды ў сваіх суседзяў.

Не шанавалі нашай нацыі
Суседзі розныя навокал.
Праявамі дыскрымінацыі
Кармілі нас на кожным кроку.

Жывём мы пад аднымі зорамі,
Адно нас саграває сонца.
Калі ж мы станемся партнёрамі
Суседзям у сваёй старонцы?



8—1034

## На пляжы

На сагрэтым сонцам пляжы,
Ля бурлівых хваляў мора,
Людзі свае целы смажаць,
Аж да болю, да апоры.

Аб адным яны тут мараць
І клапоцяцца заўзята:
Каб з карычневым загарам
Да сваёй вярнуцца хаты.

Праліць трэба мора поту,
Цела вымучыць да стомы,
Каб з задавальненнем потым
Зайздрасць выклікаць знаёмых.

І таму ляжаць упокат
На пясочку жоўтым целы.
Пільна сочыць сонца вока,
Каб ніхто не быў тут белым.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Алесь Барскі*

## Прытуліўшыся да Радзімы

У целе хваравітасць чую.
Для лекараў яна —
Загадка.
Іду ў бальніцу —
Глуш лясную —
Па вузкіх сцежках
І па хісткіх кладках.
І ў гушчары,
Дзе бор сасновы
Збегся ў гурт
Зялёны, цесны,
Лечыць мяне
Таемным словам,
Лечыць мяне
Зялёнай песняй.
Пазнаць не кожны
Мяне зможа,
Бо стану сілаю багаты,
Здаровы зноў
І зноў прыгожы.
Вяртаюся ў абдымкі хаты.
О, лесе, лекару адвечны,
Бярэш мяне
Ты пад ахову,
Бясплатна маю душу
Лечыш
Сваёю песеннаю
Мовай.

* * *

Мне заўсёды з табою
Да твару,
Стройнаногая пані
Дуброва.
Дакрануся — і рэчанька
Мараў
Цячэ паэтычнаю мовай.
Як мне люба
Ісці і хістацца,
Заглыбляцца
У сінь і ў зелень,
І ніколі туды не з'яўляцца,



Дзе няма
Ні хрысцін, ні вяселля.
Ды, на шчасце,
На кроку тут кожным
Спраўляе дуброва абрады,
І сябе паказаць
На іх можна,
І пабачыць таго,
Хто нам рады.
Мне з табою да твару,
Дуброва,
І размовы з табой
Не баюся.
Памажы ты
Народнаму слову,
Што так марна жыве
У Беларусі.
І людзям дай шчодрага
Бобу,
Тым, хто жыў у няволі
Падданым,
Хай брат брату нарэшце
Пасобіць
Пазбыцца чужацкіх падманаў.

* * *

Пільнуй агню святога
Нашай хаты
Ад злыдняў,
Ад зайздроснікаў
І ад зладзеяў,
Якіх на свеце
Так багата.
Кахаю я цябе
Так, як умею:
Без тактыкі,
Без хітрыкаў
І планаў.
Кахай і ты мяне,
Каханая.
Хай будзе табе сумна
Без мяне
І радасна са мною.
І наяву,
І ў цёмным сне,
Са мною ты,
І я з табою.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

* * *

Вось першы жоўты ліст
На сцежку жнівень кінуў,
І водгулле пайшло
Далёка і высока.
Хаця яшчэ красуецца
У зелені краіна,
То ўсё ж-такі дзесь восень
Бродзіць недалёка.
Кругазвароты вечныя:
Зіма,
Вясна
І лета,
І восень шэрая
З дамешкай залатога.
О, колькі ж песень тут
У палове недапетых —
І непазнаванага
За дальняю дарогай!
Дык яшчэ раз
Мне па лясах прайсціся
І летняе пааддзяляць
Ад з'яў асенніх!
Змірыся, сэрца гордае,
Змірыся,
Прад вечным стань
Пакорна на калені.

* * *

Успамінаю навагодні баль
І тваю лёгкасць
Лебядзіную,
Бясконцы танец ў шыр і даль
З Нінаю.
І дзіўны цела перагіб
Пяшчотны,
Не існуюць жа берагі
У танцы лётным.
У кожнай кропельцы крыві
Нашу я віраванне.
Ці рэчаіснасць, ці прывід —
Каханне?
Што мне Варшава?
Я сусвет
З табою затанцую
І з балю прынясу ў дом
Дарагую.



* * *

У чамадане замыкаю я гардыню,
Пакору ў гняздо сэрца пасяляю,
Іду па жнівеньскай краіне
І ўсё кахаю.
Малюся храмам соснаў
І капліцам ёлак,
І купалам празрыстых росаў
Вясёлых,
Навокал кожнай кропы
Завешваю німбы
І кожнай дробязі лясной
Спяваю гімны.
Краіна родная,
Дазволь пагараваць
Над лёсам.
Ці ён прыйшоў з зямлі,
Ці мо прыйшоў з нябёсаў?
Над кронамі плыве
Срабрысты човен.
Не здрадзіў толькі лес
Айчыннай мове.

* * *

Як добра адчуваць,
Што ёсць
Адзіная на свеце.
Тады іначай сонца свеціць,
Тады іначай вее вецер,
І ты становішся адменны,
Новы,
І каляровасць надаеш
Ты шэрым словам.
І ты становішся
З будзённага святочным,
І бачыш сонца апаўночы,
І сонцы раздаеш, як пірагі,
Сустрэчным,
І чуеш, што з хвіліннага
Ты стаўся вечным.

* * *

Падзяліся красою, дуброва,
З тым, што здалёк прыехаў,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Дай з кожнага слова
Паўслова
І з кожнага рэха
Паўрэха.
Я падарункі размножу,
Занёсшы ў бандарскую
Хату,
І зноў адашлю ў Валожын
І Іслач, дзе песень
Багата.
Мне тут радасна,
Мне тут і сумна,
Раблюся тут дзікаватым.
Хтосьці скажа:
Стаў безразумны,
Вызбыўся роднае хаты.
Ды сваёй Белавежы
За скарбы не дам чужому.
Чым стану
Без роднага поля
І без бацькоўскага дому?
Чужым аддавалі
Нямала
І земляў,
І думак,
І душаў.
Усё з-пад чужое навалы
Сёння вызваліць мушу.

* * *

Узнімаюся штодзень
Пад сонца,
Каб убачыць
Цябе, Непаўторная.
Там нішто не бывае шэрае,
Нішто не бывае чорнае.
І бачу істоту праменную,
Трапяткую ў сонечных промнях,
Чароўную і незаменную,
З шарам зямным у далонях.
Як красуюцца
Яблыні ў маі!
Як струменяцца
Срэбрам крыніцы!
Шар зямны
Ты ў далонях трымаеш.
Багародзіца,
Ці Чараўніца?



* * *

Блакітнымі грудзьмі
Лягае неба тут
На пікі ёлак,
Але не гіне
У гэтай самазгубе.
Блакіт крыві
Плыве ўніз
Да ягад і да зёлак,
І люба пікам,
І грудзям таксама люба.
Адвечны сэнс
Сімбіёзных суадносін:
Любоў паміж сасною
І мурашкай.
Тут кожны дань бярэ,
Ніхто не просіць,
Тут лёгка жыць
І ўміраць не цяжка.
Я прыхіліўся
Да сасны плячыма,
Пачуў —
Струменяцца ва мне блакіты,
Стаю з закрытымі вачыма,
О, як салодка,
Сінню быць забітым!

* * *

Як я магу маўчаць,
Калі ты так далёка?
І станаўлюся, як дзіця,
Бездапаможны.
Крычу ў шыр зямлі
І веру, голас мой
Цябе прыклікаць зможа.
Ён толькі пасланец
Недасканалы,
Хацеў бы, каб ён быў
Той кропелькай вады,
Якая размывае скалы.

* * *

Вецер задыханы прабег
Праз гушчары лясныя,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

І кожная сасна
Мне пакланілася лагодна,
І зашапталі ціха дрэвы,
Як жывыя;
Лясная верагоднасць.
Іду ў глыб,
Ад дрэва і да дрэва,
А ў ёй, як у паэзіі,
Усё бязмэтна і сэнсоўна.
Як толькі Бог стварыў Адама
І сяброўку Эву,
Узяўся за стварэнне лесу
Безумоўна.
А ў лесе цнота з грэхам
У сяброўстве вечным,
Бальніца, у якой
Хвароба ўмірае,
Як толькі душу,
Чалавеча, пакалечыш,
Прыходзь у лес
У родным краі.

* * *

І зноў сягоння я кахаў
Толькі цябе выключна.
Было мне крыху радасна
І многа больш балюча.
Ці ёсць крыніца на зямлі
З струменямі ўцехі?
Ды далятае да мяне
Ад твайго сэрца рэха.
Калі па шчырасці сказаць,
Дык добра мне і дрэнна,
Ды веру,
Мушу я чакаць
Ненадарэмна.
Бо ў канцы чаканняў тых,
Са смуткамі бязмернымі,
Стаіш дзесь, Дарагая, ты,
Каханая і Верная.

* * *

Лепш мне
Згубіцца ў лесе,
Чым на праспекце



Знайсціся,
Пагладзіць цябе,
Паднябессе,
І загубіцца ў лісці.
Колькі я раз загубіўся
У белавежскіх
Гушчарах
І, выйшаўшы, узбагаціўся
У трывожныя думкі і мары.
Люблю я ў родным лесе
Блуканне
Сярод сосен
І елак кашлатых,
Тую сцежку,
Што на змярканні
Завядзе ў канцы дахаты.
Бывала ў жыцці, ой, бывала,
Туды, дзе не трэба,
Заходзіў,
Памылак зрабіў не мала
І сам сабе
Моцна пашкодзіў.
Ну, што ж?
Мабыць, гэтак і трэба.
З загадкамі наша краіна
Карміла мяне
Белым хлебам,
А таксама і хлебам
З мякінай.

* * *

Чаму ў гэты ясны дзень
Прыходзіць змрочнасць да мяне
І я сумую?
Плыве журботная рака,
І мая сумная рука
Партрэт малюе.
Далёка, Нінка, родны край
Наднарвенскі зялёны,
Калышуцца ў ветры коні,
Як сонца, залатыя,
І там сярод даліны —
Ніна.
Мне недаступны
Сіні край,
Я ў дабравольным аддаленні,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Мяне там, Дарагая, пачакай!
Прыйду, калі паліжуць цені
Даліну цёплай мызай.
Я стану на калені
І дамалюю
Ніна Лізу.

* * *

Мой сябра тут са мной —
Велікадушны жнівень.
Ён збажыну
Сабраў з палёў,
Сюды прыйшоў
На адпачынак.
І ён, і я
Вясёлы і шчаслівы,
Ачышчаны з грахоў і вінаў.
Накрыў нас лес
Зялёнаю папахай
І адпусціў грахі,
І прычасціў жывіцай,
Прагнаў надоўга
Боязні і страхі,
І падпаіў крыштальнасцю
З крыніцы.
Ідзём, як анёлы,
З паднебнага вянчання,
Аддаўшы Богу божае,
А чалавеку — ўсё людское,
І п'ем блакіт
Вячэрняга змяркання,
І ўсё ў нас добрае
І маладое.

* * *

Зноў хістаецца свет,
Яго я падтрымаць не ў стане,
Бо самотны,
Як палец я божы, сягоння.
Не паможа Каханая
Сваімі далонямі,
Не паможа.
Яшчэ пад снегам сонным
Дрэмле збожжа.
Я ўноч і кожны дзень



Іду туды,
Дзе шэпчуцца галінкі
На дрэвах Пушчы Белавежскай.
Дзе ціхенька чакае Нінка
На запаветных сцежках.
Чакай, Каханая,
Чакай да рання,
Чаканне ёсць каханне,
Каханне ёсць чаканне.

* * *

У гэтым лесе пагубіў я
Клопаты і стрэсы
І інтэрв`ю правёў
З сасною кожнай,
Напоўніў сэрца тут
Жывічным лесам
І зразумеў — без дрэва
Жыць не можна.
І верш без дрэў
Зачахне і завяне,
І станецца нямы
Без пошчаку ляснога;
Я быў душою скатаваны,
Прыпоўз бяскрылы, хвараногі.
І кожная сасна
Дала мне дозу лекаў,
Шырокі подых я ўзяў
З палянаў;
Прыйшоў сюды
Маленькім чалавечкам,
А адыду адгэтуль
Веліканам.

* * *

Ах, чаму маладзік,
Які толькі ўзабраўся на неба,
З такім сумным сягоння
Аблічам?
Ці мала прасторы яму?
Ці нябеснага хлеба?
Ці мо зорак ніяк
Не палічыць?
Ён мне братам сягоння
У самотнай нядолі,



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

І плыву я з усходу
На захад.
Мне б з табою прайсці
Па халоднаму полі
Між таемных і ценяў,
І страхаў.
Дарагая мая,
Я за смуткі ўдзячны,
А самотнасць мая —
Гэта крылы для вершаў.
Не хачу я быць першым
У жыццёвай удачы,
Каб толькі ў смутку тваім
Быць мне першым.

* * *

Бяссільны, Нінка, час,
Ды і прастор бяссільны.
Я мог бы і далей,
Ды і даўжэй таксама
Змог бы
Пражыць,
Пратрымаць
Без цябе,
Каб толькі ведаў
І быў пэўны,
Што на канцы зямлі
Чакаеш,
А той цяжар,
Які дае расстанне
І чаканне,
У ступені аднолькавай
І горкі, і салодкі,
І чым далей, і чым даўжэй,
Тым вярней,
Так як зямля на дажджавыя воды,
Чакай так на мяне,
Як я чакаю на цябе
Сягоння,
Заўтра
І заўсёды.

* * *



*Янка Целушэцкі*

## Віка

Снег выпаў пасля ночы. Памаладзеў, абнавіўся свет. Снег павіс на галінах шэрых дрэў. Такі бялюткі. Дзяўчына гадоў дваццаці стаяла на аўтобусным прыпынку каля скрыжавання найбольш рухлівых гарадскіх вуліц. Ад лёгкага марозіку пачырванелі яе прыгожыя шчокі і нос. Неўзабаве да дзяўчыны падышоў малады мужчына і пацалаваў яе ў руку. Ён быў вышэйшы за яе на цэлую галаву. Узяў дзяўчыну пад руку, і яны пайшлі ў напрамку гасцініцы. Тут затрымаліся, аб нечым гаварылі.

Я прайшоў побач да газетна-часопіснага кіёска і купіў у ім «Кур'ер». Чуў яе мілы голас. Яна сказала, што ёй холадна так стаяць на тратуары. Я таксама падумаў, што і мне зараз холадна ды вырашыў зайсці ў кавярню. У ёй заўсёды чыста, светла, утульна і, што цяпер важна, — цёпла, заўсёды можна выпіць кубачак добрай кавы. Неўзабаве прыйшлі сюды і яны.

Прыселі побач з маім столікам. Цяпер я бачыў, як яе невялікі нос пакрысе бялеў, не быў ужо такі амаль чырвоны. Нічога не гаварылі. Я пачаў перачытваць загалоўкі артыкулаў у газеце. Тады зноў пачуў яе голас, яна папрасіла ў мяне «Кур'ер». Я падаў. Чыталі яны аб'явы. Потым ён пайшоў пазваніць па тэлефоне, а яна вярнула мне газету. Падзякавала і крыху засаромлена дадала:

— Шукаем для мяне кватэру...

Мне прыгадалася, як самому даводзілася шмат разоў мяняць пакой да таго часу, пакуль не атрымаў уласнай кватэры. Усё ж злавіў я сябе на думцы, што павінен адказаць гэтай дзяўчыне.

— Так, — сказаў я. — Цяпер нялёгка знайсці кватэру... Я таксама некалі меў такі клопат.

Яна паглядзела на мяне так, што мне захацелася пазнаёміцца з ёю, і я назваў сваё імя: — Алесь.

— Віка, — сказала яна, і мы ўжо былі знаёмымі.

— А ён... Андрэй, — дабавіла. — Ён шафёр, вадзіцель аўтобуса, гэта мой...

— Прыяцель, сябра, — я спрытна выручыў яе ў адказе.

— Так. Я з іншага горада. Будзе ўжо год, як мы з ім не бачыліся, не сустракаліся. Як прыехала сюды, адразу пазваніла яму і папрасіла, каб дапамог мне знайсці пакойчык, я хачу тут жыць... Я не ведала, што ў яго цяпер іншая жанчына.

Яе шчырасць мяне моцна здзівіла. Я паглядзеў на яе. Якая яна прыгожая! А вочы! Колькі ў іх хавалася пяшчоты, дабраты і шчырасці.

— Я бачыла вас на прыпынку. Вы глядзелі на мяне...

— А вы сёння, пэўна, не маеце часу, будзеце шукаць кватэру, але заўтра?.. — спытаў я.

— Не, чаму? У мяне і сёння яго шмат, бо не верыцца мне, што Андрэй знойдзе пакойчык. А заўтра вяртаецца тая яго новая дзяўчына, дык... Але магу паехаць адсюль нават сёння.

— Добра, дык сустрэнемся за... — і не паспеў я даказаць, калі



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ўбачымся, бо якраз прыйшоў Андрэй і паведаміў, што тыя, з аб'явы, не захацелі прыняць на кватэру жанчыну.

Я, шчыра прызнацца, ніколі не запрашаў да сябе ніводнай дзяўчыны. Сяброў — так. Нават цешуся, калі яны наведваюцца да мяне. Але каб прывесці да сябе жанчыну... Такога яшчэ не было.

— Нічога, — пачуў я скрозь свае думкі голас Вікі, — пакуль што пасялюся ў Алеся. Выбачайце, я і забыла вас пазнаёміць.

— Андрэй.

— Алесь.

Не скажу, каб ён не быў моцна здзіўлены, але менш, чым я сам.

— Шчыра дзякуем, — сказаў ён.

— Дробязь, — сказаў я. І мы паехалі да яго на таксі па чамаданчык Вікі.

* * *

Калі Віка з'явілася ў мяне на кватэры, яна стаілася, сцялася і ўсё нешта думала, моцна, цяжка, і маўчала. Была зусім не тая, што навязалася мне там, у кавярні. Села на беражку крэсла і маўчала. Паглядзела на кніжныя паліцы. У яе душы ўзнік лёгка-трывожны непакой. Позірк яе быў палахлівы. Я пайшоў у кухню рыхтаваць вячэру. Крыху счакаўшы, Віка ўзялася заварыць чай. Тады я пацалаваў яе першы раз.

А пасля вячэры Віка мяне пацалавала. Я абняў яе за плечы, адчуў мяккую цеплыню яе цела, нібы ў тумане, знайшоў яе губы — і ўсё паплыло перад вачыма...

А потым я ляжаў на спіне, а яна ціха сядзела побач. «Якая яна прыгожая, — думаў я. — Гэта шчасце, што яна сустрэлася мне».

...І добра нам. Часамі наведвае нас Андрэй са сваёй дзяўчынай. Прыносіць тады пляшку добрага віна, і гутарым пераважна пра тую сустрэчу ў кавярні. Віка весела смяецца, цікава прыжмурвае вочы. А я, здаецца, бачу яе на аўтобусным прыпынку, пругкую ў хадзе, спрытную ў рухах. І яе сінія, поўныя пяшчоты і дабраты вочы.

Гэтае маё апавяданне — звычайная, паўсядзённая мая проза. Таму няма трагічнага заканчэння. Я хацеў бы, каб увогуле не мела заканчэння, бо Віка — добрая жанчына. Я шчаслівы, што магу цалаваць яе. Яна дапамагае жыць і працаваць.

## Легенды Беластоцкай зямлі ў запісе і апрацоўцы Міколы Гайдука

### Пачатак

Хто скажа, што ўсё гэта выдумка, той, напэўна, памыліцца, а хто паверыць, што яно — жывая ява, той не прагадае. Таму што зерне чыстай праўды пра тое прарастае з напісанай паўтысячы гадоў таму на пергаменце граматы. Вядома, як усё, што нерухома трывае, за гэтакі час абрасло



тоўстым кажухом розных меркаванняў і здагадак, быццам ляжачы камень мохам.

Пан Гарадка, ваявода наваградскі Хадкевіч, быў чалавекам набожным. Удзячны Госпаду за выратаванне з мусульманскай няволі і дараваную духоўную апеку, ён для людзей божых, манахаў, ля свайго гарадоцкага замка пабудаваў манастыр. У ім пасяліліся праваслаўныя манахі, што разам з панам вызваліліся з басурманскага ярма, а таксама тутэйшыя людзі, якія адмовіліся ад марнасцяў гэтага свету і прысвяцілі сябе роздумам над веліччу Гасподняга тварэння, малітве, посту і служэнню бліжняму.

І ўсё было б прыстойна, калі б не слабасці людскія ды не спакусы ворага роду чалавечага — д'ябла.

Замак стаяў на рухлівым шляху з Вільні ў Кракаў. Ваявода ж быў чалавекам па-хрысціянску гасцінным. Хто ні ехаў, хто ні ішоў, той у замку прыстанішча знайшоў. Вядома, здарожаны бедны чалавек мусіў здаволіцца недзе каля сценаў замка куточкам з кулём саломы для перадыху і кавалкам хлеба з кубачкам квасу. Знатныя ж асобы ў замкавых пакоях не столькі адпачывалі, колькі балявалі, і то па некалькі дзён і начэй. І гэтак спрытна: што ні дзень — гулянне, што ні вечар — баль; бо то кароль са світаю наведаўся, то князь завітаў, то знакаміты чужаземец прыбыў. Гудзеў замак весялосцю, ззяў раскошамі. А д'яблу таго толькі і трэба: і юным паслушнікам, і нясталым у веры нядаўнім пастрыжэнцам стаў ён наводзіць непрыстойныя думкі ды на грэшныя ўчынкі схіляць.

Бачыў усё тое айцец ігумен і глыбока смуткаваў над невыноснымі спакусамі даверанай яго духоўнай апецы чародкі людзей божых, на якіх шайтан гэтакія выпрабаванні наслаў. І аднойчы, недзе на пачатку Вялікага посту, ён, памаліўшыся, падаўся ў харомы самога Хадкевіча. Уладальнік замка згадзіўся, «што дакукі мірское агульнага манастырскага жыцця немагчыма ўтрымаць» пры замку, і таму дазволіў брацii пашукаць у ягоных уладаннях болей прыдатнае месца на манастыр.

Манаская брацiя не даручыла выбару чалавечым меркаванням, але поўнасцю даверылася волі Божай. Стварыла яна з сухога дрэва вялікі місійны крыж і ўклала ў яго цудадзейную рэліквію — частачку Крыжа Гасподняга, дараваную ім вялікай княгіняй Галенай, жонкай вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелона, дачкою вялікага князя маскоўскага Іаана Васілевіча. Дачакаўшыся, калі з ракі сыдзе лёд, яны ўсім манастыром у шчырым посце маліліся суцэльна тры дні і тры ночы пра благаслаўленне Госпадам іхняе справы. Ранкам чацвёртага дня ігумен разам з некалькімі іераманахамі пасвяціў крыж, маладыя манахі ўзялі яго на плечы і пад агульны спеў «Збаў, Госпадзе, людзі Твае...» накіраваліся за духавенствам да ракі і асцярожна апусцілі святыню на ваду. Крыж звольна адплыў ад берага, натрапіў на вострую плынь, і яна паімчала яго ў ніз выступіўшай з берагоў ракі. Ігумен з двума маладымі манахамі ды ваяводзіным прыказнікам селі ў лодку і паплылі ўслед за крыжам.

Шчыра жадаючы, каб усё адбылося так, як вызначана Усявышнім, без злачыннага ўздзеяння нячыстага, яны маліліся, спявалі жыційныя песні, ікасы. І на іхніх вачах здзяйсняўся праўдзівы цуд: крыж пераадольваў адзін



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

за другім крутыя павароты бурлівай ракі, абмінаў або праслізгваўся праз напалову затопленае кустоўе, пераскокваў заваленыя ламаччам рачныя перакаты.

Аднак не абыходзілася і без цяжкасцяў, у якіх набожныя мніхі бачылі спробы злой моцы перашкодзіць богаўгоднай справе. Пры ўпадзенні большых рэчак у Супрасль іхняя моцная плынь прыціскала крыж да супрацьлеглага берага, і колькі разоў ужо здавалася, што ён настала застрагне ў гразкай багне. Яны азіраліся навокал і, убачыўшы, што мясціна — гэта непраходнае, зарослае трасціною балота або топкая дрыгва, цалкам непрыгодныя да жыцця, дрыжачаю ад хвалявання рукою ахінали сябе знакам крыжа і ўголас прасілі: «Не дай, Госпадзе!..» І крыж, як быццам пачуўшы іхнія маленні, раптам уздрыгваў, разварочваўся і зноў выплываў на сярэдзіну разгулялай ракі. Зло вымушана было саступаць дарогу: шчырая малітва і палымяная вера не давалі яму доступу.

У канцы звонкага пагоднага веснавога дня на вострым калене ракі крыж цяжка ўрэзаўся ў абрывісты левы бераг і, развярнуўшыся, другім канцом убіўся ў путаніцу карэння і галін падмытага і ўпаўшага ў раку кашлатага дрэва. Праз хвіліну з імпэтам ударыла каржакаватае бервяно, убіла яго яшчэ глыбей і, прыстаўшы, цалкам загарадзіла яму далейшую вандроўку па рацэ.

Манахі і ваяводаў прыказнік сышлі з лодкі, выкрасалі і раздзьмухалі агеньчык. Заснуць не змаглі з-за холаду і нейкага дзіўнага напружання. Спявалі велікапосныя песні, маліліся, але пад раніцу здрамнулі. Трызніліся ім розныя з'явы. Аднаму з брацii явіўся голуб, белы, прамяністы, ён зводьна апускаўся на іх, драмаўшых навокал кастра. Раптам з цемры выскачыў шэры ястраб і накінуўся на яго. Здавалася, вось-вось драпежная птушка схопіць растапыранымі кіпцюрамі безабароннага галубка. Але адкуль ні вазьміся з'явіўся чорны велічны арол і пагрозліва накіраваўся супраць ястраба. Той рэзка павярнуў убок і знік у змроку, за ім паімчаўся і арол. Галубок крыху пашыбаваў над драмаўшымі і расплыўся ў вышыні. Манах схіліўся да няспаўшага ігумена і цішком расказаў пра з'яву. Ігумен зараз жа ўстаў, перахрысціўся, узняў угору твар, уздзеў рукі і ціха прашаптаў: «Благаславі, Госпадзе, на подзвіг, знак яго нам паказваеш!..» І доўга стаяў над гаснучым вогнішчам: вусны яго бязгучна шапталі малітвы.

Як толькі паблякла на ўсходзе неба, яны кінуліся на бераг. У поцемках ледзь значылася рачная тонь, уся загруваджданая лам'ём. Спачатку ім здалося, што крыжа няма. Аднак ігумен, уважліва паўзіраўшыся, заўважыў сярод наплыўнога ламачча яго абрысы.

Брацiя вырашыла, што Гасподзь прывёў іх у вызначанае ім месца. Яны вылавілі крыж, вынеслі на бераг і з вялікай натугай укапалі яго на самым высокім месцы.

Якраз з-за цёмнай сцяны зарэчнай Крыноцкай пушчы выплывала па-веснавому аграмаднае пунсовае сонца. У яго яскравых промнях мокры яшчэ крыж заззяў разнаколернымі блікамі, запраменіўся. Яны следам за ігуменам ўсе ўпалі перад ім на калені і прачуленымі галасамі заспявалі: «Крыжу Твайму пакланяемся, Уладыка...»



У Блудаўскай пушчы настала раніца Благавешчання Прасвятое Багародзіцы, 1500 год. Гэтак ва ўрочышчы Сухі Груд, паміж рэчкамі Грабоўскай і Беразоўкай нараджаўся славуты Супрасльскі манастыр.

Праз дзесяць гадоў пісар, па словах ваяводы Аляксандра Хадкевіча, у даравальную грамату ўпісаў: «Дазволіў я ім з тае пушчы нашае на тое будаванне дрэва браці, што будзе патрэба на той манастыр, і дровы, і лучыну, і лыка, і грыбы, і ягады браць, і агарод і сад меці бліз манастыра, і сенажаці пракасіці, дзе б было няшкодна ловішчам нашым і на тых рэчках вышэй апісаных сажалкі рыбныя трымаці і на рацэ Супраслі — яз».

## Ваяцкі здрой

Побач мястэчка Кузніцы, што ў самым усходнім куточку Беластоцкай зямлі прытулілася, віецца, цурчыць невялікая рэчка Ласосьная, ці, як яе любоўна называюць мясцовыя людзі, — Ласасянка. То выскачыць яна на паплавец, то ў лазовыя кусты схаваецца, з'явіцца каля агародаў або пад мосцік нырне. А ўсюды па ёй брады і віры, крынічкі ды плёсы параскіданы. І толькі скажы кузнічанам, што іхняя рэчка надта ж прыгожая, яны з задавальненнем выслухаюць пахвалу, бо любяць сваю рэчку, і адразу не прамінуць прыгадаць легенду пра самы глыбокі вір на ёй, які завецца Ваяцкі здрой.

Кажуць, што здарылася тое калісь-пракалісь, як тут, паміж рэкамі Бобраю і Нёманам, вялікая пустэча была. А па той пустэчы гуртамі гулялі-скакалі на борздых конях вольныя малойцы-ваяры. Па звонкіх барах яны гарцавалі, а пад разгалістымі елкамі начавалі. І ніхто не здолеў тудою ні прайсці, ні праехаць...

Як спаймалі яны фанабэрыстага ды неспагадлівага баярына-пана, то babровае футра ды ядвабныя адзежкі з яго здзіралі і галышом на шлях пускалі. Калі ж купец-ашуканец ім падвярнуўся, дык золата-срэбра забіралі, з пустымі кішэньмі праганялі. І ўсё-ўсенькае бядоце-галоце раздавалі. І жыла так тая вольніца, па лясах пасвістваючы ды па шляхах пагульваючы.

Але ж насталі неспакойныя часы: ворагі-захопнікі на тутэйшыя землі пачалі навальвацца, людзей у няволю браць, дабро рабаваць, сёлы ды гарады паліць. І вольныя малойцы-ваяры сваю зямлю ад нашэсцяў сталі абараняць, на ворагаў знячэўку нападаць, палонных суродзічаў ды нарабаванае дабро адбіваць, захопнікаў праганяць.

Аднойчы здарылася так, што непрагляднаю процьмаю насунуліся ворагі — іхняй раці канца і краю не было відаці. Біліся, змагаліся з імі малойцы-ваяры — усе палеглі, а варожай навалы паўстрымаць не здолелі. Толькі аднаго-аднюсенькага ваяку маладзюсенькага вараны конь з бою вынес.

Імчыць конь, як віхор, храпе з натугі, пена з яго плахтамі валіцца ды траву-мураву ўсцілае. Схіліўся ваяр і ў самае вуха свайго збаўцы шэпча:

— Нясі мяне, конічак, нясі, вараненькі, да самай Гародні... Там князя нашага Вітаўта Вялікага папярэдзіць трэба, што ворагі чорнай хмарай на нашу зямлю валяцца. Няхай князь ваяроў-абаронцаў падымае...



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Чуе конь, што ягоны гаспадар ледзь на сядле трымаецца, ад ранаў млее. Спяшаецца конь, усе сілы напружвае. А тут яму дарогу рэчка перагарадзіла. Зморанаму каню яе аніяк не пераадолець. Спыніўся ён на беразе ды журботна заіржаў.

Ачнуўся вершнік, глядзіць: рэчка цячэ, а каля яе берага здрой б'е ды ў бяздонны вір уліваецца. Бязвольна ссунуўся ён з сядла, падпоўз да берага і засмаглымі вуснамі прыпаў да здрою. Прагавіта глытнуў раз, глытнуў другі, а калі глытаў трэці раз — раптам пахіснуўся ды паваліўся проста ў бездань віру. Закружыўся вір, зашумеў хваляй ды малайца-ваяра засмактаў у сваю бездань.

Бачыць конь, якая бяда сталася. Заіржаў ён роспачна і кінуўся ў ваду ратаваць гаспадара з прорвы. Але ж закруціўся вір, успеніўся ды праглынуў і каня.

І ўжо некаму было вестку князю занесці, пра варожае нашэсце папярэдзіць. Ніхто ваяроў на абарону роднай зямлі не склікаў. Гулялі ворагі процьмаю, у нявольнічыя путы людзей вязалі, дабро расцягалі, зямлю попелам усцілалі.

І ўзбурыўся вір, на няшчасці чалавечыя гледзячы, усхадзіўся і аж на стромкі бераг пеністаю хваляю хліснуў. І з'явіўся з бездані той самы юнак на кані. Але ўжо і не той самы: бо велічны і здаровы, на імклівым вараным жарабцы з развеянай грывай.

Убачылі яны ворагаў: узняў вершнік аберуч востры меч, а конь закусіў цуглі і ўздыбіўся, ды так рынуліся яны ў гушчу захопнікаў. Юнак-ваяр іх направа і налева мячом сячэ, а конь капытамі топча ды зубамі рве.

Біліся яны так, змагаліся з самага ранку і аж да змяркання. Пабачылі наезнікі, што тут не жарты — не адолець ім незвычайнага ваяра. Кінулі яны захоплены палон ды нарабаванае дабро, павярнулі сваіх коней і — ходу з тутэйшай зямлі. А вершнік-юнак на кані-жарабцы гнаўся за імі датуль, пакуль не зніклі яны за межавымі капцамі.

Зморaныя і ваяр і ягоны конь зноў спыніліся на той самай рэчцы і да таго ж самага здрою схіліліся, каб смагу спагнаць. Але ж не паспелі яны і крынічнай вады прыгубіць, як з віру ўздыбілася агромністая хваля, хліснула на бераг ды вершніка з канём у бездань змыла.

Безліч гадоў з таго часу прамінула. Абмялела Ласасянка да таго, што вада ў ёй ледзь па калена чалавеку сягае. Ваяцкі здрой таксама ледзь сачыцца з-пад куста ракіты, а бяздонны вір амаль зусім пяском занесла. Але вада ў ім улетку па-ранейшаму такая сцюдзёная, што аж у зубы заходзіць, а ўзімку ён ніколі не замярзае. Цяпер там гаспадыні з навакольных сялібаў малако халодзяць. Штодня ранкамі і вечарамі прыносяць туды або вымаюць адтуль поўныя конаўкі сырадою. І калі Ласасянка патанае ў густой імгле, з Ваяцкага здрою ўражаным дзяўчатам і маладзіцам явіцца прыстойны юнак-ваяр з аберуч узнятым мячом ды на імклівым кані з развеянай грывай. Праплываюць яны над паплаўцамі і кустамі ды знікаюць недзе там, на ўсходзе, дзе рэчка Ласасянка, як кажуць, улівае свае воды ў магутны Нёман, на беразе якога высяцца ў Гародні рэшткі муроў Вітаўтавага замка.



## Галава царазабойцы

Вядома, калі б некаму ўздумалася пералічыць усе знакамітыя асобы з Грыневіч, што каля Бельска, заняло б яму шмат часу, бо было іх багата. Гэта ж сяло радавітых беларускіх баяраў-шляхты. Яны здаўна валодалі асабістай вольнасцю і іншымі немалымі прывілеямі дый умелі імі карыстацца дзеля свайго дабра.

Паданне кажа, што ў радавітага баярына Яўхіма Грынявіцкага было двое сыноў: старэйшы пасля заканчэння школаў жыў і нечым займаўся ў Пецярбургу, а малодшы яшчэ вучыўся ў школе ў суседнім Бельску. Жылі ж яны поўнай чашай: бацькі глядзелі за ладнай гаспадаркай ды працай на ёй парабкаў і парабчанак, а сыны прывольнага свету смакавалі.

Ажно ні з таго ні з сяго аднойчы на сядзібе Грынявіцкіх з'явіўся цэлы ўзвод конных жандараў. Абхапілі яны двор, усіх насельнікаў і гаспадароў, і службу, і нават суседа, што выпадкова наведаўся, — зараз жа ўвапхнулі ў баковачку, прыставілі да яе жандара з ружжом напагатове, забаранілі не толькі паварухнуцца, але і словам абмовіцца. За паўдня ператрэслі ды перамацалі ў двары ўсё спрытна. Розныя паперы, кнігі, колішнюю шаблю ды старую паляўнічую стрэльбу загарнулі ў пасцілку і забралі. Потым выпхнулі ўсіх насельнікаў двара ў пакой і ў ашаломленых дзіўным наездам Яўхіма з жонкаю запыталіся:

— Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі* — гэта ваш сын?

Бацькі са страху анямелі, а Яўхім, падазраючы нядобрае, пачаў тлумачыцца:

— Гаспада, Грынявіцкіх на свеце многа... Гэта ж непадалёк Беластока, іх таксама цэлае сяло, а кажуць, і на Літве яны жывуць, і па Маларасіі рассыпаліся...

— Цябе пытаюцца не пра ваша паганае прозвішча, што пляміць нашу зямлю, але пра вылюдка Ігнація Грынявіцкага, ці ён — ваш сын?

Цяпер Грынявіцкім стала ясна, што на іх звалілася вялікая бяда, і яны пачалі аднеквацца: маўляў, ніякага Ігната Яўхімавіча ў іх няма і ніколі не было.

Тады афіцэр міргнуў аднаму з жандараў, і той праз хвіліну прынёс нейкі скрутак, паклаў яго перад Грынявіцкімі, разгарнуў. Адтуль выкацілася... чалавечая галава.

Усе ахнулі, а Яўхімчыха залемантавала, схапіла галаву ды павалілася на падлогу. Яна, цалуючы, абмывала слязьмі запечаную кроў з твару адсечанай галавы ды прыгаворвала:

— Сыночак мой родненькі, сынок... А што ж з табою сталася?..

Галава глядзела на яе, на бацьку, на родную хату шырока расплюшчанымі абыякавымі вачыма і маўчала.

---

* Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі 1 сакавіка 1881 г. ажыццявіў замах на цара Аляксандра II, у выніку цар быў забіты, а Грынявіцкі смяротна паранены.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Маці ж узяла яе аберуч і, быццам немаўля, пачала далікатна калыхаць ды прычытваць:

— Ігнатка, сынок, Ігнась...

Па-мужчынску скупа, быццам саромеючыся, мо першы раз у жыцці, усплакнуў і бацька.

— Няма чаго роспачыць па мярзотніку! — загудзеў злосны голас афіцэра. — Ён забіў нашага найсвятлейшага манарха, цара!..

На гэтыя словы чэлядзь ахнула і паціснулася да дзвярэй.

— Стой!.. — гаркнуў на яе афіцэр.

Жандары Яўхіму і жонцы выкруцілі назад ды звязалі рукі, закінулі на шыю вяроўкі і, быццам жывёлу з хлява, вывалаклі іх на падворак. Затым перавязалі па двох, па трох службу і таксама выпіхнулі з хаты. Самі селі ў сёдлы, Грынявіцкіх пацягнулі на вяроўках, а іншых пагналі за імі ў Бельск. Там, у турме, ужо сядзеў Грынявіцкіх малодшы сын-гімназіст.

Толькі ў Бельску афіцэр схамянуўся, што ў мітусні яны забыліся на галаву царазабойцы. Ён зараз жа выслаў некалькіх жандараў, каб прывезлі яе з Грыневічаў. Тыя абшукалі ўвесь двор і вярнуліся з пустымі рукамі. Узлаваны начальнік сабраў увесь узвод ды на яго чале паімчаўся ў Грыневічы. Там яны перакапалі ўсё сяло, пабоямі ды рознымі пагрозамі намагаліся дабіцца ў насельнікаў калі не галавы, дык хаця б звесткі, куды яна падзелася. Але ўсе кляліся, што ніякай галавы яны не бачылі і нічога пра яе не ведаюць. Гэтак галавы і след прастыў.

Бацькоў і брата царазабойцы ўлады саслалі ў Сібір, і яны адтуль ужо не вярнуліся. Гаспадарку пераняла царская казна і запаўдарма распрадала суседзям.

На тым месцы, дзе калісьці стаяў двор Яўхіма Грынявіцкага, цяпер пустэча. Толькі старыя людзі згадваюць, што іхнія дзяды казалі пра дзівосную вогненную кулю, якая напрадвесні вечарамі выкочвалася з колішняй Яўхімавай сялібы і, сыплючы навокал ірдзістымі іскрамі, знікала на паплавах, што ля рэчкі Белай. Людзі, звочыўшы такое дзіва, размашыста хрысціліся ды гаварылі, што гэта галава царазабойцы ад жандараў уцякае.

## Грошы — гэта смерць

Здарылася тое даўным-даўно, як у войску служылі аж дваццаць пяць гадоў. Возьмуць, бывала, у рэкруты юнака маладзенькага, якому толькі-толькі вус высыпаецца, а калі пашчасціць яму жывым з войска выйсці, дык вяртаўся ён дамоў сівым, знясіленым чалавекам. Да таго за гэтую службу каралю ці цару салдат не атрымліваў ні граша — жабруючы ў родную мясціну цягнуўся.

Ішлі гэтак, адслужыўшы свой тэрмін, трое салдатаў. Як рушылі са свайго гарнізона пасля Калядаў, дык і Вялікдзень у дарозе адсвяткавалі. Ужо і вясна навокал бухала: птаства ад спеваў ажно захліствалася, нівы зеляне́лі, людзі ўжо ў поле выйшлі.

Вось пры самым гасцінцы селянін араў. Яны яму: «Памажы, Божа!» Ён ім у адказ: «Дзякую за добрае слова!» — ды ўзяў спыніў валоў і пачаў з зямлі



нешта выкалупваць. Салдаты зацікавіліся: «Што ты там, добры чалавеча, выараў?» А той, падняўшы з баразны змуршэлы гаршчок, кажа: «Гляньце, салдацікі-брацікі, гэта ж з яго, няйнакш, золата сыплецца?!» Падбеглі салдаты да аратага, зірнулі: праўда ж — з посуду залатыя манеты дажджом ліюцца! «Ну і шчасце табе прываліла!..» — зайздросна ўсклікнулі ваяры. Селянін жа паглядзеў на той скарб, выпусціў яго з рук у баразну, пачухаў патыліцу і прамовіў: «Бярыце, салдацікі, гэтае золата. Вы, нябось, без граша пры душы: прыдасца яно вам на закладку новага жыцця». Тыя аж сумеліся і, нічога не кажучы, кінуліся збіраць ды дзяліць той скарб паміж сабою.

Калі ўжо пазбіралі ўсё да апошняй манеты, мацнуліся па поўных кішэнях ды аж зарагаталі ад шчасця. Зірнулі на селяніна, а той стаіць ды з аднае босае нагі на другую пераступае і сумнымі вачыма на іх паглядае. Адзін са шчаслівых ваяроў і пытаецца яго: «А чаму ж ты адмовіўся ад такога багацця?! Гэта ж, маючы такі скарб, ты, як пан, жыў бы сабе прыпяваючы!..» Селянін жа яму на тое: «Не хачу я скарбу, бо грошы — гэта смерць». Падзівіліся салдаты на ягоныя словы, але на радасцях не задумаліся над імі. Падзякавалі яны за скарб і не тое, што пайшлі, але проста на крылах дадому паляцелі.

Ідуць яны, шчаслівыя і вясёлыя, то саланаваты жарцік згадаюць і рагатнуць сабе сакавіта, то песеньку звонкую прапяюць. Гэтак і ў лес увайшлі, а там — дарогі разыходзіліся. Аднаму з ваяроў трэба было адлучыцца ад грамады і пайсці ў другі бок. Ну што ж, развіталіся яны, расцалаваліся ды пайшлі сваімі шляхамі.

Ішлі тыя ўдвох, рознымі роздумамі абменьваліся пра былое і будучае жыццё-быццё. Ажно адзін з іх і змеркаваў: «Але і прыдаліся б нам тыя чырвонцы, што ён панёс». «Яшчэ і як прыдаліся б!» — пацвердзіў другі. «Ну то давай дагонім яго, заб'ём, і грошы нашы будуць», — заахвоціў першы.

Доўга не думаючы, вярнуліся яны, дагналі свайго сябра ды накінуліся на яго. Той, сцяміўшы іхнія намеры, пачаў прасіцца: «Браточкі, родненькія, бярыце вы тыя грошы, толькі жывым мяне пусціце. Мяне ж у стольках бітвах варожыя кулі пашчадзілі, змілуйцеся і вы. Я нікому век пра тое не скажу...» «Няма табе літасці, — раз'ярыўся першы ваяка. — Ты добра ведаеш, што за разбой на дарозе нам абодвум віселіцы не пазбегчы. Памірай!»

Забілі яны свайго сябра, труп закапалі ў лесе, магілу з зямлёй зраўнялі ды для непазнакі галлём закідалі, падзяліліся грашамі і рушылі сваёй дарогаю.

Ішлі яны доўга ці коратка. Не жартавалі і не спявалі — цяжкі камень учыненага злачынства ляжаў у іх на сэрцы. Гэтак дайшлі яны да скрыжавання, дзе іхнія дарогі разыходзіліся. Затрымаліся яны, прысягнулі, што пра забойства сябра нікому ніколі нічога не скажуць, ды пайшлі кожны ў свой бок.

Прайшоўшы кавалак, адзін з іх падумаў: «Я ўсё ж дужэйшы і спрытнейшы за яго. Заб'ю, грошы забяру: увесь скарб будзе мой і сведкаў пра злачынства ніякіх не застанецца».



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Як падумаў, так і зрабіў.

Дагнаў ён свайго сябра, і хоць той, алдаўшы яму ўсе грошы і са скарбу і свае, што па грошыку збіраў пры розных нагодах за доўгія гады службы, прасіўся ды маліўся пусціць яго жывым, мовячы: «У мяне ж старэнькая маці-ўдава ды калека сястра-сірата. Злітуйся, не губі ты іх...» Але дужэйшы яму на тое: «Слабак ты: не стрываеш, нашу таямніцу здрадзіш, і мяне з табой пятля чакае. А я жыць хачу...»

І забіў чалавека. Схаваў яго цела ў нейкай лясной чашчобе і накіраваўся ў сваю мясціну.

Ішоў, а тыя грошы пяклі яму сумленне, бы той жар. Давалокся ўсё ж ён неяк да роднага сяла. Ды ўжо цалкам змерклася. Зайшоў да старасты, па тадышняму абавязку — прапісацца, ці інакш — замальдаваць пра сваё прыбыццё. Стараста прывітаў яго сардэчна, разгаварыліся яны, і салдат, адыходзячы дахаты, запрасіў: «Прыходзьце, дзядзьку, заўтра да мяне: пасядзім, пагамонім ды і вып'ем, бо маю за што».

Бацькі ў салдата ўжо не было, адно старэнькая маці ды дзве сястрыпярэстаркі. Увайшоў ён у хату, а там цёмна — у пяколку лучынка ледзь тліцца. Даў ён «Добры вечар» і, пераканаўшыся, што ні маці, а тым болей сёстры яго не пазнаюць, рашыў прыкінуцца чужым і напрасіў: «З войска вяртаюся я, стаміўся, што насілу валакуся. Можа, вы дазволілі б пераначаваць?» А маці на тое: «Мы б ахвотна, салдаціку, але ж у нас цесната якая: самі ледзь-ледзь месцімся. І павячэраць табе няма чаго даць...»

Тады салдат выняў з-пад шыняля торбу, засунуў у яе руку і поўную жменю чырвонцаў сыпнуў маці на прыпол. Затым падышоў да сясцёр, што сядзелі на лаве, і таксама па шчопці чырвонцаў даў.

Як зірнулі маці з дочкамі на такую цьму грошай, якой яны ніколі не тое што не мелі, але і на вочы не бачылі, адразу ў каморы і пры печы замітусіліся і мігам усё найлепшае на стале перад салдатам смакавітай парай задымілася. Галодны, ён за чдой такіх хатніх ласункаў нават і слова вымавіць не здолеў. А калі дасыта наеўся, дык адразу і паваліўся на нарыхтаванае яму на памосце пасланне і, сам да сябе ўсміхаючыся са шчасця, заснуў каменным сном.

Маці з дочкамі, пачуўшы здаравенны ваярскі храп, згрудзіліся на кухні ды зашапталі, што, мабыць, у салдата грашыскаў тых вунь якая торба! Вось каб неяк прыдбаць яе, то і гаспадарачку сваю яны на ногі паставілі б, і хату, як звон, ды яшчэ і на пасагі, і то якія! — усім ім хапіла б. Маглі б тады ў сватаных кавалерах перабіраць, бы ў ляжалых грушах. І пачалі яны разважаць, якім чынам тое салдацкае багацце прысабечыць. Прыкідвалі і сяк і так. Урэшце рашылі: прыйшоў салдат позняй ноччу, ніхто не бачыў і не ведае, што тут начуе, давайце заб'ём яго; труп схаваем, і грошы будуць нашы.

Як намерыліся, гэтак і зрабілі. Маці прынесла з дрывотні сякеру і зарубала спячага ваяра. Грошы яны схавалі ў хаце, а цела вынеслі ўсе разам у хлеў і закапалі ў гнаі. У хаце пасцель прыбралі, кроў замылі, усялякія сляды па забітым пазацíралі ды леглі спаць. Усю ноч ніводная з іх і вока не заплюшчыла: то цешыліся здабытым багаццем і будучым шчаслівым



жыццём, то плакалі на думку, калі забойства раскрыецца, а іх у кандалах пагоняць на катаргу.

Раніцаю, ледзьве толькі развіднелася, чуюць: нехта ў дзверы стукае!.. Яны ўсе так і абмярцвелі, ніводная з іх не хацела ісці адчыніць — забіты салдат, маўляў, ачуняў і хоча з імі расправіцца!.. Ляжаць яны на палацях ціха, бы мышы пад венікам, а той усё грамчэй у дзверы грукаціць. Урэшце адважылася маці, адчыніла дзверы, а там — стараста. «Што вы гэтак моцна паснулі? Я мала рук не паабіваў, у дзверы калоцячы. Пэўна, учора з госцем доўга балявалі?..» «Ніякага госця ў нас не было...» — пачала таіцца маці. Але стараста ўвайшоў у хату, азірнуўся і, не ўбачыўшы салдата, здзіўлены запытаўся: «Ну што вы, жартуеце? А дзе ж ваш сын? Гэта ж ён учора вечарам да мяне заходзіў, замальдаваўся і запрасіў, каб я сёння прыйшоў да вас у гасціну: пагуляем, казаў, вып'ем добра за мой прыход з войска.

Пачуўшы такое, маці войкнула і мёртвая паваліліся ў ногі старасту: не стрывала яе сэрца, што сваімі рукамі забіла роднага сына і гаспадара. Заенчылі дочкі па нябожчыку і па сваім будучым катаржніцкім лёсе.

Гэтак яно і выйшла, як казаў той селянін: «Грошы — гэта смерць».

## Песні Агаты Карпюк

*з вёскі Капітанíчына ў запісе*
*Анастасіі Майсені (1964 год)*

### На дварэ дождждык

На дварэ дожджык,
А ў сенях слізко,
Кланяўсе Ванечка
Ганулечцы нізко.

Ганулечка рада,
У далоні плешчэ:
— Варнісе, Ванечка,
Дам бусі ешчэ.

— А я ні варнусе —
Баценька баюсе.
Адчыні акенцэ —
Хоць нагаварусе.

### Там у сенцах, за дзвэронькамі

Там у сенцах, за дзвэронькамі,
Стаяло ложанько з падушочкамі.
На тым ложаньку Іванко лежыт,
У правой руцы скрыпаньку дзержыт.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Скрыпанька грае, аж прамаўляе:
«Хто яго знае, што вон думае?»
А вон думае Касеньку ўзяці,
Купіў ёй серпіка, не ўмее жаці.

Крунула, вінула павыжэй сябе:
— Ні жала ў баценька, ні буду ў цябэ.
Я ў баценька спала ў пярынах,
А ў цябэ, мілы, у хмэлявјнах.

Я ў баценька шла ў чэравічках,
Шчэ й ў скрыповых,
А ў цябэ, мілы, у пасталічках,
Шчэ й ў лыковых.

**Чумачэ, чумачэ**

— Чумачэ, чумачэ,
Чаго зажурыўсе?
Чы волы прысталі,
Чы з дарожкі збіўсе?
— Волы ні прысталі,
З дарогі ні збіўсе.
Таго зажурыўсе,
Без долі ўрадзіўсе.

Ой, пайду я, пайду
У чыстое поле,
Шукаць сабе долі,
Шукаць сабе волі.
Шчука-рыба грае,
Вана пару мае.
А я, маладзенькі,
Параньki ні маю.

**Вытні, ясеньку, ліпку**

— Вытні, Ясеньку, ліпку (2)
Дзіцяці на калыбку.
— Ні буду ліпкі цяці (2)
Ні вінны дзіцяці.
— Твае, Ясеньку, твае (2)
Ой, бо лічко такое.
Пры табе радзілосе — (2)
На цябэ падалосе.



**Палажу кладку**

Палажу кладку дубову, дубову.
— Час вам, дзеванькі, дадому, дадому.

Палажу кладку тоненьку, хібненьку.
Час вам, дзеванькі, на посцель беленьку.

А ты, Насценька, тут зостань, тут застань.
Прыйдзе Ясенько, ручку дасць, ручку дасць.

**Чом ты мэне, маці**

— Чом ты мэне, мая маці,
Рана ні збудзіла?
А ўжэ мая кумпанія
З месца вырушыла.

— Тым я цябэ, мая дочко,
Рана ні збудзіла:
Ішоў мілы папарэдзі,
Каб ты не тужыла.

— Ты думаеш, мая маці,
Што па ём ні плачу:
Калі выду ў чыстэ поле,
Сцежанькі ні бачу.

Ты думаеш, мая мамо,
Што па ём ні журусе.
Як я выду ў чыстэ поле,
Ад ветру валюсе.

**Ой, Божэ, мой Божэ**

Ой, Божэ, мой Божэ,
Божа мой адзіны.
Вывадзь мэне, Божэ,
З гэтае краіны.

Буду выязджаці
І машыраваці.
Будут мэне, будут
Людзі жалаваці.
Ні тако ж суседзі,
Як адзін малодзец.
Той, што вывёў мэне
З гаю на гасцінец.



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Ні так на гасцінец,
Як на тую сцежку.
Падай, сэрцэ, ручку,
Хоць чэраз дарожку.
Ад жалю замлела,
Рукі ні падала —
Бадай, маладая
Кахання ні знала.

Гула пшчолка, гула,
Кала млына ідучы.
Хто плакаць ні ўмее —
Каханне навучыт.

## Паеду, паеду

Паеду, паеду за тые агароды,
Дзе мая Сонечка збірае ягоды.

Збірала, збірала, ні адпачывала,
Аб сваём нішчасці ні спадзівала.

Прыйшоў да іе Ясенько іе.
— Хадзі, Сонечка, на большы ягады.
— Ясеньку, Ясеньку, бойсе пана Бога,
Ужэ сонцэ нізенько, далека дарога.

Ужэ сонцэ нізенько, ужэй развідняе,
А нашай Санечкі матуля шукае.

— Санечка-саколе, дзе ты падзеласе?
Чы ты ў Дунай ўпала, чы ўтапіласе?

— Я ў Дунай ні ўпала, ані ўтапіласе,
З маладым Ясенькам ночку праспаласе.

## Там у полі вэрба росла

Там у полі вэрба росла,
А пад ею дзеўка красна.
Она красна шчэй красіва,
Но ей доля нішчаслiва.

Нішчаслiва, ніўрадліва,
Німа таго, што любіла.
Німа его і ні будзе,
Адмавілі врогі людзі.



— Адмавілі, адрадзілі,
Каб мы ў пары ні хадзілі.
А мы ў пары хадзіць будзем,
І друг друга любіць будзем.

Запрагайце каня ў дрожку,
Мы паедзем па варожку.
Нам варожка праўду скажэ,
З кім мой мілы рукі звяжэ:

Чы са мною, чы з другою,
Чы з бедною сіратою.
Ні са мною, ні з другою,
А з бедною сіратою.

## Прымак

Закавала зязуленька каля перавозу,
Не шыхуе прымакові ад першага разу.

Ідзе прымак, ідзе прымак у поле араці,
І забыўся ён з сабою хлеба і солі ўзяці.

Араў прымак, араў прымак, даараў да луга,
Выпрагае сівы волы з жалезнага плуга.

Выпрагае сівы волы і пусціў у дуброву,
А сам ідзе да дамоньку спусціўшы галову.

Прыйшоў прымак, прыйшоў прымак, на парог ступае,
Яго цёшча з сямі місак у адну зліваe.
— А то тобе, прымачэньку, вячэра з абедам,
А як будзе яшчэ мала, то закусіш хлебам.

Не ідзі, прымак, да каморы браць хлеба свежога,
Вазьмі сабе на паліцы сухара сцвілога.

Пайшоў прымак, пайшоў прымак, горка засмуціўсе,
Вышоў, вышоў на парог ён і слязьмі заліўсе.

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

## Змест


| | | |
|---|---|---|
| *Алесь БАРСКІ* | Таварыства — наш дом | 4 |
| | **КАЛЯНДАРЫУМ,** гістарычныя і гаспадарчыя звесткі (*апрацаваў Уладзімір Юзвюк*) | 5 |
| | **ЮБІЛЕЙ БГКТ** | |
| *Віктар ШВЕД* | Пытанні ў саракагоддзе БГКТ | 30 |
| *Янка СЫЧЭЎСКІ* | Саракагоддзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы (1956—1996) | 31 |
| | Віншаванні | 38 |
| | Аб нас пісалі ў прэсе з нагоды 40-годдзя БГКТ | 58 |
| | **МІНУЛАЕ І СЁННЯШНЯЕ БГКТ** | |
| *Віктар ХШАНОЎСКІ* | Перадз'ездаўскія «Мужыкі» | 69 |
| *Віктар ШВЕД* | Варшаўскі аддзел БГКТ | 72 |
| *Кастусь МАСАЛЬСКІ* | Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ў 1958—1975 гг | 79 |
| *Міхась ГОЛУБ* | Гайнаўскі аддзел БГКТ | 101 |
| *Уладзімір ЮЗВЮК* | БГКТ у шасцідзесятыя гады. Арганізацыйныя структура і дзейнасць (факты, успаміны) | 107 |
| *Міхась ХМЯЛЕЎСКІ* | Найважнейшыя мерапрыемствы БГКТ | 126 |
| *Янка СЫЧЭЎСКІ* | **ЛЕТАПІС ДЗЕЙНАСЦІ БГКТ У 1995—1996 ГАДАХ** | 145 |
| | **З РОДНАЙ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ** | |
| *Уладзімір ЮЗВЮК* | Нарыс засялення і загаспадарання ўсходняй Беласточчыны | 160 |
| *Сяргей КРЭЙЗА* | След нашай мінуўшчыны (пераклад і ўступ У. Юзвюка) | 186 |
| *Аляксандр ІВАНЮК* | Вытокі Беларускага музея ў Польшчы (1956—1973) | 190 |
| | **НАШЫ БРАТЫ — НАШЫ СУСЕДЗІ** | |
| *Расціслаў ЖМОЙДЗЯК* | Рэспубліка Беларусь у 90-ыя гады | 208 |
| *Міхась СЛЯМНЁЎ* | На пытанні Уладзіміра Юзвюка адказвае Ген. консул РБ у Беластоку прафесар Міхась Слямнёў | 215 |
| | **ЛІТАРАТУРНАЯ ЧАСТКА** | |
| *Віктар ШВЕД* | «Суседзям» і іншыя вершы | 218 |
| *Алесь БАРСКІ* | Прытуліўшыся да Радзімы | 226 |
| *Янка ЦЕЛУШЭЦКІ* | Віка | 237 |
| | Легенды Беластоцкай зямлі ў запісе і апрацоўцы Міколы Гайдука | 238 |
| | Песні Агаты Карпюк з вёскі Капітаншчына ў запісе Анастасіі Майсені (1964 г.) | 247 |


© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**Беларускі** каляндар. 1997 / Склад. У. Юзвюк.—
Б 43 Мн.: Беларусь, 1997.—253с.: іл.
**ISBN 985-01-0164-4**

Штогодняе выданне Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы.

Беларускі каляндар на 1997 год змяшчае астранамічныя звесткі, даты свят і імянін для католікаў і праваслаўных, асноўныя гістарычныя звесткі.

Расказваецца аб святкаванні саракагоддзя БГКТ, дзейнасці БГКТ, жыцці беларускай меншасці ў Польшчы. Змешчаны літаратурныя матэрыялы.

Для тых, хто цікавіцца жыццём беларусаў у замежжы.

**Б $\frac{0080000000 - 003}{М 301(03) - 97}$** **ББК 70(4Бен) + 70(4П)**

Навукова-папулярнае выданне

**БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР**
**1997**

Складальнік Уладзімір **Юзвюк**

Рэдактар *Г. С. Пармон*
Мастацкі рэдактар *Г. М. Навуменка*
Мастак *М. А. Жахавец*
Тэхнічнае рэдагаванне *І. П. Касцецкай*
Камп'ютэрная вёрстка *І. П. Касцецкай, Ж. М. Голікавай*
Карэктары *Ю. Ц. Петрыкеева, Г. К. Піскунова, Л. Р. Кузьміна*
Аператары *І. Л. Жукоўская, Л. Е. Капусцінская, Т. А. Касцяневіч, А. М. Прохарчык*

Выданне падрыхтавана да друку на камп'ютэрнай сістэме выдавецтва «Беларусь»

Падпісана да друку з арыгінала-макета 30.12.96. Фармат 60x84 $^1/_{16}$. Папера кн.-часоп. Гарнітура «Таймс». Афсетны друк. Ум. друк. арк. 14,88. Ум. фарб.-адб. 15,46. Ул.-выд. арк. 14,89. Тыраж 1000 экз. Зак. 1034.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 2. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012